# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(706) ВЕРАСЕНЬ, 2012**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**

**9**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

*Аксана Дашкевіч*

# У ЧАКАННІ ШЧАСЦЯ



***Аксана Дашкевіч (Барысевіч) нарадзілася 29 жніўня 1979 года ў вёсцы Зазер'е Пухавіцкага раёна. Мае дзве вышэйшыя адукацыі — псіхолага і журналіста. Аспірантка Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Піша з 7 гадоў. Першы верш надрукавала ў газеце «Пухавіцкія навіны» ў 1997 годзе. Маці. Аўтар твораў для дзяцей і навуковых артыкулаў.***

**МОЦ КАХАННЯ**

Паэзія
чакала шчасця
ў імкненні ціхага натхнення
пакуль загойваюцца раны
яна чакала так сваёй
пары

Убачыўшы
чаканага паэзія зайграла
у зіхаценні любага натхнення
здалося быццам кветкі
расцвілі па ўсёй
зямлі

Я адчуваю
сэрцам стому і разам з тым
дзівосную энергію жыцця
і разумею што няма пакутаў там
дзе нічога ўвогуле
няма

Я ведаю
што мары знойдуць моц
і ноч мяне агорне ззяннем зорным
і зноўку любы стан твой позіркам
лаўлю… цябе чакаю я
маё каханне

* * *

Табе за жыццё я дзякую, Божа,
За боль, што нясу цярпліва,
За імгненні шчасця й любові,
Зберажоныя сэрцам чуллівым,

За месячык, што шукаю
Кожны вечар я ў вокнах,

За яскравы агеньчык,
Што ў каміне радуе вока,

За шум зялёнай дубровы,
Што так суцяшае,
За гаючыя родныя травы,
Што моцы вяртаюць,

За чароўнасць птушак прыгожых,
Што спевы свае дорацць свету,
І за блізкіх сэрцу людзей,
За шчасце спатканняў светлых.

* * *

Я зноў вярнуся дамоў,
Крану сцены роднага дома
Далонню… Адчую іх зноў
І ў шчасці забуду пра стому.

Між многіх доўгіх дарог
І цяжкіх на гэтым свеце,
Да хаты вяртае Бог
Мяне, і мой сябар-вецер.

Я позірк ласкава звярну
На дом бацькоўскі і сад,
Душой назаўжды застануся
Тут. Час не вернеш назад.

* * *

Прыгажосць жыцця
Ў яго асэнсаванні.
Прыгажосць дзіцяці
У замілаванні матчыным.
Прыгажосць душы
У чулым сэрцы.
Прыгажосць любові
У шчырай сціпласці.
Прыгажосць быцця
У яго бясконцасці.
Прыгажосць свету
У духоўнасці.

* * *

Што адчувае сэрца жанчыны,
Калі ўвогуле часу няма на жыццё?
Калі ў працы згараюць рукі і моц?
Калі, стомленая ад болю, у цішы
Выцірае слёзы ад безвыходнасці і чарговай здрады?
Усё знікае: і радасць, і сум. Застаюцца пакуты,
Потым гэтага нават няма – усё ў небыцці.
Дзе падзеліся мары аб светлай будучыні – зніклі?
Нібы туман… Нібы сонца ў лясной
гушчэчы…
Цёмна, холадна, і як жыць далей — ніхто не дае парады…

*Марыя Санько*

# АПАВЯДАННІ



***Марыя Санько нарадзілася 6 лістапада 1990 года ў вёсцы Крывіна Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці. Вучылася ў сярэдняй школе № 2 г. п. Бешанковічы. Студэнтка факультэта беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Друкуецца ў газеце «Мы і час».***

## ТРЭБА ТОЛЬКІ ПАДУМАЦЬ

Сустрэліся мы нечакана і выпадкова. Я ішла па вуліцы, марыла: вось перадам сяброўцы дакументы, можна будзе збегаць у клуб патанчыць. Я спяшалася, перагортвала паперы, калі раптам, як вецер, на мяне наляцеў нейкі, мякка кажучы, хлапчына. На самай справе гэта быў малады мужчына, які бег нібы жару ўхапіўшы. Валасы ўскудлачаны, гальштук з'ехаў набок, кашуля расхрыстана, вочы лупатыя. Можна было падумаць, што за ім гнаўся статак быкоў. Хаця, магчыма, гэта ён за кімсьці так улягаў. Мужчына закрычаў на мяне: «Куды лезеш пад ногі? Глядзець трэба!» Я аж рот разявіла ад такога нахабства: сам нясецца быццам галаву згубіўшы ды яшчэ крычыць на мяне. Толькі хацела ўспыхнуць праведным гневам, як мужчына груба адштурхнуў мяне, ды так, што я апынулася на ўскрайку сцежкі ў кучы смецця. На маё шчасце, гэта было пажоўклае кляновае лісце. Чыясьці добрая рука згарнула яго, ды так і пакінула. Хлопца ўжо і след прастыў, толькі яго і бачылі.

Настрой мой сапсаваўся. Белыя штаны — хоць выкідвай, а дакументы ўвогуле, як на тое ліха, падхапіў вецер. Ні пра якія «танцулькі», як кажа цётка Наста, я ўжо, зразумела, не думала. Пайшла дадому. Але на гэтым мае прыгоды не скончыліся. Насустрач ішлі знаёмыя, спыталі:

— Чаму засмучаная такая? Табе сёння часам не чорны кот дарогу перабягаў?

— Ды ідзіце вы са сваім катом, куды ішлі! — злосна адказала я. Потым спахапілася, што магу пакрыўдзіць сяброў, дадала: — Так, чорны конь. Мала таго, што дарогу перабег, а яшчэ і з ног збіў, ды ў брудзе выкачаў.

Сябры парагаталі, а потым разышліся, хто куды. Крочу далей па лясной сцяжыне. Хвоі звешваюць свае кашлатыя лапы амаль на галаву. Вакол — толькі лес, стары, цёмны, густы. Мне здавалася, што на сёння ўжо хопіць здарэнняў. Але знянацку неба схавала свае аблачынкі і зацягнулася шэрымі хмарамі. Пайшоў такі дождж, якога я не бачыла ніколі.

— Ну і надвор'е, лепш не прыдумаеш, — уздыхнула. Праз імгненне мая вопратка набрыняла вадой. Добра, што насустрач трапілася яблынька.

— Хоць за каўнер не будзе цячы, — узрадавалася я. Але, толькі суцішылася, як чую за спінаю знаёмы голас:

— Падчас грому пад дрэвам стаяць нельга!

Азіраюся, а гэта ж мой знаёмы, той самы эмацыйны, харызматычны суб'ект. Ён прымасціўся пад суседнім дрэвам.

— А вы чаму тут? І дзе ж гэта гром? Няўжо спазняецца? — з'едліва запытала ў яго.

— Пакуль няма. Магчыма, хутка будзе! — усміхнуўся мужчына. — А я таксама, як і вы, пад дрэва схаваўся, больш не было куды. — Ён неяк вінавата пазіраў на мяне, потым схамянуўся:

— Па праўдзе кажучы, я не гэта збіраўся сказаць.

Мужчына перабег да майго дрэва.

— Можна да вас?

— Вы ж ужо тут, нашто пытацца? — пачала злавацца я. Гэты занадта галантны чалавек двойчы сапсаваў мне настрой. Ён падышоў бліжэй, і тут я заўважыла: вочы ў яго былі вялікія і фіялкавыя, бровы чорныя, плечы шырокія. Пры бліжэйшым разглядзе ён быў нават сімпатычным, высокім. Настолькі, што нават я, дзяўчына сярэдняга росту, побач з ім выглядала зусім як дзіця. Мужчына ўсё яшчэ быў расхрыстаны, але на гэты раз гальштук адсутнічаў. Пад кашуляй, што намокла і прыліпла да цела, вымалёўваліся пакатыя мускулы. Ён чамусьці нагадаў мне знакамітага кінагероя, агента сакрэтнай службы Джэймса Бонда. Толькі вось вочы ў яго іншыя. Я знаходзілася ў поўным, што называецца, шоку. Чалавек усміхнуўся, убачыўшы маю разгубленасць.

— Даруйце мне за нашу першую сустрэчу на сцежцы, — пачаў Бонд, але раптоўна змоўк, апусціў вочы. — Я не вельмі прыгожа павёў сябе, і цяпер шкадую, — прамовіў ён нарэшце.

— Такое не забудзеш адразу, — адказваю я. — Не кожны дзень на цябе налятаюць і кідаюць у смецце.

— Ну, і як адчуванне? — са смехам запытаўся мужчына.

— Вельмі добра, — адказваю. — Калі яшчэ ўлічыць згубленыя дакументы, то ўвогуле цудоўна.

— Вось гэтыя? — ён выцягвае з-за спіны руку і паказвае маю страту. — Часам, не іх шукаеце?

— Дакладна, іх, — прамаўляю я. Пасля гэтага трапляю ў стан, які інакш, як «канкрэтны шок», і не назавеш. А маладзён працягвае руку і кажа:

— Мяне Сашам завуць. Для вас асабіста магу быць Джэймсам Бондам, калі пажадаеце.

— Дзякуй, — ледзь вымавіла я.

Мы жартавалі, размаўлялі, усміхаліся. Але яго твар, такі вясёлы, светлы, чамусьці ўмомант пасур'ёзнеў. Ён ужо не ўсміхаўся, толькі ў вачах паблісквалі фіялкавыя хітрынкі.

— Хочаш, я буду тваім анёлам? — запытаўся. Гэтыя словы падаліся мне жартам, я адказала:

— Хачу.

— Я знайду цябе, дзе б ты ні была. Заўсёды буду побач і ў шчасці, і ў горы. Ты толькі падумай пра мяне.

— Добра, абавязкова.

Я заўважаю, што дождж спыніўся, быццам яго і не было. На небе зноў з'явіліся белыя аблачыны.

— Паабяцай, што падумаеш пра мяне? — папрасіў Саша.

Я паабяцала. Усяго толькі на імгненне зірнула на неба, захапіўшыся яго чысцінёй і пералівістым сонечным святлом, якое бывае толькі пасля дажджу.

— Глядзі, якая прыгажосць вакол, — прамовіла і азірнулася. Але на тым месцы, дзе стаяў мужчына, лунаў празрысты дымок, як кавалак аблачынкі. Моцны сілуэт быццам растаў, знік гэтак жа нечакана, як і з'явіўся. Пра яго застаўся толькі ўспамін, у думках, у марах, у сэрцы. І яшчэ засталіся вочы, глыбокія, разумныя.

Мой незвычайны знаёмы, хуткі, як прывід, сакрэтны Джэймс Бонд, агент і анёл. Я не буду думаць, чалавек ты ці не, але буду ўзгадваць пра тваю душу і сэрца. Таму што мне, як і кожнай жанчыне на зямлі, хочацца верыць, што ёсць той, хто заўсёды дапаможа, знойдзе страчанае, а калі мне зробіцца дрэнна, то прынясе спакой і ўсмешку. О, гэтая ўсмешка! Да скону жыцця не забыць мне яе, сапраўдную, светлую ўсмешку анёла. Я веру, што ён заўсёды побач, у шчасці і горы, як і абяцаў. Трэба толькі падумаць, і ён з'явіцца. Заўсёды нечакана і эфектна. Мы будзем смяяцца з ім, як тады, калі ў адначассе свяціла сонца і плакаў дождж. Трэба толькі падумаць…

## СКЛАДАНЧЫК

Маленькі Пятрок доўга не мог адважыцца ісці адзін у лес. Ён здаваўся хлопчыку вельмі страшным, поўным жахаў, злых вядзьмарак і чараўнікоў. Але ж як тут не пойдзеш, паспрачаўся ж з Алесем — бэйбусам з суседняга двара, што сходзіць туды ўвечары, як зойдзе сонца. Петраку вельмі хацелася атрымаць той складанчык, якім выхваляўся перад ім Алесь. Бліскучы чырвоны ножык, да таго ж такі маленькі, спатрэбіцца ўсюды. Пятрок глянуў на неба — сонца амаль зайшло. Трэба ісці. Ён накіраваўся ў бок Біклажанскага раздарожжа, дзе былі рэдкія і не такія кашлатыя дрэвы. Пакуль узышоў на ўзгорак, зусім сцямнела. Зірнуў на высокія елкі, стагадовыя сосны і спыніўся. Ісці не хацелася. Ён усё стаяў, глядзеў і вагаўся. Знянацку кінуў вокам на неба — маладзік ужо запаліў зоркі, дакрануўшыся да кожнай сваім залатым рогам. Пятрок, нарэшце, увайшоў у лес. Ля першага дрэва нешта зашамацела — гэта дрозд уладкоўваўся, рыхтаваўся да сну. У Петрака ледзь сэрца не выскачыла. Па зямлі папаўзлі шэрыя цені, навіслі над хлопцам вялікай хмарай. І раптам, дзесьці ўдалечыні, з'явілася Нешта. Яно было цьмянае, шэрае, і выпраменьвала ледзь бачнае чырванаватае святло.

«Прывід!» — стралой мільганула думка ў галаве хлопчыка.

Яно ж паўзло бліжэй і бліжэй. Стала холадна, млосна, жудасна. Ногі знямелі. Нечакана Яно засмяялася дзікім, вар'яцкім смехам. Гэты смех нібы сцебануў хлопчыка. Ён ірвануўся і пабег, не разбіраючы дарогі, па купінах, па чарнічніку. Бег, пакуль не адчуў, што не можа нават зварухнуцца. Жах ахапіў яго сэрца. Заўважыўшы паміж дрэў прагаліну, кінуўся туды. Але, як толькі стаў на першую купіну, адразу ўскочыў амаль па грудзі.

— Божа мой! Што гэта? — закрычаў Пятрок, і тут жа ўспомніў: — Волатава прорва. Толькі там такая бездань. Самае небяспечнае месца ва ўсіх Мількавіцкіх балотах. Цяпер усе астатнія балоты асушылі, а да прорвы не дайшлі. Пятрок патрапіў туды, адкуль не вяртаюцца. Хлопчык аберуч хапаўся за склізкія сцябліны, але

яны выцягваліся з карэннем. Ад таго, што валтузіўся, заграз яшчэ больш. Балотная твань залівала вочы, рот, нос. Па шыю ўжо схавала яна Петрака. Ён нічога не чуў, толькі захлынаўся. Раптам перад ім узнікла маці з малым дзіцяткам на руках. Белая вопратка жанчыны зіхацела, спакойны твар ледзь прыкметна ружавеў. Немаўля таксама было ў белым. Яно ўсё цягнула да хлопчыка рукі, нібы хацела сказаць: «Дай мне рукі! Дай!»

— Не ідзіце сюды! — крычаў Пятрок. — Нельга! Не ідзіце! Ён ірвануўся апошні раз і страціў прытомнасць…

Ачуняў толькі праз тыдзень. Глянуў на вокны. Адкуль гэта святло? Поўня паглядала на хлопчыка, нават падміргвала яму. Адна аканіца была прачынена, таму святло клалася на твар і грудзі. Адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшла жанчына.

— Мама! —крыкнуў Пятрок. Маці кінулася да сына. Заплаканыя вочы яе ўпершыню за гэты час усміхнуліся.

— Сынок! Апрытомнеў! — толькі і змагла вымавіць жанчына.

— Як ты змянілася, мама! — прашаптаў маленькі хлопчык і заплакаў.

— Не плач, сынок. Цяпер усё ў нас будзе добра!

— Пятрок! — паклікаў нехта з-за дзвярэй, і на парозе паказалася рыжая барада дзядзькі Акіма. — Пятрок! Жывы! — выгукнуў дзядзька.

— Жывы! — усміхнуўся хлопчык. — Але, ці раскажаце вы мне, што здарылася, як я тут апынуўся?

— Ну, пашчасціла табе, хлопча. Добра пашчасціла! — толькі і азваўся родзіч.

— Дзядзька Акім, калі вяртаўся з пасекі, знайшоў цябе на раздарожжы, — расказвала маці. — Ты быў увесь у балотнай твані. Заблукаў, мабыць, і ўваліўся ў балота. Толькі ў якое? З нашага боку аніякіх балот няма.

— Ёсць адно, — запярэчыў дзядзька і дадаў: — Волатава прорва. Толькі яно далёка знаходзіцца. Як ты трапіў туды?

— А Божухна ж ты мой! А як жа ты вярнуўся адтуль! — усхліпнула маці. — Гэта ж колькі ісці трэба было мабыць, поўз з яго, пакуль хапала сіл, сыночак ты мой родненькі, — заплакала жанчына.

— Цішэй ты, Геня, хлопца напужаеш, што ўвогуле ў лес не ступіць, — спыніў яе Акім. — Ідзі лепш пліту вунь закрый.

Маці выцерла слёзы і паслухмяна выйшла ў другі пакой.

— Ну, хлопча, — зноў пачаў дзядзька, хітра падміргнуўшы Петраку, — пашчасціла табе. Ішоў я з пасекі, ды ў сэрцы раптам як кальне нешта. Думкі нейкія трывожныя ўзніклі, ногі самі на раздарожжа звярнулі. Як убачыў цябе там, дык зразумеў, чаму пацягнула мяне туды. Кажы, як дадумаўся ўлезці ў прорву? Пэўна, Алесь Федчысін цябе падгаварыў? Так ці не?

Пятрок апусціў вочы:

— Не, гэта я сам пайшоў.

— Сам ён пайшоў, сам! Годзе ўжо, у цябе ж на твары напісана, што маніш! Эх ты-ы!

— Дзе, на твары? — спалохаўся Пятрок.

Дзядзька ўсміхнуўся ў вусы, дадаў:

— Добра, не напісана, я пажартаваў.

Акім не ведаў, што сказаць яшчэ. Нарэшце прамовіў:

— Досыць ужо размаўляць. Адпачывай, а пагутарыць і заўтра паспеем.

Пятрок паслухмяна накрыўся коўдрай. Дзядзька, пажадаўшы хлопцу хутчэй заснуць, выйшаў. Усё сціхла. На вуліцы ноч. Толькі чутна, як вецер скуголіць за вокнамі. Раптам у шыбіну нехта ціхенька пагрукаў: «тук-тук» і яшчэ раз «тук-тук».

— Хто там? — азваўся Пятрок.

— Гэта я, Алесь.

Пятрок усхапіўся з ложка і адчыніў акно.

— Чаго табе, Алесь?

Хлапчук, вінавата адводзячы позірк, моўчкі працягнуў яму руку. Там, весела пабліскваючы, ляжаў чырвоны складанчык.

— Гэта табе, — прамовіў Алесь. — Бяры, ён твой.

— Не, Алесь, не вазьму! Не трэба ён мне цяпер.

Алесь адвярнуўся і раптам захліпаў носам, уздрыгваючы ўсім целам.

— Алесь, ну чаго ты, не плач. Супакойся, Алесь, а то і я таксама заплачу.

Алесь крыху супакоіўся:

— Петрачок, прабач мяне, калі ласка. Гэта ж я вінаваты, гэта ж з-за мяне ты ледзь не загінуў, — усхліпваў хлопчык, сціскаючы ў руцэ халодны складанчык.

— Алеська, я ж не загінуў. Ну?

— Не загінуў.

— Вось і ўсё. А складанчыка я не вазьму. Гэта ж падарунак твайго бацькі. Адзінае, што засталося. Давай, калі хочаш, разам будзем выстругваць конікаў і дудачкі.

— Давай, — радасна згадзіўся Алеська.

Яны яшчэ паразмаўлялі крыху, задаволеныя сустрэчай. Пасля Алесь, тым жа шляхам, праз акно, пайшоў дадому, каб маці, спахапіўшыся, што сына няма, не кінулася яго шукаць. Пятрок некалькі хвілін пастаяў ля акна, паўглядаўся ў неба. На душы ў яго было неяк светла і спакойна.

— Дзякуй табе, Божачка, што паслаў мне дапамогу. Дзякуй табе, Маці Божая і Сын Яе. Я цяпер ніколі не буду сварыцца, а кожны тыдзень буду хадзіць у царкву і ставіць свечачку, — шаптаў Пятрок. Для яго гэтыя словы былі малітвай, падзякай за выратаванне. Ён лёг у ложак і амаль адразу трапіў у абдымкі чароўных мар. Міжволі ўсміхнуўся ў коўдру, што так мякка атульвала худзенькае цела. Пятрок зноў пабачыў тую жанчыну ў белым, як снег, доўгім адзенні, з дзіцем на руках. Дзіцятка гэтак жа працягвала рукі. Сын і Маці ласкава ўсміхаліся яму. Пятрок усміхнуўся ім у адказ. Ён нічога не памятаў з таго, што здарылася ў тую жахлівую ноч, але цяпер разумеў — гэта Яны выратавалі яго. Малы Петрачок сніў сваіх ратавальнікаў. Хлапчук ведаў, што яны — яго Анёлы — цяпер заўсёды побач. Ён спаў і ў сне марыў пра тое, што вядома толькі яму…

*Воля ЧАЙКОЎСКАЯ*

# АБЛОКІ — ПАЦЕРКІ НЕБА



***Воля Чайкоўская нарадзілася 20 снежня 1987 года ў Віцебску. Паэтка, журналістка, удзельніца арт-праекта «МЯТNA». У 2007 годзе супольна з мастаком і музыкам Юрыем Круглікавым выдала дэбютную кнігу — мультымедыйны праект «ЛУПЫ» (паэзія, музыка, відэа, графіка). Працуе ў газеце «Звязда». Любіць чытаць Набокава і піць морквавы фрэш.***

* * *

Шукаю натхненне
Ў задворках вялізных стракатых дамоў,
У лахманах фраз,
Пачутых ад мінакоў.
Я шукаю на паліцах
Пыльных старых сервантаў,
У лужынах каляровага атраманту.
У пёрках бухматых
Вясновых аблокаў.
У пошчаку тваіх крокаў.
Я шукаю натхненне ў
Паўзах незнаёмага дыялогу.
Знойдзецца, дзе ні шукай,
Але нямнога.

* * *

Канцавіны
Анямелі
Адчуванні
Прытупіліся
Рухі
Пасталелі
Пераўтварыліся
Ў стомленасць

Сталасць

* * *

Аблокі — пацеркі неба.
Такія пацеркі мне б.

* * *

Вар'яцею ад цішыні і пустэчы,
Ад пылу на падаконні.

Вар'яцею, калі не запалены свечкі
І віруе вецер ва ўлонні.
Мне б жыць з патаемным страхам,
Ведаючы пра сябе розныя гадасці
У бабуліным куфры з рэшткамі пасагу,
І каб крыху радасці.
Жыць у ізаляцыі не ад усіх,
А ад сябе адной.
Унутраная варта, не прапускай
амап сумлення
Да мяне,
Абяззброенай сваімі слабасцямі.
Ці наважуся я
Падзяліцца з табой
Калі-небудзь
Усімі сваімі гадасцямі.

* * *

На вуліцах так пуста...
Самотна без людзей і смецця.
Танюсенькая луста
Хлеба на газеце.
Дзяўчынка без прытулку,
Як цяжар за сабой,
Запыленым завулкам
Цягне смутак свой.

* * *

ПАМІЖ
разгубілася паміж
М і Ж
чорным і белым
злым і смелым
разгубілася пасярод
чыстага поля
пасярод чыстага поля
разгубленая (стаіць) воля
рассыпалася на
асфальт, брук, кафлю
хрустам нясвежай вафлі
новы прыходзіць дзень
дзэн

* * *

Я больш не хачу выражацца вербальна:
Словы страцілі каштоўнасць, сілу, сэнс.
Я хачу на абцасы і такую
сукенку бальную.
І абавязкова вытварыць
які-небудзь нон-сэнс.
Ад мяне ШТО застанецца?
Шрыфт, кегль, калантытул, радок.
Безліч файлаў з дакументамі
ў папсовым фармаце .doc
І больш нічога…
Ні паху маёй урачыстай парфумы,
Ні водару тваіх пацалункаў
на маёй шчацэ…
Час цячэ
Па праспекце.
Міма ГУМа цячэ і ЦУМа…
Я не ведаю, ШТО
Ад мяне застанецца яшчэ.

*Сяргей БЕЛАЯР*

# АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ

***Фантастычная аповесць***



***Сяргей Белаяр (Мартынюк) нарадзіўся 19 красавіка 1978 года ў Брэсце. Па адукацыі гісторык. У мінулым годзе заняў трэцяе месца ў намінацыі «Малая проза» Брэсцкага абласнога літаратурнага конкурсу «Мы рождены для вдохновения» і другое месца ў літаратурным конкурсе фантастычных апавяданняў выдавецтва «Новая реальность» (Масква).***

Племя збіралася ў дарогу. Плакалі, ціха падвываючы, жанчыны. Гуляючы жаўлакамі ад бяссільнай злосці, панура збіралі няхітрыя пажыткі мужчыны. Заўсёды няўрымслівыя і ўсюдыісныя дзеці са страхам прыціскаліся да матуль. Надышлі цяжкія часы. Жалезныя пячоры павольна апускаліся ў цемру. Калоніі светлавых лішайнікаў згасалі адна за другой. Холад і голад ціха падбіраліся да тэрыторый пасяленцаў, прымушаючы людзей з жахам і безвыходнасцю думаць пра будучыню. Марозныя ўзоры скоўвалі метал, ператваралі ваду ў лёд, знішчалі бездапаможныя пасевы грыбоў, спрабавалі дацягнуцца да пасяленцаў. Цёплай вопраткі, як і палiва для вогнішчаў не хапала. Аднак горш за ўсё было тое, што цемра гнала перад сабой вастразубаў. Істоты адчувалі цяпло і рваліся да яго. Ні дзіды, ні сякеры, ні лукі, ні нажы не маглі справіцца з нашэсцем монстраў. Яны гінулі дзясяткамі, але працягвалі няўмольна наступаць на пячоры, выцясняючы людзей са звыклага асяроддзя. Нахабства агрэсараў не ведала межаў. Адзінае, чаго баяліся вастразубы, быў агонь ды два паўпустыя *энерганы*, якія засталіся з *дагістарычных* часоў. Вось толькі *паказчык зараду* ў іх упэўнена набліжаўся да нуля, так што траціць каштоўны *боезапас* на ворага трэба было вельмі эканомна. Тым больш, што папоўніць яркія зялёныя маланкі не было дзе і як.

Раней (да таго, як калоніі светлавых лішайнікаў пачалі патроху слабець, а ўслед за тым і зусім гаснуць) людзі палявалі на вастразубаў. Мяса хвастатых монстраў было даволі цвёрдае ды жылістае, але падыходзіла да спажывання. Аднак пасля таго як Жалезныя пячоры страсянуў чарговы магутны штуршок, які прымусіў светабудову скалануцца, з Нязведаных зямель Поўдня масава хлынулі кромлехі і лятаючыя драмеры, якія палявалі на вастразубаў. З-за міграцыі ўсёпажыральных драпежнікаў хвастатыя істоты былі вымушаны сысці з абжытых тэрыторый. Мінуўшы Іржавы лес, вастразубы прайшлі тунэлем, прарвалі слабыя барыкады і сутыкнуліся з людзьмі. Колькасная перавага была на баку нязваных гасцей. Істоты рванулі ў пячоры. Вось тут і спатрэбіўся агонь... Варта яму было толькі лізнуць авангард вастразубаў, як тыя паспяшаліся рэціравацца. Падціснуўшы хвасты,

схаваліся ў цемры. Але перамога была часовай. Ужо праз некалькі дзён монстры здзейснілі новую спробу прарвацца ў Жалезныя пячоры. Сутычка атрымалася крывавай. Атаку адбілі толькі коштам вялікіх страт. Пасяленцы атрымалі перадышку, але заставацца на старым месцы племя ўжо не магло. Вастразубы прагнулі крыві.

Старэйшына роду — саракагадовы Грымур — вырашыў, што людзям трэба сыходзіць у Паўночныя землі. Туды, дзе было святло і дастаткова вольных пячор. Разведчыкі вярнуліся з добрай навіной — тунэль, які вёў да новых тэрыторый, можна было заблакіраваць з дапамогай велічэзных металічных пліт, прызначэнне якіх заставалася загадкай. Гэта дазваляла не баяцца вастразубаў. Па словах паляўнічых, глухія затычкі маглі стрымаць нават драмераў і кромлехаў. Умовы на новых землях былі прыдатныя для вырошчвання грыбоў і ядомай цвілі. Мелася ў пячорах і вада. З перагародак і перакрыццяў, што паваліліся, можна было вырабіць зброю і мноства іншых карысных у гаспадарцы рэчаў. Сапраўдны рай, да якога яшчэ трэба было дабрацца...

Правадыр не сумняваўся. Сабраў племя і абвясціў сваё рашэнне. Людзі прынялі яго з разуменнем. Неадкладна пачалі збірацца. Ісці было далёка, а час падціскаў — вастразубы маглі ў любы момант уварвацца ў Жалезныя пячоры. Жыць хацелася ўсім, так што падганяць пасяленцаў не даводзілася. Аднак смуты пазбегнуць усё ж такі не ўдалося. Жах перад невядомым палохаў, абуджаў першабытныя страхі. Цалкам верагодна, што насельнікі пячор змаглі б перамагчы страх, толькі ж чарнільная цемра пазбаўляла іх рэшткаў розуму. Усе хацелі хутчэй апынуцца ў бяспечным месцы.

Грымур уважліва сачыў за падрыхтоўкай да пераходу. Як старэйшына, ён не меў права на памылку. Павінен быў не толькі вывесці сваіх людзей з пасткі, аднак і зрабіць так, каб жыццё на новым месцы пацякло, як і раней. Быццам і не было ўцёкаў. Варта было ўлічыць усе дробязі, паклапаціцца пра дзяцей і жанчын. Не забыць выставіць на шляху вастразубаў заслон з паляўнічых, задача ў якіх — затрымаць істот як мага даўжэй, даўшы роду магчымасць адарвацца ад праследвальнікаў і замацавацца ў пячорах Паўночных зямель. Паляўнічыя ішлі на смерць, але на тварах чатырохрукіх байцоў не было страху ці разгубленасці. Мужчыны ведалі, за што паміраюць. Сціскаючы дзіды і лукі, рыхтаваліся аддаць свае жыцці як мага даражэй.

Людская маса бурліла. Нягледзячы на ўсе намаганні, даць рады натоўпу было складана. Не дапамагалі нават словы суцяшэння, якімі Грымур дзяліўся з суродзічамі. Прага жыцця была мацнейшая за довады розуму.

Старэйшына сціснуў металічную даўбешку молата. Зброя была падрапана і пагнута ў многіх месцах, але ні за што на свеце Грымур не пагадзіўся б расстацца з молатам, які не раз ратаваў правадыра ад смерці. Аднаго ўдару было дастаткова для таго, каб зрабіць з вастразуба блін. У цесных тунэлях Заселенага свету молат быў куды больш дзейснай зброяй, чым сякеры і дзіды.

— І дзе гэты чортаў хлапчук? — цыкнуў Грымур і абвёў панурым позіркам суродзічаў, вышукваючы ў натоўпе светлавалосага пятнаццацігадовага выхаванца. Аска нідзе не было, і гэта даводзіла старэйшыну да шаленства. Трэба было паслаць каго-небудзь у дапамогу жанчынам. Аск добра падыходзіў для гэтай мэты. Слабы фізічна, ён не меў ніводнай каштоўнай здольнасці ваяра. Адным словам, назола. Племя выхавала вырадка толькі з-за памяці пра яго бацьку — вялікага паляўнічага. «Выхавала — гэта моцна сказана, — паправіў сябе Грымур. Фактычна, Аск з ранняга дзяцінства быў прадастаўлены самому сабе. Яму заўсёды даставаліся самыя кепскія кавалкі, сухі мох і пратухлая вада, з яго кпілі і здзекаваліся, прымушалі

рабіць самую брудную працу. Родзічы цураліся хлопца — яго знешні выгляд палохаў і азлабляў людзей. Занадта моцна Аск адрозніваўся ад любога жыхара Жалезных пячор. — Пэўна, зноў сядзіць над сваімі кнігамі».

У адрозненне ад іншых членаў племя, якія былі заняты выключна пытаннямі выжывання, Аск значную частку часу праседжваў над патрапанымі кнігамі, нібыта ў іх была заключана ўся мудрасць свету. За гэта хлапчуку не раз перападала ад аднагодкаў. Тым не менш свайго бескарыснага (з пункта гледжання насельнікаў Жалезных пячор) захаплення хлопец не кідаў. Нягледзячы на просьбы, перыядычныя пабоі, пагрозы знішчыць хлам, заставаўся верны папяроваму «смеццю». У той жа час на ражон не лез, выдатна разумеючы, што нельга супрацьпастаўляць сябе племю. Гэта было б раўназначна смерці. Днём хлопец дапамагаў жанчынам па гаспадарцы, а начамі сядзеў над тамамі.

— Аск?! — цярпенне старэйшыны заканчвалася. Мужчына адчуваў, што яшчэ трохі, і ён выбухне. — Хто бачыў гэтага праклятага лайдака?

Суродзічы толькі адмоўна паківалі галовамі.

— Хай толькі з’явіцца! Вось я яму задам! — паабяцаў Грымур, — рухайцеся, чаго спыніліся? Мы павінны адправіцца ў шлях як мага раней!

Насельнікі Жалезных пячор паспяшаліся прыслухацца да загаду правадыра, які адрозніваўся лютым норавам. Пускаў у ход кулакі з любой нагоды. А кулакі ў Грымура былі цяжкімі.

Праз некаторы час у натоўпе мільганула светлавалосая галава Аска. Старэйшына рыкнуў і неадкладна паклікаў падлетка да сябе. Хлопец вырашыў не выпрабоўваць цярпенне правадыра. Паслухмяна наблізіўся. Апусціў вочы.

— Аск! Дзе цябе носіць? — накінуўся на падлетка Грымур. — Ты хіба не ведаеш, што род сыходзіць у Паўночныя землі? Ці табе трэба асобнае запрашэнне? Адказвай!

— Прабач, Грымур, — павініўся хлопец. — Я забыўся...

— Не, вы толькі паглядзіце на яго! Ён забыўся. Як можна забыцца пра пераход?.. Зноў чытаў?

Адмаўляць відавочнае было марна. Аск кіўнуў.

— Так я і думаў, — прыгнечана сказаў Грымур. — Ты зусім адбіўся ад рук, Аск. Раней ты чытаў ноччу. Я заплюшчваў на гэта вочы, паколькі сваім чытаннем ты нікому не шкодзіў. Аднак цяпер маё цярпенне скончылася!.. У той час, калі роду патрэбна твая дапамога, ты чытаеш!

— Прабач, — паўтарыў Аск, не вельмі спадзеючыся на літасць старэйшыны. Прадчуванне не падвяло падлетка. Грымур нахмурыўся. Сціснуў дзяржальна молата так, што пабялелі і хруснулі пальцы. Здавалася, гнеўны погляд правадыра вось-вось спапяліць вырадка.

— Мне абрыдла трываць твае выхадкі! Ты — не такі, як усе, і нават не спрабуеш стаць адным з нас! Ты бескарысны для племя, ты не ўмееш ні паляваць, ні рыхтаваць ежу, ні майстраваць зброю і начынне... Адзінае, што ты можаш, — гэта чытаць! — на адным дыханні прадэкламаваў старэйшына.

— Але ж я дапамагаю жанчынам! — нагадаў Аск, аднак ужо праз імгненне пашкадаваў пра сказанае. Грымур нахмурыўся яшчэ больш. Змерыў падлетка знішчальным позіркам. Пагардліва фыркнуў. Пасля чаго прамовіў:

— Ад тваёй дапамогі больш шкоды, чым карысці. І ніякіх «але»!.. Замест таго каб праседжваць начамі над кнігамі, лепш бы навучыўся чаму-небудзь карыснаму! Як ты збіраешся жыць далей? Ці думаеш, што племя будзе пастаянна клапаціцца пра цябе? Паглядзі на сябе — хто ты ёсць? Твае аднагодкі даўно абагналі цябе ў развіцці.

Яны ўмеюць тое, чым табе ніколі не авалодаць. Іх уменні ў шмат разоў каштоўнейшыя за твае кнігі!

— Але нашы продкі *пісалі* кнігі для таго, каб перадаць нам свае *веды*! — паспяшаўся нагадаць юнак, за што быў «узнагароджаны» поўхай.

— Не перабівай старэйшых! — злосна параіў Грымур. — Можа быць, калісьці яно так і было, але толькі не цяпер. Ад тваіх кніг адна толькі шкода!..

— Гэта — няпраўда! — горача запярэчыў падлетак, дзівячыся ўласнай смеласці. Рэдка хто адважваўся пярэчыць старэйшыне. Парыў быў настолькі нечаканым, што Аск не паспеў падумаць пра наступствы. Усведамленне прыйшло пазней. Падлетак машынальна ўціснуў галаву ў плечы, чакаючы ўдару. Рука важака ўрэзалася ў грудзі хлопца. Штуршок быў настолькі моцным, што хлопец ледзь устаяў на нагах. У вачах пацямнела. Цела працяў тупы боль.

— Я ж сказаў табе, каб ты не перабіваў мяне! — рыкнуў Грымур. — А ты ўвесь час імкнешся вывесці мяне з раўнавагі! Можаш радавацца — табе гэта ўдалося!

Хлопец спадылба паглядзеў на волата.

— Мне надакучыла дарма скалынаць паветра! — працягваў старэйшына. — Таму я вырашыў раз і назаўсёды пазбавіць цябе ад згубнай прыхільнасці. Гэй, вы двое! Падыдзіце!

Да Грымура падышлі два паляўнічыя. Знерухомелі ў чаканні загада.

— Слухайце маю волю! — сказаў правадыр. — Ідзіце ў пячору. Бярыце кнігі і цягніце іх да ўтылізатара!

— Не! — спалохаўся падлетак. — Вы не можаце зрабіць гэтага!

— Гэта яшчэ чаму? — пацікавіўся старэйшына.

— Таму што ў іх ёсць адказ на тое, як справіцца з нашымі бедамі! — пераканаўча заявіў хлопец.

— Вось нават як? — прытворна ўсміхнуўся волат. — І як жа кнігі могуць выратаваць нас ад цемры, голаду, холаду і вастразубаў?

— Нам трэба дабрацца да *рэактара* і *актывіраваць дубліруючыя сістэмы*! — адказаў Аск.

— Хм... — Грымур зрабіў выгляд, што задумаўся. На самай справе мнагарукі волат даўно ўжо прыняў канчатковае рашэнне. Успрыняўшы паўзу, як сумнеў, Аск пачаў хутка гаварыць. Словы ліліся з хлопца суцэльным патокам, нібыта падлетак баяўся не паспець падзяліцца інфармацыяй са сваякамі.

— Так. Увесь наш свет — гэта велізарны *карабель*, якім кіруе *камп'ютар*. Мы жывём толькі дзякуючы яму. За шмат гадоў сэрца карабля выпрацавала свае *рэсурсы*. Таму стала холадна і цёмна, а крыніцы вады і святла вычарпаліся. Але ў кнігах гаворыцца пра тое, што карабель мае два сэрцы. Разумееш, Грымур, два! Нам неабходна прабрацца ў *цэнтральны адсек* і *падключыць рэзервовае сілкаванне*. Пасля чаго Жалезныя пячоры зноў напоўняцца жыццём.

— Так проста? — пацікавіўся старэйшына. Жоўці ў голасе волата Аск не заўважыў.

— Ага, — заківаў падлетак. — Прайсці праз Іржавы лес, Пячору вастразубаў, Мост страху і Нязведаныя тэрыторыі... У кнізе ёсць *карта*! Вось, паглядзі! — хопец дастаў з-за пазухі брудны фаліянт з растрапанымі лістамі. Сунуў пад нос правадыру. Грымур паморшчыўся. — Нам сюды...

Палец хлопца торкнуўся ў кропку на карце. Старэйшына на паперку глядзець не стаў. Пацікавіўся:

— Ты прапаноўваеш нам сунуць галаву ў пятлю, каб дабрацца да прыдуманага старымі вар'ятамі рэзервовага сілкавання? Я цябе правільна зразумеў?

— І зусім яно не прыдуманае! — запярэчыў Аск. — Яно існуе насамрэч!

— Лухта, — падаў голас адзін з паляўнічых. — Усе ведаюць, што Заселены свет быў створаны богам Німурам. І Жалезныя пячоры, і Паўночныя зямлі, і Іржавы лес, і нават Нязведаныя землі... Бог стварыў людзей, явіў ім сваю волю, аднак нашы продкі не захацелі жыць доўга і шчасліва. Замест гэтага вырашылі памерацца сілай з Німурам, за што і былі пакараны вастразубамі, кромлехамі, драмерамі і Вялікай цемрай, якая пажырае ўсё жывое!

— Нашы продкі былі не такімі дурнымі, як вам гэта здаецца! — сказаў Аск. — Яны ведалі і ўмелі шмат! Яны пабудавалі карабель, каб перабрацца ў новы свет, таму што стары загінуў...

— Глупства! — адмахнуўся паляўнічы. — Выдумкі старых!

— І зусім гэта — не выдумкі! — пакрыўдзіўся юнак. — Пра гэта напісана ў кнігах!

— Досыць! — спыніў бессэнсоўную спрэчку Грымур. — Хопіць казак! Ніякага карабля няма! Як няма і рэзервовага сілкавання! Мы ідзём на поўнач!

— Але... — паспрабаваў запярэчыць падлетак, аднак старэйшына не стаў яго слухаць:

— Я сказаў: хопіць! Не трэба больш казак! Мы павінны падумаць пра будучыню, а не забіваць галовы ўсякай лухтой. Дай сюды кнігу!

Аск працягнуў правадыру томік. Грымур сунуў молат за пояс. І, нядоўга думаючы, разарваў кнігу. Вокладка жаласліва затрашчала.

— Не! Што ты робіш? — паспрабаваў кінуцца да правадыра падлетак, аднак паляўнічыя былі напагатове. Схапілі буяна пад рукі. Хутка і спрытна скруцілі. Адзін з мужчын з сілай закінуў хлопцу галаву, прымушаючы глядзець на экзекуцыю. Грымур задаволена рваў кнігу на дробныя шматкі. Абрыўкі ўпрыгожанай узорыстымі літарамі паперы, павольна кружачы ў паветры, ляцелі яму пад ногі. Не ў сілах назіраць за здзекам, Аск заплюшчыў вочы і заплакаў. Буйныя кроплі падалі на грудзі хлопца.

Калі «пакаранне» адбылося, старэйшына сказаў:

— Менш чытай кніг! Будзь такім, як усе! — падлетак нічога не адказаў. Яго душылі слёзы і крыўда. — А цяпер адпраўляйся да жанчын! А вы — ідзіце і прыцягніце да ўтылізатара астатнія кнігі... Калі ён паспрабуе перашкодзіць — адлупцуйце як след! Вам усё зразумела?.. Выконвайце!

Грымур адвярнуўся, тым самым даўшы зразумець, што гутарка скончана. Паляўнічыя адразу адпусцілі юнака, які без сіл паваліўся на падлогу, і кінуліся выконваць загад важака.

— Запусціць рэзервовае сілкаванне... — фыркнуў старэйшына. — Нават, калі ўсё сказанае — праўда, то як ён збіраўся зрабіць гэта? Ані чорта ж не кеміць у ім!

Грымур адправіўся ўглыб Жалезных пячор, а хлопец так і застаўся ляжаць. Цела Аска скалыналі рыданні. Ён падазраваў, што размова будзе цяжкай, што пераканаць правадыра складана, аднак не мог нават выказаць здагадку, што ўсё скончыцца менавіта так. Яго нават не захацелі выслухаць да канца. Сэрца падлетка перапаўняла пачуццё горкай крыўды. «Ну чаму племя адмаўляецца ад дапамогі? Толькі таму, што ён — не такі, як усе?» Хлопец ніяк не мог знайсці адказ на пытанне, у чым жа была яго віна, з-за чаго род адмаўляўся ад яго, чаму людзі глядзелі на Аска, як на ворага? Так, ён — вырадак і калека, аб'ект пастаянных кпінаў і здзекаў з боку аднагодкаў і нават старэйшых, але ў той жа час Аск ніколі не жадаў супляменнікам зла. Па меры сваіх сіл імкнуўся дапамагаць насельнікам Жалезных пячор. Няхай і не ўсё атрымлівалася адразу, тым не менш ён спрабаваў, вучыўся быць падобным да сваякоў.

Колькі ён праляжаў на бруднай падлозе, Аск не ведаў. Апрытомнеў ад холаду. Калонія светлавога моху на сцяне марнела прама на вачах. Святло з кожным імгненнем станавілася слабейшым, рызыкуючы згаснуць у любы момант. Са знікненнем святла цемра ўпэўнена брала ўладу ў свае рукі. Метал хутка астываў. Разам са змрокам ішоў страх. Хлопец адчуў, як па яго спіне пабеглі мурашы. Сцепануўся. З жахам паглядзеў на падступную чарнату. У згусцелай цемры ўсё злівалася. Розум дамалёўваў дэталі, што адсутнічалі, падсоўваў малюнкі. Аск ледзь не закрычаў. Каб не паддацца слабасці, падлетак закусіў далонь. Салёны смак крыві крыху працвярэзіў яго.

Аднак, як ні спрабаваў Аск пазбавіцца ад надакучлівых думак, яны няспынна лезлі ў галаву. «Чаму свет такі несправядлівы? Хіба ў тым, што я нарадзіўся з двума рукамі замест чатырох, ёсць мая віна? У чым я правініўся перад Тварцом, што ён вырашыў так жорстка пакараць мяне? За што? Ну чаму я іншы? Гэта няправільна! Так не павінна быць...»

Востры прыступ адзіноты авалодаў светлавалосым. Было непрыемна і горка ўсведамляць сябе не такім, як астатнія...

Нягледзячы на тое, што мозг імкліва апускаўся ў густы кісель безвыходнасці, хлопец усё ж знайшоў у сабе сілы супрацьстаяць страху. Прымусіў сябе адарваць ад падлогі цяжкую галаву, уперціся рукамі, адштурхнуцца, сесці. Зрабілася млосна, але падлетак не звярнуў на гэта ўвагу. Сашчапіўшы кулакі, загадаў сабе не баяцца. Спачатку страх ніяк не адыходзіў, аднак падлетак быў настойлівы. Праз некаторы час вострае пачуццё прытупілася. Цемра ўжо не выклікала панікі. Хлопец павольна падняўся. Выцер рукавом твар. Са злосцю паглядзеў на суцэльную сцяну цемры. Раптам Аскам авалодала адчайная рашучасць. Ён вырашыў абавязкова дабрацца да мэты. Вырataваць род, нават калі людзі Жалезных пячор не хочуць прыняць працягнутую ім руку дапамогі. У памяці нечакана ўсплыло невядомае раней паняцце. *Абавязак...* «Я павінен, — сказаў сабе Аск. — Павінен выратаваць іншых... І тады племя прыме мяне. Я стану такім, як мой бацька». Пры згадцы бацькі на сэрцы стала цяплей. З'явілася рашучасць. Сумневы і ваганні былі адкінуты. Страху больш не мелася.

Падлетак вырашыў адправіцца ў дарогу як мага хутчэй. Час быў на баку вастразубаў. «Я не збіраюся чакаць, пакуль праклятыя істоты наведаюць Жалезныя пячоры, — паабяцаў сабе Аск. — Адпраўлюся ў дарогу неадкладна!» Нягледзячы на рашучасць ісці да канца, хлопец слаба ўяўляў, што яму рабіць далей. У цемры ж, у адрозненне ад супляменнікаў, ён бачыў дрэнна. «Значыць, патрэбна святло»... Апошняя думка прымусіла Аска задумацца. Пасяленцы выкарыстоўвалі для вогнішчаў мох і цвіль, а таксама карані грыбніцы. Гарэлі яны дрэнна, моцна дымілі, тым не менш давалі досыць цяпла для таго, каб абагрэць жыллё. Для палявання мужчыны выкарыстоўвалі набрынялыя грыбным алеем паходні. «Трэба ўзяць адну, а лепш дзве... Не забыць і пра два металічныя брусочкі, пры дапамозе якіх высякаецца іскра» Абыходзіцца з крэсівам Аск умеў — падлетку не раз даводзілася запальваць агонь для прыгатавання ежы.

Наступным пунктам ішлі вада і ежа. Дарога мелася быць няблізкай, так што трэба паклапаціцца пра харчаванне. На шчасце, падчас апошняй дзяльбы ежы падлетак здолеў зберагчы некалькі паўсухіх камякоў і тры грыбы. Мох падыходзіў і для апрацоўкі ран — шэраватая субстанцыя добра спыняла крывацёк. Наконт вады таксама можна было не хвалявацца. У набітым разнастайным смеццем палатняным мяшку, які Аск выкарыстоўваў у якасці падушкі, захоўвалася бацькава біклага. Калі эканоміць, можна расцягнуць запас вады на дзень-другі. Складаней са зброяй.

Крываваты дубчык з невялікім востра заточаным металічным язычком быў прыдатны толькі для абароны ад вастразубаў. Супраць кромлехаў і драмераў гэта зброя амаль бескарысная. Праўда, меўся яшчэ нож, але гэта — на крайні выпадак, калі нічога іншага ўжо не застанецца.

Падумаўшы, хлопец вырашыў пайсці на злачынства — выкрасці з пячоры старэйшыны адзін з двух энерганаў. Пакінутая продкамі зброя была простай у эксплуатацыі — дастаткова ўсяго толькі злёгку зрушыць *засцерагальнік*, навесці *пісталет* на ворага і націснуць на *курок*. Пры стрэле з энергана біў доўгі яркі прамень, які мог прапаліць нават тоўстыя сцены пячор. Аск некалькі разоў бачыў, як Трад — галоўны паляўнічы племя — карыстаўся энерганам. «Нічога складанага», — супакоіў сябе падлетак. Радасць ад уласнай кемлівасці засмучаў той факт, што быць злоўленым на месцы злачынства азначала смяротнае пакаранне. Грымур не любіў злодзеяў. Тым больш, калі справа тычылася яго ўласнасці. «Наўрад ці стане слухаць апраўданні», — мільганула ў галаве думка. Вярнуўся страх. Сэрца загрукала мацней, аднак ужо праз некаторы час хлопец зноў узяў свае пачуцці пад кантроль. Узгадаў старажытную мудрасць: пераможцаў не судзяць. Сабраўшыся з духам, рушыў да пячоры старэйшыны.

Вакол мітусіўся натоўп. На Аска ніхто не звяртаў увагі. Усе былі настолькі занятыя справамі, што не чулася нават звыклых жартаў і штуршкоў. Падлетак хутка прайшоў па цьмяным калідоры. Наблізіўшыся да пячоры Грымура, на момант застыў ля сцяны. Сабраўся з духам. Паглядзеў па баках. Затым нырнуў у сярэдзіну. Выкід адрэналіну ледзь не зваліў хлопца з ног. У галаве шумела, пот заліваў вочы, Аску прыйшлося выціраць твар рукавом. Рукі па-здрадніцку дрыжалі, а ногі падгіналіся. Ніколі раней яму не было так страшна.

Імкнучыся не думаць пра наступствы, Аск павольна наблізіўся да металічнай скрыні з замком, у якой старэйшына трымаў энерганы. Падлетак схапіў скрыню, якая аказалася нечакана цяжкай. Хлопец ледзь не выпусціў груз. Выдыхнуў, пасля чаго паспрабаваў адкрыць замок. Аднак той не паддаўся. Ці то яго заклініла, ці то падзейнічала хваляванне. Кусаючы вусны і ламаючы пазногці, хлопец завалтузіўся з замком. Нават не зважаў на яго вострыя краі. Думкі былі заняты зброяй.

Нарэшце юнаку ўдалося справіцца з замком. Падлетак неадкладна адкінуў вечка і з захапленнем утаропіўся на зброю. *Рукаяць* і доўгі *ствол*, да якога знізу мацаваўся *акумулятар*. *Лічыльнік* паказваў *саракадвухпрацэнтную зарадку*. Наколькі павінна хапіць энергана, Аск не ведаў. Спадзяваўся, што надоўга. Толькі збіраўся выцягнуць зброю са скрыні, як за сцяной пачуліся крокі і галасы. Юнак знерухомеў. Імкнуўся не дыхаць.

На шчасце, паляўнічыя стаялі каля пячоры Грымура нядоўга. Неўзабаве зноў рушылі па сваіх справах. Хлопец з цяжкасцю выдыхнуў. Схапіў адзін з энерганаў і схаваў яго пад адзежу. Пасля чаго зачыніў скрынку. Замкнуў замок. Вярнуў скрыню на месца. Прыслухаўся да таго, што адбываецца звонку. Не выявіўшы прычын для хваляванняў, хутка пакінуў жыллё старэйшыны. Кінуўся па калідоры да сваёй пячоры. Сэрца гулка аддавалася ў грудзях. Энерган паліў скуру нават праз адзежу. Аднак хлопец не мог кінуць здабытую зброю. Для Аска энерган азначаў гарантыю выжывання ў Нязведаных землях.

Імкнучыся нікога не закрануць па дарозе, хлопец хутка пранёсся па калідоры і нырнуў у сваё жытло. Усярэдзіне панаваў беспарадак. У пошуках кніг паляўнічыя «перакапалі» ўсю пячору. Аск вылаяўся. Тамоў было шкада, бо Аск збіраў іх не адзін год. Страта кніг не магла прымусіць яго перадумаць. Не губляючы часу, ён схапіў торбу. Сунуў у яе мох і грыбы. Следам за харчаваннем паклаў нож і металічныя брусочкі.

Падлетак апусціўся на падлогу. Дастаў з падушкі біклагу. Кінуў у торбу. Накінуў на шыю рэмень. Схапіў дзіду. У думках пажадаўшы сабе поспеху, выскачыў з пячоры. Смела пакрочыў да краю цемры, імкнучыся надаць твару засяроджаны выраз. Па дарозе прыхапіў дзве паходні, неабачліва пакінутыя паляўнічымі ў адной з вялікіх пячор. Усунуў іх у торбу. І зноў поспех быў на баку юнака. Ніхто з супляменнікаў не спыніў падлетка, не паклікаў яго. Толькі адна з жанчын на імгненне адарвалася ад збораў і здзіўлена паглядзела ў спіну светлавалосага. Потым вярнулася да спыненай справы.

Аск ледзь утрымліваўся ад таго, каб не пабегчы. Павольна рухаўся наперад, нібы накіроўваўся да краю цемры па справах. Па меры таго, як уцякач набліжаўся да змроку, узмацняўся страх быць злоўленым. Ногі ператварыліся ў чыгунныя балванкі, рухаць якімі аказалася вельмі цяжка. Прамільгнула думка вярнуцца, але падлетак адкінуў яе. Упарта працягваў ісці.

Змрок ціснуў, аднак уцякач прымусіў сябе крочыць наперад. Фатальную рысу, за якой пачыналася сапраўдная цемра, падлетак пераступіў з заміраннем сэрца. Нібыта з галавой нырнуў у туман. Нечакана стала цяжка дыхаць. Аск спалохаўся, што паветра скончылася, але ўжо праз некалькі хвілін зразумеў, што нічога страшнага не адбылося. Проста ад страху ён забыўся, як дыхаць.

Увабраўшы ў лёгкія паветра, хлопец працягнуў шлях. Вочы патроху прызвычаіліся да змроку, аднак пра паўнавартаснае бачанне не магло ісці гаворкі. Давялося перасоўвацца практычна навобмацак, выставіўшы перад сабой дзіду і старанна сочачы за тым, куды паставіць нагу. Гэта тармазіла хаду. Паходню падлетак пакуль вырашыў не запальваць. Хто ведае, колькі яшчэ прыйдзецца ісці. Трэба берагчы агонь...

Тунэль да Іржавага лесу цягнуўся і цягнуўся. Хлопец думаў, што ён не скончыцца аніколі. Крокі рэхам аддаваліся ў праходзе, прымушаючы сэрца Аска біцца з падвоенай сілай. Кроў кіпела. Крок. Яшчэ крок... Дзесьці ў цемры нешта піснула. Рука машынальна пацягнулася да энергана, але падлетак здолеў своечасова спыніцца. Не варта было марнаваць боезапас на адзінокую істоту. Хлопец перахапіў дзіду і тыкнуў ёй у змрок. Раз. Другі. Трэці... Патрапіў ці не, вызначыць не мог. Аднак агідны піск знік. Маленькая перамога надала сіл. Падлетак пакрочыў далей.

Якім бы доўгім ні здаваўся шлях па тунэлі, аднак неўзабаве наперадзе з'явіліся пробліскі, якія прымусілі хлопца з палёгкай выдыхнуць. Дрэвы ў Іржавым лесе свяціліся дзіўным памаранцава-жоўта-чырвоным святлом. Старыя казалі, што гэта — вынік дзеяння «нябачнай смерці», ад якой не было паратунку нікому. Ці так гэта на самай справе, хлопец не ведаў. Вастразубы ж выжывалі. Дый дрэвы цягнуліся ўверх і ў бакі. «А можа, яна не такая ўжо і магутная, гэтая «нябачная смерць», — падумаў Аск, набліжаючыся да мяжы лесу. Якім б ні было яго паходжанне, губляць пільнасць не варта. Непрыемнасці маглі чакаць на кожным кроку.

Цемра неахвотна адступіла. Хлопец падышоў да мяжы лесу і спыніўся, са страхам і захапленнем утаропіўся на дрэвы. Нязвыклы выгляд ствалоў і лісця не палохаў уцекача. Можа, таму, што падлетку не было з чым іх параўнаць?

У Іржавым лесе Аск быў упершыню. Старэйшына забараняў яму пакідаць Жалезныя пячоры і выходзіць у тунэль. І не таму, што баяўся за жыццё хлопца, а з прычыны таго, што ніхто не лічыў светлавалосага мужчынам. Паляванне на вастразубаў, як і разведка, былі выключна прэрагатывай паляўнічых. Стаць адным з іх Аск не мог ніколі. Хлопец шчыра зайздросціў супляменнікам, якія адпраўляліся за ежай у Пячору вастразубаў. Кожны раз, калі невялікі атрад мужчын знікаў у цемры, сэрца Аска пачынала шалёна калаціцца. Хлопец уяўляў сябе на іх месцы. Марыў пра тое, як прыцягне ў пячоры тушкі забітых вастразубаў, як будуць радавацца

дзеці і ўсміхацца жанчыны, а мужчыны стануць пляскаць яго па плячы і прызнаваць за роўнага...

І вось мара нарэшце здзейснілася. Ён — у Іржавым лесе. Душэўны ўздым быў настолькі вялікім, што пагражаў затапіць хлопца з галавой. Прыгажосць заварожвала. Аск ніяк не мог адарвацца ад сузірання лесу. Старыя не раз казалі пра яго, аднак іх аповеды не ішлі ні ў якое параўнанне з убачаным. Тоўстыя шурпатыя ствалы, кручкаватыя галіны з цьмяным карычневым лісцем, слабое аранжавае, жоўтае і чырвонае святло... Здавалася, Іржавы лес тоне ў трохкаляровасці. Ужо адно гэта каштавала таго, каб уцячы з Жалезных пячор. Калі яшчэ яму давядзецца бачыць нешта падобнае? Дый ці атрымаецца наогул?

Але якім бы прыгожым і чароўным не быў Іржавы лес, трэба ісці далей. Місія Аска толькі пачыналася. Падлетак з цяжкасцю адарваўся ад дрэў, страсянуў галавой, перахапіў дзіду і рушыў наперад. Ногі танулі ў высокай шорсткай траве, якая чаплялася за стаптаныя боты, спрабавала забрацца пад калашыны, каб драпнуць скуру. Мара гнала падлетка наперад. У яго душы змешваліся надзея быць прынятым племем і крыўда на людзей, якія не змаглі разгледзець пад выродлівай маскай юнака, багаты ўнутраны свет Аска. Папракаць сваякоў не было ў чым — Заселены свет дыктаваў свае ўмовы выжывання. Тым не менш хлопец ніяк не мог пазбавіцца ад горкага пачуцця. І зноў успамін пра абавязак хутка адштурхнуў крыўду на задні план, спарадзіў жаданне дзейнічаць. Адсоўваючы дзідай і рукамі галіны, што нізка навісалі над галавой, Аск прасоўваўся да Пячоры вастразубаў. Дотыкі пругкіх дубцоў і лістоты абуджалі ў падлетку дагэтуль невядомае пачуццё задавальнення, з якім магло параўнацца хіба толькі чытанне. Хлопцу было па-сапраўднаму добра.

Калі Іржавы лес застаўся за спінай, Аск не мог не спыніцца і не кінуць на яго развітальны позірк. Дрэвы вабілі, не хацелі адпускаць. З якім шчасцем падлетак застаўся б сярод іх, але абавязак клікаў да рэактара. Уцякач не мог пагарджаць інтарэсамі племя.

Праз некалькі дзясяткаў метраў паказалася вялізная дзірка, якая злучала Пячору вастразубаў і Іржавы лес. У адтуліну, не прыгінаючыся і не рызыкуючы закрануць сценкі, лёгка мог прайсці дарослы чалавек. Аск з асцярогай наблізіўся да дзіркі. Спыніўся. Пастаяў у нерашучасці, трымаючы дзіду напагатове. З адтуліны веяла страхам.

Хлопец нярвова праглынуў сліну. Невялікай паўзы аказалася досыць для таго, каб засумнявацца. Хлопец нечакана падумаў, што рызыка можа быць куды большай за ўзнагароду. Цемрадзь таіла ў сабе смерць. Памяць адразу ж паслужліва падсунула байкі паляўнічых. Чарната, чырвоныя вочы вастразубаў, невыносны піск, шоргат дзясяткаў і сотняў лапак па падлозе, хуткая атака, ад якой не заўсёды могуць выратавацць і ўцёкі...

Раптоўна працяў холад. «Можа, вярнуцца?» Але што чакала яго пасля вяртання? Грымур мог дараваць уцёкі, але крадзёж паходняў, а тым больш энергана — ніколі. У лепшым выпадку пакаранне абмежавалася б збіццём... Пра горшы не хацелася і думаць. Род мог выгнаць хлопца, і тады Аску давялося б блукаць па пакінутых пячорах, самастойна здабываць сабе харч, ваду і паліва, жыць, увесь час азіраючыся на цемру. «Дый колькі будзе такога жыцця?» Для вастразубаў адзінокі чалавек — цудоўная мішэнь. Істоты не адмовяцца паласавацца свежым мясам. Пастаянна знаходзіцца напагатове — немагчыма. Рана ці позна зламаешся. «І тады гідкія монстры накінуцца, пачнуць драць вострымі зубамі…»

Ад невыносных думак стала зусім паныла на душы. Аск паспяшаўся адагнаць ад сябе насланнё. Выцягнуў з торбы паходню. Дастаў металічныя брусочкі, камяк сухога моху. Прысеў на падлогу. Пачаў высякаць іскру. Праз некалькі імгненняў з’явіўся

слабы дым, услед за якім шуганула полымя. Падлетак дазволіў агню разгарэцца, пасля чаго сунуў у яго паходню. Грыбны алей ніяк не хацеў загарацца. Мяркуючы па ўсім, яго кансістэнцыя была слабай. Але хлопец і не думаў здавацца. Дзьмуў на агонь, дапамагаючы яму набраць сілу.

Калі паходню нарэшце ахапіла полымя, падлетак адразу адчуў сябе больш упэўнена. Да Аска вярнулася мужнасць. Ён закінуў крэсіва ў торбу. Падхапіў дзіду. Абцягнуў торбу. Устаў і пакрочыў далей. Паходню імкнуўся трымаць як мага вышэй. Агонь дрыжаў, скакаў па зямлі-падлозе, марна спрабаваў разагнаць цемру. Яна была настолькі густой, што далей двух-трох метраў разабраць хоць нешта не ўдавалася. Але хлопец радаваўся і такому асвятленню, якое служыла гарантыяй, што вастразубы не нападуць. Гукі крокаў патаналі ў цемры. Здавалася, варта было рэху толькі дакрануцца да цемры, як тая прагна паглынала іх, прымушаючы сэрца трывожна біцца ў грудзях. З аповедаў паляўнічых хлопец ведаў, што сваімі памерамі Пячора вастразубаў у шмат разоў пераўзыходзіць самую буйную нару Жалезных пячор, аднак рэчаіснасць аказалася іншай. Аск фізічна адчуваў, наколькі яна вялізная.

Не здолеўшы даць рады нечаканаму парыву, хлопец павёў паходняй, спрабуючы хаця б прыблізна вызначыць памеры жытла вастразубаў. Дарэмна. Напэўна, для гэтай мэты не хапіла б і ўсіх паходняў роду... Пакінуўшы марны занятак, хлопец засяродзіўся на дарозе. Праз некалькі метраў бот нечакана торкнуўся ў нешта мяккае. Аск спыніўся. Паднёс паходню да знаходкі і ледзь не самлеў. На зямлі-падлозе ляжаў напалову з’едзены труп вастразуба. Велізарная галава з вострымі доўгімі ікламі, магутная шыя, якая плаўна пераходзіла ў мускулістыя грудзі, тоўстыя косткі рэбраў і таза, брыдкі доўгі хвост... Ад цела цягнула смуродам. Мяркуючы па паху, труп ляжаў на падлозе два ці тры дні, а то і больш. Падлетак прыкрыў нос рукавом. Паспрабаваў абыйсці труп ворага, аднак дзесьці збоку пачуўся агідны піск, зблытаць які з чымсьці іншым было немагчыма.

«Вастразубы», — пахаладзеў Аск. Ускінуўшы паходню, пачаў хутка вадзіць ёй па баках, адначасова тыкаючы дзідай у змрок. З галавы імгненна выветрылася ўсё, акрамя думкі пра выратаванне. Падлетак з трывогай углядаўся ў цемру, спрабуючы вызначыць, дзе знаходзіцца вораг. На жаль, зрабіць гэта не ўдавалася. Густы змрок не дазваляў убачыць вастразубаў. Заставалася толькі спадзявацца на ўдачу. Хлопец мацней сціснуў дрэўка.

І зноў піск...

Падлетак зрабіў рэзкі выпад. Тыкнуў дзідай у цемру. Пачулася незадаволенае бурчанне і дробны перастук лапак. Праз імгненне шамаценне паўтарылася. Хлопец хуткім рухам пракалоў цемру. Металічны язычок дзіды торкнуўся ў нешта мяккае. Адчайны піск спалохаў Аска. Ён інстынктыўна адскочыў, але ўжо праз імгненне справіўся са страхам. Пасвяціў сабе паходняй. На падлозе віднеўся цёмна-рубінавы россып. Кроў...

Доўга заставацца на адным месцы было небяспечна. Аск, не забываючы ўвесь час тыкаць дзідай у цемру, павольна рушыў наперад, імкнучыся як мага хутчэй выбрацца з пячоры. Хлопца гнаў страх. Прага жыцця раптам абвастрылася. Ніколі раней яна не азначала для Аска так шмат, як цяпер. Ад дзікай напругі рукі хутка зацякалі. Ад шуму ў галаве не было паратунку, але падлетак не спыняўся. Ішоў туды, дзе, па яго разліках, знаходзіўся Мост страху. Дрыжачыя ногі з цяжкасцю трымалі цела.

Тым часам брыдкі піск чуўся ўжо з усіх бакоў. Вастразубы, якія адчулі здабычу, выйшлі на паляванне. Упэўнена бралі Аска ў кола. Падлетак круціўся быццам заведзены, спрабуючы апярэдзіць наскок істот. Але тыя нібы адчувалі, куды трапіць

дзіда. Спрытна адыходзілі з-пад удару. Хлопец стамляўся ўсё больш. Крываватая дзіда здавалася занадта цяжкай. Усё часцей хілілася долу, прымушаючы ўцекача марнаваць апошнія сілы. Цягліцы рук і ног зводзіла ад знямогі. Гул у галаве зрабіўся невыносным. Хлопец адчуў, што яшчэ трохі, і ён звар'яцее. Падлетак закрычаў і пабег, не разбіраючы дарогі...

Уцёкі працягваліся нядоўга. Перашкоду, што вырасла на дарозе, заўважыў занадта позна. Урэзаўся грудзьмі ў нешта цвёрдае. Ад болю перад вачыма палыхнула. Аск выпусціў дзіду і паходню, якая ўпала на зямлю-падлогу і патухла. Хлопец апынуўся ў поўнай цемры. «Толькі гэтага не хапала…»

Жах сцебануў па мазгах. Юнак ясна ўявіў, што будзе далей. Страх перад цемрай прымусіў яго забыцца пра боль. Аск паваліўся на калені і пачаў вадзіць рукамі па зямлі-падлозе, спрабуючы намацаць дзіду. Дарэмна. Праклятая палка кудысьці знікла. Хлопцам авалодала паніка. Рукі слізгалі па бруднай зямлі-падлозе, торкаліся ў памёт вастразубаў, косткі, рэшткі футра, слізкае шмаццё... Мяркуючы па ўсім, пачвары не грэбавалі спажываць і суродзічаў.

«Ну дзе ж ты?», — каб не закрычаць, Аск сціснуў сківіцы. Вар'яцкімі рухамі спрабаваў намацаць зброю. Піск стаў мацнейшым. Падлетак падняў галаву і ваўкавата паглядзеў у цемру. Змрок гарэў чырванаватымі агеньчыкамі. Дзясяткамі. Сотнямі...

«Я памру», — нечакана прамільгнула ў галаве хлопца. Думка асляпіла. Пазбавіла рэшткаў адвагі і зусім забіла рашучасць. Свет страціў усе фарбы, ператварыўся ў нейкую шэрую аднастайную масу, ад якой цягнула небыццём. Рукі падлетка бязвольна апусціліся. Вось толькі мозг не хацеў здавацца. Хлопец нечакана ўспомніў пра энерган. Без прамаруджвання сунуў руку за пазуху, ірвануў зброю. Тканіна жаласна затрашчала. Падлетак вялікім пальцам ссунуў засцерагальнік. Сціснуў рукаяць аберуч. Навёў ствол і націснуў на курок. Яркая зялёная ўспышка асляпіла, прымусіўшы Аска зажмурыцца. Пачулася гучнае шыпенне, пацягнула саладкавата-прыкрым пахам смажанага мяса. Хлопец расплюшчыў вочы. Вастразубы, якія не чакалі ад чалавека лютага супраціву, пырснулі ва ўсе бакі. Піск і тупат лапак запаланілі пячору.

Аск усміхнуўся. Павёў ствалом энергана. Пасля чаго зноў націснуў на спускавы кручок. Палыхнула новая ўспышка. За ёй яшчэ адна і яшчэ... Палец нібы зліўся з металам. Хлопцу здавалася, што зброя стала яго працягам, з'яўляецца такой жа часткай цела, як рукі, ногі ці галава.

Хлопец забыўся пра дзіду, падняўся. Арыентуючыся на гук, метадычна расстрэльваў зграю. Успышкі ішлі адна за другой. Вастразубы ў паніцы кідаліся ў водблісках агню, безвынікова спрабуючы выратавацца ад смяротных промняў энергана. Агонь пісталета даганяў хвастатых монстраў паўсюль. Ператвараў у пар, адрываў лапы, галовы і хвасты, рэзаў целы. Промні прашывалі істот наскрозь. Падкідвалі і з сілай білі аб падлогу. У задушным паветры густа вісеў едкі смурод.

Стрэл. Стрэл. Стрэл... Аск плаціў за перажыты страх. За знявагу і боль. Ужо не мог кантраляваць сябе. Указальны палец азвярэла раздзіраў клямар.

— Што, не падабацца? — падлетка ахапіла эйфарыя. — Атрымайце!

Бойня працягвалася нядоўга. Вастразубы былі не ў стане цягацца з энерганам і паспешна адступілі. Растварыліся ў цемры.

Не верачы ў тое, што яму ўдалося перамагчы, хлопец апусціў зброю. Стомлена паглядзеў на поле бою, а затым на лічыльнік зарадаў. Замест лічбы «42» акенца паказвала «27». За некалькі хвілін Аск патраціў амаль трэць боезапасу. Даўшы зброі некалькі імгненняў на тое, каб астыць, падлетак асцярожна, быццам рэліквію, схаваў пісталет.

Энерган быў адным з нямногіх *артэфактаў*, якія засталіся ад *Старажытных*. І няхай усе казалі, што свет і ўсё ў ім створаны богам Німурам, аднак Аск дакладна ведаў, што ўсе дзівосы — вынік дзейнасці чалавека, тых, хто жыў у дагістарычныя часы. Кнігі сведчылі пра тое, што даўным-даўно людзі былі разумнейшымі, умелі рабіць многае, пра што цяперашняе пакаленне не магло нават і марыць. Магутнасць іх была настолькі моцнай, што чалавеку падпарадкоўваліся стыхіі. Ці было гэта праўдай або выдумкай старых, заставалася загадкай. Старэйшына забараняў размаўляць са сваякамі пра даўнейшае. Аднаго толькі ўспаміну пра Старажытных было дастаткова для збіцця і зняволення ў *ізалятары*. Супляменнікі імкнуліся не думаць пра тое, адкуль узяліся ўтылізатар, энерганы, загадкавыя механізмы, крыніцы, калоніі светлавых лішайнікаў, многае іншае, што акружала род. Занятыя выжываннем, людзям было не да іх. Яны прымалі рэальнасць як дадзенае. Не спрабавалі нічога зразумець. У адрозненне ад астатніх, Аск імкнуўся абавязкова дакапацца да сутнасці рэчаў. Зразумець іх сэнс. Часцяком забываўся пра час. За што і неаднаразова быў біты Грымурам і яго памагатымі з ліку паляўнічых. Любая спроба ўсвядоміць рэальнасць заканчвалася строгай забаронай надалей дакранацца да чаго-небудзь. Табу распаўсюджвалася на ўсё, што магло так ці інакш сведчыць на карысць людскога паходжання артэфактаў. Племю былі патрэбны не шукальнікі, а паслухмяныя выканаўцы волі старэйшыны. Любое адхіленне неміласэрна каралася...

Падлетак машынальна пагладзіў метал зброі, здзіўлены неверагоднай сілай, якая заключалася ў энергане. З пісталетам не магло параўнацца нішто. У Заселеным свеце проста не мелася нічога падобнага. Не было, дый не магло быць. Грымур жыў сучасным, у той час, як Аск думаў пра будучыню, не забываючы зазірнуць у мінулае. Памылкай кіраўніка стала тое, што ў свой час ён дазволіў хлопцу прыцягнуць да сябе ў пячору кнігі. Паляўнічыя знайшлі невялікую бібліятэку падчас аднаго з рэйдаў. Хацелі адразу ж спаліць, але Аск упрасіў Грымура аддаць кнігі яму. Старэйшына знаходзіўся ў добрым настроі, дазволіў хлопцу забраць два дзясяткі томікаў. На астатнія ж кнігі ласка волата не распаўсюджвалася. Папяровыя лісты гарэлі надзвычай добра. Куды лепш, чым мох. Жанчыны любілі падсілкоўваць імі агонь...

Аск здолеў выбраць самыя цікавыя кнігі. Доўга разглядаў і ўдыхаў чароўны водар, які перапаўняў яго сэрца радасцю датычнасці да чагосьці вялікага. У той час, як суродзічы радаваліся кавалкам мяса і лішайнікам, светлавалосы знаходзіў радасць у старых томіках. Чытаць вывучыўся з дапамогай аднаго са старых, тых, хто яшчэ памятаў, што такое азбука. У адрозненне ад іншых, Хелькі бачыў у падлетку перш за ўсё чалавека. Пісьменнасць для выжывання была не патрэбна, таму Грымур яе не вітаў, аднак не мог пайсці супраць старэйшыны, ад ведаў і ўменняў якога залежала многае. Да гэтага дня кіраўнік роду глядзеў на захапленне хлопца скрозь пальцы. Незадаволена пырхаў і сціскаў кулакі. Цяпер жа, калі на першае месца выходзіла грубая сіла, Грымур мог рабіць усё, што пажадае. І нават старэйшыны не маглі абараніць хлопца.

Аск не любіў старэйшыну. Было ў ім нешта чужое. Ліхое і непрыемнае. Тым не менш падпарадкоўвацца Грымуру быў абавязаны. Прыходзілася перасільваць сябе, слухаць чатырохрукага волата. Але сёння старэйшына пераступіў тую нябачную рысу, якая падзяляла пакорлівасць і бунт. «Яму не трэба было рваць кнігі і кідаць іх ва ўтылізатар», — нечакана і чамусьці злосна падумаў хлопец, успамінаючы, як правадыр знішчыў адзінае багацце Аска. Добра, што ён запомніў карту. У адваротным выпадку ніколі б не знайшоў дарогу да рэактара...

Падлетак выняў з торбы другую паходню. Пазавіхаўшыся з брусочкамі, запаліў яе. Даў полымю як след разгарэцца, падняў свяцільню над галавой. Агледзеўся.

Заўважыўшы дзіду, якая ляжала каля нейкіх скрынь, рушыў да яе. Трупы вастразубаў агідна трашчалі пад нагамі… Рабілася млосна, але Аску ўдавалася справіцца з гэтым. Ён падняў зброю. Трымаючы наканечнікам уніз, пайшоў да выхаду з пячоры. Па дарозе хлопцу трапіліся яшчэ некалькі велізарных скрынь, аднак цікавіцца іх змесцівам уцякач не стаў. У падлетка не было ні часу, ні жадання корпацца ў знаходках. Падсвядома Аск разумеў, што, чым хутчэй дабярэцца да рэактара, тым будзе лепш для племя. Так што варта забыцца на скрыні, нягледзячы на тое, што ўсярэдзіне іх магло аказацца што-небудзь вартае. Хлопец спяшаўся пакінуць поле бою. Знаходзіцца сярод трупаў было невыносна цяжка. Забіваць аказалася зусім не так проста, як гэта ўяўлялася раней. Вытрымцы паляўнічых варта было пазайздросціць.

На шчасце, да самага Моста страху вастразубы больш не турбавалі. Ля пераправы Аск вырашыў зрабіць прывал. Бой занадта моцна выматаў яго. Трэба было адпачыць і паесці. Абраўшы больш-менш удалае месца, падлетак сунуў паходню ў трэшчыну ў сцяне. Адтуліна нібыта спецыяльна прызначалася для паходні. Аск апусціўся на падлогу. Дастаў біклагу, сашрубаваў вечка і зрабіў некалькі вялікіх глыткоў. Пасля чаго выцягнуў грыб і трохі моху. Пачаў жаваць, не адчуваючы ні смаку, ні паху. Звыклы занятак дапамог супакоіцца. У хуткім часе Аск адчуў сябе значна лепш. Страўнік адгукнуўся задаволеным буркатаннем. Настрой пачынаў імкліва паляпшацца. Хлопец раптам зразумеў, што ўсё будзе добра. Па якой прычыне ён прыйшоў да такой парадаксальнай высновы, сказаць было цяжка. Проста верыў, і ўсё. Сэрца жыло надзеяй і верай у поспех. Пераканаць Аска не маглі ні вастразубы, ні кромлехі, ні драмеры.

Калі з ежай скончыў, то ён яшчэ некаторы час прасядзеў без руху, пасля чаго сціснуў дрэўка дзіды і рашуча падняўся. Выцягнуў паходню і пакрочыў па Мосце. Хлопца разбірала цікаўнасць — што ж знаходзіцца па абодва бакі ад пераправы. На жаль, задаволіць сваю дапытлівасць уцякач не мог. Крыніца святла была занадта слабой для таго, каб разагнаць змрок. Прыйшлося здагадвацца. Аднак удосталь аддацца фантазіям ва ўцекача не атрымалася. Цемра нечакана стала змяняцца. Яна то радзела, то зноў налівалася гушчынёй. Паветра дрыжала. Праз некалькі хвілін яно пачало струменіцца. Перакручвацца і абсыпацца.

Аск спыніўся. З утрапеннем утаропіўся на метамарфозы. Вочы падлетка шырока раскрыліся. Далей першых метраў Моста страху не хадзіў ніхто. Нават мужныя і адчайныя паляўнічыя вярталіся, бо не маглі справіцца з грозным насланнём. Цемра тым часам працягвала змяняцца. З'явілася свячэнне. Спачатку слабое і ледзь напоўненае жыццём. Аднак з кожным імгненнем яго глыбіня, насычанасць і маштаб раздзімаліся. У паветры запахла чымсьці непрыемна рэзкім. Паходня ледзь тлела. Аску хацелася ўцячы, схавацца ад дзіўнага святла, але ён не мог зрабіць і кроку. Ногі нібы прыраслі да зямлі-падлогі.

Бялёсае святло жаўцела, імкліва налівалася зелянінай. Насычанасць змянялася ў бок пацямнення. У хуткім часе зялёнае адценне змяніў хваравіты блакіт. Страх душыў. Аск не кантраляваў уласнае цела. Думкі замітусіліся, нібы спалоханыя драмеры. Ззянне раптам памутнела. Пачало ўцягваць у сябе паветра. Хлопец адчуў, што вакол хутка становіцца холадна. Сцюжа імкліва забірала цяпло. Залазіла пад вопратку, студзіла скуру. Адчуванне было брыдкім, але Аск не мог нічога зрабіць, каб справіцца з ім. Страх пазбавіў яго сіл. Хлопец не вытрымаў і закрычаў ад жудасці. Яму здавалася, што варонка, якая імкліва пашыралася, вось-вось праглыне яго, закруціць у смяротным танцы, а потым разарве на часткі, як Грымур расправіўся з кнігай...

«Я павінен супраціўляцца! — прамільгнула ў галаве хлопца. — Не стаяць!»

Падлетак паспрабаваў варухнуцца, але невытлумачальная сіла моцна трымала яго. Ціск на цела павялічыўся ў шмат разоў. Аск адчуў, як з ноздраў цячэ кроў. Юшка слізганула па губе, на імгненне павісла на падбародку, затым сарвалася на кашулю, расцяклася невялікай плямай. Следам за першай звалілася і другая кропля. Згасла паходня, аднак свячэнне варонкі давала дастаткова святла для таго, каб у падрабязнасцях разгледзець тое, што адбывалася. Знутры на хлопца глядзела сама смерць.

Мароз мацнеў. Зубы падлетка загрукалі. Кроў пачала імкліва адліваць ад пальцаў. І калі на нагах ператварыцца ў лёд ім перашкаджалі боты і анучы, то нічым не прыкрытыя рукі мерзлі. Холад калоў скуру на пальцах дзясяткамі іголак, ператвараючы іх у непаслухмяныя дзеравякі. «Трэба нешта рабіць!» Думка была цвярозай, вось толькі ўвасобіць яе аказалася цяжка. Рукі не слухаліся, а думкі губляліся дзесьці на палове шляху да канечнасцяў. «Рухацца!» — загадаў сабе юнак. Паспрабаваў паварушыць рукамі, аднак нічога з гэтага не атрымалася. Чалавек быў занадта слабы перад стыхіяй. Не мог супраціўляцца ёй. Дзіда выпала.

Варонка ператварылася ў вялізную чорную дзірку, што цяжка навісала над хлопцам. Яна рыхтавалася праглынуць здабычу. «Я павінен змагацца! — нагадаў сабе Аск. — Не для таго я пакінуў Жалезныя пячоры, каб спыніцца, не дайшоўшы да мэты. Знайсці сілы. Рухацца! Не стаяць на месцы!» Голас уласнага розуму, што шаптаў словы выратавання, не дазваляў хлопцу ўпасці ў забыццё. Сабраўшы рэшту сіл, Аск падняў руку. Рухі былі павольнымі, затарможанымі. Быццам ён рухаўся ў шчыльным асяроддзі. Міналі хвіліны. Варонка расла, а рука пераадолела ўсяго толькі лічаныя міліметры.

«Такімі тэмпамі мне ніколі не дабрацца да энергана!» — злая думка надала падлетку сіл. Адкрылася другое дыханне. Не звяртаючы ўвагі на здранцвенне ад холаду, уцякач цягнуўся да пісталета, маючы намер стрэліць у дзірку. Яму чамусьці здавалася, што гэта дапаможа справіцца з варонкай. Коштам неймаверных намаганняў Аску ўдалося сунуць руку ў выраз кашулі. Уцякач паспрабаваў намацаць зброю. Не атрымалася. Пісталет ляжаў занадта глыбока. Аска ахапіла паніка. Ён вырашыў, што яму ні за што не дабрацца да зброі. Аднак тут рука нарэшце кранула сагрэты целам метал. Варта было пальцам толькі ўхапіцца за рукаяць, як ад здранцвення не засталося і следу. Па венах пацёк расплаўлены метал. Аск пацягнуў зброю. Вырваўшы пісталет з-пад адзення, навёў яго на варонку і націснуў на курок. Згустак энергіі ўдарыў у сярэдзіну дзіркі. Некалькі імгненняў нічога не адбывалася, а затым дзірка пачала змяняцца. Паветра зноў «паплыло». Заклубілася адначасова ў некалькіх месцах. Варонку перакруціла. Яна стала нагадваць згорнутую анучу. Затым на целе фантастычнага стварэння паўстала мноства вогненных кропак, якія былі падобны да маленькіх смерчаў. Кожны з іх мог лёгка разарваць чалавека, але Аску чамусьці зусім не было страшна. Хлопец больш не страляў, хоць і трымаў энерган у выцягнутай руцэ. Палец на спускавым кручку злёгку дрыжаў, гатовы ў любы момант націснуць на язычок. Страляць у другі раз не давялося. Холад раптам пачаў слабець. Няўмольна адступаў па меры таго, як варонка ператваралася ў верацяно. Ад яго прыкметна сыходзіла цяпло, якое спрытна разбівала *кайданы* холаду. Неўзабаве ад сцюжы не засталося і следу.

На працягу хвіліны знікла і сама варонка. Толькі лёгкае пакалыхванне паветра сведчыла пра тое, што тут зусім нядаўна бушавала невядомае. Ды яшчэ слабае святло, што лілося з усіх бакоў. Неўзабаве знікла і яно. Наступіла цемра... Аск змог удыхнуць на поўныя грудзі. Зброі не апускаў, справядліва падазраючы, што сюрпрызы яшчэ не скончыліся. Хлопец не хацеў, каб яго заспелі знянацку.

Час цёк, але нічога не адбывалася. Падлетак сунуў энерган за пояс, каб у выпадку небяспекі не губляць каштоўнага часу. Прысеў. Намацаў паходню. Выцягнуў

металічныя брусочкі, сухі мох і пачаў высякаць іскры. Здабыць агонь удалося з сёмай спробы. Маленькія пунсовыя іскры пырснулі на камяк. Праз імгненне мох затлеў. Аск падзьмуў на яго, даў разгарэцца, пасля чаго паднёс да паходні. Полымя некаторы час не жадала перакідвацца на масляністае рыззё, але ўрэшце было вымушана здацца. У няроўным святле паходні хлопец агледзеў мост. Матэрыял, з якога ён быў пабудаваны, нагадваў сцены пячор. Аск ударыў па ім нагой. Метал адгукнуўся незадаволеным гулам. Ён падняў дзіду, устаў. Агледзеўся. Вакол, наколькі хапала полымя паходні, слупянілася цемра. На шчасце, змрок больш не рабіў спроб змяніцца.

Павадзіўшы паходняй па баках, хлопец працягнуў шлях. Мост страху аказаўся не такі ўжо і вялікі. Усяго два дзясяткі метраў, якія вырадак пераадолеў менш чым за хвіліну. Спыняцца ля мяжы Нязведаных зямель Аск не стаў. Проста ступіў у цемру, падсвечваючы дарогу паходняй. Затупаў пыльнымі ботамі па зямлі-падлозе. Чым далей рухаўся юнак, тым у ім усё больш мацнела інтуітыўная ўпэўненасць у тым, што ён знаходзіцца ў вялізнай зале, якая ў шмат разоў пераўзыходзіць Пячору вастразубаў. Агню паходні было недастаткова, але і без яго Аск быў упэўнены, што гэта так. Калі доўга жывеш у замкнёнай прасторы, вучышся вызначаць адлегласць і памеры інтуітыўна.

Падлетак сцепануўся. Ён ніколі не быў у такой агромністай пячоры. Пустэча палохала, прымушала нярвова азірацца па баках. Хлопец міжволі замарудзіў крок, а затым і зусім спыніўся. Паспрабаваў разабрацца ў сваіх пачуццях. У галаву адначасова лезла мноства думак.

Аск быў блізкі да вар'яцтва. Але тут адбылося тое, што прымусіла хлопца забыцца пра пячору і засяродзіцца на выратаванні свайго жыцця. З цемры нечакана вынырнуў нейкі імклівы цень. Ён наляцеў на хлопца, ледзь не выбіўшы паходню з рукі. Падлетак прыгнуўся. Рэзка адскочыў. Выпраміўся і ўскінуў дзіду, збіраючыся сустрэць небяспеку як мужчына. Аднак нябачны вораг ударыў са спіны. Нешта цвёрдае і вострае распарола кашулю на плячы. Аск гучна ўскрыкнуў. Цела адгукнулася болем. Па спіне і грудзях пацякла кроў.

Хлопец крутануўся на месцы. Тыкнуў дзідай у цемру. Затым трохі зрушыўся і ўдарыў лязом туды, дзе, на яго думку, павінен знаходзіцца праціўнік. Метал трапіў у пустэчу. І зноў над самым вухам падлетка прашмыгнула нешта цяжкае. Толькі цудам не закранула галаву. Абдаўшы смуродам, знікла ў змроку. Хлопец ускінуў паходню, беспаспяхова спрабуючы разгледзець у вугальнай імжы хоць нешта. Полымя закалацілася. Страляла іскрамі. Набрынялая грыбным алеем анучка гарэла дрэнна, рызыкуючы згаснуць у любы момант. Аск з жахам падумаў пра тое, што будзе, калі паходня патухне. Не валодаючы такім жа вострым зрокам, як іншыя людзі племя, уцякач наўпрост не зможа супрацьстаяць ворагу. Хлопец у каторы раз пашкадаваў пра тое, што нарадзіўся вырадкам. Будзь на яго месцы любы з мужчын, ён, напэўна, прыдумаў бы, што рабіць...

Ад немінучага сутыкнення з нябачнай небяспекай Аска выратавалі інстынкты. Падпарадкоўваючыся папярэджанням падсвядомасці, хлопец кінуўся ўбок. Розум толькі-толькі пачаў усведамляць пагрозу, а цела ўжо падрыхтавалася адбіць напад. Падлетак ускінуў дзіду і тыкнуў паходняй ў цемру. Нешта гучна залапатала, закрычала, зашумела, пасля чаго падалося назад. Вось толькі радавацца перамозе было рана. Яшчэ дзве пачвары накінуліся на ўцекача са спіны. Учапіліся ў кашулю вострымі кіпцюрамі і пачалі рваць тканіну, імкнучыся дабрацца да цела. Хлопец не вытрымаў і закрычаў. Не гледзячы, тыцнуў паходняй за спіну. Трапіў у нешта шчыльнае. Пачуўся крык болю.

Карыстаючыся тым, што хватка на імгненне аслабла, падлетак паспрабаваў збіць з сябе другога ворага. Упаў на зямлю-падлогу, імкнучыся прыціснуць яго сваёй масай. Не чакаўшы падобнай тактыкі вораг забіў крыламі і выпусціў здабычу. Аск не даў яму ўзляцець. Ударыў істоту локцем. У адказ пачулася злоснае карканне. «Драмеры», — здагадаўся хлопец. Крылатыя істоты былі куды больш небяспечнымі сапернікамі, чым вастразубы. Яны маглі атакаваць як з зямлі, так і з паветра. «Трэба знайсці сховішча ці хаця б абараніць сабе спіну», — успомніў Аск павучанні паляўнічых. Ускочыў. Зірнуў па баках. У некалькіх метрах справа віднелася нейкая агромністая непранікальная скрыня. Не разважаючы, вырадак ірвануў да яе. Над галавой залапаталі крыламі некалькіх драмераў.

Молячы Німура пра тое, каб не ўпасці, Аск дабег да схованкі. Прыціснуўся да яе спінай. Выставіў дзіду. Падрыхтаваўся да абароны. Драмеры таксама не марудзілі. Наляцелі на хлопца, агалошваючы крыкамі. Вырадак адбіваўся ад ворага дзідай і паходняй. Некалькі разоў трапіў па драмерах, аднак гэта не астудзіла наступальнага запалу ворага. Кроў прыводзіла монстраў у шаленства.

На хлопца сыпаліся цяжкія ўдары. Драмеры спрабавалі выбіць паходню і вырваць дзіду. Затуляючы галаву рукамі, Аск азвярэла калоў цемру. Хутка слабеў, сцякаючы крывёю. Істоты зляталіся з усіх бакоў. З кожным імгненнем іх станавілася ўсё больш і больш...

Не бачачы праціўніка з-за крыві, што залівала вочы, хлопец бязладна біў змрок. Смылелі разадраныя рукі, аднак падлетак не звяртаў на іх увагі. Адчайна супраціўляўся. У галаве білася адзіная думка: «Выстаяць!»

Сілы былі няроўныя. Драмеры перамагалі…

Выратаванне прыйшло адтуль, адкуль яго Аск зусім не чакаў. Пачулася грознае гыркание, якое прымусіла крылатых істот з крыкамі кінуцца ў розныя бакі. Затым з цемры вынырнулі тры гіганцкія сілуэты-кромлехі. Мускулістыя целы, палаючыя інфернальным агнём вочы, увянчаныя шыпамі доўгія хвасты, вострыя іклы і рэбры, якія тырчалі вонкі. Супрацьстаяць монстрам не рашаліся нават дасведчаныя паляўнічыя. Кромлехі валодалі фенаменальнай сілай. Маглі за лічаныя хвіліны разарваць чалавека. Горш за ўсё было тое, што кромлехі зусім не баяліся агню. Адзіным іх слабым месцам была тонкая скура.

«Вось і ўсё!», — змрочна падумаў Аск, гледзячы на монстраў. Ярка-чырвоныя вочы кромлехаў дысаніравалі з суцэльнай сцяной цемры. Да ўсіх іншых бед дадалася згаслая паходня. Поле бою абрынулася ў цемру. Аск выцягнуў пісталет, машынальна адзначыўшы, што ўзровень зараду ўшчыльную наблізіўся да адзнакі «18». Улічваючы колькасць ворагаў, іх хуткасць і абарону, боезапасу магло і не хапіць. На месцы ўцекача любы іншы напэўна б здаўся, апусціў зброю і загінуў, аднак Аск не дазваляў сабе думаць пра паразу. Прага жыцця рэзка абвастрылася. Светлавалосы не меў права памерці сёння. У яго было занадта шмат спраў для таго, каб стаць ахвярай кромлехаў. «Я павінен выратаваць людзей!» — паўтараў уцякач. Утрымліваючы дзіду левай рукой, правай навёў ствол на ворагаў. Тыя, быццам адчуўшы небяспеку, з атакай не спяшаліся. Кружылі вакол чалавека, нібы атрымліваючы асалоду ад яго пакут.

— Ну чаго ж вы? Падыходзьце! — не вытрымаў Аск. Палец быў гатовы націснуць на курок.

Кромлехі адгукнуліся грозным рыкам. Іх вочы загарэліся яшчэ ярчэй.

— Чаго ж вы марудзіце? — пракрычаў падлетак. — Вось ён я! Ідзіце і вазьміце! Ну!

Істоты працягвалі кружыць вакол хлопца. Праз некалькі імгненняў колькасць ворагаў павялічылася.

— Пачынайце ж! — нерашучасць кромлехаў раздражняла. Хлопец ніяк не мог зразумець, чаму яны марудзяць.

Гучны крык… Кромлехі рыкнулі і кінуліся ў атаку. Аск націснуў на курок. Згустак плазмы ўдарыў першаму кромлеху ў грудзі. Жудасны віск і грукат цела, што паваліліся на падлогу, зліліся разам. Запахла смаленай поўсцю і вывернутымі вантробамі. Не марудзячы, хлопец зрушыў ствол энергана ўбок. Зноў націснуў спускавы кручок. Новая ўспышка. Упаў другі кромлех. За ім паваліўся з перабітай лапай трэці... Сполахі выхоплівалі монстраў з цемры. Аск непрыемна ўразіўся таму, наколькі іх было шмат. «Занадта шмат...»

Падлетак страляў і страляў. Ледзь паспяваў за ворагамі. Кромлехі валіліся на зямлю-падлогу, заліваючы яе крывёю і раскідваючы вантробы… Слізгалі ў барвова-чорных лужынах, жаласна скуголілі і злосна гыркалі. Нават параненыя спрабавалі дацягнуцца да светлавалосага...

Калі скончыліся зарады ў энергане, падлетак адкінуў непатрэбны пісталет. Перахапіўшы дзіду дзвюма рукамі, пачаў калоць ворагаў. Вострае лязо лёгка біла ў падатлівыя целы, перасякала сухажыллі і звязкі, раздзірала ўнутраныя органы, артэрыі і вены...

Адзін з удараў Аска адштурхнуў кромлеха на сценку скрыні. Істота зачапіла нейкі рычаг. Нешта гучна пстрыкнула, бразнула. Загарэлася нясцерпна яркае святло. Монстры заверашчалі і замітусіліся ў паніцы. Асепленыя, яны не бачылі анічога. Хлопца таксама аглушыла яркая ўспышка, але, у адрозненне ад кромлехаў, ён апрытомнеў хутчэй. Выцер брудным рукавом слёзы, затым кінуўся дабіваць ворагаў. Неяк сам па сабе з памяці нечакана ўсплыў успамін пра перажытае ў дзяцінстве.Аднойчы ў Жалезныя пячоры ўварваўся магутны кромлех. Істота накінулася на людзей. За некалькі імгненняў загінула трое — дзве жанчыны і маленькае дзіця. Аск стаў міжвольным сведкам жорсткай расправы з суплеменнікамі. Да гэтага часу ў начных кашмарах ён бачыў звар’яцелыя ад болю і страху твары нябожчыкаў... І вось надышоў час помсты. Аск біў, калоў, сек і насаджваў на наканечнік ворагаў, адчуваючы, як з кожным ударам у сэрцы расце задавальненне. Няхай яму і наканавана загінуць сёння, але ён прыхопіць з сабой у якасці платы Перавозчыку целы ворагаў…

Бойня доўжылася менш за хвіліну, а хлопцу здавалася, што прамінулі гадзіны. Калі з кромлехамі было скончана, падлетак цяжка апусціўся на падлогу. Прываліўся спінай да скрыні. Дзіда вывалілася са знясіленых рук. Аск быў блізкі да таго, каб страціць прытомнасць. Ён радаваўся перамозе і адчуваў агульную слабасць. «Выстаяў...»

Дрыготкай рукой хлопец выцягнуў біклагу. Зрабіў некалькі глыткоў. Плюхнуў у твар і на патыліцу. Зрабілася лягчэй, аднак боль адразу ж нагадаў пра сябе рэззю. Варта было тканіне закрануць раны, як цела імгненна пранізвалі дзясяткі распаленых іголак, што прымушала хлопца сціскаць сківіцы, каб не застагнаць. Трэба было зрабіць перавязку. Аск зняў торбу, сцягнуў кашулю праз галаву. Адклаў убок. Лінуўшы вадой на раны, дастаў з торбы рэшткі моху. Пажаваў яго да кашыцы, пасля чаго выплюнуў на далонь. Расцёр, прыклаў да раны на плячы. Моцна прыціснуў пальцамі. Пасля чаго здзейсніў аналагічную працэдуру з ранамі на руках і твары. Моху было мала, таму прыйшлося абмежавацца толькі павярхоўнай апрацоўкай. Аск спадзяваўся на тое, што лекаў усё ж хопіць, каб спыніць кроў. Праз некалькі хвілін, калі кашыца зацвярдзела, хлопец нацягнуў на сябе кашулю, навесіў торбу. Грубая тканіна неміласэрна драпала скуру, аднак падлетак проста праігнараваў нязручнасць. Зменнага адзення ў яго ўсё роўна не было.

Прайшло яшчэ некалькі хвілін, перш чым светлавалосы, абапіраючыся на дзіду, змог устаць. Цела павяло. Прыйшлося абаперціся плячом на скрыню. Уцякач машынальна паглядзеў уверх. Аск не памыліўся ў сваіх ацэнках памяшкання. Пячора сапраўды была велізарнай. Яе вяршыня гублялася дзесьці ў густым змроку, разагнаць які не магла нават сістэма асвятлення. Сцен таксама не бачылася.

Хлопец падзівіўся памерам пячоры, паглядзеў па баках. Справа і злева цягнуліся доўгія шэрагі аднолькавых беласнежных скрынь з тоўстымі напаўпразрыстымі вечкамі і скрыні на невялікіх п’едэсталах. Яны весела мігцелі агеньчыкамі. Ад іх у падлогу сыходзілі нейкія тоўстыя правады. У кнігах пра канструкцыі гаварылася мала, так што пра іх прызначэнне заставалася толькі здагадвацца. Хлопец пацiснуў плячыма. Але з цікаўнасцю наблізіўся да бліжэйшай. З-за марознага малюнка разабраць, што знаходзілася ўнутры, было немагчыма. Аск дыхнуў на пластык, пасля чаго пачаў церці яго рукавом. Праз некалькі імгненняў вырашыў зазірнуць у плямку, што ўтварылася ад цяпла. Наблізіў твар і рэзка адскочыў, не ўтрымаўся на нагах, бразнуўся на азадак, выпусціўшы пры гэтым дзіду. І было з-за чаго — праз тоўсты празрысты пластык на яго абыякава глядзелі вочы такой ж выродлівай істоты, як і сам Аск...

Шок доўжыўся некалькі доўгіх імгненняў. Хлопец ніяк не мог паверыць у тое, што ўбачылі яго вочы. Занадта непраўдападобным і казачным падалося відовішча. Мозг адмаўляўся прымаць відавочнае. «Не, не можа быць... — шапталі вусны падлетка. — Гэта трызненне. Я звар’яцеў. Я сплю... Сапраўды, сплю. Трэба ўшчыкнуць сябе, і тады кашмар скончыцца»

Хлопец паспешліва ўшчыкнуў сябе за сцягно. Боль быў рэальным, а скрыня з істотай нікуды не дзелася. Перад вачыма стаяў усё той жа *саркафаг*. Сабраўшыся з духам, хлопец падняўся. Падхапіў дзіду і нясмела наблізіўся да *крыягеннай камеры*. Выдыхнуўшы, вырашыў зноў паглядзець на свайго двайніка. Чалавек ляжаў нерухома. Яго вочы былі закрыты. Аск дыхнуў на пластык. Пацёр яго, пашыраючы пляму. Чалавек ляжаў цалкам голы, што дазваляла без асобага напружання разглядзець яго ва ўсіх падрабязнасцях. Дзве рукі. Дзве нагі. Галава. Торс без відавочна выяўленай мускулатуры... Адзін да аднаго, як у Аска.

У падлетка не было падстаў не давяраць уласным вачам. Ніколі раней яны не падводзілі яго. Тым не менш хлопец працягваў глядзець на істоту. Убачанае не з’яўлялася ні сном, ні вар’яцтвам, ні падманам. Яно было рэальнасцю...

Аск павярнуўся. Агледзеўся. Саркафагаў стаяла шмат. Вельмі шмат... Доўгія сіметрычныя шэрагі цягнуліся і цягнуліся. І толькі на самай мяжы бачнасці быў відаць каласальны матава-чорны цыліндр рэактара, ад якога, падобна рэбрам гіганцкай жывёлы, адыходзілі доўгія спіцы, абвешаныя гронкамі чырвоных, жоўтых, сініх, зялёных і ружовых прастакутнікаў.

На ўсялякі выпадак Аск вырашыў праверыць сваю здагадку. Наблізіўся да іншай крыягеннай камеры. Працёршы пластык, зазірнуў унутр. Чалавек. Голы, безвалосы, са слабым торсам і сярэдняй галавой, такі ж як уцякач. Падобная карціна паўстала перад выродкам у трэцяй, пятай, дзясятай, дваццатай скрыні... Мужчыны і жанчыны. Сотні. Тысячы... Было ад чаго звар’яцець.

Аск неяк змог справіцца з хваляваннем. Глыбока ўдыхнуў, пасля чаго рашуча накіраваўся да рэактара. Ішоў доўга, па дарозе зрабіўшы некалькі прыпынкаў, за час якіх канчаткова расправіўся з грыбамі і вадой.

Урэшце наблізіўся да рэактара. Паблізу матава-чорны цыліндр быў сапраўды велізарным. Яго памеры душылі, прымушалі адчуваць сябе нікчэмнай казюркай. Аск падняў галаву. Вяршыня збудавання гублялася дзесьці ўверсе. Нават пры ўсім

жаданні падлетак не мог убачыць яе. Хлопцу раптам неадольна захацелася кінуцца бегчы без аглядкі.

Прыйшлося супакоіць нервы, нагадаць пра тое, дзеля чаго ён тут. Самаўнушэнне дапамагло. Некалькі імгненняў хлопец глядзеў на збудаванне, здзіўлены магутнасцю яго стваральнікаў. Затым кінуў погляд па баках. Калі карта не хлусіла, дзесьці паблізу павінен знаходзіцца камандны цэнтр. «Ведаць бы толькі, які ён...»

Юнака ахапіла разгубленасць. Ён слізгаў позіркам па абсалютна аднолькавых нарастах, напружваў памяць, спрабуючы ўспомніць, што гаварылася ў кнігах пра цэнтр. Дадзеных было катастрафічна мала. «А што, калі я не знайду цэнтр?» Панічная думка апаліла. Вярнуўся забыты страх. «Спакойна!» — загадаў сабе Аск. Заплюшчыў вочы і паспрабаваў адключыцца ад рэальнасці. Атрымалася. Прайшло некалькі імгненняў. Хваля трывогі і збянтэжанасці пачала патроху слабець, пакуль канчаткова не згасла. Адчуўшы сябе лепш, ён паспрабаваў накідаць план далейшых дзеянняў. Тое, што Аск не ведаў дакладна, дзе знаходзіцца камандны цэнтр, зусім не азначала, што выратавальная місія правалена. «Напэўна, ён недзе побач... Вось толькі дзе?» Не ў сілах выстаяць на месцы, хлопец накіраваўся да бліжэйшага нарасту. Шыльдачка на ім сведчыла пра тое, што ўсярэдзіне знаходзіцца склад насення. «Не тое...» Аск падняў галаву. Угледзеўся ў шыльдачку на наступным нарасце. «Сховішча саджанцаў»...

— Зноў не тое... — прамармытаў падлетак і скіраваў погляд яшчэ вышэй. «Склад зародкаў драпежных жывёл»... «Склад зародкаў свойскіх жывёл»...

Хлопец утаропіўся на другую спіцу. «Кветкі»... «Травы»... «Хмызнякі дэкаратыўныя»... «Хмызнякі дзікія»... Аск паціснуў плячыма. На ніжніх гронках трэцяй спіцы значылася: «Арсенал», «Кампрэсарная», «Абсталяванне ахоўных сістэм»...

Некаторыя словы хлопец разумеў — яны сустракаліся ў кнігах, але яшчэ больш было тых, сэнс якіх уцякач зразумець не змог. Ён разгублена пераводзіў погляд з аднаго кантэйнера на іншы. Бязгучна варушыў вуснамі, спрабуючы здагадацца, што азначалі тыя ці іншыя тлумачальныя надпісы. Вымушана капітуліраваў, не могучы справіцца з неймаверна складанай задачай. Патроху прасоўваўся наперад.

Каб абысці цыліндр, хлопцу спатрэбілася некалькі гадзін. Уцякач палічыў ужо, што яму ніколі не знайсці камандны цэнтр, як тут перад яго позіркам паўстаў дзівосны шар, які нагадваў серабрыстую кроплю кандэнсату. Ён быццам лунаў у паветры. Толькі ўважліва прыгледзеўшыся, Аск зразумеў, што да шара вядзе празрыстая трубка, усярэдзіне якой мог лёгка змясціцца чалавек.

Хлопец рушыў да будынка. Неўзабаве змог адрозніць новы надпіс. «Камандны цэнтр». У падлетка перахапіла дыханне. Падарожжа падышло да завяршэння. Аск усміхнуўся. «Атрымалася...» Радасць некалькі засмучаў той факт, што юнак не ведаў, як трапіць унутр. Перабіраючы ў галаве магчымыя варыянты, уцякач падышоў да трубкі, працягнуў руку і паклаў яе на пластык. Нечакана ў ім адкрыўся праход. Падлетак падаўся назад. Замёр з адкрытым ротам. Нічога не адбылося. Трохі памарудзіўшы, светлавалосы наблізіўся да адтуліны. Агледзеў яе. Дзірка была больш за ўсё падобна на дзверы. Хлопец асцярожна прасунуў у яе руку. Вытрымаў паўзу, пасля адважыўся зайсці ў сярэдзіну. Празрыстая пласціна адразу слізганула на месца. Магутны штуршок памкнуў яго ўверх. Спалохацца ён не паспеў. Толькі інстыктыўна ўціснуў галаву ў плечы. Перад вачыма прамільгнулі змазаныя цені. І вось падлетак ужо наверсе. Абсталяванне ўразіла яго. Панэлі, тэрміналы, маніторы, разнастайныя датчыкі гарэлі сотнямі рознакаляровых агнёў. Чаргаванні пошугаў штохвілінна мяняліся. Апаратура гула, пстрыкала, выдавала рытмічны гук, які прымусіў Аска міжволі скурчыцца. Занадта ж нязвыклым быў гэты шум...

Падлетак перамог страх і рушыў да камп’ютараў. Замёр, з захапленнем і заміраннем сэрца гледзячы на гульню агнёў. Агеньчыкі, што вясёлкава пераліваліся, прыводзілі ўцекача ў захапленне. Ён па-дзіцячы радаваўся безлічы фарбаў. Аск загадаў сабе не адцягваць увагу. Племя чакала дапамогу. Трэба было падумаць пра тое, як запусціць рэзервовае сілкаванне.

Хлопец падышоў да пульта кіравання. Асцярожна дакрануўся да панэлі. Гул стаў мацнейшым. Змена была настолькі нечаканай, што падлетак рэзка адхапіў руку і маланкавым рухам выхапіў нож, выставіў клінок перад сабой, гатовы ў любы момант пусціць зброю ў ход. Трывога аказалася ілжывай. Завыванне апаратуры спынілася гэтак жа нечакана, як і пачалося. Аск вярнуў лязо ў ножны. Ізноў пераключыўся на россып агеньчыкаў, спрабуючы зразумець, што яму рабіць далей. Узнікла думка пра тое, што Грымур усё ж такі меў рацыю. Уцякач не ведаў, як актываваць рэзервовае сілкаванне...

Час цёк, а нічога пэўнага ў галаву так і не прыходзіла. Падлетак перабраў усю інфармацыю, якая так ці інакш магла тычыцца рэзервовага сілкавання. З жахам зразумеў, што яе замала для запуску сістэмы. Асобныя веды датычыліся толькі агульных пытанняў. Хлопец ледзь не завыў ад бяссілля. Прайсці доўгі шлях толькі для таго, каб трапіць у тупік? Было ад чаго нервавацца. Плечы Аска паніклі. Ён апусціўся на падлогу. Утаропіўся ў адну кропку. «Як жа так?» Найбольш крыўдна было ўяўляць радасць старэйшыны. Адна толькі ўхмылка Грымура выклікала ў светлавалосага агіду. Ён не мог дапусціць трыумфу правадыра. Хлопцам раптам авалодала злосць. Ён падняўся. Паглядзеў на *панэль кіравання*, спрабуючы разабрацца ў мностве значкоў і надпісаў. Большасць з іх былі цалкам незразумелыя. Аск здолеў усвядоміць сэнс усяго двух або трох тлумачэнняў. Хацеў кінуць, але пачуццё абавязку прымушала раз пораз учытвацца ў надпісы, спрабаваць знайсці схаваны ў іх сэнс.

Пакуль што атрымлівалася дрэнна...

Падлетак ужо страціў надзею разабрацца ва ўсім, як тут яго позірк упаў на велізарную зялёную кнопку, прыкрытую пластыкавым вечкам. Ні значкоў, ні надпісаў, якія дапамаглі б зразумець яе прызначэнне, не мелася. Падпарадкоўваючыся нечаканаму парыву, хлопец адкінуў пластык. Трохі памарудзіўшы, націснуў на кнопку. Памяшканне пачало імкліва напаўняцца нізкім гулам. Аск спалохана азірнуўся. Агеньчыкі заззялі з падвоенай сілай. Па ажыўшых маніторах папаўзлі доўгія слупкі дадзеных. Затым аднекуль зверху пачуўся дзіўны металічны голас:

— Актывацыя дубліруючай сістэмы. Гатоўнасць — адна хвіліна. Пачынаю адваротны адлік…

Ад страху ногі падлетка не слухаліся. Каб не ўпасці, ён ухапіўся абедзвюма рукамі за пульт. З асцярогай і неразуменнем вылупіўся на перамігванне рознакаляровых пошугаў. У галаве Аска не засталося ні адной думкі. Голас тым часам працягваў адлік:

— Пяцьдзясят тры. Пяцьдзясят дзве. Пяцьдзясят адна...

Хлопец са страхам чакаў, што будзе далей. Калі ў куце нешта гучна затрашчала, нервы ўцекача не вытрымалі. Ён закрычаў. Усярэдзіне каманднага цэнтра рэзка запахла ўрынай.

— Трыццаць сем. Трыццаць шэсць. Трыццаць пяць... — няўмольна вяшчаў дынамік.

Ажыўшы аглядны экран спалохаў Аска не менш. Падлетак адхіснуўся. Не ўтрымаў раўнавагі і грымнуўся на падлогу. Павярнуў галаву ў бок экрана, на якім хутка змяняліся дадзеныя. Праз некалькі хвілін на іх месцы паўстаў схематычны малюнак касмічнага карабля. Выява змяняла колер з крывава-чырвонага на зялёны.

Кнігі не хлусілі. Племя сапраўды знаходзілася на *зоркалёце*. «Я так і ведаў!»

— Дваццаць дзве. Дваццаць адна. Дваццаць... — не сунімаўся голас.

Зразумеўшы, што нічога страшнага не адбываецца, падлетак устаў. Падышоў да пульта. Неадрыўна назіраў за тым, як схема хутка становіцца зялёнай. Адценне цешыла вока і супакойвала нервы. Аск раптоўна ўсвядоміў, што місія скончылася перамогай. Падлетак не мог растлумачыць, адкуль у яго галаве з'явілася гэтая ўпэўненасць, тым не менш гэта было так.

— Дзесяць. Дзевяць. Восем ... — хлопец падабраўся. Замёр у чаканні цуду. — Тры. Два. Адзін. Актывацыя завершана...

«Няўжо атрымалася?» — юнак не мог паверыць у тое, што адбываецца. Ён толькі што выратаваў племя... Велізарнае нервовае напружанне, якое трымала светлавалосага ўвесь гэты час, прарвалася істэрычным смехам. Аск зарагатаў, адчуваючы, як на душы робіцца лягчэй. Былі забытыя страх і прыніжэнне. Хлопец быў гатовы ўзняцца на крылах перамогі.

— Вітаю вас, незнаёмец! — мяккі чалавечы голас прымусіў хлопца здушыцца смехам. Аск рэзка азірнуўся, на хаду выцягваючы нож. У памяшканні больш нікога не было.

— Хто тут? — спалохана выціснуў з сябе Аск.

— Дазвольце прадставіцца: сістэма штучнага інтэлекту «Арыстоцель», — адказаў голас. Падлетак рэзка крутануўся на месцы. І зноў нікога не ўбачыў.

— Дзе ты?

— Я перад вамі!

— Дзе? — закрычаў уцякач, азіраючыся па баках. Аск ніяк не мог зразумець, дзе хаваецца суразмоўца.

— Тут, — адазваўся голас. — Паглядзіце на экран.

Аск паслухмяна ўтаропіўся на манітор. Некаторы час нічога не адбывалася, а затым у прамавугольніку з'явіўся разумны твар старога, які мімаволі выклікаў прыхільнасць да сябе.

— Прашу вас, схавайце нож, — папрасіла выява. — Ён вам ні да чаго. Вы — у поўнай бяспецы!

Клінок знік у ножнах.

— Дзякуй. Вы вельмі ветлівы, — Арыстоцель усміхнуўся. — Як ваша імя?

— Аск... — сарваным голасам паведаміў сваё імя ўцякач.

— Аск, значыць, — кіўнуў стары. — Што ж, будзем знаёмыя... Перш за ўсё хачу аддзячыць вас, Аск!

— За што? — здзівіўся хлопец.

— За тое, што вы абудзілі мяне да жыцця, — растлумачыў стары. Падлетак пацiснуў плячыма. — Я спаў занадта доўга... Сядайце, Аск!

— Куды? — не зразумеў юнак. Праз імгненне за спінай хлопца з'явілася крэсла. Аск асцярожна апусціўся ў яго. Сядзенне было мяккім і зручным, як быццам яго адмыслова падагналі пад постаць уцекача. Падлетак паёрзаў у крэсле. Пасля чаго сказаў: — А ты зусім не страшны!

— Дзякуй, — адказала сістэма штучнага інтэлекту. — Я і не павінен быць страшным. Бо мая галаграфічная выява зроблена па вашай выяве і падабенстве. Мяне стварылі такія ж людзі, як і вы, — растлумачыў Арыстоцель.

— Такія ж вырадкі? — пацікавіўся падлетак.

— Вырадкі? — не зразумеў стары. — Чаму вы кажаце так?

— Таму, што я адрозніваюся ад іншых, — патлумачыў Аск. — Я — не такі, як астатнія. Вырадак...

— Прабачце, я не магу спасцігнуць сэнсу сказанага вамі, — прамовіў стары. — Згодна з інфармацыяй, што захоўваецца ў маёй памяці, вас ніяк нельга назваць выраддкам. Вы — чалавек. Такі ж, як і стваральнікі карабля. Як экіпаж і пасажыры транспарту. Наколькі я магу меркаваць па вонкавым выглядзе, у вашым геноме не назіраецца якіх-небудзь мутацый або іншых адхіленняў. Калі хочаце, магу правесці поўны аналіз.

Што такое «аналіз», падлетак не зразумеў. Таму адмоўна хітнуў галавой, пасля чаго нагадаў:

— Але ж у мяне дзве рукі! Дзве!

— А колькі іх, па-вашаму, павінна быць? — пацікавіўся Арыстоцель, які быў здзіўлены рэакцыяй Аска. У разуменні сістэмы штучнага інтэлекту чалавек павінен быў паводзіць сябе інакш.

— Чатыры! — пераканана заявіў вырадак.

— Запэўніваю вас, Аск, вашы дзве рукі — гэта норма для чалавека, — адказаў стары. Арыстоцель вёў сябе незвычайна. Размаўляў з хлопцам, нібы з роўным сабе. У яго голасе не было ні здзеку, ні насмешкі, ні раздражнення, ні агрэсіі. Да такіх адносін Аск не прывык. Гэта адначасова палохала яго і выклікала прыхільнасць да незнаёмца. — Усе астатнія варыянты — адхіленне. Вы дазволіце пытанне?

Падлетак кіўнуў.

— Дзе вы бачылі людзей з чатырма рукамі?

— Як дзе? — здзівіўся светлавалосы. — У нас усё племя такое...

— А ці нельга атрымаць больш поўную інфармацыю? — папрасіў Арыстоцель.

Хлопец кіўнуў і пачаў расказваць. Гаварыў доўга і захоплена, імкнучыся пры гэтым не ўпусціць дробязей і дэталей. Сістэма штучнага інтэлекту слухала вельмі ўважліва. Ні разу не перабіла. Калі Аск скончыў, стары сказаў:

— Прадастаўленая вамі інфармацыя мае відавочную каштоўнасць. Цяпер у мяне не застаецца ніякіх сумненняў у тым, што экіпаж і пасажыры каланіяльнага транспарту «Suprema Spes» прыцярпелі істотнае змяненне генетычнага кода з прычыны выхаду са строю фатоннага рухавіка. Мае сістэмы фіксуюць рэштkавыя наступствы выбуху. Прымаючы пад увагу маштабы разбурэння рухавіка, можна заключыць, што яго прычынай стала сутыкненне з невядомым целам. Верагодна, з метэароідам.

— Метэароідам? — не зразумеў хлопец.

— Менавіта так, — пацвердзіў Арыстоцель.

— А што такое метэароід? — пацікавіўся падлетак.

— Вы не ведаеце? — здзівіўся стары.

— Не, — развёў рукамі Аск.

— Даю даведку. Метэароід або метэорнае цела — нябеснае цела, прамежкавае па памеры паміж міжпланетным пылам і астэроідам. Гэта цвёрды аб’ект, які рухаецца ў міжпланетнай прасторы. Памеры метэароіда могуць вагацца ад 100 км, да 10 метраў... Штосьці не так?

— Я нічога не зразумеў, — прызнаўся Аск, які сустрэў у кароткай прамове занадта шмат незразумелых слоў.

— Прабачце, — сказаў стары. — Я не зрабіў папраўку на ваш узровень інтэлекту. — Значыць, трэба пачаць здалёк. Вы нікуды не спяшаецеся? — хлопец адмоўна хітнуў галавой. — Вось і выдатна. Тады пачнём... У 2385 годзе чалавецтва сутыкнулася з рэальнай пагрозай татальнага знішчэння. Метэарыт М’ёльнір, які трапіў у Зямлю, выклікаў зрушэнне яе арбіты. Як вынік — Зямля пачала імкліва збліжацца з Сонцам...

Сістэма штучнага інтэлекту імкнулася адаптаваць інфармацыю да ўзроўню IQ падлетка, аднак раз-пораз была вымушана ўстаўляць у маналог даведачныя дадзеныя.

Аск не ведаў элементарных рэчаў. Зрэшты, для дэградзіраванага чалавека гэта было зусім не дзіўна.

— ...людзі вырашылі пабудаваць некалькі каланіяльных транспартаў і накіраваць іх ва ўсе прыдатныя для жыцця кропкі Сусвету. Унутр былі загружаны ўзоры асноўных відаў жывёл, раслін, інструменты, абсталяванне і зброя. Усё, што трэба для асваення новай планеты. Сто тысяч добраахвотнікаў былі змешчаныя ў крыягенныя камеры, дзе ў стане анабіёзу павінны былі перачакаць палёт. Задачай «Suprema Spes» было падарожжа за сто светлавых гадоў. Запуск маршавых рухавікоў адбыўся за арбітай Плутона. Галоўны фатонны рухавік і тры дапаможныя сілавыя ўстаноўкі былі закліканы разагнаць зоркалёт да калясветавой хуткасці, пасля чаго ў справу ўступаў генератар гіперпрасторавага скачку. Экіпаж «Suprema Spes» паспяхова завяршыў падрыхтоўку да скоку і выканаў яго. Каланіяльны транспарт увайшоў у гіпердрайв. Але на пятым месяцы падарожжа ўзнікла няштатная сітуацыя. Малое касмічнае цела, якое невядома як апынулася ў падпрасторы, прабіла ашалёўку зоркалёта і пашкодзіла фатонны рухавік. Пілоты спрабавалі справіцца з аварыяй, але не далі рады прасторава-часавай анамаліі, у выніку разгортвання якой «Suprema Spes» апынуўся ў зусім іншым часе і іншым месцы Сусвету, чым гэта планавалася стваральнікамі карабля.

— Дзе? — спытаўся падлетак.

— Аналізатар сведчыць пра тое, што каланіяльны транспарт вынырнуў з падпрасторы ў сузор’і Цмока за 214 светлавых гадоў ад Зямлі.

— Гэта шмат? — спытаў хлопец.

— Не ўдаючыся ў падрабязнасці, скажу, што так. Шмат. Баюся, ваш узровень інтэлекту не дазваляе мне аперыраваць лічбавымі дадзенымі... Мы каля сонцападобнай зоркі HD 109246. Жоўты карлік з масай і радыусам 1,01 і 1,02 сонечных адпаведна. — Выява старога знікла. Экран наліўся густой чарнатой. У ім лёгка можна было разгледзець некалькі рознай велічыні шароў. — Зоркалёт апынуўся на арбіце вышэйназванай планеты. У выніку разгерметызацыі ашалёўкі над «Suprema Spes» навісла пагроза знішчэння. Аўтаматыка карабля запусціла праграму актыўнай абароны каланіяльнага транспарту і людзей. Радыяцыя і касмічнае выпраменьванне загубілі вялікую колькасць экіпажа і пасажыраў, знішчылі значную частку груза насення і зародкаў... Пацярпеў энергетычны шчыт. Менавіта яго непрацоўны стан з’яўляецца прычынай таго, што ў карабель перыядычна ўразаецца касмічнае смецце.

Калі вашы словы верныя, то людзі, звяры, птушкі і расліны, якія трапілі пад радыёактыўны ўдар і мутавалі, стварылі на «Suprema Spes» арыгінальную экасістэму. У мяне няма ніякіх сумненняў у тым, што згаданыя вамі вастразубы — гэта ўсяго толькі лабараторныя мышы, кромлехі — сабакі, а драмеры — вароны... Для поўнага аналізу мне патрэбен генетычны матэрыял. Гэткія дзіўныя і радыкальныя мутацыі я магу растлумачыць выключна сілай выпраменьвання. Калі меркаваць па паказаннях бартавога хранометра, працэс генетычных змяненняў заняў 258 гадоў, сем месяцаў і чатыры дні...

Аск маўчаў, прагна ўбіраючы гісторыю Заселенага свету.

— На дадзены момант узровень радыяцыі не выходзіць за межы нормы. Спрацавала кажух-сістэма актыўнай абароны рухавіка і меры прымусовай вентыляцыі «Suprema Spes». Некаторыя адхіленні ад дапушчальных значэнняў назіраюцца ў раёне дзявятага перахадніка... Мост страху ў вашым разуменні. Пагрозы жыццю і здароўю яны не нясуць. Могуць толькі аказаць лёгкае галюцынагеннае ўздзеянне... — стары ўзяў паўзу, пасля чаго загаварыў зноў: — На шчасце, вялікая

частка людскога кантынгенту не пацярпела. Мае сістэмы фіксуюць іх здавальняючы стан. Паказчык ацалелых запасаў арганічных матрыц складае семдзесят цэлых восем дзясятых працэнта. Гэтага цалкам дастаткова для каланізацыі тэрападобнай планеты... Стан кантэйнераў з тэхнікай і зброяй — у норме. Адзначаю практычна поўнае вычарпанне рэсурсу першай акумулятарнай батарэі. Падключэнне рэзервовай крыніцы сілкавання выканана... Са значных адхіленняў, што могуць паўплываць на выкананне асноўнай місіі, адзначаю стан часу.

— А што з ім не так? — пацікавіўся Аск.

— Аналіз паказвае, што каланіяльны транспарт выкінула з гіпердрайва за мільён гадоў да таго, як на Зямлі з'явіўся першы чалавек...

Стары змоўк, даючы ўцекачу «пераварыць» дадзеныя. Як і меркавала сістэма штучнага інтэлекту, ударам для хлопца інфармацыя не стала. Яго мозг наўпрост быў не ў стане ацаніць сэнс і маштабы таго, што адбываецца.

— Наступствы сутыкнення з метэароідам цяжкія, але не фатальныя. Я толькі што скончыў іх разбор. «Suprema Spes» можна адрамантаваць. Прытрымліваючыся базавай праграмы, я пачынаю рамонт каланіяльнага транспарту. Гэта можа заняць ад некалькіх месяцаў да года. Затым зоркалёт зможа працягнуць выкананне палётнага задання. Запускаю паэтапнае абуджэнне зменнага персаналу і пасажыраў...

— А гэта бяспечна?

— Так, — адгукнуўся Арыстоцель. — Усе сістэмы функцыянуюць спраўна... Хутка, Аск, вас будуць атачаць такія ж людзі, як і вы самі.

Хлопец кіўнуў. Больш ніхто не будзе з яго здзекавацца.

— Тым не менш мне патрэбна ваша дапамога!

— Мая? — невымоўна здзівіўся хлопец. — Але чым я магу дапамагчы?

— Вы — tabula ex naufragio. Апошняя надзея чалавецтва...

— Я? — зноў здзівіўся Аск. Для яго паняцці, якімі аперыраваў суразмоўца, з'яўляліся пустымі гукамі, не меўшымі ніякага сэнсу.

— Так, вы, — кіўнуў Арыстоцель. — У вас ёсць бясцэнны вопыт выжывання ў агрэсіўным асяроддзі. Ваш геном прыстасаваны да новых умоў... Да таго ж людзям патрэбен лідар, і вы павінны павесці іх за сабой. Менавіта з вас, Аск, і пачнецца адраджэнне цывілізацыі. Юрыдычна, вы — першы чалавек...

— Які з мяне лідар? Мяне заўсёды прыніжалі і білі... я не магу.

— Можаце, — з гарачай перакананасцю заявіла сістэма штучнага інтэлекту. — Прырода людзей такая, што яны ніколі не будуць падпарадкоўвацца машыне. Я не ў стане загадваць ім. Я магу толькі раіць і дапамагаць... Людзі стануць падпарадкоўвацца толькі людзям. Якой бы разумнай і дасканалай не была машына, яна ў любым выпадку застанецца машынай. Сістэма штучнага інтэлекту «Suprema Spes» праектавалася выключна для палёту сярод зорак і дапамогі ў пачатковым асваенні планет. Я магу самастойна рабіць дробны і буйны рамонт, замяняць асобныя секцыі, пракладваць маршрут, аднак не магу натхняць людзей і клікаць іх за сабой. Для гэтага я занадта штучны...

— Але... — сказаў хлопец.

— Я пабуджу людзей. З дапамогай робатаў знішчу вастразубаў, драмераў і кромлехаў. Высаджу экіпаж на планету. Дапамагу ўладкавацца, але кіраваць імі станеце вы, Аск... — вяшчала сістэма штучнага інтэлекту. — У маім распараджэнні знаходзіцца велізарная база дадзеных, назапашаных чалавечай цывілізацыяй. Навучанне не зойме шмат часу. Я запішу інфармацыю прама вам у мозг. Не палохайцеся, нічога страшнага і небяспечнага ў гэтым працэсе няма, а вось магчымасці адкрываюцца проста казачныя... Вам, як лідару, трэба ведаць і ўмець многае...

Рагнед МАЛАХОЎСКІ

# ІСКРЫ

* * *

Я вярнуўся
З чужынных мясцін,
Болей лёс мой
Там крочыць не хоча.
Твае рукі —
На целе маім, —
Як пяшчотныя хвалі Нарочча.

Мы пакрочым па ціхай вадзе...
Светлячок дыяментавай зоркі
Адзінокі па небе брыдзе
Асвятляць прыбярэжныя ўзгоркі.

Беражэ нас азёрны спакой
Ад спакусаў вірлівага свету.
Дакранешся адданай рукой
Да гарачага сэрца паэта.

У дыханні святой цішыні —
Надвячорак рубінава-росны.
Толькі падаюць зорак агні,
Дзе шумяць нарачанскія сосны.

* * *

Мой чорны парасон —
Акраец ночы —
Растане ў навальнічным даляглядзе.
Настане час,
Якога не захочаш
Ты бачыць у маім нямым паглядзе.

Мой чорны парасон —
Крыло анёла,
Што здрадзіў на зямлі адвечнай веры.



***Рагнед Малахоўскі нарадзіўся 5 верасня1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці. З 1987 года жыве ў Беларусі. Па адукацыі — фінансіст, па прызванні — паэт. Адказны сакратар часопіса «Маладосць». Аўтар вершаваных зборнікаў «Беражніца» і «У дзённай мітусні». Любіць ездзіць на скутары. Фатаграфуе дзяўчат і нарачанскія краявіды. Піша электронную музыку.***

Грымотаў бой.
На твары мёртвы сполах.
За мной адчайна зачыняеш дзверы…

Мой чорны парасон —
Мой паратунак.
Падорыць ноч
Нявыплаканы сон нам —
Апошні развітальны пацалунак.

Іду апошні раз
Пад парасонам…

* * *

Стаю пад раем
На краі вады.
Адлюстраванне берагоў не адчувае.
Зямля аблашчана вадой.
Пад раем — край.
Камусьці тут жыццё —
Прамая каляіна,
Але ж, для большасці —
Суцэльны вір,
Выпрабаванне на трываласць
Перад смерцю.

Ад краю адыду...

Блішчаць аблокі
У прамені раю.
А дажджу не бачна,
Толькі чутныя ледзь-ледзь
Грымотаў насцярожаныя крокі
На мяжы
Паміж зямлёй,
Аблокамі і раем.
Я разумею:
Край мой пачынаецца
На ўскрайку
Незлічонае вады.

* * *

Дрыготкі далягляд —
Як вадаспад,
Як вечнасці
Імклівае імгненне.
За намі —
Крок,
Прад намі —
Летні сад.
Усмешка закаханай,
Бы праменне
Зямнога шчасця —
Трапяткога матылька,
Што заблукаў
У шчодрай квецені...
І марай
Да майго твару
Дакранулася рука,
Нібы рака,
Нібы пажар
Над хмарай.
А летні сад
Заманьвае гульнёй
У мроі,
У забытыя хвіліны
І зачароўвае
Пяшчотнай цеплынёй
І водарам
Агністае маліны.

Імчаць у далягляд
Жыцця гады,
Не стануць
Нашы крокі
Божай карай...
Успомнім мы
І летнія сады,
І матылька —
Што як пажар
Над хмарай.

**ІСКРЫ**

Калі ты побач,
Я раблюся крэмнем...
І нат у сне
На беразе Нарочча,
За тонкую руку

Цябе вазьму:
І заіскрыцца сэрца...

У жыцці кароткім
Іскрынкі кожнай
Заірдзее
Салодка-страсная надзея.
І створаць разам
Вогнікі жыцця
Гармонію жывога пачуцця.

Паэзіі іскры ляцяць да зор
І становяцца зорамі,
Каб адбіцца пасля
У пяшчотнай вадзе,
Дзе малюнкам жывым
Акварэллю
Гойдаецца наша адлюстраванне.

У тваіх
Расхваляваных вачах
Адлюструюцца іскры
Маёй душы.

Хвалюецца возера,
Хвалюецца вечар,
Хвалюецца вецер...

Мы лёгкія, як іскры.
І вецер падхопіць цябе і мяне,
І гэты мой сон нарачанскі.
І пакіне нас
У шатах ночы
На паземкавай паляне.

Іскры цела майго
Ахінаюць пяшчотна
Тваю сарамлівую постаць,
Абараняюць
Ад драпежных вачэй.

Ды я сам, як драпежнік,
Лаўлю твой бязлітасны погляд.

Мы адны на ўвесь свет
У лагоднай
Начной прахалодзе.
Толькі зоркі гараць,
Як пад ранішнім сонцам
Суніцы.

Распалю табе вогнішча
З паэзіі
Душы і цела.

Не сціхне крэсіва
На беразе Нарочча.

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ

# САКАВІК

*Спантаннае*

*Ахвярую В. В.*



Кацярына Безмацерных нарадзілася 29 верасня 1987 года ў Мінску. Вучылася ў Інстытуце журналістыкі БДУ, які цяпер узгадвае з любоўю (асабліва кафедру літаратурна-мастацкай крытыкі). Шмат падарожнічала. Шукала шчасце. Не знайшла. Лічыць, што здаровае цела і ясная свядомасць — гэта прыгожа. Летуценніца? Надзейны чалавек!

## МАША, САША, ДАША ДЫ НАТАША

Дзяўчат, якім дваццаць тры, якія любяць Барыса Барысавіча Грабеншчыкова і якія «Гульню ў класікі» Хуліа Картасара чыталі, багата такіх дзяўчат у Мінску.

Вось, напрыклад, Маша, Саша, Даша, Наташа.

Дзяўчаты гэтыя знаёмыя міжсобку. Саша і Маша пасябравалі калісь праз Ваню. (Ваня знакаміты мінскі бабнік?.. Не, лепш так: шчыры фрылаўшчык!) З Дашай жа сяброўкі пазнаёміліся ў літаратурна-псіхалагічным гуртку пад назвай «Званітуй сваім Леанідам Андрэевым!» А Наташа… Дзе ж яна?.. А! Ну, на той лютаўскай тусовачцы па лепцы снегавікоў і коўзанні з горкі. Хтосьці яшчэ цэлы 75-літровы пляцак яблыкаў прыцягнуў…

## ПАРКАЛЁВАЯ СМЕРЦЬ

У Машы няма хлопца.

Маша працуе дызайнерам у сеціве.

Маша то ў горадзе, а то на лецішчы. Чулі, як вецер за горадам шуміць? Чулі, вядома ж…

Дваццаць другога сакавіка Маша піла гарбату (з леташняга скрыпеню) на лецішчы. Ведаеце, якія шпалеры бываюць на лецішчы? У Машы дык старэнькія, у міла-папсовыя кветачкі, адвальваюцца месцамі, з плямінамі сям-там.

А мухі леташнія? Сухімі разынкамі рассыпаюцца на падаконнях…

Дваццаць другога сакавіка: вецер і дождж; лісцё сухое і скарычнявелае на ўсе сто адсоткаў, трава сухая і бляклa-зжаўцелая таксама на ўсе сто адсоткаў; сонца раптоўна праз хмары… Не, не праз хмары — праз аблокі брудныя-брудныя, ды бязважкія; вецер іх у неабдымнай нябеснай святасці: «Ффффффффффффффффф!..» Раптоўнае сонца сакавіцкае няпалкае, нават сарамлівае, а гісторыю цікавую распавядае (так мама кніжку перад сном нягучна чытала). Сонца з'явілася, сонца

схавалася. Сакавіцкае сонца як дзяўчынка ціхая ў сукенцы паркалёвай. Не навязваецца. Не ўгаворвае.

Слаўны ён, сакавік: празрысты і лёгкі.

Празрыстая і лёгкая смерць трантаў прыроды.

Празрыстая і лёгкая смерць трантаў вечнай прыроды.

І вецер на лецішчы. Вечны…

## ПАКУТЛІВЫЯ РОДЫ

А вось Даша…

Яна пакутніца нейкая!

У Дашы ёсць хлопец. Ды фігня незразумелая з гэтым хлопцам. Разысціся не атрымліваецца, а сустракацца — пакуты.

Пагана Дашы дваццаць другога сакавіка. Валацужнічае па Мінску (а ў горадзе Мінску не сакавік, а так…), быццам шукае штосьці.

Вецер, то пахмурна, то сонца праз хмары.

Навошта стрэлку з Колем Даша забівае, навошта?..

Коля — ён цікавы чалавек, у прынцыпе. Але з ім Дашы звычайна не цёпла, а ніяк з Колем звычайна. Сёння ж дык увогуле — бессэнсоўна!

Пайшлі да яго. Ён адзін жыве. І жытло Колі — абыякое. Шпалеры старэнькія, адвальваюцца месцамі, з плямінамі сям-там.

Коля цалавацца лезе, распранае. «Як бессэнсоўна!» — думае Даша. Ды і яе хлопец перад вачыма ўсплывае, замінае. Даша плакаць пачынае.

— Прабач, не хачу…

Вырвалася з абдымкаў, у іншы кут канапы перабралася (канапа дома ў Колі лядашчая, з гадоў 70-х). Плача.

А потым супакоілася, канешне ж. Коля гашыш падубасіць прапанаваў. Згадзілася, а дзеля чаго? Бо стала не проста бессэнсоўна, а абсалютна бессэнсоўна: дно цёмнага калодзежа безвыходнасці.

Дурань Коля: гашыш дубасіць — гэта не для пакутнікаў!

— На, гарбаткі выпі, са скрыпеню. Хутчэй адпусціць, — працягвае кубак, прыгожы, з вожыкам.

Анягож, адпускае… Растае калодзеж пакутлівы. І куды менш бессэнсоўнасці прачытваецца Дашай на старэнькіх шпалерах.

## ПЕРАРАДЖЭННЕ

У нядзелю дваццаць другога сакавіка студэнтка філасофскага факультэта Саша піла гарбату з леташняга скрыпеню. І падумала, што няблага было б нарэшце стаць не проста студэнткай філасофскага факультэта, а той студэнткай філасофскага факультэта, якая друкавалася ў тоўстым літаратурным часопісе. Саша ўсё жыццё папісвала. Праўда, не паэзію, а доўгія лісты сябрам і апавяданні, якія ніколі недапісваліся да канца…

За акном пакоя, што здымала Саша, было то зусім па-лістападаўску пахмурна, то сонечна. Асабліва сонца! Далікатнае і мяккае, як дзіцячае яблычнае харчаванне «Ванюша» ў слоіку.

Незвычайны дзянёк. Натхненне выбухала ў Сашы. Думаеце, гэта кайфова, калі яно выбухае ды выбухае?.. Не! Гэта як вулканам быць, пякучую лаву якога не прыпыніш. Шалёным Ван Гогам быць, які ўсё ніяк не накахаецца, у палкіх сланечніках згараючы.

Можа, гэта ўсё Вася, у якога яна закахалася? Пераспаць адмовіўся. Ён (ідыёт!) замарочаны на нейкіх містычных трактатах. Вася ёй паведаміў сур'ёзна: «Бог — мой каханы каханак! І кропка, Саша!», — па стале кулаком ударыў з усёй моцы (ідыёт!).

Карацей, натхненне дваццаць другога сакавіка выбухала ды выбухала. Саша пачала пісаць. Не паабедала. А калі стамлялася пісаць, то садзілася на канапу; глядзела вачыма невідушчымі ў сцяну і адчувала: «Не на-ка-ха-ла-ся!!!»

Пад вечар мабільны Штокгаўзенам загучаў.

— Аркаша!!! — радасна закрычала Саша ў слухаўку. Аркаша — ейны піцерскі прыяцель. Аркаша — у Мінску!

— Я вазьму тэрмас!!! — працягвала ўзрушана крычаць у слухаўку Саша. — Матэ? Зялёная гарбата? А, скрыпень, як у леташнім жніўні!.. Канешне, канешне, ёсць! Завару!!!

…Такім чынам, апавяданне Саша зноў не дапісала. Але той вечар стаў апошняй кропляй для перараджэння. Пад уздзеяннем Аркашы, які кінуў сваё навучанне па трактарабудаўніцтве ў Пецярбургу, Саша канчаткова вырашыла адлічыцца з філасофскага факультэта — і (дазволім сабе забегчы наперад) сапраўды адлічылася! Ужо даўно Саша падумвала, што навука філасофія — гэта ані сонца ані вецер, нават не сакавік, а эрзац поўны.

## МЯТЛІК

А Наташа?..

Ну, а ў Наташы спадніца кветачкай і ногі прыгожыя.

— Матэ? Зялёная гарбата? А, скрыпень!.. Канешне, канешне, ёсць! Завару!!! — сказала Наташа хлопчыку Пашу.

Наташа любіць, калі Паша побач. Бо звычайнасць вакол касмічна-хрумсткімі вершамі становіцца.

(А вы ведаеце такое? Едзеш у людным вагоне метро, чыесьці вершы чытаеш і плачаш, сентыментальны дурань… Бо вершы — касмічна-хрумсткія!)

І вось ужо скрыпень п'юць; кажа Наташа:

— Сакавік…

Дваццаць другога сакавіка блаславёным святлом праз акно льецца.

— Фортку адчыні?

— Адчыняю!

П'юць скрыпень Наташа і Паша…

— Наташа, глядзі! Мятлік! У сакавіку! Адкуль?

Крапіўніца, самая звычайная, у пакой заляцела. Што за жарт?..

…А Маша, якая 22.03. была на лецішчы, выпіўшы чацвёрты на сёння кубачак скрыпеню, выйшла ў тыя хвіліны на ганак. Трава зжаўцелая, лісцё скарычнявелае. Транты вечнай прыроды, з лёгкасцю і празрыстасцю, паміралі.

*Дзмітрый ПЯТРОВІЧ*

# ВОСЕНЬ ШЫЛА САБЕ ПАЛІТО...



***Дзмітрый Пятровіч нарадзіўся 29 красавіка 1971 года ў горадзе Заслаўе Мінскага раёна. Педагог, працаваў настаўнікам. Цяпер — вядучы стыльрэдактар газеты «Звязда». Піша вершы, прозу, музыку, займаецца краязнаўствам. Аўтар дзвюх кніг.***

* * *

Дрыжыць святло ад свечак палахліва.
Яны згараюць, дорачы цяпло,
Шчаслівым каб было маё жытло.
…Агонь пяе спакусліва-тужліва.
А цені моўчкі скачуць на сцяне,
І хочацца глядзець на гэты вусціш.
Калі цяпло ў душу сваю ты ўпусціш —
То радасна і шчасна стане мне.
А з вуліцы ільдзінкі пазіраюць —
Там, за акном, калючая зіма…
Цяпло ці холад, выбірай сама,
Табе бліжэй…
…А свечкі паміраюць…

* * *

Кнігаўка над поплавам,
Над зялёным поплавам
Шумна-бесклапотна
Рвецца ў небасінь.
Аксамітным покрывам,
Разнатраўным покрывам
Тчэцца даль самотна…
Ледзь хапае сіл,
Каб дабегчы-сцішыцца,
Ля вады мне сцішыцца
І пачуць на золку
Споведзь салаўя…
А калі з зямлёю
Развітацца прыйдзецца —
Кнігаўкай над поплавам
Палячу і я…

* * *

Разгулялася ўночы маланкі каса,
Рэжа цемру — і днее ваколіца!
Гром спявае — і зноўку агню паласа

Косіць цемень.
А тая заходзіцца
У слязах-ручаях небаракі дажджу.
Вые вецер у шатах дрэў-волатаў...
…Раптам сціхне ўсё.
І сваю параднжу
Здыме ноч, калі ўсход сплыве золатам...

* * *

Восень шыла сабе паліто
Са стракатa-дзівоснага лісця.
Паўплятала зары залатой
Ніткі-промні.
З туманаў імглістых
Атрымаўся прыгожы каўнер,
А з дажджоў яна пояс саткала…
Не заўважыла толькі:
Цяпер
Ўжо зімы дэфіле напаткала…

## У ВЯЗЫНЦЫ

Дубы тут глядзяцца ў люстраныя воды,
Схіліўшыся нізка, у роздуме моўчкі.
Русалкі тут водзяць свае карагоды
Зіхотка-сярэбранай месячнай ночкай.
І дрэмле стамлёна Купалава хата.
Пасецца на лузе Пегас наш крылаты...

* * *

Помню ўсё:
Крык Пампеяў,
Што заснулі пад попелам гневу
Скамянелых смяротных багоў...
Помню ўсё:
Покліч веры, —
Аб’яднаў ты пад Грунвальдам вернікаў —
Знішчыць орды чужых ваяроў...
Помню ўсё:
Плач Хатыні —
Той застылы ад болю світанак,
Што праліўся крывёю на снег...
Помню ўсё:
Красавіцкі чарнобыльскі ранак —
Скалануў ён тады увесь свет...

...І ты помні ўсё...

* * *

Іспанскі бераг цалавалі хвалі,
Брыльянтавым шматзор’ем ноч цвіла,
Калі з табою танга танцавалі
І ты маёй багіняю была.

У танцы, як іспанская сеньёра,
Ты — як агонь у рытме кастаньет.
Для нас асыпаў срэбрам Месяц мора.
Мы танцавалі.
І спяваў Сусвет...

* * *

***Вяснова-ўзнёслы,***
***Ахмелены словам,***
***Вясёлыя вёслы***
***Пасек ты на дровы.***
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

Пакуль адчуваеш за спінаю крылы
Юнацкай вясны сваёй шчасна-ўзнёслай
І ветразь напоўнены прагнаю сілай, —
Няма той патрэбы ў мудрасці вёслах.
…І вось штыль на моры, гатовы швартовы —
Вясёлыя вёслы пасек ты на дровы...

* * *

Пакуль баліць душа паэта,
Яна — жывая.
На ўлонні вечнасці Сусвету
Душа блукае.
Пяе-трымціць крылата-ўзнёсла,
Лунае песняй —
Тады суквецце юні вёснаў
Зноў уваскрэсне.
Пакуль пяе вяснова свет мой
І не сціхае,
Баліць-трымціць душа паэта.
Яна — жывая…

*Алёна БЕЛАНОЖКА*

# ЧАМАДАН З КРАКАДЗІЛАВАЙ СКУРЫ*

***Аповесць***

Пахла сырасцю і цэментам, у кутах дзе-нідзе боўталася павута, якую, верагодна, яшчэ не паспелі змахнуць. Па ўсім заўважалася, што тэхніку прывезлі сюды пару дзён таму і яшчэ не паспелі «абжыць» памяшканне. Першы паверх выглядаў куды больш утульна за гэты.

— Есці хачу, а калі я галодная то такая злая, ну проста сапраўдны тыран! — сказала Аліна і пачала закасваць правы рукаў. — Гэта дзеля таго, каб не перапэцкаць свой новенькі жакецік, калі буду нас адсюль выцягваць!

— Аліна, сярод нас ёсць мужчына, чаму ты не пакінеш яму шанец здзейсніць подзвіг? — Таня паглядзела на Аліну, пасля на Дзіму, які стаяў, прытуліўшы да сэрца вінчэсцер.

— Таня, ты светлая галава! Увесь час забываюся, што побач могуць быць мужчыны! І праўда, Дон Кіхот, я твой верны Санча Панса, а гэта — Дульсінея. Мы ўжо ў сядле, уважліва цябе слухаем! — прамовіла Аліна, закасваючы левы рукаў.

Дзіма сунуў вінчэсцер Тані ў рукі і прамовіў:

— Добра. Давайце разважаць лагічна. Калі на першым паверсе ўсё камп’ютарызавана, то тут нішто толкам нікуды не падключана, толькі святло гарыць — лямпачка праз тры. З гэтага вынікае, што выхад адсюль будзе адкрывацца механічна, тобок — уручную, з дапамогай ключа ці звычайнай фомкі. Альбо ўсталявана кодавая сістэма, накшталт камеры захоўвання на вакзале.

— Лагічна, віншую вас! — Аліна пацiснула руку Тані.

Дзіма накіраваўся наперад, лавіруючы сярод бессістэмна пастаўленай мэблі. У канцы калідора, які нечым нагадваў калідор стандартнай савецкай інфекцыйнай бальніцы, кампашка ўпёрлася насамі ў дзверы, і Аліна хутка расправілася з замком пры дапамозе шпількі. За дзвярыма аказалася вінтавая лесвіца, і палонныя, злічыўшы трыццаць прыступак, патрапілі на трэці паверх бункера.

— Тры паверхі, вось гэта махіна! — ахнула Таня.

— Нехта ўсур’ёз заняўся ўладкаваннем гэтай махіны, — прамовіў Дзіма.

— Так, і ўсё сведчыць пра тое, што хутка тут распачнецца бурная дзейнасць! Мне б такі домік для цэнтра… — мовіла Аліна. — А чаго ж тут так цёмна? Добра, што ёсць газнічка, а то б паўзлі ў цемры, як краты.

— Вой-вой… — Таня спатыкнулася і ўпала на нешта мяккае.

Аліна асвятліла Таню. Тая ляжала на вялікім ложку з балдахінам.

— А гэта тут нашто? Ды яшчэ з балдахінам! — здзівіўся Дзіма.

— Прычым, ложак падазрона падобны на той, што я бачыла ў спальні аднаго майго знаёмага! — здзівілася Аліна і памацала ружовую прасціну.

— Шоўк! — вымавіла Таня.

---

* Працяг. Пачатак у № 7, 8 за 2012 г.

— Думаеш, на гэтым мусяць, па задуме, спаць агенты? — Дзіма таксама памацаў прасціну. — Мо яны тут збіраліся арганізаваць сауну з «нумарамі»?

— Не ведаю, не ведаю… Я б не адмовілася падрамаць на такім ложку ў абдымках сімпатычнага чарнавокага брунета!

Дзіма, які быў самым сапраўдным чарнавокім брунетам, закашляўся, абышоў ложак, праціснуўся паміж дубовым сталом і арэхавым стэлажом і паклікаў:

— Дзяўчаты, хадзіце сюды, тут, здаецца, выхад!

Чарговы тунэль вывеў палонных у настылы асенні лес. Дзіма з грукатам зачыніў люк:

— Адчуваю сябе хобітам. Выпаўз з нары, вакол лес, куды ісці — незразумела, а Усёбачнае Вока не спіць, хутка пачне шукаць свой вінчэсцер!

— І газнічку, ага! Адставіць паніку! — скамандавала Аліна. — Выберамся на дарогу. Беларусь — гэта не Расія, тут прыкметы цывілізацыі сустракаюцца значна часцей. Шкада толькі, што не май, а вось куртачак у нас якраз і няма. Як думаеце, куды ісці?

Дзіма задумаўся, а пасля паказаў рукой направа. Восеньскі вецер падняў апалую лістоту, і сталі добра бачнымі дзве каляіны — зусім нядаўна тут праехаў аўтамабіль у напрамку, які паказаў Дзіма. Па адбітках на мокрай зямлі Аліна пазнала свайго «буцэфала»: такі малюнак пакрышак у Беларусі быў адзіны. Аліна заказала іх за мяжой і цяпер дужа злавалася з-за таго, што нехта ганяе яе «малютку» па бездарожжы. Яна штурханула нагой яловую шышку і пакрочыла па слядах свайго аўтамабіля. Дзіма і Таня рушылі за Алінай.

Як толькі самавызваленая кампанія знікла ў гушчары, на вузкай сцяжыне, што вяла з глыбіні лесу да пятачка перад люкам, данесліся крокі. Два чалавекі ў чорным, высокі і нізенькі, з півам і чыпсамі ў руках, няспешна наблізіліся да люка.

— Нудная справа: хадзіць вакол люка, як вакол каляднай ялінкі! — уздыхнуў той, што быў ніжэйшы. У ягоных вачах панавала неадольная самота.

— Ну, знайшоў што ўспомніць! Ты, можа, яшчэ і вершыкі ў дзяцінстве Дзеду Марозу чытаў? — спытаўся той, што быў вышэйшы, і гучна засмяяўся.

— Канешне, чытаў, — адказаў першы і зноў уздыхнуў.

— Прадэманструй!

Першы выцягнуўся «па струнцы», і сумныя вочы нечакана засвяціліся такой пяшчотай, нібы ён згледзеў рай на зямлі. Затым заплюшчыў вочы і пачаў дэкламаваць радкі:

— У Савосева суседа… быў пярэсценькі каток… выхаванец Паўла-дзеда… гэткі слаўны… гэткі слаўны… забыўся. Не памятаю далей, даўно не чытаў.

— Ух ты! А пакажы трусіка! — папрасіў другі.

Першы склаў рукі на грудзях, нібы лапкі, і пашморгаў носам.

— Сапраўдны! Ну, сапраўдны трусік, нават насапатка падобная! Артыст! — першы два разы пляснуў у ладкі і адкрыў зубамі бутэльку піва.

— Ага. Артыст. Толькі ў дзяцінстве мне пасля калядных карагодаў і выступаў падаруначкі давалі, а цяпер аніякіх заахвочванняў не назіраецца, хоць мы тут ужо тры дні топчамся. Акурат, як абсталяванне сюды завезлі, так нас і камандзіравалі.

— Табе за гэта бабкі плоцяць. Сказалі ж: каб ніхто ні ўнутр, ні знутры.

— А што… там нехта ёсць?

— Не ведаю. Там, у хацінцы, двое з раніцы качаюцца, але яны нягеглыя, самі не збягуць. А тут — не ведаю.

Першы рвануў накрыўку:

— Зачынена. А можа, злазім унутр ды паглядзім, што там?

— Табе плоцяць не за тое, каб ты лазіў сюды-туды, а за тое, каб ніхто, у тым ліку і ты, туды не залез! Эх, добрае піўко! Шкада толькі, крама далёка.

— Паслухай, — сказаў першы, — можа, не будзем больш у краму хадзіць разам? А ну, як хто-небудзь прашмыгне, пакуль нас няма?

— Расслабся! Мне сказалі: тут такая сістэма аховы, што мыш не прашкрабецца!

— А мы тады нашто?

— Як нашто? Для саліднасці! Давай дапамагу, — прапанаваў другі, гледзячы на тое, як першы намагаецца адкрыць піва аб крышку люка. — Бездапаможны ты, акцёр. Усе мае знаёмыя акцёры такія бездапаможныя — як дзеці! Адразу бачна: ніколі ў арміі СССР не служылі, саранчу ў Казахстане не жэрлі.

— А ты еў? То бок.. жэр? — спытаўся першы і каўтануў сліну.

— Жэр.

— І як?

— На чыпсы падобная.

Першы сумна паглядзеў на свае чыпсы, пасля на піва, затым сеў на люк і паставіў на яго харчы. Другі ўладкаваўся побач. Абодва прымоўклі.

Тым часам Аліна, Дзіма і Таня прадзіраліся праз мокрыя зарасці. З галля разпораз падалі буйныя халодныя кроплі і патраплялі ім на валасы і за каўнер. Дзіма змахваў ваду з чуба, Таня выцірала рукавом твар, Аліна бадзёра насвіствала песенькі пра дождж, а калі прамуркатала ўсе песні, якія ведала, сказала:

— Вось вырасцем, як грыбы пасля дажджу, здаро-овыя! О, паглядзіце, я грыбок знайшла! — яна падбегла да пушыстай сасонкі, нагнулася, адшчыкнула пазногцямі сімпатычны маленькі грыб. — Эх, мне б кошык, ножык, дажджавік…

— Няма калі нам грыбочкі збіраць! — Дзіма страсянуў чубам, як грывай.

— Ну, тады я гэтага малёху з сабой забяру! — Аліна схавала грыб у кішэню і прысыпала месца, дзе яго знайшла, іглічай. — Вы толькі ўявіце сабе, якая прыгода! Нас скралі, звезлі ў невядомым напрамку, замкнулі, ледзьве не ўзарвалі, пабілі, але мы збеглі, ды з цэлай кучай трафеяў: вінчэсцер, газнічка і нават, прашу адзначыць, ядомы грыб! Вакол свежае паветра і надзея на тое, што мы ўсё-ткі будзем жыць вечна! Кажуць, у яловых лапках ёсць фітанцыды, якія ратуюць ад хвароб вуха, горла і носа! Рэкамендую ўсім закусіць галінкамі!

Аліна адламала яловую лапку і, не спыняючы хады, пачала яе жаваць.

Таня адмахнулася ад калючай галінкі і шэптам спыталася ў Дзімы:

— Гэтая Аліна… яна заўсёды такая?

— Я бачу яе трэці раз у жыцці, мы па інтэрнэце перапісваліся.

— І адразу жаніцца?

— Ты нічога не разумееш. Гэта фіктыўны шлюб.

— Яе не цікавіць, што ў цябе ў душы, ёй патрэбны толькі твой глядкі твар!

— А ты… ты ведаеш, што адбываецца ў мяне ў душы? — Дзіма паглядзеў Тані ў вочы. — Да сённяшняга дня цябе цікавіла толькі маё цела.

— Няпраўда!

— Ну, вядома ж, праз ложак можна вельмі многа даведацца пра ўнутраны свет чалавека! Якая мая любімая кніга?

— Дзіма, я ніколі не бачыла цябе з кнігай!

— Але гэта не значыць, што я не чытаю!

— Дзімава любімая кніга — «Магчымасць вострава» Уэльбэка! — падала голас Аліна. — Дурная кніжка, я выбар не ўхваляю, плясні Дзімку па попе — ад мяне!

Таня змоўкла.

— На слых я ніколі не скардзілася, — працягнула Аліна. — А табе спяшаюся паведаміць, што за дзесяць хвілін размовы з чалавекам можна пра яго даведацца больш, чым за дзесяць гадзін палымянага сексу! Хаця… адно другому не перашкаджае…

Праз дваццаць хвілін шпаркай хады ў прасвеце паміж елачкамі паказалася траса. Дзіма першым выбраўся на ўзбочыну і звыкла падняў вялікі палец уверх, як робяць усе стоперы. Аліна зрабіла тое ж самае. Таня, крыху сумеўшыся, таксама далучылася да калектыву.

Хутка з-за пагорка вылецела фура. Яна міргнула фарамі і спынілася, пракрэсліўшы на ўзбочыне тармазны шлях даўжынёй метраў з пяцьдзясят. Дзіма прабегся за машынай, забраўся ў кабіну і амаль адразу ж вызірнуў, каб паклікаць дзяўчат.

У кабіне было цёпла і ўтульна. Дзяўчаткі хутка перасталі ляскаць зубамі і агледзеліся. На лабавым шкле весела трымцелі сцяжкі розных краін. Над месцам вадзіцеля віселі фотаздымкі двух рудых хлопчыкаў. «Гэта дзеці мае. Сыны!» — з гонарам прамовіў вадзіцель, вывернуўшы руль. Ён многа і гучна смяяўся, калі расказваў нечаканым спадарожнікам гісторыі са свайго жыцця, а спадарожнікі добразычліва ўсміхаліся і адказвалі дзяжурнымі фразамі: «Ды вы што?», «Не можа быць!», «Вось гэта да!» і «Вы ўсё правільна зрабілі!» — словам, тымі, што робяць любую гутарку цёплай і нязмушанай.

— А што гэта вы рабілі ў трыццаці кіламетрах ад Брэста, га? — пацікавіўся вадзіцель, калі ў яго скончыліся выпадкі з уласнага жыцця.

— Брэста? А мы… грыбы збіралі! — не задумваючыся, адказала Аліна, выцягнула з кішэні сваю «здабычу» і паказала вадзіцелю.

— А дзе ж вашыя кошыкі, грыбнікі?

— А іх скралі, уявіце сабе! Кошыкі, курткі, грошы, тэлефоны — усё спёрлі! Тут сапраўдная мафія ў лесе. Як жывыя засталіся — не ведаю! Захаваць здолелі толькі гэта! — Аліна пагладзіла газнічку.

— Дык вам трэба тэрмінова заяву ў міліцыю падаць!

— Не, нам трэба тэрмінова дабрацца да горада, дзе нас чакаюць цёплая вопратка і новыя мабілкі!

— А гэта што за штука? — спытаўся вадзіцель у Дзімы, які трымаў на каленях вінчэсцер.

— А гэта мы… гэта мы знайшлі ў лесе! Нехта згубіў, а можа, стаміўся цягнуць: цяжкі прычындал, — адказаў Дзіма.

— А можна з вашага тэлефона пазваніць? — спыталася Аліна.

— Звaніце, канешне! — дазволіў вадзіцель і пайшоў на абгон гужавога транспарту.

Аліна схапіла мабілку і раптам зразумела, што не памятае ніводнага нумара тэлефона сваіх калег і сяброў. Яна не памятала нават свой нумар, таму што дарагія візітоўкі з залатым кангрэвам, заказаныя ў друкарні, раз і назаўсёды пазбавілі яе ад неабходнасці чыркаць лічбачкі на кавалках паперы, што патрапляліся пад руку, і такім чынам запамінаць іх.

— Ш-шапіто! Хто ведае нумар службы даведак?

— Сто восемдзесят два! — адказала Таня.

— Дайце мне нататнік і аловачак, калі ласка! — папрасіла Аліна.

Вадзіцель выцягнуў з бардачка маленькі нататнік і пакусаны аловак. Аліна набрала нумар і, выслухаўшы папярэджанне лагісткі пра тое, што званок платны, спыталася тэлефонны нумар свайго цэнтра і занатавала яго. Пасля яна паспрабавала дазваніцца да цэнтра, але трубка міргнула і згасла.

— Акумулятар! — сказаў вадзіцель. — Забыўся зарадзіць, дайце-ка сюды.

Калі тэлефон ажыў і Аліна зноў паспрабавала звязацца са сваімі калегамі, прыемны жаночы голас сказаў: «Дадзены тып сувязі забаронены!»

— Што такое? — спытаўся Дзіма.

— Грошы скончыліся. Не шанцуе дык не шанцуе! А вы куды шлях трымаеце? — Аліна вярнула трубку і з надзеяй паглядзела на вадзіцеля.

— А куды вам трэба?

— Нам тэрмінова трэба ў Гомель.

— У Гомель? Не ў Мінск? — перапытала Таня.

— Так! — Аліна нахілілася да таварышаў па няшчасці і зашаптала: — У Гомелі застаўся наш лоер Міхал, ды не адзін, а з цэлым стосам важных паперак. Калі тыя, хто скраў нас, дабяруцца да яго, я згублю цэлы шэраг дакументаў і афіцыйна завераных дамоў, над якімі працавала болей як паўгода! Да таго ж, там ёсць паперкі, пра існаванне якіх ніхто не павінен ведаць, бо гэта раўназначна гераічнай гібелі!

— Не думаю, што мы ўтраіх дужа яму дапаможам збегчы з Гомеля, — сказаў Дзіма.

— Яму лепш зусім на вуліцу не выходзіць і зачыніцца ў прыбіральні, толькі не ў гатэлі, бо там знойдуць! А калі дакументы знікнуць, я апынуся вінная суму, роўную бюджэту «Сібірскага цырульніка», а мяне гэта зусім не цешыць!

— Дык, можа, на першай заправачнай станцыі пазваніць яму і сказаць, каб хутчэй бег на вакзал і вяртаўся ў Мінск?

— Не. У мяне сёння на позні вечар была запланаваная яшчэ адна сустрэча там, у Гомелі. Вельмі важная персона, я на яго доўга палявала, і вось — ён будзе праездам у Гомелі, трэба разам сабрацца, абмеркаваць некаторыя нюансы і падмахнуць паперы.

— Што вы там шэпчацеся? Вы есці хочаце, грыбнікі? Мне жонка паёк у дарогу сабрала! — сказаў вадзіцель. — Яна ў мяне дужа смачна гатуе. Жонка мусіць смачна гатаваць і нараджаць прыгожых дзяцей, інакш на халеру яна трэба? Праўда, хлопец?

Вадзіцель засмяяўся і штурхнуў Дзіму локцем у бок. Дзіма адказаў: «Можа быць, і так», — і ўтаропіўся ў акно, за якім прабягалі куртатыя елачкі і голыя палі. Жніво завяршылася, да азімых было яшчэ далёка, зямля палохала сваёй маркотнай шэрасцю і выглядала так, нібыта яе абакралі. Дзіма таксама адчуваў сябе абкрадзеным, але не таму, што ў яго не было з сабой грошай і мабільнага тэлефона. Яму не хапала сонца і летняе рознакаляровасці. Ён здзіўляўся аптымізму Аліны, якая падпявала песенькам, што даносіліся з магнітолы, і расказвала Тані, якія з гэтых песень былі створаны, запісаны і зведзены ў яе цэнтры ды ў колькі гэта абышлося выканаўцам. Дзіма лавіў краем вуха абрыўкі сказаў:

— А з гэтых я ўвогуле грошай не ўзяла, сказала: хлопцы, разлічыцеся, як станеце знакамітымі, што, канешне, малаверагодна. А вось гэтыя — такія жмінды, за капейку ўдавяцца, таму і працуюць вельмі прафесійна, каб мы на іх памылках не зараблялі! А гэтая паненачка зусім спяваць не ўмее, мы зрабілі восемдзесят тры дублі, уяві сабе! Але ж яна так усміхалася…

— Паслухай, адкуль у табе столькі радасці? — раптам спыталася Таня. — Ты калі-небудзь сумуеш, злуешся, плачаш?

— Толькі калі ніхто не бачыць! Я ж з некаторае пары не маю права на слёзы.

— Чаму?

— Ну, сама падумай: як можа нудны песіміст весяліць людзей? Калі ты ўжо ўзяўся несці людзям святло і радасць — будзь ласкавы, рабі гэта пастаянна, працуй

на публіку, не расслабляйся, а то з цябе будуць кпіць, пачнеш выглядаць дурнем! Публіка не даруе двудушнасці.

— Як можа маркотны чалавек радаваць іншых? Правільна: ніяк! — сказала Аліна на чарговым пасяджэнні цэнтра. — Таму пачнём з сябе! На «тры-чатыры»: усе шырока і ветліва ўсміхнуліся, а хто будзе выглядаць найбольш весела і жыццярадасна, таму выпішу прэмію!

Праз пятнаццаць хвілін сядзення з шырокімі і ветлівымі ўсмешкамі, з вачэй Наташы пабеглі буйныя слёзы, а Мікіта прамямліў:

— Аліна, ты дэспат! Ну ладна, Наташа, — яна сакратар, ёй гэта патрэбна, а я ўвогуле рэжысёр, у мяне задача — быць заўсёды суровым, каб выканаўцы слухаліся. Альбо вось Асю вазьмі: нашто апаратару ўвесь час лыбіцца? Яе ж з-за камеры не бачна!

Ася згодна заківала галавою, але нічога не змагла сказаць: у яе анямелі сківіцы.

— Мікіта! Што за шапіто? Мы ж забаўляльныя кліпы здымаем, а не палітычныя дэбаты! Вось, бярыце прыклад з Міхала Барысавіча!

Лоер Міхал, і праўда, усміхаўся лёгка і нязмушана: ён прывык усміхацца кліентам, каб тыя больш ахвотна падпісвалі нявыгадныя для сябе дамовы.

— Ага, канешне, яму што? — узвіўся Мікіта. — Я наогул не ведаю людзей больш усмешлівых за юрыстаў і стаматолагаў! Яны аднае пароды і прывыклі карыстацца паслугамі адзін аднаго!

Тым не менш, у цудоўнай сіле ўсмешкі ніхто не сумняваўся, і пасля непрацяглых баёў усе супрацоўнікі цэнтра «MoST» навучыліся ззяць, як майскія сонейкі, без асаблівай напругі.

— Няўжо табе і праўда падабаецца пісаць усе гэтыя песенькі? Вершыкі-пацешкі? — ніяк не магла зразумець Таня.

— Так. Я люблю, калі людзі ўсміхаюцца. Мая праца іх радуе. У чалавечым жыцці дужа многа непрадказальных непрыемнасцей, я намагаюся разнастаіць яго прадказальным аптымізмам! Калі жадаеш, каб людзі паводзілі сябе так, як табе хочацца, проста дапамажы ім. Гэй, Мо! Усміхніся мне, Мо, мы едзем у Гомель!

— Я дужа рады, аміга, — адказаў Дзіма. — Але адчуваю сябе так, нібыта на мне лазерны прыцэл.

— А ты што хацеў? Нас ужо, хутчэй за ўсё, пачалі шукаць, і мы яшчэ вінныя пяць мільёнаў еўра, так што… проста ўсміхніся і падумай пра тое, што, можа, гэта першая і апошняя прыгода ў тваім жыцці, так што пастарайся атрымаць асалоду ад кожнага моманту!

Фура заехала на заправачную станцыю. Аліна кулём выкацілася з кабіны, прыхапіўшы нататнік з тэлефонам і Дзіму.

— Ты пойдзеш са мной, таму што, па-першае, мяне там ізноў могуць скрасці, а ў адзіноце сядзець мне будзе сумна, а па-другое, калі нам патрапіцца дзяўчына, угаворваць яе падзяліцца мабільнікам будзеш ты!

Дзяўчына, і праўда, не змагла супраціўляцца Дзімавай абаяльнасці і працягнула, запунсавеўшыся, яму трубку. У той жа момант да Дзімы падляцела Аліна, і, выхапіўшы тэлефон, паспешліва набрала нумар, каб пракрычаць у дынамік:

— Алё? Прыёмная? Наташа, родненькая, гэта Аліна Мікалаеўна тэлефануе! Мікіта Алегавіч дзе-небудзь побач? Не, не трэба клікаць, у мяне зусім мала часу! Перадай яму, каб тэрмінова — чуеш, тэрмінова! — адсылаў машыну ў Гомель, да

Міхала Барысавіча! Канешне, з сек'юрыці! І ведаеш што? Прадыктуй мне нумар тэлефона Міхала Барысавіча. Хутчэй, міленькая!

Аліна стаяла, скрыжаваўшы ногі, і малявала ў нататніку вялікі рамонак, падобны на звышновую зорку. Раптам яна ўбачыла за акном, як на запраўку заязджае, паблісквачы чорнымі бакамі і храміраванымі дыскамі, яе любіменькі «буцэфал». Аліна моўчкі ўшчыкнула Дзіму, той пагляздеў у акно і збляднеў.

— Так-так, Наташа, пішу, пішу… Усё, дзякуй!

Аліна пачала набіраць нумар Міхала.

— Алін, яны сюды ідуць! — захваляваўся Дзіма.

— Бяжы ў прыбіральню!

— Без цябе не пабягу!

— Бяжы, кажу!

— Што юрыст?

— Не адказвае!

Двое адкрылі дзверы. Дзіма схапіў Аліну і пацягнуў у прыбіральню. Аліна войкнула і выпусціла з рукі трубку, якая ўпала і разбілася.

— Куды ў мужчынскую, Мотуз, ты што? У жаночую, туды яны дакладна не пойдуць! — шапнула Аліна.

Дзіма змяніў кірунак і юркнуў у жаночую прыбіральню ды зашчоўкнуў дзверы на шпінгалет. Аліна падбегла да акна. Шыба аказалася забітай цвікамі.

— Нам трэба выбрацца адсюль!

— Нашто? — спытаўся Дзіма. — Хай з'едуць!

— Як нашто? Там мая машына, мой жалезны каняга, і я не збіраюся пакідаць яго гэтым двум вурдалакам!

— Ну, тады пасунься!

Дзіма ўзяў швабру, што стаяла ў куточку, і тронкам разбіў аконнае шкло.

— Асцярожна, не паранься! — сказаў ён, дапамагаючы Аліне выбрацца на вуліцу. Тая адразу ж кінулася да свайго аўтамабіля, а Дзіма пабег у фуру за Таняй, лямпай і вінчэсцерам.

Як толькі Аліна адкрыла дзверцы, з салона пацягнула яе любімым араматызатарам — і тытунем.

— Мой хлопчык, мой «буцэфальчык»! Яны курылі ў салоне, вось нягоднікі! І нават дзверы не зачынілі! А раптам у цябе хто-небудзь забраўся б? І скраў аптэчку? З ёдам? Як жа я без ёду? Ну, нічога, мы зноўку разам, цяпер я цябе нікому не аддам!

Падбеглі Дзіма з Таняй і заспелі Аліну за пошукамі нечага пад сядзеннем.

— Што ты шукаеш? — спыталася Таня.

— Ключы. Запасныя. Трымаю іх пад сядзеннем на выпадак, калі асноўныя згублю.

— Запасныя ключы — у салоне аўтамабіля? А запасныя ключы ад кватэры ты захоўваеш…

— У кватэры!

— Жаночая логіка, — Дзіма засмяяўся.

— Вось і смейся цяпер, а як не трымала б тут — і ад'ехаць не змаглі б. Вы хоць вадзілу «дзякуй» сказалі?

— Сказалі, не хвалюйся!

— Тады паехалі! — Аліна націснула на газ і стартанула. — Як жа гэта клёва, сябры мае, угнаць ва ўгоншчыкаў свой уласны аўтамабіль! Гэта падобна на тое, як паэт крадзе ў плагіятара свой уласны верш і выдае твор хутчэй за злодзея! Толькі гэтыя злодзеі мой кашалёк умыкнулі, няхай здаровыя будуць!

Аўтамабіль шпарка пакаціўся па трасе, а яго неспакойная ўладарка толькі падбаўляла хуткасць.

— Як думаеш, нас дагоняць? — спытаўся Дзіма, на ўсялякі выпадак прышпіліўся ды заплюшчыў вочы: Аліна ішла на хуткасці сто восемдзесят, каля населеных пунктаў скідаючы яе да ста пяцідзесяці кіламетраў у гадзіну.

— Ну, калі ім дужа патрэбныя грошы — то хутка дагоняць. У любым выпадку, у нас ёсць невялікая фора. Павернемся ў Гомелі, забяром Міхала — і ў сталіцу.

— А што гэта за чалавек такі важны, з якім ты хочаш пабачыцца?

— Спонсар. Мецэнат. Я шукала спонсара для свайго мюзікла — і знайшла.

— Дзе?

— Дзіма, ты не паверыш: у тым самым кіеўскім нататніку, памятаеш? Успомніла, перагартала, пазваніла. Тады ж мы з дзяўчаткамі проста забаўляліся, але ж, бачыш ты — спатрэбілася. А мае сябры ўсё смяяліся, нашто я старыя нататнікі захоўваю. Дык адзіны запіс можа жыццё ўратаваць!

— І доўга ты яго ўгаворвала падзяліцца?

— Ды паламала галаву, канешне… Абышлося без інтыму, дый сябры дапамаглі… Справа зроблена, засталося толькі паперы падпісаць.

— Цікава, што такога ты яму напляла, якімі філасофскімі гутаркамі пра каханне ды прыгажосць забаўляла?

— Мотуз, пашкадуй мае вушы, якая філасофія? На гэта хіба што ты можаш купіцца, бо яшчэ грашыма не сапсаваны. А там — выключна на ўзроўні «хто, колькі і каму заплоціць».

— Зразумеў.

— Вось такі, Мо, неспакойны лёс! Калі б толькі людзі бачылі, якой крывёю, слязамі і інтрыгамі робяцца радасць ды пазітыў! Калі б яны ведалі, колькі гэта на самой справе каштуе! Якія сцэны даводзіцца прабіваць, якія глыбы варочаць?!

— Хай лепш не ведаюць, а то ім не будзе радасна! — падала голас Таня, якая цяпер трымала газнічку і вінчэсцер.

Праз некалькі хвілін Аліна пазмрачнела:

— У нас праблема.

— Што здарылася, аміга?

— Дзіўна было б падумаць, што тыя два злыдні заехалі на запраўчную станцыю, каб наведаць прыбіральню. Зрабіць свае маленькія і вялікія справы ім нішто не замінала і ў кусціках. На запраўку ездзяць па бензін! Ёлкі-перапёлкі, паліва амаль што на нулі!

— На колькі яшчэ хопіць? — захваляваўся Дзіма.

— Кіламетраў на пятнаццаць, пры добрым раскладзе. Ну што за шапіто, ні капейкі з сабою няма!

Аліна пачала прыкідваць, дзе можна хутка здабыць паліва.

— Можа, прытармазіць, застопіць якога-небудзь вадзілу і папрасіць яго падзяліцца бензінам? — прапанаваў Дзіма.

— Не, не варыянт, — Аліна пашкрэбала нос. — Па-першае, у нас няма часу стаяць на трасе і галасаваць. Па-другое, бак нам усё роўна ніхто не запоўніць, максімум — каб хапіла да першай бензакалонкі. Купляць няма за што. Ну, і па-трэцяе: не забывайцеся, мае любыя, што мы едзем на вялікім дарагім аўтамабілі і нам проста з прынцыпу будуць пляваць на капот: «Вось, народ абкралі, самі ў раскошы жывяце, нічога мы вам не дамо!»

— Што будзем рабіць? — непакоілася Таня.

— Ты патры лямпу, можа, вылеціць джын. А ты, Дзіма, зазірні ў бардачок, там недзе карта аўтамабільных дарог Беларусі валяецца.

Дзіма выняў з бардачка патрапаную, падраную ў некалькіх месцах карту Беларусі і разгарнуў яе. Яму на калені пасыпаўся пыл. Дзіма чыхнуў:

— Нашто ты яе трымаеш, усе салідныя людзі даўно на навігатары перайшлі!

— Я не веру ў модныя штучкі, якія адключаюцца пры адсутнасці электрычнасці. Так. Глядзі. Толькі што праехалі ўказальнік. Мы ў сямнаццаці кіламетрах ад Пінска. Далёка да Гомеля?

— Э-ммм… ну яшчэ тры разы, як ад Брэста да Пінска.

— Кепска. Значыць, трэба зарабіць грошай і запраўіцца. Карткі няма, пашпарта з сабой няма…

— А я есці хачу! — падала голас Таня.

— Карткі няма, пашпарта няма, і Таня хоча есці. О! Эўрыка! — твар Аліны пасвятлеў. — Мы едзем у Пінск, думаю, дацягнем. Я ведаю там адзін рэстаранчык, называецца «Піна». Пару разоў вячэрала. Харошы, дарагі рэстаран, шчыра кажучы, не ведаю, для каго ён там пабудаваны: мясцовае насельніцтва — яўна не той кантынгент, што будзе наведваць падобныя ўстановы. Дзіма, там, у бардачку, кружэлка. Кінь карту і дастань яе. І паперка такая пакамечаная, пакрэсленая. Во-во, яе таксама вымі. Дыск у магнітолку — і ўключай.

На ўвесь салон загучала бадзёрая папсовая музыка.

— Фу-у, што гэта? — скрывілася Таня.

— Гэта — абсалютна новыя песні, мінусовачкі, мне толькі днямі аранжыроўшчык іх аддаў, каб праслухала. Таня, у цябе памяць добрая?

— Ну… я не скарджуся.

— О! Вось і добра. Бяры паперку. Там тэксты. Вучы на памяць і не бойся, яны лёгкія: я не пішу тэкстаў, якія сама не змагу запомніць.

— Нашто мне іх вучыць?

— Як — нашто? Дзіма казаў, ты няблага спяваеш. Вось прыедзем у Пінск і арганізуем прэм'еру песень. У рэстаране.

— Я не буду спяваць у рэстаране! — завішчала Таня. — Для мяне гэта нізка!

— Ага, а паміраць з голаду ці чакаць, пакуль шпокнуць, для нашай Тані не нізка?

— Я не буду спяваць гэтую лухту! Лепш хай мяне заб'юць.

Аліна ўдарыла па тармазах і павярнулася да Тані:

— Паслухай, дзяўчынка, цябе ніколі не білі па нагах дзеткі багаценькіх бацькоў, калі ты ў касцюме клоўна крыўлялася перад імі на свяце? Ніколі не ратавалася ў касцюме Снягуркі ад кампаніі п'яных ідыётаў, якія хацелі цябе згвалціць? Альбо вось у Дзімы спытайся, як за адзін дзень працы грузчыкам ён так пацягнуў спіну, што больш патраціў на лекі, чым зарабіў! А я табе прапаную выйсці на сцэну і за салідныя грошы проста праспяваць. Адзін раз. І ты гэта зробіш, альбо далей пойдзеш пехам, каза цябе забадай!

Аліна пачала шукаць у аптэчцы валідол, але ўспомніла, што той растаў яшчэ ўлетку, гучна прарычала:

— Лічу да трох! Два ўжо было…

— Добра. Я праспяваю гэты шэдэўр у рэстаране, — пагадзілася Таня і пачала завучваць тэксты і музыку.

Заехаўшы ў Пінск, Аліна яшчэ трохі пакружыла па горадзе, пакуль не ўспомніла, дзе знаходзіцца той самы рэстаран «Піна», у якім яна неяк пасля вячэры ў цесным коле сяброў танчыла на стале. Нарэшце рэстаран знайшлі. Аліна прыпаркавала «буцэфала» і загадала Дзіму з Таняй ісці за ёй.

— Дзе ваш дырэктар? — спыталася Аліна ў супрацоўніка службы аховы.

— А хто ім цікавіцца, дазвольце даведацца? — вялікі мужчына стаў упоперак увахода і перакрыў сабою ўвесь дзвярны праём.

— Ім цікавіцца генеральны дырэктар сталічнага прадзюсарскага цэнтра «MoST» Аліна Мікалаеўна, і калі вы, шаноўны, не дазволіце нам аказацца ўнутры, у вас будуць вялікія непрыемнасці, значна большыя па габарытах, чым вы самі.

— Другі паверх, налева, — ахоўнік пасунуўся і прапусціў гасцей.

Аліна прагарцавала праз шумную залу, кінула позірк на святло і мікшарны пульт і ўзбегла на другі паверх, проста ў кабінет дырэктара.

— Прывітанне! Бачымся з вамі гады ў рады, вось гэта сустрэча! — шырокая натрэніраваная ўсмешка нарадзілася на твары Аліны, каб застацца там на цэлую гадзіну.

— Аліна Мікалаеўна, вітаю! — Андрэй Ігаравіч рэзка падхапіўся з вялікага дырэктарскага крэсла. Увесь яго выгляд выказваў крайнюю занепакоенасць. — Якая прыемная неспадзяванка! Чытаем пра вашыя дасягненні, усёй адміністрацыяй вельмі, вельмі радуемся! На Пакроў нават памаліліся за вас, каб, так бы мовіць, усё добранька было!

— Дзякуй, Андрэй Ігаравіч, я таксама за вашае здароўечка свечку паставіла ў Сафіі! — Аліна працягнула дырэктару «Піны» руку.

— Ой, які гонар, як прыемна! — мужчына ўхапіўся за руку і пачаў яе трэсці, ад чаго затрэслася і ўся субтыльная Аліна. — Можа, вам арганізаваць столік? Вы ж з дарогі?

— Не трэба, Андрэй Ігаравіч, шчыра кажучы, мы спяшаемся, забегла выключна дзеля таго, каб з вамі паздароўкацца! — Аліна стрэліла вачамі ў Дзіму і Таню, якія пры слове «столік» умольна склалі рукі каля сэрцаў.

— Шкада, Аліна Мікалаеўна, а то ў нас сёння шыкоўнае меню! Мэр адзначае юбілей.

— Мэр? А я думаю, Андрэй Ігаравіч, што ж гэта ў вас так шумна, столькі людзей прыемных — ажно мэр юбілей адзначае…

— І праўда, Аліна Мікалаеўна! Пашчасціла дык пашчасціла!

— Ну, гэта заканамернасць: у вас жа найлепшы рэстаран у раёне! — Аліна ўзяла дырэктара пад локцік. — А чым вы будзеце мэра забаўляць?

— Ну… гэта… — дырэктар пацёр лоб. — Буду шчырым: сталічных артыстаў выпісалі, ажно яны званілі, што затрымліваюцца ў дарозе, праграма паўгадзіны таму мусіла пачацца, ужо двойчы ад мэра прыбягалі… Не ведаю, як быць. З артыстаў нікога няма, танцоркі ў дэкрэтных, засталася толькі вакалістка Люба Вішнявецкая.

— Люба? — Аліна ўзняла брыво. — Я памятаю яе. Слухайце, вы ж не будзеце выстаўляць перад ганаровымі гасцямі саракапяцігадовую Любу з залатымі зубамі? Вы да такога не апусціцеся, вы ж разумны чалавек!

— А што мне рабіць? — сумна спытаўся Андрэй Ігаравіч.

— Вось, паважаны спадар, самі нябёсы даслалі нас сюды! Пазнаёмцеся: маладая спявачка, Таня… э-э… Таня Кіс, наш свежанькі сольны праект! — Аліна зрабіла Тані знак рукой, тая падалася наперад і таксама расцягнула вусны ва ўсмешцы. — Вязу ў Гомель на канцэрт, але, калі хочаце, мы проста перад вашым мэрам арганізуем прэм’еру за параўнальна невялікую аплату.

— Невялікую — гэта якую? — дырэктар з надзеяй паглядзеў на Аліну. Яна нешта прашаптала яму ў вуха.

— Пабойцеся Бога, Аліна Мікалаеўна, гэта вы называеце — «невялікая»? — Андрэй Ігаравіч перахрысціўся.

— Паслухайце, у Мінску гэта каштуе ўтрая даражэй! Мы для вас яшчэ і скідачку робім, па старой памяці. Але… як хочаце! — Аліна развярнулася да выхада, дзе лоб у лоб сутыкнулася з адміністратаркай рэстарана.

— Андрэй Ігаравіч! — закрычала яна і заламала рукі. — Там мэр узняў крык, Любу са сцэны сагнаў, кажа: хай гэтая старая кабыла ў стайні спявае, хіба ў нас маладыя дзеўкі скончыліся? Крычыць: усіх звольню і закрыю рэстаран!

Дырэктар залямантаваў:

— Аліна Мікалаеўна, пачакайце, я згодны!

Аліна развярнулася:

— Нам трэба пяць хвілін, каб пераапрануць нашую «зорачку». Выйдзіце з пакоя, калі ласка.

Дырэктар і адміністратар пакінулі кабінет спінамі наперад.

Аліна агледзелася.

Сцены дырэктарскага кабінета былі шчыльна ўвешаныя абразамі з выявамі ўсіх вядомых Аліне святых пакутнікаў. У шафе за шклянымі дзверцамі стаяў яркі, у кветачку, сервіз з наляпнымі лісточкамі ды кусточкамі, некалькі фарфоравых слонікаў і дзве крышталёвыя вазы. Восеньская шэрасць прабівалася ў кабінет праз акно, амаль напалову завешанае цяжкімі чырвонымі парцьерамі і серабрыстай гардзінаю.

Аліна накіравалася да акна:

— Дзіма, дапамажы мне распрануць акенца!

— А нам нічога за гэтую гардзіну не будзе? — спытаўся Дзіма, калі з нагамі забраўся на дырэктарскае крэсла.

— Я ім пасля новую падару, прыгажэйшую!

Праз некалькі хвілін Аліна і Таня выкройвалі нажніцамі сцэнічны касцюм з парцьер і гардзіны.

— Ну-тка, Танечка, пакруціся!

Аліна крытычна агледзела дзяўчыну і скараціла парцьерную спаднічку ўдвая. Потым задрапіравала шлейф і задаволена сказала:

— Муза! Проста муза! Мельпамена альбо Тэрпсіхора. Абутку ў нас для цябе няма — будзеш босая. Дзіма, аднясі дыск гукарэжысёру і захапі з сабой Таніну вопратку!

Гэта была крайняя мера. Аліна забараняла выканаўцам, якіх узяла пад свой нагляд, спяваць у месцах грамадскага харчавання і ніколі не шукала таленты па рэстаранах і клубах.

— Прыглядайся да іх: сярод рэстаранных спявачак нямала здольных! — казаў Аліне Мікіта.

— Яны здольныя, але я не змагу ні з адной зрабіць эстрадную зорку! — уздыхала Аліна, не тоячы смутку.

— Чаму?

— Ды яны сапсаваныя рэстаранам. Іх творчасць — гэта перапеўкі чужых песень. Яны — музычныя аўтаматы: кідаеш манетку і слухаеш тое, што табе хочацца. Апладзіруеш. Ім плоцяць не за іх талент і харызму, а за тое, што яны спяваюць на заказ. Гэтыя спевакі ды спявачкі носяць сотню масак і не разумеюць, што чым больш чысты і зразумелы вобраз выканаўцы, тым ён даражэй каштуе! Яны не ўмеюць перажываць песню, яны транслююць матэрыял, як трансліруе танны тэлевізар — з псотай гуку і карцінкі. Успомні Жанну!

Жанна была лепшай сяброўкай Аліны яшчэ са школьных часоў: вучыліся разам. Жанна трызніла тым, што стане спявачкай, падвывала ў школьным хоры, вольны час

прысвячала заняткам у дзіцячай эстраднай студыі, пасля паступіла ў музычнае вучылішча, і ўсё складвалася даволі няблага, пакуль нехта добранькі не параіў ёй хуткі спосаб зарабіць грошы: спяваць па кабаках.

— Жанка, а хочаш, мы зробім з цябе эстрадную зорку? — спыталася Аліна ў сяброўкі, калі тая, седзячы ў абшарпанай рэстараннай грымёрцы ў бюсцье і бігудзях, румяніла правую шчаку.

— Сапраўдную? — перапыталася Жанна і пачала фарбаваць левую шчаку.

— Анягож! Будзем пісаць песні спецыяльна для цябе, прыдумаем імідж. Гастролі, канцэрты, фотасесіі, рэпартажы, усе справы… хочаш? У цябе будзе свой шоу-балет, свой менеджар.

— Ну-у-у… гэта, выходзіць, у мяне зусім не будзе вольнага часу?

— Не будзе. Рэпетыцыі, запісы, імпрэзы.

— Але ж гэта вельмі складана!

— Затое ты зможаш паведаміць людзям пра сябе! Пра тое, што ты адчуваеш, чаго жадаеш!

— Ведаеш, — Жанна ўстала, нацягнула на сябе скураныя шорцікі і прынялася раскручваць бігудзі, — я не хачу.

— Што — не хочаш?

— Не хачу выварочвацца. Ведаю, як пасля шчырасцей бывае балюча, калі б'юць пад дых.

Куды лягчэй прыйсці ў суботні рэстаран, ушчаміцца ў скураны касцюм і леапардавыя боцікі, выйсці на цьмяную сцэну, без асаблівай напругі праспяваць некалькі песень на заказ — ад «Леткі-енькі» да Джо Кокера, атрымаць сваю порцыю апладысментаў ад падпітай публікі, а пасля заканчэння праграмы падзяліць грошы з гукаапeратарам. Жанна здавала свае звязкі ў арэнду за параўнальна невялікую плату — і гэта яе цалкам задавальняла.

— Але ж гэта — музычная прастытуцыя, як ты можаш? — злавалася Аліна.

— Гэта рамяство, нічым не горшае за астатнія. Алінка, ну пра ўсё на свеце ўжо даўно праспявалі, нашто мне вынаходзіць веласіпед? Я лепш буду ездзіць на веласіпедзе.

У Жанну лёталі кубкі і відэльцы, да яе заляцаліся п'яныя мужчыны, а пасля падыходзілі «разбірацца» іх жонкі, але наступным вечарам Жанна ізноў вярталася ў той жа самы рэстаран па кароткую славу, якую здабывала пры дапамозе чужых песень. Ёй не было крыўдна і балюча, бо, стоячы на сцэне, яна не была сабой, таму ніяк не прымала на свой кошт заляцанні і лаянку. Яна раскідвала свой талент па рэстараннай падлозе, каб наведвальнікі вытоптвалі яго, бы вясновую свежую траўку.

Таня стаяла на сцэне рэстарана перад мястэчковымі чыноўнікамі і «ладзіла веласіпед». Яна спявала ледзьве знаёмую ёй песню так, нібыта склала яе сама. Аліна, прыжмурыўшыся, глядзела на Таню і думала: «Цяпер я яе не адпушчу, гэта ж залатая антылопа!»

Таня скончыла спяваць. Мэр некалькі разоў пракрычаў: «Брава!», а потым уручыў Тані поўны кошык ружаў, які яму падарылі з нагоды юбілею ягоныя падначаленыя, і паспрабаваў пацалаваць яе. Таня войкнула і схавалася за гукарэжысёра.

— Дзякуй. Дзякуй. Нам трэба ісці! Барані вас Божа! — Аліна схавала ў кішэню грошы і падміргнула шчасліваму дырэктару рэстарана, які не пазнаў у сцэнічным касцюме спявачкі парцьеры са свайго кабінета і яшчэ не ведаў, што акно цяпер голае.

У машыне Аліна спыталася ў Тані:

— Ну, як адчуванні?

— Больш ніколі не выйду спяваць для п’яных, пракураных, нявыхаваных чынушаў! — Таня прыставіла два пальцы да горла. Ёй было млосна.

— Ну, ладна, не перажывай, ніхто табе на дазволіць пайсці па кабаках!

— Хіба нельга было проста пазычыць у гэтага дырэктара бензіну са службовага аўто? — Дзіма дапамагаў Тані пераапрануцца.

— Нельга: пытанне іміджу, — адказала Аліна і завяла матор.

У Гомелі Аліна адразу накіравалася ў гатэль, дзе яе мусіў чакаць Міхал Барысавіч з поўным дыпламатам выключна важных дакументаў.

У аздобленым мармурам фае гасцініцы было паўнютка міліцыянераў. Яны гулі, як чмялі, і выглядалі вельмі засяроджанымі.

Бландзіністая дзяўчына на рэсэпшэне заўважыла Аліну і ўсміхнулася:

— Прывітанне!

— Дзень добры. А што гэта ў вас за кірмаш МУСаў? — знешне абыякава спыталася Аліна, у думках паставіўшы свечку за супакаенне Міхалавай душы.

— Сёння вечарам адбудзецца канферэнцыя супрацоўнікаў Міністэрства Унутраных Спраў. Яны гадзіну таму пачалі засяляцца. Жадаеце ключы ад нумара?

— Так! Выглядаеце проста ўзорна, як заўсёды! — Аліна схапіла ключ. — Паслухайце, даражэнькая, малады чалавек, што быў са мной…

— Міхал?

— Так, Міхал Барысавіч. Ён сёння куды-небудзь са свайго нумара сыходзіў?

Дзяўчына разгарнула журнал у скураным пераплёце, што ляжаў побач з вазай, у якой бялелі пялёсткамі хрызантэмы. Праверыўшы апошнія запісы, яна паматляла светлай галавою:

— Нешта нідзе не пазначана, што ён здаваў ключы. Напэўна, у сябе. А я толькі заступіла на змену, таму не бачыла, ці сыходзіў ён.

— Мусіць, адпачывае. Мы шмат працавалі апошнім часам. Прыгожыя хрызантэмкі. Міхал падарыў?

— Так, — бландзінка апусціла вочы.

— Ну, канешне, Міхал у нас любіць белыя хрызантэмы. Вось што, Святлана, — Аліна прачытала імя адміністратара на бэйджыку, — загадайце, каб у мой нумар прынеслі тры абеды, тры полудні… і тры ручнікі: мы згаладаліся і запыліліся ў дарозе.

— Падсілкуемся, прымем душ, з’ездзім на вакзал, сустрэнем нашага спонсара, адвядзём яго ў гасцінічны рэстаранчык… Мая мама заўсёды кажа: «Дачушка, не прад’яўляй дакументы на подпіс галоднаму мужчыне — вельмі мала шанцаў, што падпіша!» Трымай ключ, адмыкай! — Аліна працягнула ключ ад свайго нумара Дзіму, а сама пашкрэблася ў суседні нумар. — Міхал, казанова ты гэтакі-разгэтакі, адчыняй, нам трэба тэрмінова ехаць на вакзал!

З нумара ніхто не адазваўся. Аліна насупіла бровы і пашкрэблася яшчэ раз:

— Міхал, ты не адзін? Ты спіш? Адкрывай дзверы, шалапутнік, я вярнулася!

— Можа, яго там няма? — выказала меркаванне Таня і паправіла заколку ў валасах.

— Адставіць, маладым талентам слова не давалі! Як жа няма, калі ён ключ не здаваў? Значыць — не выходзіў!

— Дык, можа, адміністратары забыліся пазначыць, ці ён проста знёс з сабою ключык?

— Тут такія адміністратары, што не дадуць вынесці кардонны напаўняльнік з кававага аўтамата, не тое што ключ. І ніякімі букетамі іх не падкупіш. Міхал, адчыняй! — Аліна загрукатала нагамі ў дзверы. Ніхто не адазваўся.

Аліна звыкла выняла шпільку, апусцілася на калені, прамармытала: «Каб усе дзверы, што я сёння ўскрыла, былі дзверцамі сейфаў, я б азалацілася!» — і адамкнула ўваход у нумар свайго лоера.

Перад вачыма маладых людзей паўстаў разварушаны ложак, перакуленая мэбля, раскіданая па ўсім пакоі вопратка і пух, якім, як снегам, быў прысыпаны ўвесь нумар. На таршэры адзінока боўтаўся гальштук.

— Міхал? Міхал, ты дзе? — Аліна замітусілася па нумары, зазірнула пад ложак і ў ванную: там нікога не было. — Так. Усе шукаем дыпламат з паперамі! Хутка!

Дзіма кінуў на крэсла вінчэсцер, з якім не расставаўся, адчыніў шафу, сумеўся і павітаўся:

— Добры… вечар.

— Міхал! — Аліна кінулася да шафы і раптам застыла, як укапаная. — Прывітанне, Валянцін Аркадзевіч!

У шафе сядзеў звязаны сівы мужчына. Ягоны рот быў заклеены скотчам.

— Валянцін Аркадзевіч, мы вас вызвалім. Ну, чаго сталі, дапамажыце мне! Валянцін Аркадзевіч, пацярпіце, даражэнькі, вы ўжо прыехалі, а я думала, што мы вас на вакзале сустрэнем, хлеб-соль і ўсе справы, а сустрэліся вось так: вы — у шафе, я — у пылу…

Дзіма развязаў мужчыну і дапамог яму падняцца, Таня адляпіла скотч. Мужчына прамовіў:

— Ух, Аліна Мікалаеўна, ну і прыгодачкі, я вам скажу! Колькі гадоў жыву — такога са мной не здаралася!

— Вы сядайце, сядайце, Валянцін Аркадзевіч, — Аліна абтрэсла з мужчыны пух і ўсадзіла яго ў крэсла. — Не перажывайце. Хочаце што-небудзь выпіць?

— Так, Аліначка Мікалаеўна, не адмоўлюся.

— Таня! Там чырвоная такая кніжачка з унутранымі тэлефонамі, пазвані ў бар, скажы, няхай прынясуць… Чаго вам заказаць, Валянцін Аркадзевіч? Каньяк, віскі?

— Гарэлачкі, міленькая.

— Таня, скажы, каб прынеслі гарэлкі… літр! І на закусь што-небудзь, «MoST» аплочвае! Дык раскажыце, Валянцін Аркадзевіч, што тут адбылося?

Валянцін Аркадзевіч хруснуў пальцамі і пачаў няспешны аповед:

— Я ж спярша думаў ехаць з Масквы цягніком — купэ, прыгожыя падстаканнікі, сканворды, без мітусні, як я люблю. Але ж знаёмыя хлопцы кажуць: паехалі, Аркадзевіч, з намі, мы на аўтамабільчыку цябе хутка давязём да Гомеля, час збяражом! Ну, я падумаў — чаму б і не? Пагадзіўся, як на грэх, адразу пачаў званіць вам, ажно вы не бераце і не бераце трубку, а пасля ўвогуле — «Абанент часова недаступны». Я тады пачаў званіць Міхалу, той сказаў — Аліна Мікалаеўна не ў Гомелі, але вечарам вернецца. Сказаў, што ён сам мяне сустрэне, азнаёміць з паперамі, а потым падскочыце вы.

У дзверы пагрукалі. Аліна прыклала палец да вуснаў, каб усе змоўклі, і спыталася:

— Хто там?

— Ваш заказ! — данеслася звонку.

— Дзіма, адчыні!

Юная паненка ўкаціла ў нумар столік са сняданкам, полуднем, гарэлкай і закускай. Пабачыўшы Дзіму, яна зачырванелася і апусціла вочы. Дзіма цмокнуў яе ў шчочку, развярнуў тварам да выхаду і заявіў:

— Пацалунак — на чаявыя.

Дзяўчына хіхікнула і знікла ў калідоры.

— Хто гэта? — занервавалася Таня, а Аліна ўзвілася:

— Дзіма, як табе не сорамна! Цяпер, як ты мяне захочаш пацалаваць, я заўсёды буду думаць, што гэта чаявыя за нейкую паслугу.

— Аліна, ты не паверыш, але, за рэдкімі выключэннямі, мужчынскі пацалунак выказвае менавіта падзяку ў адрас жанчыны. Ну, альбо просьбу памаўчаць, — прамовіў Дзіма і падкаціў столік з харчамі бліжэй.

Валянцін Аркадзевіч разліў гарэлку па шклянках.

— Валянцін Аркадзевіч, першае, другое, бутэрброды, вяндлінка тут выдатная, частуйцеся, калі ласка! — угаворвала Аліна патэнцыйнага спонсара.

Валянцін Аркадзевіч падняў шклянку:

— Вашае здароўечка! Пра што гэта я?

— Міхал Барысавіч вас сустрэў?

— Так, так, правільна. Сустрэў. Прывёз сюды, у рэстаранчык адвёў, мы пасядзелі, прыемна пагаманілі. Потым ён і кажа: пойдзем у нумар, каб без лішніх вачэй і вушэй усё абмеркаваць. Мы падняліся сюды. Тут Міхал Барысавіч успомніў, што дакументы не пры ім, і некуды выйшаў. А потым убеглі нейкія людзі.

— Людзі? — захвалявалася Аліна.

Валянцін Аркадзевіч кульнуў чарку, закусіў кавалачкам вяндлінкі і працягнуў:

— Так, людзі! Мужчыны, Аліначка. Проста дзікуны: усё перавярнулі, нешта шукалі, спыталіся — дзе грошы, дзе хлопец? Потым мяне звязалі, у шафу запхнулі, зашапталіся: «Шухер, мянты!» — дзверы замкнулі і сышлі. Я сабе яшчэ налью.

— Канешне, Валянцін Аркадзевіч, наліце.

— Вам плюхнуць для сугрэву?

— Не, дзякуй, я і так разагрэтая. А ці даўно вы тут сядзіце?

— Я не ведаю, Аліначка, бо не нашу гадзіннікаў — лічу сябе шчаслівым. Але ж маё ўнутранае адчуванне часу, якое з гадамі становіцца ўсё больш тонкім і далікатным, таму што з узростам пачынаеш цаніць кожную хвіліначку і секундачку… дык вось, мой унутраны хранометр мне падказвае, што недзе з гадзіну.

— Авой! Цэлую гадзіну! — захвалявалася Аліна. — У нас зусім няма часу. Кажаце, тут дакументаў не было? А Міхал Барысавіч не вяртаўся?

— Не, больш не з'яўляўся.

— Вы тут пасядзіце, паразмаўляйце, я вельмі хутка вярнуся!

Аліна забегла ў свой нумар. Там панаваў такі ж рэзрух, што і ў пакоі Міхала: перавернуты ложак, раскіданая бялізна, пасунутая мэбля, парэзаныя падушкі. Некранутым засталося хіба што бра: злодзеі справядліва разважылі, што ў яго проста фізічна немажліва схаваць пяць мільёнаў еўра, роўна як і вялікі чорны дыпламат у ім таксама не змесціцца.

— Так. Здаецца, я засталася і без юрыста, і без дакументаў, — Аліна прысела на ложак і закрыла твар рукамі. Яна думала, што рабіць цяпер і ці не завёўся ў ейным калектыве «крот».

Валянцін Аркадзевіч падміргнуў Тані, а пасля звярнуўся да Дзімы, у чарговы раз напаўняючы кілішкі:

— А давайце з вамі, Зміцер, вып'ем за нашых пекных паненак! Яны ўносяць у нашае жыццё столькі клопатаў і хваляванняў, але ж без іх мы загінулі б ад самоты!

— Давайце, — пагадзіўся Дзіма. — Толькі вы Аліне не налівайце, бо яна за рулём.

— За рулём?

— Так.

Валянцін Аркадзевіч паставіў свой кубачак на столік, задумаўся, нібыта ўспомніў нешта вельмі даўняе і балючае, а потым ціха сказаў:

— Ведаеце, чаму я так хачу дапамагчы Аліначцы Мікалаеўне з яе праектам? У мяне была дачка. Не ў мяне пайшла і не ў матку сваю: творчы чалавек, прыгажуня, тэатрам захаплялася. Усё хацела галоўную ролю ў спектаклі сыграць.

Мужчына выняў з унутранай кішэні пінжака фотаздымак, які насіў каля сэрца ўжо, напэўна, не першы год. Доўгім позіркам паглядзеў на дзяўчыну, што пазірала са здымка, і цяжка ўздыхнуў:

— Мы ёй казалі, што ўсё гэта — дурнота, што не трэба сябе растрачваць на тэатры, лепш пашукаць даходлівую, харошую прафесію. Карацей, забаранілі звязваць лёс са сцэнай. А мы тады ўжо дастаткова заможнымі былі, справы ўгару ішлі. Яна папрасіла ў нас грошай на пастаноўку, сказала — усё вярну! А мы не далі. Тады яна ўскочыла ў свой аўтамабіль і паехала з Ноўгарада, дзе мы жылі, у Маскву, там знайшоўся мецэнат. І не даехала… Туман, сутыкненне лабавое… — голас Валянціна Аркадзевіча задрыжэў. — Такая апантаная, як і Аліна Мікалаеўна. А вы, як народзіце дзяцей, дык памятайце: крый вас Божа выхоўваць іх забаронамі!

Аліна падняла вочы, сустрэлася са сваім адбіткам у вялікім люстэрку, што вісела на сцяне, і пачала разважаць уголас.

— Прывітанне. Віншую цябе: юрыст знік, папер няма, падпісанне дамовы зрываецца, да пабачэння, мюзікл! Ёсць прапановы? Пазваніць у цэнтр, каб лавілі лоера ў сталіцы? Шукай ветру ў полі.

У дзверы лягонька груknулі. Бландзіністая адміністратарка Святлана зазірнула ўнутр:

— Прабачце, але я нідзе не магу знайсці Міхала… Барысавіча.

— Навошта ён вам патрэбны?

— Ён у мяне забыўся вось гэта! — Святлана паставіла побач з увaходам чорны дыпламат.

Аліна схапіла яго, дрыготкімі рукамі праверыла, ці ўсе дакументы на месцы, і запляскала ў ладкі:

— Вось дык Міхал, вось дык лаерочак, нават спіць на дакументах! Малайчынка! Як знойдзецца і будзе жывы — выпішу прэмію. Што-небудзь яшчэ?

— Так. Там са сталіцы прыбыў ваш службовы аўтамабіль.

— Вельмі, вельмі файна. Накарміце вадзіцеля.

Дзяўчаты-пакаёўкі праводзілі Дзіму доўгімі позіркамі, поўнымі адзіноты, прагі і жадання як мага хутчэй выйсці замуж. Аліна памахала Святлане, што пяшчотна абпырсквала з пульверызатара белыя хрызантэмы, падораныя Міхалам.

— Што цяпер? — Дзіма страляў вачамі ў пакаёвак, чым неймаверна злаваў Таню і смяшыў Аліну.

— Цяпер наш даражэнькі Валянцін Аркадзевіч сядае ў службовы аўтамабіль цэнтра і спакойна едзе ў Кіеў, бо на цягнік ён спазніўся па нашай віне.

— Дзякуй, Аліначка Мікалаеўна! — Валянцін Аркадзевіч пацалаваў Аліне руку. — Спадзяюся, яшчэ сустрэнемся!

— Што вы такое кажаце, канешне, сустрэнемся, у нас цяпер ёсць агульная справа! І месца ў ложы на прэм’еры — вашае, вы ж памятаеце?

Развітаўшыся з Валянцінам Аркадзевічам, Аліна вярнулася да таварышаў:

— Ну, што ж, дарагія ўдзельнікі праекта «Шапіто»! Наша міліцыя нас зберагла, сама таго не ведаючы. Каб не іхняя канферэнцыя, былі б мы цяпер там, дзе мой

лаерок… А цяпер скокаем у «буцэфала» і гонім у Мінск — ратаваць грошы, Міхала, цэнтр і сябе!

На ўскрайку Мінска Аліна спынілася і абвясціла:

— Далей на таксоўцы. Чуе маё сэрцайка, што на аўтамабілі будзе небяспечна. Не хачу, каб нехта кантраляваў нашыя пераезды.

— Думаеш, нас праследуюць? — спыталася Таня і зноў паправіла заколку ў валасах, каб грыўка не спаўзала на лоб.

— Я не думаю, я ўпэўнена. Бачыце вунь тую чырвоную перапэцканую ламачыну? — Аліна паказала на аўтамабіль, што прыпаркаваўся ў паўсотні метраў ад іх. — Гэты дыліжанс едзе за намі ад самага Гомеля. Дзівуюся проста, як ён не разваліўся: мы ж гналі ці не дзвесце кіламетраў у гадзіну!

— Эх, бінокль сюды б ці падзорную трубу! — Дзіма азірнуўся і прыжмурыўся, каб лепей разгледзець таго, хто быў за рулём «ламачыны». — Які адчайны мужчынка: гэтая калымага, напэўна, старэйшая за мяне, яна можа рассыпацца ў любы момант!

— Альбо ператварыцца ў гарбуз. З дванаццатым ударам па бамперы! Бяром трафеі і выходзім!

Аліна зачыніла дзверцы і націснула клыпажок на бразготцы. «Буцэфал» пікнуў і прамовіў:

— Аўтамабіль на сігналізацыі, гаспадыня!

— Ён у цябе яшчэ і размаўляе? — здзівіўся Дзіма.

— Ага. Таргані за ручку.

Дзіма шморгнуў за ручку. Аўтамабіль нема заенчыў:

— Гаспадыня! Гаспадыня!

Аліна выключыла сігналізацыю, ізноў уключыла, агледзелася і заўважыла на другім баку вуліцы дзесяціпавярховы дом, а ў ім краму з роду тых, дзе цукар, мыла і запалкі ляжаць пад шклом аднае вітрыны.

— Мы ідзём у краму! — абвясціла яна і шпарка пакрочыла наперад.

— Нашто? — Дзіма прыціснуў вінчэсцер да сонечнага сплячэння.

— Па марожанае.

Дзіма з Таняй пераззірнуліся, пырхнулі са смеху ды накіраваліся следам за Алінай. Тая прайшла праз гандлёвую залу, што больш нагадвала невялічкі склад, застаўлены скрынямі, і, спачувальна зірнуўшы на прадаўшчыцу, якая была занята спрэчкай з дзвюма агрэсіўна настроенымі бабулькамі, нырнула ў службовыя дзверы. Там яна прабегла па калідоры ды выйшла на вуліцу праз чорны ўваход. Не спаткаўшы на сваім шляху аніводнага чалавека, падарожнікі перасеклі змрочны двор і выбеглі на вуліцу, паралельную той, дзе сіратліва стаяў іх верны «буцэфал».

Выбегшы на скрыжаванне, Аліна ўскочыла ў першую ж таксоўку, што патрапілася ёй, назвала адрас цэнтра і папрасіла пад'ехаць з чорнага ўваходу. На ўсе просьбы Тані адвезці яе дадому Аліна адмоўна ківала галавой: «Разам дык разам. Дзе ты бачыла такое, каб у час выратавання свету адзін з герояў кінуў гранатамёт ды абвясціў: ды ну вас, сябрукі, нешта мне надакучыла, валяйце, ратуйце тут усё гэтае самі, а я дадому пайду! Так не бывае!

Акрамя таго, Аліна ніяк не магла зразумець, каму спатрэбілася везці Таню з Мінска ў брэсцкія лясы і там пакідаць у абсалютна пустым бункеры, папярэдне прывязаўшы да стула. Можна было дапусціць, што паміж Мінскам і Дружным яе аўтамабіль высачылі і «вялі» даволі доўгі час. Можна было змірыцца з той думкай, што прысутнасць Дзімы ў машыне зблытала бандытам усе карты. Але чаму іх тады не звязалі там, у хацінцы? Няўжо іх выкрадальнікі сапраўды спадзяваліся, што Аліна

з Дзімам будуць моўчкі сядзець, склаўшы ручкі, і чакаць свайго лёсу? Тады гэта мусілі быць або вельмі дурныя бандыты, або бандыты-дылетанты.

Аліна падумала, і раптам да яе прыйшло азарэнне. Яна паляпала таксіста па плячы і папрасіла спыніцца каля першай грамадскай прыбіральні.

— Дзіма, пасядзі тут, а мы з Таняй прагуляемся, папудрым носікі.

Таня неахвотна пацягнулася за Алінай.

Прыбіральня, выкладзеная маляўнічай кафляй, павесяліла Аліну.

— Ты паглядзі: куточак Гвадэлупы ў родным Мінску! Сонейкі ды лілеі на блакітным фоне!

Аліна разлічылася на касе з сумнай немаладой жанчынай, што вязала фіялетавую панчоху. Прапусціўшы Таню наперад і счакаўшы, пакуль яна зойме кабінку, Аліна шмыганула за ёю і коратка загадала:

— Распранайся!

— Што-о? Не буду! — закрычала Таня.

— Будзеш. Я табе не казала, што ў вольны час займаюся кунг-фу? — Аліціны пальцы балюча сціснулі Танін локаць. Таня войкнула. — Вось так. Не прымушай мяне рабіць табе балюча, я зусім гэтага не хачу!

Таня сцягнула швэдар, зняла джынсы, разулася. Аліна пільна вывучыла кожны сантыметр яе вопраткі.

— Цяпер станік. І трусікі. Усё здымай!

Аліна агледзела бялізну і, нічога не адшукаўшы, вылаялася.

Таня апранулася і паправіла заколку. Аліна паглядзела на бліскучую танную заколачку і сказала:

— Дай гэта сюды.

— Навошта яна табе? Ёй цана тры рублі на кірмашы.

Аліна выцягнула з валасоў Тані заколку, абмацала яе, выкінула ў сметніцу і задаволена ўсміхнулася:

— Ну што, мармышка? Хіба ты не ведаеш, што радыёмаячкі дрэнна ўплываюць на мозг? Паехалі далей. І нават не думай уцякаць — усё роўна даганю!

У таксоўцы Аліна села побач з вадзіцелем:

— Мінулы адрас — адбой. Едзем у іншае месца.

— Куды гэта? — пацікавіўся Дзіма.

— У «Тэхноладжы прайм», да маіх сяброў. Спачатку паспрабуем разабрацца з вінчэсцерам ды «жучкамі», што мы знайшлі ў хацінцы. Я прыхапіла адзін з сабою. А таксама задамо некалькі пытанняў нашай Тані Кіс. У бяспечным месцы.

Мікіта ўвайшоў у павільён, дзе ўжо гадзіну пад пільным вокам пражэктараў і камер сумавалі маладыя музыкі. Ён, як заўсёды, выглядаў вельмі самавіта: ускудлачаныя валасы, залатая завушніца ў левым вуху, мегафон у руцэ і зларадная ўсмешка. «Рэжысёр мусіць унушаць святарны жах: тады яго будуць слухацца і рабочы працэс пойдзе актыўна!» — часта паўтараў Мікіта, і Аліна, як ні дзіўна, з гэтым пагаджалася.

— Спадарства! — гучна прмовіў рэжысёр, і музыкі сапраўды выцягнуліся ад яго голасу па струнцы ды ўцягнулі і без таго плоскія жываты. — Сёння мы пераздымаем сцэну, дзе герой і гераіня блытаюць чамаданы Дабра і Зла. І будзем здымаць да тае пары, пакуль вашая вакалістка не перастане мітусіцца і нервавацца ў кадры.

Музыкі апусцілі вочы. Хэдлайнер гурта сказаў:

— Вось з вакалісткай у нас якраз праблема. Не можам да яе дазваніцца.

— Ай-я-яй… Блага. А без яе мы ніяк не можам пачаць. Што будзем рабіць? — спытаўся Мікіта і сеў на свой імянны рэжысёрскі стул.

— Дайце нам яшчэ паўгадзінкі, паспрабуем яе знайсці.

— Адлік пачаты! — пракрычаў Мікіта ў мегафон і загадаў Наташы прынесці кубак малака. — А пакуль ваш галоўны звоніць гераіні, якая зрывае здымкі, няхай астатнія прыкладуць пэўныя высілкі і паспрабуюць патлумачыць мне, хто ўсё-ткі вашы спонсары. Нашая дырэктарка не паспела нічога нам паведаміць, і мы баімся памерці ад цікаўнасці проста пасярод гэтага павільёна.

Хэдлайнер адвярнуўся.

— Гэта што, такая вялікая тайна, я зразумець не магу? — ізноў пракрычаў Мікітава ўзмацняльнік.

— Не, гэта не тайна, — нарэшце адказаў музыка. — Проста гэта сур'ёзныя людзі, якія атрымліваюць сур'ёзныя грошы за тое, што вырашаюць сур'ёзныя справы. Дастаткова?

— Ух, ты, мама дарагая, як усё сур'ёзна. Нічога, што я без гальштука? Слухайце, а вашая вакалістка, напэўна, таксама дужа сур'ёзная мадамачка, калі ўночы проста збегла са здымкаў з велізарным чамаданішчам у руках?

— Напэўна, — прамармытаў хэдлайнер і перавёў позірк са сцяны на столь.

— А яна часам рассеянасцю не вызначалася ў вас? Рэчы не блытала? Чужую бялізну не апранала?

— Не ведаю, раней такога за ёй не заўважалі. А што?

— Ды нічога! — адказаў Мікіта.— Напрыклад, у маёй практыцы такое здаралася: артыстка ўваходзіць у вобраз і потым доўга не можа з яго выйсці. Вось учора, напрыклад, вашая вакалістка ў кадры блытала чамаданы…

Музыкі пабялелі. Хэдлайнер спытаўся, заікаючыся:

— А яна ўчора… паблытала чамаданы, як з'язджала?

— Я гэтага не гаварыў! Але мы не можам зразумець, куды падзеўся наш чамадан з такім дарагім залатым серпанцінам, які я выпісваў з Польшчы! Дужа рэдкі гэты серпанцін, можа, вашая салістачка вырашыла яго выгадна перапрадаць, га?

Падбегла Наташа з кубкам малака і ў барабанах. Мікіта заціснуў самы вялікі барабан паміж каленяў і пачаў выгрукваць бадзёры афрыканскі рытм.

— А малако, Мікіта Алегавіч? — спыталася сакратарка.

— Якое малако? А-а, малако. Пі на здароўе!

— Дык гэта ж я вам прынесла!

— Мне? Ты што, даражэнькая, звар'яцела: я ж не п'ю малако!

Увайшла Ася:

— Мікіта, там чамаданчыкі прывезлі. Шэсць штучак, усе падобныя да нашых, як блізняткі. Сказалі: заказ на гэты адрас.

Грузчыкі прынеслі шэсць аднолькавых чамаданаў.

— Мікіта Алегавіч, а на чорта нам столькі кейсаў? — спыталася Наташа. — Гэтыя два ды новых шэсць!

— Яшчэ не ведаю! — пракрычаў Мікіта ды загарлапаніў нешта на дыялекце сярэднеафрыканскіх плямёнаў.

Аліна тройчы націснула на кнопачку званка, памахала рукой у аб'ектыў відэакамеры, што вісела над дзвярамі са службовага ўвахода ў «Тэхноладжы прайм». Дзверы бясшумна адчыніліся, і круглатвары ахоўнік расквітнеў:

— Аліна Мікалаеўна, якім ветрам? Даўно ў нас не з'яўляліся!

— Справы, турботы, Віцёк, — прамовіла Аліна, клапатліва запіхваючы сваіх спадарожнікаў у дзверы. — Мы пройдзем да Антона Аляксеевіча, ты папярэдзь, добра?

— Будзе зроблена! — Віцёк накіраваўся да службовага тэлефона.

Аліна, прытрымліваючы пад локаць Таню, убегла ў прыёмную, на бягу гаворачы: «Прывітанне, Марына, шыкоўная блузачка, зрабі чатыры чорныя гарбаты, дзве з цукрам, дзве — без!» і ўляцела ў кабінет дырэктара.

— Прывітанне, Аліна Мі… — Марына зразумела, што размаўляе з паветрам: Аліна ніколі не чакала яе адказаў.

Антон гартаў ранішнюю прэсу, якая да вечара паспела састарыцца і страціць актуальнасць. Аліна адвесіла зямны паклон:

— А добры вечар таму, хто ў гэтым даму! Ох, якая ж прыгажосць, раней гэтага не было! — яна паглядзела на фоташпалеры ва ўсю сцяну. — Антош, а што гэта за цуд у цябе на сцяне?

— А гэта квітнеючы міндаль. Прывітанне. Нешта даўно цябе не бачылася. Ты як Піліп з канапель. Ізноў нешта здарылася? — Антон паправіў акуляры і прыабняў Аліну.

— Здарылася. Тут такая справа… А цябе дакладна не праслухоўваюць?

— Не, мы ж кожную раніцу ўсе шчыліны правяраем.

— Ну, добра. Карацей, знаёмся: гэта — Дзіма, гэта — Таня, а гэта — вінчэсцер, які мы прывезлі з паўднёва-заходніх лясоў Беларусі, — Аліна паклала на стол «трафей».

— Проста ў лесе знайшлі?

— Так, натуральна, пасярод лесу. Растуць, ты разумееш, як грыбы пасля дажджу! Шампіньёны. Таму што пад зямлёю, у бункеры. Там яшчэ іх засталося два дзясяткі — мінімум! І на ўсіх — твае галаграфічныя налепачкі, «Тэхноладжы прайм».

— А ты як там апынулася, у паўднёва-заходніх лясах?

— А мяне туды прывезлі ў мяшку з-пад камбікорму, кінулі ў хатку на курыных лапках, патрабавалі пяць мільёнаў еўра, якіх я ў вочы не бачыла, Дзіму пабілі, а потым мы знайшлі падземны ход і ўбачылі ў бункеры Таню, прыматаную да стула, а на Танінай галаве — заколку, а ў заколцы — «жучок», ды не жывы з лапкамі, а такі, радыёмаячок, падобны вось на гэты! — Аліна паклала на стол побач з вінчэсцерам «жучок» з хацінкі.

Дзіма паглядзеў на Таню. Таня адвярнулася. Антон узяў у рукі «жучок» і сказаў:

— Дарагая штучка, прафесійная. Я з такімі сустракаўся. Нядаўна прывозіў на продаж аднаму заказчыку. Такія дзіўныя людзі: разлічыліся наяўнымі, усё рабілі праз кур'ераў, кожны раз — новых, проста шпіёнскія страсці! Ну, і што далей?

— А далей — у нас знік з Гомеля лоер. А потым мы прыехалі да цябе, і вось, падарунačак прывезлі!

Аліна ўручыла Антону газнічку і працягнула:

— Антош, у мяне няма такіх грошай, і я хачу жыць! Мне падаецца, што маё жыццё каштуе значна даражэй за пяць «лямаў».

— Гэта праўда, — пагадзіўся Антон. — Але я нічога ні ў Брэст, ні пад Брэст не пастаўляў. Хіба што тыя ж заказчыкі, што бралі ў мяне шпіёнскую тэхніку, закупіліся камп'ютарамі. Мы ім збіралі. Сур'ёзныя машыны, проста звяры!

— Антош, ну, давай хаця б твае хлопцы зірнуць, што на гэтым вінчэсцеры? Можа, гэта нас уратуе!

Антон узяў трубку:

— Марына, запрасіце да мяне Канстанціна і прынясіце, нарэшце, гарбату!

— А можна яшчэ маім пазваніць з твайго тэлефона? А то ў нас трубкі яшчэ ў лесе адабралі… — папрасіла Аліна.

Пасля нядоўгай, але грунтоўнай гутаркі са сваімі калегамі, Аліна развіталася і задуменна прамовіла:

— У нас дзве навіны. Не ведаю, якая з іх горшая.

— Выкладвай! — Дзіма прысеў на канапку.

— Першая: Мікіта так і не зманціраваў кліп ды яшчэ прызначыў дадатковыя здымкі. І другая: знайшліся пяць мільёнаў еўра. У чамадане. Ніхто не ведае, чые яны. Як да нас патрапілі — таксама невядома. Мае думаюць, што гэта я некага абакрала ці зрабіла «заначку» на чорны дзень.

— У чамадане? — ажывілася Таня.

— Вой, а з чаго ж гэта мы так занепакоіліся? Сядай на канапку і не рабі рэзкіх рухаў, мы спачатку разбяромся з вінчэсцерам, а пасля зоймемся табой. А табе, Дзімачка, рэкамендую сесці побач з Таняй і сачыць, каб яна не пачала збягаць ці забіваць сябе аб сцяну.

У кабінет увайшоў Канстанцін — худы, высокі тып з вачамі, у якіх, здавалася, роўнымі шэрагамі бегалі лічбы і коды. Антон скінуў пінжак, закасаў рукавы — і абодва маладыя чалавекі з энтузіязмам узяліся падключаць вінчэсцер да камп'ютара.

Аліна хадзіла кругамі вакол стала і нецярпліва пыталася: «Ну як?», «Ну што?», «Ну, гатова?» Праз некаторы час Косця спытаўся:

— А як гэты вінчэсцер да вас патрапіў?

— Гэта няважна, гісторыя доўгая і дужа непраўдападобная! — адказала Аліна, грэючы рукі кубкам з гарбатаю.

— Проста гэтая цацка пад завязку забіта файламі з невядомым мне расшырэннем, — прамармытаў Антон. — Трэба ўстановачны дыск з праграмай. У нас яго няма.

Аліна накіравала позірк на Таню. Тая надзьмулася:

— Я вам нічога не скажу.

— Гавары, мармышка!

Таня ўскочыла, падбегла да акна, адчыніла яго і сiганула б уніз, калі б Дзіма не паспеў схапіць яе за стан ды адцягнуць у цэнтр пакоя, па дарозе перавярнуўшы фікус і разбіўшы графін, што стаяў на краі стала.

— «Хенэсі», — у скрусе выгукнуў Антон.

— У цябе быў «Хенэсі», а ты мне не прапанаваў? — уз'юшылася Аліна, але яе ўвагу зноў прыцягнула Таня, якая ўпіралася, малаціла нагамі ў паветры, крычала і патрабавала, каб яе тэрмінова адпусцілі. Антон і Косця кінуліся дапамагаць Дзіму: таму яўна не ставала спрыту і досведу, каб цалкам абезрухоміць раз'ятраную дзяўчыну.

Зазірнула перапалоханая сакратарка. Аліна весела ўсміхнулася:

— Рэпеціруем, Марыначка!

Тая спагадліва кіўнула:

— Аліна Мікалаеўна, вы, як заўсёды, у творчым працэсе. Яшчэ гарбаткі прынесці?

— Не, не трэба, але калі ёсць што-небудзь супакаяльнае, то нам не зашкодзіць.

Марына пашукала ў сябе ў шафцы і знайшла настойку пустырніку. Аліна схапіла флакончык і скамандавала:

— Хлопчыкі, трымайце нашую мармышку мацней. Дзіма, адкрый ёй рот, будзем лекаваць нервачкі, а то пагульваюць, пагульваюць!

Пасля таго як тое, што знаходзілася ў пляшачцы, перамясцілася часткова на дыван, часткова Тані ў рот, яна зачмыхала, але стала значна спакайнейшая. Аліна, назіраючы такую метамарфозу, задаволена прачырыкала:

— Ну вось, зусім іншая справа. А то адразу — у акно! Не птушка, не ўзляціш, паверх — другі, не заб'ешся, толькі ногі паламаеш, балець будуць на змену надвор'я. Давай, расказвай.

— Не буду. Не скажу, — упарцілася Таня. — Хоць літр лекаў у мяне ўліце — не скажу!

— Ну, ты сама напрасілася. Іду на крайнія меры!

— Будзеш біць? Бі! — закрычала Таня і паспрабавала штурхануць Аліну нагой.

— Крый мяне Божа, што ты? Я падобная на члена байцоўскага клуба? Я крыві баюся. Хлопцы, распранайце яе.

Антон і Косця пераглянуліся. Дзіма спытаўся:

— Ты што, прапануеш яе згвалтаваць?

— Мо, ну як ты мог так пра мяне падумаць! Будзем Таню катаваць.

— Паяльнікам? — пацікавіўся Антон. — Альбо холадам?

— Не. Мадам у нас раўнівая — значыць, баіцца казытання. Прыкмета такая народная, — сказала Аліна і ўзяла ў рукі белае гусінае пяро — талісман Антона, які ён захоўваў ужо не першы год. — Вось і праверым.

Таня занервавалася ды ўкусіла Антона за запясце. Антон раззлаваўся і сцягнуў з Тані швэдар. Косця расшпіліў гузік на джынсах. Дзіма адвярнуўся.

Таня вырывалася.

— Дзіма, ты што, дазволіш, каб яны з мяне здзекаваліся? Ты здраднік, як я магла быць з табой!

— Таня, раскажы, што ты рабіла ў бункеры і чаму ў цябе быў маячок, — адказаў Дзіма, не павярнуўшы галавы.

Джынсы з'ехалі з Таніных ног. Дзяўчына тарганулася. Аліна паківала галавой, павольна выцягнула са штонікаў папругу Дзімава бацькі і перахапіла ім Таніны лыткі. Потым Аліна дакранулася кончыкам пяра да Танінай шыі. Таня заматляла галавой. Аліна правяла лінію ад вуха дзяўчыны да месца, дзе збягаюцца ключыцы. Па Танінай скуры пабеглі дрыжыкі. Яна тарганулася. Аліна расплікнула яе станік, ён споўз уніз, агаліўшы грудзі. Аліна паказытала іх пяром. Грудзі настрыліся. Антон і Косця зажмурыліся, але Косця не вытрымаў і ўсё-ткі адкрыў адно вока, бо яму не дужа часта выпадала бачыць распранутую дзяўчыну ўжывую, а не з экрана манітора.

Аліна з падвоеным энтузіязмам пачала выпісваць на Таніным целе рунічныя сімвалы: паміж лапатак, на ўнутраных баках сцёгнаў, пад каленкамі... Дзяўчына выгіналася, як вужыная царыца, але Аліна гэта не спыняла: яна любіла назіраць выгіны жаночых целаў, бо лічыла агаленую жанчыну адным з самых прыгожых відовішчаў на зямлі. Таня цяжка дыхала і шаптала: «Хопіць… даволі…» Калі Аліна пагладзіла пёркам Танін жывот і адцягнула трусікі дзяўчыны мезенцам, Таня заенчыла:

— Добра, я раскажу, добра! Дайце мне апрануцца!

Гумка трусікаў стрэліла па Таніным жываце. Аліна сама заплікнула станік дзяўчыны, усцягнула на яе джынсы і каротка загадала:

— Расказвай.

Таню ўсадзілі на канапку, і яна, хліпаючы ды зрываючыся на плач, пачала распавядаць.

— Я ж заўсёды хацела спяваць, Дзіма ведае, толькі не папсовыя гэтыя песенькі, вашыя «цілі-цілі» ды «тралі-валі», а нармальны рок. А тут якраз адзін знаёмы арганізаваў гурт, адразу тэхнікі накупіў, музыкаў знайшоў, вакалістаў, усе справы… Грошы недзе адшукаў. Усё пахваляўся, што дужа круты ў яго спонсар. А тыдні паў-

тары таму мы сустрэліся, а ён нешта нудзіцца, такі сумны: нешта ў яго з вакалістамі не зраслося. Мо творчыя непаразуменні, ці проста тыя вакалісты піць, як ён, літрамі не ўмеюць, не ведаю. Паглядзеў на мяне і кажа: «Прыходзь у гурт, мы кліп здымаем». А дзе? «MoST». Ну, я і прыйшла. Раз прыйшла, другі прыйшла. Нібыта атрымліваецца. Рэжысёр такі яшчэ сур'ёзны, Мікіта, здаецца, завуць яго. А заўчора вечарам гэты мой знаёмы падыходзіць да мяне і кажа: Тань, тут такая справа, трэба на вакзал з'ездзіць, забраць у камеры захоўвання чамадан. Ты яго вазьмі і сюды прывязі, а мы, як здымкі скончацца, на офіс гэты чамадан адвязём. Ну, я паехала, чамадан гэты ўзяла, а ён цяжкі, зараза! Прыцягнула ў цэнтр, паставіла, здымкі пачаліся. Пачаліся і ніяк скончыцца не могуць, і ўсё гэтаму Мікіту не падабаецца, ганяе нас па пляцоўцы, лаецца, у барабаны б'е. І ноч ужо скончылася, хутка раніца. А тут яшчэ сцэна такая, з чамаданамі, і, галоўнае — гэтыя чамаданы падобныя на той, што я прывезла, як дзве кроплі вады! Перапынак, асістэнтка чамаданы да майго прывалакла і побач паставіла. Тут мой знаёмы падвальвае і кажа: вязі хутчэй чамадан на офіс, а то мы ўліпнем. А я стомленая, перад вачамі ўсё плыве, ну, схапіла чамадан, адзін з трох — і павезла, хіба ж я ведала, што ў ім? Прыехала, такі будынак змрочны, мяне сустракаюць, па калідоры вядуць, у кабінет завялі — сядзіць мужчына. Ён чамадан адкрывае — а там нейкія гумавыя боты. Ён з твару мяняецца і кажа: дзе грошы? Я стаю, вачыма лыпаю. «Тут грошы былі! Думаеце, самыя разумныя, чужыя мільёны прыбралі?» Паслаў, карацей, ахоўніка свайго, каб той ціха і без крыку памяняў чамадан. Той з'ездзіў, вярнуўся — ажно ў яго чамадане і ўвогуле залатыя блёсткі. Ну, галоўны на мяне накінуўся, крычыць: што вы ведаеце? Што вы разнюхалі? Вы што, кадэбэшнікі? Ды я вам пакажу! Шапку мне на вочы — і павезлі, потым павялі, пасадзілі ў гэтым бункеры, заколку гэтую ідыёцкую ў валасы ўваткнулі, сказалі — хутка галоўную прывязём, дык калі ты ёй скажаш, дзе была і што бачыла, мы цябе заб'ём, як муху, і ніхто не ўспомніць, што ты па зямлі хадзіла. Сказалі, што будуць чуць кожнае маё слова. А вы яшчэ не хутка з'явіліся, а там, па бункеры, павукі поўзалі!

Таня расплакалася.

— Таня, а ты чаму мне нічога пра групу не расказала? — спытаўся Дзіма.

— Хацела сюрпрыз табе зрабіць, адразу кліп паказаць…

— Сюрпрыз атрымаўся. Малайчына! Можна мне цыгарэтку?

Антон працягнуў пачак Дзіму і зацягнуўся сам:

— Прывыкай, мой юны сябар. Калі жанчына кажа, што хоча зрабіць табе сюрпрыз, трэба быць гатовым да таго, што яе давядзецца ратаваць. Усе жанчыны свету ў змове, прычым кожная — супраць сябе самой.

У кабінеце павісла цішыня, якая раз-пораз перарывалася рэдкімі ўсхліпамі Тані. Дзіма і Антон курылі, Косця клацаў па клавішах у надзеі разгадаць, што за інфармацыя захоўваецца на трафейным дыску.

— Дык скажыце мне, — парушыла цішыню Аліна, — з якога перапуду трэба было мяне везці халера ведае куды і замыкаць у хацінцы — увага! — з відэакамерамі! Гэта ж абсурд.

— Хутчэй за ўсё з той прычыны, што цябе там было б складана знайсці, — прамовіў Антон і строс попел у аскепак графіна. — У цябе спачатку доўга выпытвалі б, што ты ведаеш, потым прапанавалі б супрацоўнічаць, а калі б ты адмовілася, запусцілі б у логава вераломнага спакушальніка, і ты б спакусілася, і цябе шантажыравалі б відэазапісам!

— Нам трэба туды вярнуцца! — заявіла Аліна. — Усім.

Дзіма выпусціў з рукі цыгарэту, а Таня пачала гучна ікаць.

— Нашто? — Антон загасіў недакурак.

— Хачу даведацца, што каардынуюць у тым каардынацыйным цэнтры!

— Ты вар’ятка, — выгукнуў Дзіма, — нас жа прыстрэляць!

— Дзіма, нас усё роўна прыстрэляць, паедзем мы туды ці не паедзем, — Аліна прысела побач з Таняй. — Другі бок слушна мяркуе, што мы ўжо дабраліся да інфармацыі, якая захоўваецца на гэтым вінчэсцеры. Супрацоўнічаць мы з імі дакладна не зможам — у нас такая сфера дзейнасці, што мы заўсёды пад аб’ектывамі. Застаецца толькі выкрыць іх групоўку: так ёсць шанец, што нас абароніць дзяржава, хоць і вельмі мізэрны.

— Я не хачу паміраць! — Таня ікнула і зайшлася слязьмі.

— І я не хачу, — уздыхнула Аліна, пагладзіўшы Таню па спіне. — У мяне планы на зіму. Думаю, ёсць сэнс заехаць у цэнтр і паглядзець на чамадан з грашыма.

Адчыніліся дзверы, зазірнула Марына:

— Нешта ў вас ціха. Скончылі рэпеціраваць?

— Так, Марына, арганізуйце нам каву! — распарадзіўся Антон.

— Будзе зроблена. Антон Аляксеевіч, да вас Ганна Міхайлаўна прыйшла.

— Ганначка? Хай заходзіць! Ганначка — мая нявеста! — патлумачыў Антон.

— Віншую. А калі вяселле? — спыталася Аліна.

— Увесну!

У кабінет увайшла Ганна Міхайлаўна. Аліна расквітнела, як вішня ў маі, і кінулася ёй на шыю:

— Ганна! Ганначка Міхайлаўна! Сто год цябе не бачыла! Ты як сюды патрапіла?

Ганна таксама заўсміхалася:

— Пасля ўніверсітэта размеркавалася!

— Дык чаго ж ты маўчала?

— Не, гэта ж ты маўчала! А цяпер усіх прымусіла перабаяцца! Ты ведаеш, што мяне твой Мікіта вызваніў?

— Чаму гэта — «мой»? Ён агульны!

— Ладна-ладна! — Ганна сціснула Аліну ў абдымках. — Ты дзе была?

— Доўга расказваць, трэба паказваць. А міндаль на фоташпалерах — твая прыдумка?

— Так. З’ездзіла нядаўна на гістарычную радзіму, у Ізраіль, адтуль прывезла!

— Па гіюр ездзіла?

— Не, яшчэ пакуль не па гіюр, — прашаптала Ганна. — Яшчэ вагаюся, бо не ведаю, як абгіюрыць Антона. У яго, ты разумееш, адна рэлігія — бізнес.

— Я веру: ты нештачка прыдумаеш. Ты бываеш настолькі пераканаўчай, што нават я ледзьве не прыняла гіюр, памятаеш?

— А як жа!

Мужчыны моўчкі назіралі, як дзве шчаслівыя дзяўчыны абдымаюцца на фоне трэцяй, а яшчэ адна ціхенька ікае на сафе. Антон паглядзеў на лужыну «Хенэсі», што ўсмакталася ў дыван ды разлівала па пакоі спакуслівы водар, і сказаў:

— Хлопцы, тут адбываецца нешта неверагоднае. Прапаную выпіць, каб зняць стрэс.

— Э-э, ты што мне абяцаў? — Ганна паказала Антону кулак. — Дакранаешся да спіртнога, толькі каб працерці кантакты ваткай!

— А давайце ўсе вып’ем! — прапанавала Аліна. — За сустрэчу, за вашае будучае вяселле… і за нашае таксама!

— Вашае? Ты замуж выходзіш? — здзівілася Ганна.

— Так. Я сёння зрабіла Мотузу афіцыйную прапанову!

— Мотузу? Усё-ткі зрабіла! А я яшчэ падумала: з чаго яна ў Дружны паляцела, як той шпак вясновы?

— Да мяне, да мяне! — сказаў Дзіма.

Ганна нарэшце заўважыла яго і здзівілася яшчэ больш:

— Нічога сабе ў вас тут тусня! А ты, Мотуз, усё прыгажэеш. Хто цябе пабіў?

— Гэта я сам сябе пабіў, каб не быць такім прыгожым.

Антон дастаў з шафы бутэльку віскі.

Ад цэнтральнага ўвахода «Тэхноладжы прайм» кампанія ад'ехала на трох аўто з вадзіцелямі: у першым размясціліся мужчыны, у другім — дзяўчаты, усе ўжо добра паддатыя. Аліна ўгаварыла Антона ўзяць у дарогу яшчэ мікрааўтобус, каб загрузіць у яго здымачную групу і ўсім кагалам адправіцца пад Брэст для разблытвання гэтай загадкавай гісторыі. Яе ні кроплі не бянтэжыла такая шматлюднасць. «Чым нас больш, тым болей шанцаў, што мы пераможам! А потым арганізуем пікнічок на прыродзе!» — паўтарала яна, абдымаючы адной рукой Ганну, другой — Таню.

— І не бойцеся, дзяўчаткі, з вамі нічога не здарыцца: я ваш ахоўны талісман!

«MoST» і «Тэхноладжы прайм» знаходзіліся ў розных частках горада. Ужо было цёмна, і картэж з трох аўтамабіляў ляцеў па вуліцах, як грозны прывід. «Грозны прывід» увесь час сігналіў і пару разоў спыняўся, першы — каля супермаркета, каб купіць усё неабходнае для пікніка: ежу, палаткі, мангал, сякеру і гітару, а другі — за мяжой горада. Туды моладзь накіравалася, каб пастраляць з забароненых у краіне пнеўматычных пісталетаў па пустых бутэльках. Дзяўчаты жмурыліся і пішчалі, але даволі хутка асвоіліся і пачалі патрапляць па мішэнях. Нарэшце, Аліна скамандавала: «Па конях!» — і «грозны прывід» зноў уехаў у горад.

З адчыненых вокнаў аўтамабіляў даносілася гучная музыка і бесперапынны смех. Прахожыя абарочваліся і ладзілі здагадкі:

— Напэўна, вяселле!

— А дзе ж шары і стужкі?

— Напэўна, здзьмула!

— А дзе маладая? Нешта вэлюму не бачна.

— Мусіць, згубілі!

— Маладую?

— Вэлюм!

***Заканчэнне будзе.***

Эмануіл ЮФЭ

# НОВАЕ ПРА ЎЗАЕМАСУВЯЗІ ДЫЯСПАР ДВУХ СЛАВЯНСКІХ НАРОДАЎ




Адной з самых маладаследаваных і складаных праблем сусветнай гістарычнай навукі з'яўляецца праблема гісторыі, культуры і ўзаемасувязей дыяспар.

Тэрмін «дыяспара» паходзіць ад грэчаскага слова «diaspora» (рассейванне). Што да беларускай дыяспары, то маецца на ўвазе сталае, доўгатэрміновае ці часовае пражыванне значнай часткі народа (этнічнай супольнасці) па-за дзяржавай (гістарычнай тэрыторыяй) свайго пражывання. Мала каму вядома, што з канца XIX стагоддзя да 1980-х гадоў дыяспара ахоплівала ад шостай да амаль трэцяй часткі беларускай нацыі. У пачатку 1990-х за межамі Рэспублікі Беларусь пражывала ад 3 да 3,5 млн. беларусаў.

27 ліпеня 1990 года была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, 25 жніўня 1991 года ёй быў нададзены канстытуцыйны статус, а 10 снежня таго ж года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову «Аб дэнансацыі дагавора 1922 года аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». У сувязі з працэсам набыцця незалежнасці Беларусі пачаліся істотныя змены на дзяржаўным узроўні ў дачыненні да нацыянальнай дыяспары.

Праявамі новага стаўлення з'явіліся непасрэдныя кантакты беларусаў замежжа з кіраўніцтвам нашай рэспублікі, што было немагчыма за ўвесь пасляваенны перыяд.

Усё гэта прывяло да ўзрастання цікавасці беларускай моладзі і шырокіх колаў грамадскасці нашай краіны да гісторыі і культуры беларускай дыяспары і яе ўзаемасувязей з дыяспарамі іншых славянскіх краін.

Менавіта ў гэтым асноўная прычына актуальнасці выхаду ў свет манаграфіі маладога беларускага вучонага-гісторыка Вольгі Коваль «Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд».

Гэта першае ў свеце выданне на 314 старонак (менавіта кніга, а не артыкул), спецыяльна прысвечанае разгляду ўзаемасувязей беларускай і ўкраінскай дыяспар у 1918—1939 гадах, а дакладней — 22 гадам міжваеннага перыяду. Прыемна здзіўляе велізарная база крыніц, многія з якіх уведзены ў навуковы зварот упершыню.

Аўтарка падкрэслівае: «Падчас вывучэння ўзаемасувязей беларускай і ўкраінскай дыяспар былі выкарыстаны разнастайныя гістарычныя крыніцы замежных і айчынных архіваў і бібліятэк, у тым ліку перыядычныя выданні міжваеннага часу. Каштоўнай гістарычнай крыніцай пры вывучэнні мінулага беларускай эміграцыі стала прэса замежжа...

Самая багатая калекцыя прэсы беларускай дыяспары працяглы час захоўвалася ў нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Францыска Скарыны, заснаваным у 1991 годзе ў Мінску...

Для апісання ўзаемасувязей дыяспар былі выкарыстаны архіўныя дакументы эміграцыйных арганізацый, польскіх дзяржаўных эміграцыйных органаў, прыватнае ліставанне і мемуары эмігрантаў з фондаў беларускіх, украінскіх і польскіх архіваў, а таксама неапублікаваныя дакументы ЦДАВО Украіны, у тым ліку каштоўныя матэрыялы былога ўкраінскага «Пражскага архіва», дзе сустракаецца інфармацыя пра дзейнасць беларускай эміграцыі...»

Заслугоўвае ўвагі чытачоў хоць і адносна кароткі, але даволі грунтоўны і аб'ектыўны аналіз гістарыяграфіі даследаванняў. Галоўная асаблівасць гэтага аналізу і ўсяго тэксту манаграфіі наогул — гэта ажыццяўленне прынцыпу «Платон мне сябра, але ісціна даражэй». Так, Вольга Коваль адзначае: «Сярод беларускіх матэрыялаў сучасных даследчыкаў вылучаюцца навуковыя работы, падрыхтаваныя беларусамі замежжа. Для большасці гэтых прац характэрна аднабаковасць ацэнак. Самі беларускія эмігранты сваю дзейнасць і работу папярэднікаў характарызуюць выключна станоўча, часта перабольшваюць яе значэнне і маштабы».

У адрозненне ад пераважнай большасці навуковых прац па гісторыі і культуры беларускай і ўкраінскай дыяспар даследчыца ўдзяліла ўвагу асноўным дэфініцыям і вызначэнням тэрміналогіі. Гэтаму прысвечаны другі параграф першага раздзела кнігі. Нельга не згадзіцца з думкамі Вольгі Коваль, што пры вывучэнні беларускай і ўкраінскай дыяспар міжваеннага часу неабходна карыстацца паняццем «сувязь», бо ўзаемадзеянні былі абумоўлены глыбокімі аб'ектыўнымі і суб'ектыўнымі фактарамі: агульнай гісторыяй, падабенствам моў, сацыякультурных традыцый і г. д. Сувязі паміж беларусамі і ўкраінцамі за мяжой мелі двухбаковы характар, аднак для беларусаў яны былі больш важнымі, чым для ўкраінцаў.

У аўтаркі маюцца ўсе падставы для высноў, што на сучасны момант актыўна распрацоўваецца тэрмін «комплекс эмігранта», што прадстаўнікам слаба кансалідаванай беларускай дыяспары было складаней пераадольваць псіхалагічны бар'ер комплексу эмігранта, чым украінцам замежжа. Мацнейшая ўкраінская дыяспара мела шэраг механізмаў захавання сацыяльнай памяці, якія выконвалі абарончую для псіхікі функцыю.

Значную навуковую каштоўнасць мае «Дадатак» да кнігі (с. 300—313), у якім змешчаны 13 табліц.

Я ўжо адзначаў, што праз усю манаграфію чырвонай ніткай праходзіць імкненне да аб'ектыўнасці. На першы погляд, іншы беларускі даследчык паказаў бы перавагу беларускіх перасяленцаў над украінскімі. Інакш дзейнічае Вольга Коваль. Указваючы на шэраг агульных рыс эканамічнай міжваеннай украінскай і беларускай эміграцыі, яна акцэнтуе ўвагу чытачоў, што ўкраінскія перасяленцы паміж сусветнымі войнамі прадстаўлялі больш колькасную і кансалідаваную супольнасць, чым беларусы замежжа. Даследчыца правамерна канстатуе, што на палітызацыю ўкраінскай дыяспары моцны ўплыў аказвалі разнастайныя партыі, грамадскія аб'яднанні і саюзы. У адрозненне ад беларусаў, украінскія эканамічныя эмігранты намагаліся працяглы час захоўваць у розных краінах свету кантакты з радзімай, уласную нацыянальную адметнасць, мову і культуру.

Адзін з самых прынцыпова важных параграфаў другога раздзела і ўсёй манаграфіі ў цэлым носіць назву «Роля беларускай палітычнай эміграцыі ў жыцці дыяспары». Як бы то ні было, даследчыца павінна прызнацца чытачам, што гісторыя палітычных беларускіх мігрантаў у сучаснай гістарыяграфіі прадстаўлена нязначна і аднабакова. Фактычна нявывучаным застаецца міжваенны перыяд. Трэба валодаць навуковай смеласцю, каб падкрэсліць, што большасць навуковых даследаванняў канца 90-х гадоў XX стагоддзя адрозніваецца ідэалагічнай заангажаванасцю, шматлікія публікацыі па дадзенай тэме трэба аднесці да публіцыстыкі. Нельга не згадзіцца з Вольгай Коваль, што асноўнай праблемай для даследчыкаў гісторыі эміграцыі з'яўляецца слабая крыніцазнаўчая база, таму многія навукоўцы ў сваіх публікацыях выкарыстоўваюць успаміны і мемуары беларускіх эмігрантаў, што прыводзіць да памылковых высноў. Так, на самай справе, спрэчнымі застаюцца маштабы эміграцыйных хваль, вызначэнне ролі палітычных арганізацый і партый, неадназначнай з'яўляецца ацэнка дзеячоў замежжа.

Аўтар манаграфіі вымушана прызнаць, што беларускія палітычныя эмігранты ў міжваенны час праявілі раз'яднанасць, нераздатнасць да кансалідацыі, што негатыўна адбілася на палітычным жыцці ўсёй дыяспары.

Шмат новых думак, высноў, фактычнага матэрыялу змяшчае ў сабе трэці раздзел манаграфіі З трох параграфаў гэтага раздзела маладому чытачу найбольш цікавым будзе параграф «Студэнцкія і навуковыя сувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар».

Відаць, не кожнаму чытачу знаёмы адзін з фактаў, прыведзены на 192 старонцы кнігі: «З-за адсутнасці беларускіх школ і ўніверсітэтаў у прымаючых краінах беларусы нярэдка набывалі сярэднюю і вышэйшую адукацыю ва ўкраінскіх навучальных установах. Украінскія школы, інстытуты, акадэміі, універсітэты, навуковыя гурткі мелі шырокія магчымасці ў заходніх краінах, дзейнічалі дастаткова працяглы час, развівалі кантакты з буйнейшымі адукацыйнымі цэнтрамі ў Еўропе. Сярод выкладчыкаў украінскіх навучальных устаноў былі асобы з сусветнымі імёнамі ў галіне навукі і педагогікі. Асаблівасцю іх сістэмы адукацыі было пазітыўнае стаўленне да прыняцця ў студэнты беларускіх юнакоў і дзяўчат».

У гэтым параграфе чытачы пазнаёмяцца з цікавымі біяграфічнымі звесткамі пра беларускіх нацыянальных і палітычных дзеячоў — Тамаша Грыба, К. Дуж-Душэўскага, Івана Генюша і іншых.

На 117—118-й старонках адзначаецца, што пасля прыходу да ўлады нацыстаў у працэсе падрыхтоўкі Германіі да Другой сусветнай вайны гітлераўцы вырашылі выкарыстаць эмігрантаў у калабарацыйнай дзейнасці. У 30-я гады XX стагоддзя становішча беларускіх палітычных эмігрантаў у Германіі паляпшаецца, іх пражыванне ў краіне легалізуецца, пачынаюць фінансавацца іх арганізацыі і мерапрыемствы. У газеце «Беларускі фронт» ад 1 студзеня 1939 года адзначалася, што ў Германіі 1 снежня 1938 года ўтварыўся Камісарыят для Украінскіх спраў. 1 студзеня 1939 года меркавалі адкрыццё падобнага Камісарыята для Беларускіх спраў. Вольга Коваль аб’ектыўна адзначае, што большасць прадстаўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі ў Германіі з энтузіязмам уключыліся ў работу на баку нацыстаў. Разам з тым яна не называе ніводнага прозвішча прадстаўнікоў беларускай дыяспары за мяжой, якія ў 1930-я гады пачалі актыўна супрацоўнічаць з нацыстамі, а ў час Вялікай Айчыннай вайны занялі высокія пасады ў нямецкай акупацыйнай адміністрацыі ў генеральнай акрузе «Беларусь» рэйхскамісарыята «Остланд».

Нагадаем толькі два прозвішчы. Так, Знешнепалітычнае бюро нацысцкай партыі (АПА) пад кіраўніцтвам Альфрэда Розэнберга яшчэ летам 1933 года ўстанавіла кантакт з Фабіянам Акінчыцам — ідэолагам і лідарам невялікай групы беларускіх нацыянал-сацыялістаў. У лістападзе 1933 года пры падтрымцы і на грошы АПА прыступіла ў Вільні да выдання газеты «Новы шлях». Амаль адначасова, дзякуючы намаганням Акінчыца, у Берліне быў створаны Саюз беларускіх студэнтаў. Але гэтыя спробы не прыносілі спадзяваных вынікаў. Саюз студэнтаў з-за невялікай колькасці беларусаў у нямецкіх навучальных установах не змог разгарнуць шырокай дзейнасці, а тыраж «Новага шляху» не перавышаў 500 экзэмпляраў, што гаварыла пра невысокую яго папулярнасць. У 1938 годзе Фабіян Акінчыц пераехаў у Германію і стаў кіраўніком беларускага бюро Міністэрства прапаганды.

Адзін з лідараў беларускай дыяспары ў Празе Іван Ермачэнка з мэтай надаць сваёй місіі характар гістарычнай і палітычнай легітымнасці заручыўся падтрымкай Васіля Зазаркі — старшыні Рады БНР у эміграцыі. Амаль адразу пасля акупацыі Чэхіі немцамі (20 красавіка 1939 года) Ермачэнка падрыхтаваў на імя Гітлера мемарандум, лейтматывам якога была просьба вырашыць беларускае пытанне шляхам расчлянення СССР. Вядома, што гэты мемарандум не застаўся без увагі, пра што сведчыць запрашэнне Ермачэнкі і Захаркі (які толькі падпісаў гэты дакумент) на канферэнцыю ў МЗС Германіі (Берлін, 3 жніўня 1939 года). У ходзе гэтай канферэнцыі абодва дзеячы беларускай эміграцыі атрымалі абяцанні, што Германія «выступае супраць канцэпцыі адзінай і недзялімай Расіі». У далейшым гэтыя кантакты вельмі моцна паўплывалі на кар’еру Ермачэнкі ў нямецкай акупацыйнай адміністрацыі на тэрыторыі Беларусі. У кастрычніку 1941 года ён стаў прэзідэнтам Цэнтральнага савета Беларускай народнай самапомачы, а потым генеральным камендантам Корпуса беларускай самааховы.

Гэтыя заўвагі не зніжаюць навуковай каштоўнасці манаграфіі. Адна з асноўных задач, што стаіць перад сучаснымі гісторыкамі, — вярнуць спадчыну эміграцыі ў нацыянальную культурную скарбніцу».

*Соф'я МАРОЗАВА*

# АЛХІМІК

***Бываюць паэты дня і паэты ночы. Для адных свет раскрываецца ў гуках і колерах, у будзённых радасцях і расчараваннях. Для іншых ён прарастае з цішыні, з яе абсалютнай магічнай згушчанасці, праступае з першароднай цемры. Думаецца, да апошніх можна аднесці Уладзіміра Марука. Яго кніга «Кудмень» пабачыла свет у 2011 годзе, але засталася без належнай увагі крытыкі.***

«Кудмень» азначае амулет ці абярэг. Часам абярэгам робіцца слова, калі мае сілу. Паэзія Уладзіміра Марука настолькі насычана сімваламі, што закранае сілы зямлі і неба, душы і цэлага Космасу, — дакладней, існуе з імі ў суладдзі. Таму абраная назва пасуе ёй як найбольш.

Кніга складаецца з дзвюх частак — «Без я» і «Хоць і ноч, ды мая». Яны і вызначаюць асноўныя тэмы зборніка: жыццё душы і містыка часу (асабліва пары змяркання). «І вызнаны, здаецца, // Драбніцы, кроплі, кропкі, // І толькі застаецца // Спазнаць свой век кароткі». Філасофскі роздум патрабуе засяроджанасці, таму лірыка аўтара амаль уся медытатыўная. Тут няма звыклага чалавечага «эга», што змагаецца за ўяўныя ідэалы і губляе сябе ў ролях. У вершах Уладзіміра Марука душы ўдаецца быць сабой без «я»: быць «хвілінай, карою дрэва ці разгадкай снам». У зборніку ўражвае нязмушанасць радка і глыбокая (часам — да шчымлівага) повязь вобразаў, якія праз гэта набываюць вялікую моц.

Начны пейзаж — нярэдкая з'ява ў зборніку «Кудмень»: гэтая пара займае асаблівае месца ў аўтарскай іерархіі часу. Ноч-вераломніца. Ноч, калі «абыходзіць душу // Бог у паношаным фраку» (між іншым, у літаратуры фрак — атрыбут д'ябла). Ноч, увасабленнем якой паўстае «дзікі голас звера злога». Апошняя ноч. Ноч, ад якой лірычны герой прачынаецца, прысніўшы Хрыстова прышэсце.




Вырвуцца з рук хвіліны і паляцяць да зор.
Здыме ліхтар прад небам брыдкі свой капялюш.
Месяц звыкла мяняе свой абрыс і калёр,
Быццам зноў паўтарае постаці нашых душ.

Начное, гіпнатычнае, сакральнае — вось стыхія лірычнага героя. Пад яго вокнамі «штоночы мандрагора са стогнам расце», «мята з паўночы пахне, быццам апошні раз», а пах багуну такі, «бы свет нараджаецца знову». Ды і сам ён нярэдка паводзіць сябе бы ап'янёны раптоўным прасвятленнем шаман: звяртаецца з палкай прамовай да ўласнай крыві («***Кроў, ты наклічаш такія прыгоды»), на ўрок у клас прыносіць конскі чэрап — сімвал хтанічнай і жорсткай сутнасці свету («*** Я чэрап конскі прывалок у клас»); прызнаецца каханай жанчыне, што створаны ёю («а я ранейшы ўсё адно, а я такі, як ты стварыла»). Якой бы тэмы ні дакраналася ўвага аўтара, ён знаходзіць вобразы, што ўражваюць навізной. Часта ў іх

ёсць містычны акцэнт. Так, напрыклад, верш «Начная рака» — толькі з аднаго боку пейзажны, азначаны шэлестам чароту і звівамі ракі-валторны; з іншага — гэта ўвасабленне разлітага ў прыродзе Логаса. Паветра насычана «модламі з забытых вер», «а таямнічы свет ракі» чытае «начы санскрыт». Вобраз санскрыту паўстае і ў іншых вершах зборніка: «санскрыт вачэй», «зорка, што ўмее казаць на санскрыце»...

У многіх вершах Уладзіміра Марука духоўны і матэрыяльны светы працінаюць адзін аднаго, а малюнкі прыроды нагадваюць ірэальныя ландшафты. Таму іх можна аднесці да такой досыць рэдкай разнавіднасці пейзажу, як містычны пейзаж («Лес», «Пыл дарожны над полем», «Начная рака»). У містычнасці аўтара няма эзатэрычнай закрытасці, наадварот: лірычны герой нібыта чытае ў сабе як у раскрытай кнізе. І ўвесь свет, прырода для яго — кніга, напісаная на мностве моў (зёлкі, аблокі, рэкі, лясы...). Лірычны герой чуйны да словаў на гэтых мовах, здольны адрозніць іх сярод іншых гукаў.

Аўтар часта пераходзіць ад пачуццёвага да абстрактнага, а ў канцы вершаў нярэдка выводзіць філасофскі «іерогліф»: «рызыкоўна ведаць болей, чым даравана белым светам»; «Дзе пачынаецца няпраўда, Там і канчаецца бяссмерце». Зрэшты, філасофская скіраванасць не замінае яму ствараць і пранікнёныя малюнкі, «напісаныя някідкімі акварэльнымі фарбамі» (паводле Алеся Марціновіча) — «***Заначэла. І неба ў садку не відно», «У начным лесе», «***Дзень як дзень. Ды цямнець...» і іншыя.

Паэзію Марука можна з пэўнасцю назваць інтэлектуальнай. І не толькі таму, што некаторыя яго словы не ўваходзяць у агульнаўжывальны лексікон (дэцэмвіры, энцыкліка, крылас, таль...). Але найперш таму, што многія вобразы патрабуюць удумлівай інтэрпрэтацыі. Каб адчуць асалоду ад гэтых вершаў, трэба ведаць міфы старажытных цывілізацый, тэксты Бібліі і алхімічныя трактаты Сярэднявечча. Менавіта ў гэтым кантэксце раскрываюцца такія сімвалы, як акно, боская гліна, сон, свечка, род, павуцінне, звон, сякера, птушка (птах), дрэва (груша)... «Перад табою — свет вакна астрожны, а за вакном — хвіліна — як жыццё». Хіба не пра гэта казалі містыкі ўсіх часоў? Разам з тым, сімвалізм Уладзіміра Марука — гэта найперш прыкмета жывой повязі са светам. Аўтару бывае дастаткова ўсяго некалькі штрыхоў, каб перадаць гэта: «Выкрывае зіма нашы цёмныя лікі», «Птахі ў небе спыніліся, // Нібы ўбачылі снег», «Ля душы адзінокая груша // Выкрасае лістотай святло»...

Вершы Уладзіміра Марука поўняцца міфалогіяй. Гаргоны, цэрберы і васіліскі існуюць тут побач з вогнікам, хохлікам, русалкай. «Харон бліжэй, чым той аснач, Што па Дзвіне сплаўляў платы». Магчыма, персанажы сусветнай міфалогіі не заўсёды гарманічна ўпісваюцца ў вобразную сістэму вершаў. Напрыклад, у адным з самых моцных вершаў зборніка — «На ўзгорку» — паўстае настраёвы пейзаж, ахутаны атмасферай закінутага жытла: «дзве хаткі на ўзгорку, як птушкі на голым кусце»; «Між іх толькі два правады — // У дзікім тумане спрадвечнае лучнасці нервы»... Такое можна ўбачыць у мёртвых вёсках, дэталі пазнавальныя. Апошні ж акорд верша вырывае пейзаж з мясцовага каларыту — «у час пракаветны, як светлая мудрасць Мінервы»... Падобнае назіраецца і ў іншых вершах: камень — сын Гаргоны; Празерпіна ў доме юнацтва. У гэтым — эстэцтва, пэўны ўзвышаны лад мыслення. А магчыма, само асэнсаванне часу вымагае звароту да элінскай спадчыны?

Як усялякая таленавітая з'ява, паэзія Уладзіміра Марука большая за літаратуразнаўчыя трактоўкі. Але, думаецца, адно параўнанне будзе дарэчы. Вершы аўтара сугучныя па духу творам сімвалістаў — як пачынальнікаў накірунку (Шарль Бадлер, Поль Верлен, Арцюр Рэмбо), так і рускіх сімвалістаў канца XIX стагоддзя (Валерый Брусаў, Александр Блок, Вячаслаў Іванаў, Андрэй Белы). Сімвалісты абвострана адчувалі сакральнасць слова, яго здольнасць спасцігаць таямніцы светабудовы. «Асаблівая інтуіцыя і энергія слова, якое непасрэдна адчуваецца паэтам як надпіс невымоўнага, убірае ў сваё гучанне шматлікія невядома адкуль адбітыя водгуллі і як бы рэха розных падземных крыніц…» — так пісаў у праграмнай рабоце «Запаветы сімвалізму» Вячаслаў Іванаў. Гэтыя словы можна аднесці і да паэзіі Уладзіміра Марука, хоць ён, безумоўна ж, кіраваўся не «запаветамі», а прыродай свайго таленту, інтуіцыяй. Кожны, хто возьме ў рукі «Кудмень», зможа ў гэтым пераканацца.

Мікола МІКУЛІЧ

# ЖЫЦЦЁ ЯК МАРАЛЬНЫ ПОДЗВІГ

## *Лісты да Максіма Танка*

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваюцца шматлікія лісты да народнага паэта ад асоб самага рознага ўзросту і сацыяльнага статусу з просьбамі дапамагчы ў паляпшэнні жыллёвых умоў, выданні кнігі ці ўступленні ў Саюз пісьменнікаў, атрыманні ці падвышэнні пенсіі і гэтак далей. І на ўсё ці амаль на ўсё з іх Максім Танк адгукаўся. Прафесар П. Кузюковіч, які блізка ведаў выдатнага мастака, у сваіх успамінах слушна адзначае: «Захапляла надзвычайная прастата і дабрыня славутага паэта, што дазваляла многім людзям з розных раёнаў Беларусі звяртацца да яго асабіста і пісьмова з просьбамі аб дапамозе і абароне. І я не ведаю выпадку, калі б ён каму адмовіў у гэтым»[1].

Напрыклад, грамадска-культурнаму дзеячу Заходняй Беларусі Феліксу Стэцкевічу «у Літоўскім Мін. Соцаховы» «падсунулі думку пачаць захады аб атрыманні персанальнай пенсіі». У 1920—1930-я гады Стэцкевіч працаваў спачатку дырэктарам Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны, затым старшынёй Галоўнай управы Таварыства беларускай школы, рэдактарам часопіса «Беларускі летапіс» і быў добра вядомы маладому Максіму Танку. *«Паважаны Таварышу!* — звяртаўся ён да паэта 23 красавіка 1962 года. — *У тутэйшым Собесе насунулі мне думку прасіць аб прызнанні мне персанальнай пенсіі. З гэтай мэтай зварочваюся да Вас з прозьбай даць ацэнку, пакольку яна можа быць прыхільнай, аб маёй працы ў часе апошняга польскага панавання ў Заходняй Беларусі на грунце ТБШ. Магчыма Вы так жа ведаеце, што мне, як адвакату, здаралася бараніць сябраў ТБШ у палітычных справах, часам выяжджаючы на правінцыю — у Вялейку, Свіслач і іншыя суды. Мо Вы чулі нешта аб маёй папярэдняй працы ў беларускім культурна-вызвольным руху, пачатай яшчэ ў 1905 годзе, жывых удзельнікаў якой мне цяжка знайсьці. Тое, што Вы можаце пасведчыць, прашу пераслаць мне на рукі, каб я мог далучыць гэта да сваёй заявы ў тутэйшыя ворганы Соцаховы…*

*Мой адрас: Лит. ССР, Неменчине, Бирайский дом инвалидов»*[2].

Не дачакаўшыся адказу, 11 чэрвеня таго ж года Фелікс Стэцкевіч піша Максіму Танку другі ліст: *«Паважаны Таварышу! Ад Сергіевіча я чуў, што Вы сумняваецеся, каб Ваша апінія аб маёй грамадзкай працы магла мне памагчы. Тымчасам у Літоўскім Мін. Соцаховы, дзе мне падсунулі думку пачаць захады аб атрыманні персанальнай пенсіі, сказалі, што якраз Ваша апінія была бы карыснай для мяне ў гэтай справе. Калі не маеце іншых прычын адмовіць у маёй просьбе — так яшчэ раз прашу Вас здаволіць яе…*

*Мой адрас: Лит. ССР, Неменчине, Бирайский дом инвалидов»*[3].

Максім Танк «здаволіў» просьбу ветэрана айчыннага грамадска-культурнага руху, падрыхтаваў і выслаў кароткую станоўчую характарыстыку яго працы ва ўмовах Заходняй Беларусі. Пра гэта сведчыць наступны ліст Стэцкевіча, напісаны 27 чэрвеня 1962 года: *«Паважаны Еўгені Іванавіч! Шчыра дзякую за Вашу спраўку і пісьмо. Незалежна ад выніку дадзенай справы*

---

[1] Танк М. На камні, жалезе і золаце: успаміны, эсэ, прысвячэнні. Мінск: Маст. літ., 2012. С. 189.

[2] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Фонд 25. Воп. 6. Спр. 105.

[3] Тамсама.

*гэтыя дакументы даюць мне маральнае здаваленне; як ацэнка маёй грамадзкай працы з боку выдатнага як Вы прадстаўніка эліты нашай савецкай інтэлігенцыі.*

*З пашанай Ф. Стэцкевіч»*[1].

На тэму ўстанаўлення персанальнай пенсіі і ліст ад кіраўніцтва «Райсабеса чыгуначнага раёна г. Гомеля», які Максім Танк атрымаў у пачатку чэрвеня 1965 года. У ім гаварылася: *«У Райсабес чыгуначнага раёна г. Гомеля звярнулася гр-ка Дворнікава Марыя Антонаўна з просьбай прызначэння ёй персанальнай пенсіі за сына Дворнікава Мікалая Мікалаевіча і прынесла Ваш часопіс год выдання 37 ад красавіка 1959 г. старонка 154—155, дзе апісваецца пра гібель у рэвалюцыйным падполлі ў заходніх абласцях Беларусі Стаха Тамашэвіча — М. М. Дворнікава, а таму просім калі ў Вас ёсць якія-небудзь дакументы аб падпольнай дзейнасці Стаха Тамашэвіча — Дворнікава выслаць нам для вырашэння пытання аб прызначэнні яго маці персанальнай пенсіі, калі ў Вас дакументаў няма просім паведаміць адкуль іх можна атрымаць»*[2].

Максім Танк не мог выслаць дакументы «аб падпольнай дзейнасці Стаха Тамашэвіча — Дворнікава», таму што не меў іх. У заходнебеларускім падполлі ўсё ці амаль усё было засакрэчана, яго дзеячы працавалі пад партыйнымі клічкамі і псеўданімамі. Але я перакананы, што паэт, каб падтрымаць маці выдатнага рэвалюцыянера, з якім неаднойчы сустракаўся і гутарыў, выслаў у гомельскі райсабес сваю характарыстыку яго асобы і дзейнасці. Гэта не выклікае сумненняў.

М. Дворнікаў быў аўтарытэтным дзеячам народна-патрыятычнага руху ў Заходняй Беларусі. Ён працаваў сакратаром акружных камітэтаў камсамола, першым сакратаром ЦК КСМЗБ, непасрэдна кіраваў моладзевым падполлем у краі. М. Дворнікаў аказаў значны ўплыў на асобу і творчасць маладога Максіма Танка. Гэта шмат у чым па яго ініцыятыве паэт напісаў паэму «Кастусь Каліноўскі» (1938). Да асобы гераічнага рэвалюцыянера, які прымаў удзел у грамадзянскай вайне ў Іспаніі (камісар батальёна імя Палафокса ў інтэрнацыянальнай брыгадзе імя Я. Дамброўскага) і загінуў там, Максім Танк звяртаўся неаднойчы, у тым ліку і падчас нашых сустрэч і гутарак. Паэт з глыбокай павагай выказваўся пра свайго пабраціма па барацьбе за сацыяльную і нацыянальную волю. У 1978 годзе ён закончыў паэму «Мікалай Дворнікаў». З яе старонак паўстае яркі вобраз актыўнага і дзейснага падпольшчыка. Вось «шэф віленскай дэфензівы чытае сваім падначаленым агентам»:

…На допыце Лявады і Шчакалы,
Гардона, Забалоцкага і Скібы
Ніякіх звестак не ўдалося выбіць.
З іх двое падчас допыту сканала.
Аднак ад канфідэнта Стральчука
Вядома: Роберт, Пётр,
Максім — той самы
Важак падпольны, сакратар ЦК,
Што ў Вільні яўкі меў ля Вострай брамы,
Што з Каплан Навасёлкі ўзбунтаваў,
На штурм чырвоны Кобрыншчыну ўзняў
І штрэйкаваў з ткачамі Рэмбертова.
Калі ж яго быў затрымаў патруль,
Ён абяззброіў двух пастарунковых
І скрыўся дзесь на нейкі час, пакуль
На Віленшчыне зноў мы не адчулі
Яго прысутнасць…»[3]

Трэба сказаць, сваімі даведкамі-характарыстыкамі Максім Танк, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і СССР, старшыня Вярхоўнага Савета БССР, народны паэт і старшыня Саюза пісьменнікаў БССР, падтрымліваў шмат каго са сваіх былых сяброў і знаёмых па народна-патрыятычным руху ў былой Заходняй Беларусі. Што характэрна, іх, гэтых даведак-характарыстык, было дастаткова для прыняцця юрыдычнага рашэння аб прызначэнні пенсій, устанаўленні пэўных форм сацыяльнай дапамогі, ільгот і іншага. Напрыклад, Максім Танк выслаў даведку быламу народнафронтаўцу Мартыну Шчакалу наступнага зместу: *«Тав. Мартына Мартынавіча Шчакалу я ведаю па сумеснай*

[1] Тамсама.

[2] Тамсама. Воп. 3. Спр. 203.

[3] Танк М. Збор твораў: у 13 т. Мінск: Беларус. навука, 2008. Т. 7: Паэмы. С. 220—221.

*працы ў рэвалюцыйна-вызваленчым руху ў былой Заходняй Беларусі.*

*У 1933—1936 гг. ён быў актыўным членам падпольнай маладзёжнай студэнцкай камуністычнай арганізацыі «Фронт», быў супрацоўнікам газеты народнага фронту «Папросту», якая выдавалася ў г. Вільня, за што не раз польскім буржуазным урадам падвяргаўся праследаванням і рэпрэсіям.*

*Даведка дадзена тав. М. М. Шчакалу ў сувязі з яго хадайніцтвам аб прызначэнні яму пенсіі»*[1].

Мы ведаем, што якраз гэты дакумент з'явіўся падставай для прызначэння пенсіі былому дзеячу заходнебеларускага падполля.

Даволі часта з living розных нагоды звяртаўся да Максіма Танка Сяргей Новік-Пяюн. Напрыклад, у лісце, напісаным 23 сакавіка 1988 года, ён паведамляў народнаму паэту: *«Глыбокапаважаны, дарагі Яўген Іванавіч. У нядзелю, 27 сакавіка 1988 года, а гадзіне 16.15 па Першай праграме Беларускага радыё радыёстанцыя «Арляняты» ў рубрыцы «Зямля бацькоў нашых» перадасць нарыс беларускага пісьменніка Яраслава Сільвестравіча Пархуты п.н. «АДЫСЕЯ МАЛАДОГА ДЗЯДКА». (Малады Дзядок — гэта адзін з маіх літаратурных псеўданімаў.) Калі будзеце мець час і жаданне, калі ласка, паслухайце гэтую перадачу, буду Вам шчыра ўдзячны.*

*З сардэчным прывітаннем, глыбокай пашанай і ўдзячнасцю ўсім сэрцам Ваш Сяргей Новік-Пяюн»*[2].

Мы ведаем, што Максім Танк слухаў нарыс Я. Пархуты «Адысея Маладога Дзядка», званіў С. Новіку-Пеюну, дзяліўся з ім уражаннямі ад цікавай перадачы.

Адразу па выхадзе свайго зборніка твораў «Песні з-за кратаў» (1993) Сяргей Новік-Пяюн даслаў яго Танку. Праз пэўны час народны паэт карэспандаваў: *«Мінск. 12.IX.93. Дарагі Сяргей Міхайлавіч. Дзякую за памяць і зборнік Вашых цікавых вершаў: «Песні з-за кратаў». Вершы напісаны шчыра і проста, без ніякіх модных выкрутасаў. І ў гэтым — іх грамадская і мастацкая вартасць. Яны не выветрываюцца, як пух, з памяці і да іх мы часта вяртаемся ў трывожныя хвіліны жыцця, можа, таму, каб сказаць сабе: «Бачыш, праз якое пекла прайшлі наш народ і яго паэт і — не здаліся».*

*З найлепшымі пажаданнямі Максім Танк»*[3].

Звяртаюць на сябе ўвагу лісты да Максіма Танка многіх беларускіх пісьменнікаў. Вось пісьмо з Радашковіч ад Адама Мальдзіса. *«Многапаважаны таварыш Танк!* — звяртаўся ён 13 лістапада 1958 года. — *Работнікі нашай газеты з вялікай цікавасцю сустрэлі і прачыталі Ваш артыкул у «Полымі». Тую частку, якая датычыцца Радашковіч, мы перадрукавалі (нумар высылаем).*

*Нам вельмі хацелася б (ды і ўсім радашкаўчанам) устанавіць з Вамі больш трывалую сувязь. Калі б Вы далі на гэта згоду, мы арганізавалі б канферэнцыю чытачоў з Вашым удзелам. Мы былі б вельмі Вам удзячны, калі б Вы таксама прыслалі нам для апублікавання новы верш.*



[1] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Фонд 25. Воп. 5. Спр. 540.

[2] Тамсама. Спр. 241.

[3] Хатні архіў Сяргея Новіка-Пеюна.

*І яшчэ адно: хто з'яўляўся кіраўніком падполля ў гімназіі? Мы вельмі хацелі б больш падрабязна паказаць той перыяд. На жаль, мясцовыя пошукі нічога не даюць. Можа Вы навялі б нас на шлях пошукаў.*

*З павагай да Вас*
*Ад імя рэдакцыі — сакратар*
*А. Мальдзіс»*[1].

А гэта Ніна Тарас чакае дапамогі ў справе выдання кнігі вершаў «У тапаліную замець» і зборніка з серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі», што непасрэдна ўплывае на афармленне яе пенсіі. *«Максім, дружа!* — пісала яна 7 ліпеня 1971 года. — *Ты ведаеш, што я звяртаюся да цябе толькі ў самыя цяжкія мінуты. Вось так і цяпер…*

*У свой час я дакладвала табе ў пісьмовай форме як першаму сакратару праўлення СП БССР аб тым, з якімі цяжкасцямі выдавецтва «Беларусь» выпускала з друку зборнікі маіх вершаў. Дадам яшчэ, што на 1969 год у праекце плана знаходзіліся дзве мае кніжкі: зборнік новых вершаў «У тапаліную замець» і зборнік па серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». Але з плана і яны былі выкраслены.*

*У тыя цяжкія для мяне дні я ўзяла ў літфондзе пазыку ў суме 300 руб. з разлікам, што пагашу яе з ганарару за новыя кніжкі. Але паколькі кніжкі надрукаваныя не былі, то пазыкі гэтай я не змагла пагасіць і па сённяшні дзень. У выніку — колькі прыйшлося мне перажыць непрыемнасці, уніжэння!.. Работнікі літфонда не толькі напаміналі мне, але і ўшчувалі, і сарамацілі, нарэшце рашылі справу аформіць у суд. Як злоснага неплацельшчыка маё прозвішча было зачытана на VI з'ездзе пісьменнікаў БССР. Канешне, ніякай крыўды на работнікаў літфонда я мець не магу. Але наогул — крыўда ў душы асталася, вельмі вялікая, балючая чалавечая крыўда».*

*«Але бліжэй да справы,* — працягвала Н. Тарас. — *З 15 мая гэтага года я маю права атрымліваць пенсію. Аднак каб яе аформіць, мне ўсё ж такі неабходна выпусціць з друку ўпамянутыя вышэй кніжкі (або аб'яднаныя ў адну — калі гэта аблегчыць справу выдання). Сам разумееш, што я зацікаўлена, каб яны выйшлі па меры магчымасці хутчэй і прашу цябе падтрымаць мяне ў гэтым. Адпаведна пішу заяву ў Прэзідыум. Аднак, улічваючы гісторыю з «Бацькаўшчынай» (ты помніш?), я не ўпэўнена, ці варта падымаць гэтае пытанне на Бюро. Магчыма, раней варта пагаварыць з Рыгорам Васільевічам Канавалавым. Асабіста я гаварыла з ім крыху ў час з'езда пісьменнікаў. Зборнік новых вершаў ён адразу згадзіўся выдаць, а вось адносна выбраных абяцаў падумаць і пазваніць. Званка не было, і я думаю па-рознаму. Канешне, каб Рыгор Васільевіч разумеў маю сітуацыю, то падтрымаў бы мяне, але я не магу расказаць яму ўсяго падрабязна так, як расказваю табе, ведаеш, як цяжка гаварыць пра сябе, асабліва калі справа непрыемная. Будзь ласкавы, пагавары ты сам з Рыгорам Васільевічам. Між іншым, ён таксама не раіў мне падымаць справу выдання маіх твораў на Прэзідыуме. Пра ўсё іншае ён не ведае — я не гаварыла яму.*

*Буду спадзявацца, што і ты, і іншыя таварышы зразумеюць мяне і падтрымаюць»*[2].

Ніл Гілевіч просіць, «калі надарыцца магчымасць, замовіць слова», каб нарэшце выйшла яго кніга ў Маскве ў выдавецтве «Советский писатель». *«Дарагі Яўген Іванавіч,* — звяртаўся ён да Максіма Танка 30 студзеня 1968 года, — *хачу Вам коратка сказаць пра тое, што не змог сказаць у Мінску. Вельмі прашу прабачыць, што гэта будзе просьба, я і сам не дужа здатны на просьбы, але тут ужо вымушаны падаць голас, пачуўшы сябе моцна пакрыўджаным. Вам ужо Іван Антонавіч гаварыў, што за справа ў мяне. Я дадам трохі да яе гісторыі. Упершыню па рэкамендацыі СП БССР у 1962 г. я быў паслаў рукапіс вершаў у «Сов. писатель», з пісьмом, падпісаным І. Шамякіным. Рукапіс вярнулі з агульным заключэннем — патрабуецца дапрацоўка (рэцэнзент Л. Бяць). Дапрацоўка, дык дапрацоўка. Праз два гады зноў пасылаю рукапіс — дапрацаваны, дапоўнены, абноў-*

[1] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Фонд 25. Воп. 2. Спр. 93.

[2] Тамсама. Воп. 4. Спр. 191.

*лены. Вярнулі з прыпіскай «рукопись опять не состоялась» (рэцэнзент Г. Салаўёў). У пачатку мінулага года І. П. Мележ і І. А. Брыль кажуць: «складаем рэкамендацыйны спісак для «Сов. писателя», уключылі цябе — пасылай неадкладна рукапіс». І чорт жа мяне падштурхнуў — паддаўся на спакусу, хаця ўжо быў супакоіўся, рашыўшы, што ніколі больш не звярнуся ў гэта выд-ва. Паслаў рукапіс зборніка, нанава састаўленага, пераважна з вершаў апошніх гадоў. І вось — сам І. Шамякін прывёз мне вестку, што ўжо ёсць адмоўная рэцэнзія і на гэты рукапіс. Рэжуць у трэці раз. Я амаль пераканаюся, што гэта ўжо нейчая «работа», не верыцца, што гэта выпадкова. І от ад гэтай думкі больш за ўсё крыўдна. Калі нават і не так, дык усё роўна — дужа нявесела ад думкі, што ты нявартый нават маленькай кніжыцы ў выд-ве пісьменнікаў, што ты горшы за ўсіх, якія выдаюцца там. Агіднае пачуццё, лепш бы не гаварыць аб гэтым. Адным словам, шкадую, што паслаў рукапіс зноў, але цяпер трэба ўжо нешта рабіць, каб як-небудзь ратаваць кніжку. От я і хачу папрасіць Вас, калі надарыцца магчымасць, замовіць слова, каб гэта несправядлівасць не была дапушчана. Я не ведаю, ад каго там усё залежыць, адказы мне падпісаны Г. Рэгістанам. Яны якраз цяпер складаюць (утрасаюць) план 1969 года, — год, юбілейны для Беларусі, відаць, крыху больш дадуць беларусам месца.*

*Выбачайце, што лезу з бядой сваёй, і загадзя дзякую, калі прымеце яе да сэрца»*[1].

Сур’ёзныя пытанні Ніл Гілевіч задаваў Максіму Танку, старшыні Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР, у лісце ад 12 жніўня 1980 года.

*«Паважаны Яўген Іванавіч!*

*Прэзідыум Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі вылучыў на Дзяржаўную прэмію БССР 1980 года дзве мае кнігі: зборнік вершаў «У добрай згодзе» і кнігу перакладаў з балгарскай «Сто гадоў, сто паэтаў, сто песень», прысвечаную стагоддзю вызвалення Балгарыі Расіяй. У апублікаваным у газетах спіску аказалася чамусьці толькі адна кніга — «У добрай згодзе», а другую Камітэт адхіліў. Паколькі за адхіленай кнігай — 25 гадоў маёй працы ў галіне мастацкага перакладу і па ўмацаванні савецка-балгарскай дружбы, натуральна, што такое рашэнне Камітэта ўспрынята мной як адпаведная ацэнка, якую ён даў кнізе і ўсёй маёй перакладчыцкай працы, не даўшы магчымасці чытачам, грамадскасці выказаць сваю думку і ацэнку. Рашэнне Камітэта тым больш здаецца мне незразумелым, што ў спіску засталіся кнігі перакладаў іншага аўтара, ды і раней былі вылучэнні перакладных кніг і прысуджэнні за іх прэмій (або за адны пераклады, як А. Куляшову, або за ўласную творчасць і пераклады разам, як Р. Барадуліну).*

*Прашу даць афіцыйнае растлумачэнне, па якіх матывах не дапушчана да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР 1980 года мая кніга «Сто гадоў, сто паэтаў, сто песень»*[2].

Даволі складаныя праблемы — у лістах рускамоўнага паэта Юрыя Фатнева. *«Я закончыў пятнаццацігадовую працу над зборнікам вершаў «Шумяць беларускія сосны», —* паведамляў ён Максіму Танку. — *Раней ці пазней ён трывала ўвойдзе ў жыццё людзей, як вершы Сяргея Ясеніна, Паўлюка Труса.*

*Я стаю перад іншай цяжкай работай: мне неабходна паўтарыць свет, пра які я расказаў, у фарбах. З дзяцінства марыў пра жывапіс. Карацей кажучы, па-ранейшаму не маю намеру займацца справай, зарабляць грошы».*

І далей: *«Прашу Саюз пісьменнікаў дапамагчы мне ў адным — атрымаць у Гомелі аднапакаёвую асобную кватэру. Яна мне патрэбна не для таго, каб запаўняць яе тэлевізарам, халадзільнікам, жонкай і іншым глупствам. Яна неабходна для працы. Задумана даўным-даўно Кніга пра мастакоў-пейзажыстаў (Міллу, Шышкіна, Тэадора Русо).*

*Я не магу адмовіцца ад ажыццяўлення сваіх задум толькі па той прычыне, што мне собіла нарадзіцца ў стагоддзі, калі людзі жывуць, як у байцы Крылова (Гаўрылкін*

[1] Тамсама. Воп. 6. Спр. 64.

[2] Тамсама. Воп. 5. Спр. 184.

*піша кнігі, а Фатнеў павінен адмовіцца ад таго, дзеля чаго нарадзіўся).*

*Прабачце за тон пісьма. Па крайняй меры ў Беларусі я паважаў і паважаю чатырох паэтаў, канечне, за вершы і не хацеў бы, каб яны думалі пра мяне кепска»*[1].

Атрымаўшы ліст у адказ з паведамленнем пра хадайніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі аб вырашэнні свайго жыллёвага пытання, 24 чэрвеня 1972 года Юрый Фатнеў пісаў народнаму паэту: *«Вялікі дзякуй Вам за пісьмо. Я рады, што Танк застаўся Танкам для мяне, Вас жа я прывык паважаць з дзяцінства, калі ўпершыню чытаў Вашы кнігі.*

*Прашу прабачыць за тое, што я вымушаны быў непакоіць Вас па такому дробязнаму пытанню, якое мог бы вырашыць пры жаданні сакратар Абкома.*

*Незалежна ад таго, як будзе вырашана маё жыллёвае пытанне, я буду заўсёды ўдзячны Вам за тое, што Вы пакінулі мне права паважаць Вас, верыць у тое, што чалавек на любой вышыні можа застацца чалавекам»*[2].

Несумненна, звяртае на сябе ўвагу ліст Юрыя Фатнева ад 10 ліпеня 1972 года. У ім паэт апеляваў да Максіма Танка ў надзвычай вострай форме.

*«Я ведаю Вас толькі па кнігах,* — падкрэсліваў Фатнеў, — *не маю права папракаць вялікага паэта, спрачацца з ім ды і смешная для Вас спрэчка з чалавекам, якога Вы не прачыталі і не можаце прачытаць ніводнага радка, таму што кнігі мае не выдадзены.*

*Я напісаў зборнік вершаў, які мне дае падставы гаварыць, што пасля Ясеніна і Блока ніхто не пісаў лепш за мяне на рускай мове. Я пісаў яго доўга, калі жыў на пяць рублёў у месяц, калі смерць мне здавалася вялікай раскошай, якую пакуль я не маю права сабе дазволіць. Пісаў усе гады. А ў зборніку 100 вершаў.*

*Ведаю, дзе канчалі лепшыя паэты пры савецкай уладзе, калі тупыя фашыствуючыя чыноўнікі вызначалі, жыць паэту ці памерці. Ведаю і не думаю, што мяне і мой зборнік сустрэнуць інакш.*

*Але я зрабіў яго. Далей распараджаюцца іншыя».*

Ніжэй ён пісаў: *«Доўгі час, усе гады жыву ў лесе, начую на прыватнай кватэры. Па сваім характары не магу пераносіць чалавечае г. зн. піцекантрапскае грамадства. Нават хвіліна вымушаных зносін з якім-небудзь чалавекам атручвае маю свядомасць надоўга.*

*Некалькі разоў звяртаўся да Вас, відаць, не ў тым тоне, на якім гавораць людзі Вашага кола. Тапелец не клапоціцца аб тым, каб яго голас быў прыемны будучаму выратавальніку. Вы прайшлі міма. Зрабілі не як паэт, якога я паважаю за кнігі, а як чалавек, які, мяркуючы па гэтым учынку, мог бы і не напісаць Вашых кніг.*

*У мяне няма даху над галавой. Прашу Вас пазваніць ці напісаць мясцовым сволачам у Абком ці ў Аблвыканком. У Вас жа дастаткова званняў, славы, аўтарытэту, каб любы чыноўнік паслухаўся паэта.*

*Калі маё пісьмо Вам падасца назойлівым ці зневажальным, дык рабіце, як палічыце патрэбным.*

*У мяне няма выхаду, няма больш сіл знаходзіцца ў тых умовах, у якіх я жыву. Нават гэты ліст я доўга не мог напісаць. Ішоў дождж. Вось зараз ён толькі заціх і я сеў на чамадан, раскрыў сшытак.*

*Я пакончу з сабою. Няхай гэта будзе напярэдадні 50-годдзя СССР. Я вінаваты ў адным, што не магу выехаць з Беларусі. У любым месцы мне далі б жыллё. Калі я паехаў у Бранск, мне сталі прасіць кватэру, а я не змог жыць там, хаця там вельмі добра да мяне аднесліся. І саюз пісьменнікаў і Абком партыі. А тут «Нёман» друкуе былога здрадніка. У Гомелі выкладае ва ўніверсітэце здраднік. І гэта ў Беларусі? Дзіўнае, дзікае становішча.*

*Ізноў дождж.*

*Прашу Вас, калі не ляжыць у Вас інструкцыя аб тым, што Юрыя Фатнева трэба знішчыць, то дапаможыце атрымаць кватэру ў гэтым месяцы.*

*Інакш я зраблю тое, да чаго мяне штурхае ўвага гомельскага Абкома і г.д.*

---

[1] Тамсама. Воп. 3. Спр. 83.

[2] Тамсама.

*З павагай да Вашых вершаў, а Вас я не ведаю»*[1].

Ліст Юрыя Фатнева да Максіма Танка ад 9 кастрычніка 1972 года напісаны пасля атрымання паэтам кватэры ў Гомелі. Аднак і ён далёкі ад усчуленай лагоды і ціхамірнага спакою. Дасылаючы на разгляд Танку свой зборнік вершаў («лепшая кніга ў рускай літаратуры пасля смерці Ясеніна»), Фатнеў скардзіўся яму на матэрыяльна-бытавыя праблемы, на тое, што яго творы па-ранейшаму не друкуюцца ў перыёдыках і выдавецтвах.

*«Паважаны Яўген Іванавіч!*

*Вялікі дзякуй Вам, што Вы ўмяшаліся і я атрымаў кватэру. Гэта вельмі важна для мяне не толькі таму, што я цяпер маю магчымасць пісаць, але яшчэ і таму, што Вы так зрабілі, не ведаючы, ці варты я Вашай увагі.*

*17 гадоў назад быў у Беларусі апублікаваны першы мой верш. З таго дня па сённяшні я бесперапынна пісаў па 5—30 вершаў у дзень. Я напісаў многія тысячы вершаў. Не маючы кватэры, я вывозіў іх у лес і спальваў. Але тое, што засталося, уяўляе такую гару, што я адчуваю сябе альпіністам, на якога валіцца лавіна.*

*Я прапусціў усё міма. Адным уяўляюся фанатыкам, іншым чалавекам, які не хоча працаваць. Паўтараю, я пісаў і пішу па 5—30 вершаў у дзень. Я не ў стане выключыць сябе з рытма, у якім жыў 17 гадоў. Нават у сне я бесперапынна пішу, шукаю рыфмы, сюжэты, перажываю, што нават у сне мае вершы адхіляюць і г. д.»*

І ніжэй: *«Упершыню я зрабіў адбор. На перадрукоўванне ў мяне няма грошай. Усё аднёс, што можна здаць, букіністам. Засталіся «Жураўліны ключ» і Кнігі, падораныя Маршаком. Няма ў мяне і знаёмых, у якіх я мог бы пазычыць хоць рубель.*

*Ёсць вершы, якія пасылаю Вам. Я нават па газетах ведаю, як Вы заняты, і ўсё ж пасылаю свой зборнік, таму што не часта сустракаюцца людзі на Зямлі.*

*Мая адкрытасць заўсёды нішчыла мяне. Але калі б мяне нават расстрэльвалі за мае словы, я б сцвярджаў, што «Русалачка» — лепшая кніга ў рускай літаратуры пасля смерці Ясеніна.*

*Гэта ці праўда ці вар'яцтва. З дзяцінства ведаю вашы «Ляжаць пакошаныя травы», «Плывуць стругі», «Сон над Нёмнам». Веру, што такі вялікі паэт не зможа памыліцца пры ацэнцы. Іншым я проста не паверу.*

*І яшчэ аб адным. Некалькі месяцаў я не маю грошай. Жыў на тое, што здаваў кнігі ў магазін. Кніг больш не засталося. У маёй кватэры няма ніводнай табурэткі, няма коўдры, паліто. Няма надзеі, што ў Гомелі нешта надрукуюць. Жыву таму, што няма нагана. Іншыя спосабы спрабаваў — выжыў і баюся, што давядзецца ўсё паўтарыць.*

*Не закончаны раман «Палітручонак», кніга дзіцячых аповесцей і апавяданняў. У такіх умовах я рашаюся пасылаць вынік сваёй семнаццацігадовай працы Максіму Танку.*

*Прашу не злавацца, што непакою Вас. Перакананы, што «Русалачка» — сапраўды паэзія. Хацеў бы жыць, каб завяршыць астатняе. Як зрабіць — не бачу выхаду.*

*Жадаю Вам прынамсі яшчэ шэсцьдзесят гадоў, таму што Вы — чалавек для людзей»*[2].

Вострую палемічную форму мае наступнае пісьмо Юрыя Фатнева. *«На мае лісты аб выданні зборніка вершаў у Беларусі,* — адзначаў ён, звяртаючыся да Максіма Танка, — *я не атрымаў адказу. Пісаў Вам і Анатолю Грачанікаву. Затое сёння Лёнька Гаўрылкін паведаміў мне Вашы словы: «Пашліце яму вяроўку для бялізны». Дарагі Максім Танк, я жыву пры савецкай уладзе, а гэта значыць, што для мяне — паэта куля знойдзецца, а не толькі вяроўка для бялізны, якую Вы раіце мне паслаць. Я разумею, што калі б я быў беларусам, Вы б не ўжылі такі выраз. А Вы паэт не толькі беларускі і ведаеце гэта выдатна. Паважаючы Вас, хачу сказаць, што не робяць гонару Вам такія словы, калі б Вы былі хоць Прэзідэнтам Млечнага Шляху. Я кепска ведаю людзей, таму што амаль ніколі не меў зносін з імі. Ведаю, што існуюць не толькі словы, падобныя да тых, якія Вы*

[1] Тамсама.

[2] Тамсама.

*сказалі, але і дзеянні — даносы, хлусня, забойствы па заданні, аб'яўленне ворагам народа таго, хто ніколі з яго не выходзіў і многія іншыя, чым адрозніваецца наш век ад папярэдніх. Я гатовы да ўсяго, таму што жыву ў злачынны час, калі гонар, талент, вернасць радзіме не патрэбны, хаця і дэкларуюцца тымі, хто хоча зрабіць кар'еру.*

*Быць падонкам не магу, не магу прыстасоўвацца да Лёнькаў Гаўрылкіных і здаецца нічым не заслужыў Вашых слоў: «Пашліце яму вяроўку для бялізны.*

*У мяне два недахопы,* — падкрэсліваў Фатнеў: *— я не знаходжуся ў партыі і не з'яўляюся шпікам арганізацыі, якая знішчыла ў 37 г. лепшых паэтаў, аддадзеных радзіме, але нежаданых прыдуркаватым, якія стаяць ва ўладзе.*

*Я — лепшы рускі паэт у краіне. Можа, прышляце мне дагавор на выданне зборніка, а не вяроўку для бялізны?»*

Далей ён пытаўся: *«Што ж Вы, Максім Танк, у сілах зрабіць для мяне, што вы выбераце для мяне? Толькі не трэба, каб мне адказваў Анатоль Грачанікаў. Я не хачу гэтага добрага хлопца лічыць сваім ворагам. Ды і не трэба Вам траціць для мяне больш за тыя словы, якія Вы ўжо сказалі.*

*Калі вырашыце, што Кніжка ў 73 г. не пойдзе, вышліце рукапіс на мой адрас і ўсё.*

*Буду лічыць, што адказ атрымаў.*

*А наконт вяроўкі вось што хачу сказаць напаследак: многія варты яе ды забраліся вышэй за любую пятлю і савецкую ўладу і толькі паэты, пісьменнікі не варты яе, таму што само жыццё сціскае горла так, што кожнае вымаўленае слова роўна подзвігу і да яго трэба адносіцца з павагай.*

*Ёсць у мяне вершы, якія даюць мне права на павагу, на чалавечныя адносіны да сябе, хаця я не начальнік, не шпік і г. д.*

*Беларусь — для мяне такая ж радзіма, як і для Вас, а мяне не друкуюць, таму што я — рускі. Гэта дзіка, але законна.*

*Савецкая ўлада існуе для бяздарных тупіц накшталт Лёнькі Гаўрылкіна. Чаму мяне не друкуюць?*

*Што я Крэмль спрабаваў узарваць ці беларускую мову вынішчыць?*

*І Крэмль, і беларуская мова не выклікаюць ува мне такіх жаданняў. Дык чаму ж Вы, Танк, Шамякін, Мележ, сапраўдныя пісьменнікі не толькі для мяне, такія цярпімыя да бяздарнасці і такія раўнадушныя да людзей, якія ўсё жыццё ператварылі ў вершы.*

*Вы што думаеце, так толькі да рускіх аўтараў адносяцца ў Гомелі? Усе, хто нежаданы гэтаму «цяжарнаму мужчыне», як выказаўся Давід Бурлюк пра Лёньку Гаўрылкіна на заранку туманнага юнацтва, усе не маюць магчымасці друкавацца. Што гэта за пуза такое, якое ператварылася ўжо ў кітайскую сцяну?*

*Ёсць жа Сяркоў, Даніленка. Чаму яны не кіруюць гомельскім аддзяленнем пісьменнікаў?»*

І яшчэ: *«Я прашу Вас не раіць Лёньку Гаўрылкіну, што мне прысланць. У дзень, калі мне перадалі Вашы словы, мне споўнілася 35 гадоў. За гэтыя гады я ўпершыню атрымаў магчымасць купіць стол і два крэслы і я ўдзячны Вам за кватэру, Ягораву за магчымасць закончыць першую празаічную кнігу, у якую ўваходзяць аповесць «Палітручонак» і дзевяць апавяданняў.*

*Вы для мяне не толькі аўтар парады, дадзенай Гаўрылкіну, а перш за ўсё — такіх вершаў, як «Готыка «Святой Анны».*

*Добрыя словы начальству не кажуць, таму што нават нягоднікі ад іх маюць выйгрыш.*

*Я хачу, каб пра мяне меркавалі не па словах Гаўрылкіных, а па вершах. У нас ніколі не мяркуюць па вершах, таму так цяжка гаварыць мне з Вамі, даказваць свае права на Кнігу. Сорамна мне савецкаму чалавеку даказваць, што я савецкі чалавек. Іншай мадэлі ладу ў мяне няма і не магу я быць безідэйным...*

*Адказ дайце. Не хачу пісаць у ЦК. Хачу, каб пісьменнікі вырашалі лёс маёй кнігі»*[1].

Зразумела, што такое пісьмо не магло застацца без адказу народнага паэта Беларусі. 14 лютага 1973 года Максім Танк напісаў ліст Юрыю Фатневу, у якім падкрэсліваў неабгрунтаванасць абраз і пагроз паэта, тлумачыў, што Саюз пісьменнікаў імкнецца дапамагчы яму.

[1] Тамсама.

*«Паважаны тав. Фатнеў!*

*У Вас з тав. Гаўрылкіным, здаецца, старая «дружба» і канфлікты, у якія не маю намеру ўмешвацца і не раю без маёй згоды ўцягваць мяне ў гэтыя справы, хоць Вы — «выдатны паэт краіны» і часта дазваляеце сабе абражаць людзей, якія Вам стараюцца дапамагчы.*

*Сёння я яшчэ раз гаварыў з тав. Ткачовым. Прасіў яго, каб ён, як дырэктар выдавецтва, пацікавіўся лёсам Вашай кнігі, якая зараз знаходзіцца ў загадчыка аддзела паэзіі тав. Паўлава. Зараз раіў бы Вам перапісацца з ім. Адрас выдавецтва «Маст. літ.»: Мінск, Савецкая 19. Што да грашовай дапамогі дык Вы яе атрымалі не па нейчай ласцы, а па пастанове Саюза пісьменнікаў [якую мы прынялі], якая была прынята пасля Вашага папярэдняга пісьма, у якім таксама было шмат неабаснаваных і пагроз і абагуленняў [Спадзяюся, што Вы мяне звольніце] ад прыкрай [ад дальнейшай падобнай] перапіскі з Вамі. [што да мяне, прасіў бы Вас звольніць мяне ад дальнейшай прыкрай...].*

*Максім Танк»*[1].

У красавіку 1981 года пры падтрымцы ЦК КПБ у Мінску праходзіў VIII з'езд Саюза пісьменнікаў БССР. Гэта быў час стагнацыі сацыялістычнай сістэмы — застойныя з'явы ў грамадска-сацыяльным жыцці вялікай краіны знаходзіліся ў стадыі свайго росквіту. Выступленні на з'ездзе ў асноўным нагадвалі рэпартажы пра суцэльныя адкрыцці, дасягненні і поспехі, што абумовіла ўзнікненне шэрагу вострых пытанняў, пададзеных у прэзідыум старшыні Саюза Максіму Танку. У іх ставіліся важныя і актуальныя праблемы злоўжыванняў пры выданні кніг, якасці мастацкіх твораў, перакладчыцкай дзейнасці ў рэспубліцы, вывучэння беларускай літаратуры ў вышэйшых навучальных установах і сярэдніх школах і іншае.

*«Праслухаўшы ўсе даклады,* — гаварылася ў адной з запісак, — *кожнаму стала ясна, што ўся пісьменніцкая арганізацыя складаецца толькі з выключных талентаў. Вельмі крыўдна будзе Мішчанчуку, які, не з'яўляючыся членам Саюза, аказаўся адзіным, каго пакрытыкавалі канкрэтна. Няўжо толькі ў яго работах назіраюцца недахопы, а ўсё астатняе ў крытыцы і літаратуразнаўстве ідэальнае, такое, што і камар носа не падточыць...»*[2] Запіска без подпісу, але мы ведаем: яе аўтарам з'яўляецца вядомы мовазнаўца і пісьменнік Фёдар Янкоўскі. Нібы дапаўняючы і развіваючы яго назіранні і ўражанні, іншы ўдзельнік з'езда адзначаў наступнае: *«Пасля такіх выступленняў чытачы агулам ідуць у кнігарні ў пошуках твораў гэтых пісьменнікаў ці паэтаў і, набыўшы іх (ці не набыўшы — бо і кнігі бывае яшчэ няма), лічаць, што гэта лепшыя ўзоры беларускай сучаснай літаратуры, пакуль не пачытаюць гэты твор, а як пачытаюць, то кажуць, што гэта вельмі нецікава і г.д. Просяць рускіх аўтараў...»*

І далей: *«Чаму бюро прапаганды на творчыя паездкі, выступленні запрашае ў асноўным адных і тых жа аўтараў (сярод якіх вельмі часта трапляюць не надта цікавыя асобы, не надта таленавітыя аўтары).*

*Пажадана было б, каб мы дажылі да часу, — выдаў аўтар кнігу, паступіла яна ў продаж, разыйшлася і толькі тады аўтар атрымаў свой ганарар ці нейкую (напрыклад, 50%) долю яго. Кажуць, гэтая ўзаемасувязь — кніга — кнігарня — чытач — ужо існуе ў Прыбалтыцы.*

*Можа, тады творы выходзілі б больш якаснымі і розным графаманам, плагіятам і г. д. не было б месца і не карцела выдаваць штогод па 2—3 кнігі, якія збывае кнігарня с приложением г. зн. кніга на бел. мове + добрая, цікавая кніга на рускай мове»*[3].

Па ўсім відаць, ён быў добра дасведчаны ў многіх аспектах літаратурна-мастацкай дзейнасці ў рэспубліцы, прыйшоў на з'езд з шэрагам канкрэтных прапаноў і рэкамендацый, накіраваных на паляпшэнне работы Саюза пісьменнікаў. Як можна меркаваць, яго моцна хвалявалі асаблівасці працы беларускіх перакладчыкаў. *«У выступленні Я. Сяміжона было сказана,* — заўважаў

[1] Тамсама. Спр. 54.

[2] Тамсама. Спр. 408.

[3] Тамсама.

дэлегат з'езда, — *што трэба паменьшыць пераклады з моў (казахскай і г. д.), якія зусім не цікавяць сучаснага чытача. А т. Дзялец сказаў, што пераклады будуць на 21 назву павялічаны. Хацелася б ведаць: навошта? З якіх моў?*

*Чаму перакладчыкі амаль не цікавяцца, ці дайшла іх кніга да чытача, ці патрэбная яна яму і калі патрэбна, то з якой мовы. Пераклады (амаль 90 %) распаўсюджваюцца за кошт приложений на русском языке (звесткі з кнігарні)».*

І яшчэ: *«Калі нарэшце вучням для праграмнага чытання і асабліва дамашняга будуць прапаноўваць творы сучасных аўтараў (а не тых у асноўным творы, якіх ведаюць самі настаўнікі, тыя, па якіх яшчэ самі настаўнікі ў студэнцкія гады вывучалі беларускую літаратуру?) Класіка трэба, але чаму не ад Купалы — да сучасных, маладых, таленавітых?*

*Ці будзе калі-небудзь выдавацца нейкі эксперыментальны (няхай сабе і безганарарны) дадатак да часопіса «Маладосць», да паэтычнай рубрыкі «ЛіМа» і г. д.?»*[1]

«Група аўтараў, якія пішуць для дзяцей», мела свой клопат: *«Паважаны Яўгені Іванавіч! Адкажыце, калі ласка, да якога часу дзіцячая літаратура будзе падчаркай пры СП?»* Не без завастрэння гучала і наступнае пытанне да Максіма Танка: *«Калі часопіс «Вожык» будзе ведаць мову? Ці будзе на яго старонках гумар і сатыра? Хто з пісьменнікаў працуе ў штаце?»*[2]

Лёсам на той час беспрацоўнага Аляксея Карпюка ўстрывожаны вядомы гісторык з Гродна Барыс Клейн. *«Глыбокапаважаны Яўген Іванавіч!* — пісаў ён народнаму паэту восенню 1970 года. — *Лічу абавязкам звярнуцца да Вас наконт Аляксея Карпюка.*

*Ён перажыў шмат і відавочна зрабіў пэўныя вывады, аб чым сведчыць тон і змест яго апошніх выступленняў. Відаць, і адносіны да яго таксама павінны былі змяніцца.*

*Гэтага не адбылося. Падыходзячай працы ён так і не атрымаў, хаця, здаецца, тройчы даваў згоду. Кожны раз нешта перашкаджала яго ўладкаванню.*

*Жыць многа месяцаў без сродкаў да існавання — нялёгкае выпрабаванне для аднаго чалавека: што ж сказаць пра галаву сям'і з трыма дзяцьмі і хворай жонкай?*

*Абставіны вымушаюць яго цяпер пакінуць Гродзеншчыну, да якой ён прырос каранямі за свае паўвека і ўдалечыні ад якой ён наўрад ці здолее захаваць творчую актыўнасць.*

*Ці можна лічыць вымушаны ад'езд адзіным выхадам? Ці не пара ўжо «змяніць гнеў на літасць»? Мяркуйце самі».*

*І далей: «Мне чамусьці здаецца, што з людзей, якія здольны разблытаць (ці рассячы) гэты Гордзіеў вузел адно з першых месц належыць Вам. Зарукай таму дзяржаўны Ваш пост, папулярнасць і, нарэшце, тыя чалавечыя якасці, якія Вы неаднаразова ўжо праяўлялі раней, у складаных абставінах Вашага нялёгкага жыцця.*

*Не думаю, каб у дадзеным выпадку перад Вамі паўстала невырашальная задача.*

*Дазвольце выразіць надзею, што матывы гэтага пісьма будуць Вамі зразумелыя правільна»*[3].

Трэба сказаць, Максім Танк шмат дапамагаў Аляксею Карпюку. Не адмахнуўся ён ад праблем таленавітага празаіка і даволі няпростага чалавека і на гэты раз. У сваіх дзённікавых нататках 28 кастрычніка 1970 года мастак адзначыў: *«Збіраюся на прыём да С. В. Марцалева. Трэба, каб памог ён падшукаць нейкую працу для А. Карпюка. Б. Клейн піша, што зараз у Аляксея Нічыпаравіча надзвычай цяжкое становішча: нідзе нічога не друкуюць, хворая жонка, дзеці»*[4].

Няма ніякіх сумненняў у тым, што Максім Танк размаўляў з загадчыкам аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалевым адносна працаўладкавання А. Карпюка. У тым жа 1970 годзе апошні быў залічаны на пасаду ўпаўнаважанага Усесаюзнага агецтва па аўтарскаму праву ў Гродзенскай вобласці.

[1] Тамсама.

[2] Тамсама.

[3] Тамсама. Воп. 3. Спр. 203.

[4] Танк М. Збор твораў: у 13 т. Мінск: Беларус. навука, 2010. Т. 10: Дзённікі (1960—1994). С. 188.

Безумоўна, важная праблема і ў лісце настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Заронаўскай васьмігадовай школы Віцебскага раёна Людмілы Кардаш. *«Справа вось у чым,* — пісала яна М. Танку 7 верасня 1982 года, — *у ліпені я пабывала ў Ялце і, вядома ж, схадзіла на магілу М. Багдановіча. Мы (а нас было многа беларусаў) чатыры гадзіны блукалі па могілках пакуль знайшлі яго магілу. Тое, што мы ўбачылі, вельмі балюча азвалася ў сэрцах. Паверце, што ў трэцяй па велічыне паэтычнай зоркі помнік жадае быць лепшым. Да магіл Чэхавых, Бірукова стаяць паказальнікі, а магілу Багдановіча шукай хоць цэлы дзень. У простых смяротных стаяць такія помнікі, што слёзы наварочваюцца, а ў нашага генія вельмі просценькі помнічак. Вось таму мы вырашылі Вам напісаць. Давайце кінем кліч па школах або аб'явім аперацыю па ўвекавечанню памяці М. Багдановіча. Лепш, можа, было б забраць яго да Коласа і Купалы. Хутка пачнём рыхтавацца да 100-годдзя з дня нараджэння паэта, вось добра было б, каб да гэтай даты што-небудзь зрабілі. Вельмі на Вас надзеемся. Калі патрэбна наша дапамога, то мы заўсёды гатовы, Вы толькі дайце нам знаць. Школьнікі, студэнты, наогул, усе паклоннікі яго таленту прыдуць на дапамогу, прымуць удзел у рабоце.*

*Вось і ўсё. Чакаем пачатку добрай справы»*[1].

Даволі актыўным танкаўскім адрасатам у 1980-я гады быў Аляксей Анішчык з Вільні. Літаральна кожны яго ліст да народнага паэта ўтрымліваў у сабе шматлікія народна-аздараўленчыя рэкамендацыі і парады, а таксама гэтак званыя «факультатыўныя» просьбы.

Ад 13 лістапада 1983 года: *«У мяне да цябе факультатыўная просьба. Сабралася каля паўтысячы вершаў, сёе-тое з прозы і добра было б здабыць машынку з беларускімі літарамі.*

*Ці можаш мне ў гэтым дапамагчы? Калі гэта справа няпростая, то не дуры сабе галавы. А калі без цяжкасцей зможаш дапамагчы, то вельмі буду ўдзячны...»*[2]

Ад 1 лістапада 1984 года: *«Паважаны і Даражэнькі Максім!*

*Нядаўна атрымаў я кніжыцу — манаграфію аб маім б. настаўніку, мастаку Яз. Драздовічу.*

*Усцешыла мяне і сама кніжка, і твая цёплая, унікліваея і справядлівая прадмова.*

*Я добра памятаю «дзядзька Язэпа», — вечна вясёлага, сонечнага і дзейнага чалавека. Шмат у чым няўдачнік, ён меў залатое сэрца і буйны творчы талент.*

*Ты зрабіў бы вельмі добрую справу, калі б заініц'яваў (або дапамог) выдаць альбом, уключаючы ўсю яго творчасць.*

*Я веру, што Ты гэтага даб'ешся. Беспярэчна, — Я. Драздовіч, Сяўрук і Сяргіевіч (ужо амаль не ўстае, не пазнае нікога) з'яўляюцца годнымі ўвекавечання мастакамі Зах. Беларусі»*[3].

Ад 24 лістапада 1985 года: *«Калісь я пісаў Табе, каб Ты сваім аўтарытэтам падштурхнуў выпуск альбомаў Сяргіевіча і Драздовіча.*

*Але вельмі добра было б, калі б вышаў у свет хоць адзін том — альбом знанага ў мінулым мастака — Орды. Як хіба ведаеш, ён пакінуў шмат рысункаў Беларусі і Літвы. Вельмі добра было б, каб вышаў гэты (адзін з васьмі) альбомаў яго творчасці.*

*Табе парушыць і зрэалізаваць гэту справу пад сілу. А многія хацелі б, ды ня могуць»*[4].

Ад 2 лістапада 1988 года: *«Даражэнькі Максім!*

*Ведаю, што Ты чалавек моцна заняты і дзеля гэтага стараюся не дакучаць якімі б то не было просьбамі.*

*І цяпер — мая просьба факультатыўная; калі «попутно» трапіцца нумар «Полымя» з матар'яламі М. Улашчыка, то вышлі мне, калі ласка. Гэта вельмі цікавы матар'ял. А можа ёсць кніга Улашчыка?..*

*Беспярэчна, гэта (нараду з В. Грыцкевічам, Н. Гілевічам, Лісам, Мальдзісам) адзін*

[1] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Фонд 25. Воп. 5. Спр. 410.

[2] Тамсама. Спр. 384.

[3] Тамсама.

[4] Тамсама.

*з выдатнейшых людзей нашай сучаснай Бацькаўшчыны.*

*Буду вельмі ўдзячны! Зразумела, буду яшчэ больш рады, калі далучыш што-небудзь з апошніх сваіх выданняў…»*[1]

Ад 30 жніўня 1989 года: *«А цяпер — факультатыўная просьба. Калі гэта не складана, прышлі мне кніжыцу аб гэрбах гарадоў Беларусі, якая нядаўна выпушчана «Полымем», і, калі ёсць у прадажы, першы нумар «Полымя» з гэтага году. Але, паўтараю, калі дзеля гэтага патрэбны асаблівы клопат, то будзем лічыць маю просьбу «не состоявшейся».*

*Напішы!*

*Шчыра вітаю і цалую руку п. Веры…»*

На полі аркуша паперы А. Анішчык удакладняў: *«Гарадская геральдыка Беларусі. Анатоль Цітоў. Мінск, Полымя 1989»*[2].

«Далікатная справа» да Максіма Танка ў Аляксея Карпюка. *«Дарагі Еўген Іванавіч!* — звяртаўся ён да паэта 8 студзеня 1980 года. — *З вялікай радасцю пасылаю Вам свой двухтомнік і ганаруся, што ён у Вас будзе стаяць у шафе (у Максіма Танка) побач з другімі кніжкамі. Дай Вам і Вашай сямейцы бог здароўя і шчасця — з Новым Годам Вас усіх!*

*У мяне ёсць да Вас і далікатная справа.*

*І. Чыгрынаў сказаў, што ў Мінску адкрываюцца новыя музеі (Броўкі і Багдановіча). Вельмі Вас прашу — паракамендуйце на работу ў літмузей М. Багдановіча маю старэйшую дачку, якая выходзіць замуж за мінчаніна. Цяжкасцей з прапіскай не будзе. Запэўніваю Вас, што старэйшая мая дачка — актыўная, развітая, а з работай такой напэўна справіцца. Буду Вам век удзячны!»*[3]

Асоба народнага паэта Беларусі выпраменьвала падкрэслена дабратворную, пазітыўную энергетыку, несла цеплыню і высакароднасць, узаемаразуменне і спагаду. Максім Танк шчыра адгукаўся на праблемы, беды і няшчасці людзей, усяляк імкнуўся дапамагчы ім. Ён даў нам узоры высокага сацыяльна-маральнага і духоўнагуманістычнага служэння роднай зямлі і яе народу.

---

1 Тамсама.

2 Тамсама.

3 Тамсама. Спр. 203.

Уладзімір СОДАЛЬ

# ВЕРАСОВЫ БУКЕЦІК

Той, хто мяне часта наведвае, не мог не заўважыць, што на працягу доўгіх гадоў у маіх пакоях зімою і летам заўсёды красуецца вазачка з верасовым кветам. Верасок той сціпла ліловы. І гэта ў нашай сям'і даўняя традыцыя. І не толькі ў гонар майго нараджэння. Я і напраўду нарадзіўся ў верасні, якраз той парою, калі верас у лесе буяе, цвіце светла-бэзавым кветам, робіць нашы лясы і бары чароўнымі, калі не чарадзейнымі. Гэты букецік і ў гонар нашай знанай дзеячкі Зоські Верас, з якой я шмат гадоў знаўся, ліставаўся. Сёлета нашай Зосьцы Верас спаўняецца сто дваццаць гадоў. З гэтай нагоды я прапаную чытачам «Маладосці» адзін Зосьчын ліст, у якім аднаўляецца колькі нашых гістарычных старонак, прынамсі, пра колішні дом губернатара ў Мінску, з якім хоцькі-няхоцькі звязаны паасобныя старонкі гісторыі Беларусі. То чытайма.



Уладзімір Содаль і Зоська Верас.

22.X.1987
Вільня

*Даражэнькі Уладзімір Ільіч!*

*...Аб губернатарскім доме магу расказаць даволі дакладна. З вуліцы ўваходзілася ў калідор. Направа дзверы ў губернатарскі кабінет. Тады губернатарам быў нейкі князь — прозвішча ня помню. Уявіце сабе — ніякіх сакратарак, запісаў «на прыём» і іншых цырымоній. У назначаныя дні і гадзіны кожны мог зайсці ў кабінет па сваёй справе... Дзесяткі разоў я там была — найбольш прасіла дазволу на скарбоначчны збор. Апошні раз прасіла дазвол на «Курсы агародніцтва, садоўства ды пчалярства», якія хацелі мы правясці для бежанцаў. Губернатар адказаў, што гэта не ў яго кампетэнцыі і парадзіў звярнуцца да Міністэрства земляробства. Мы напісалі і на дзіва хутка дазвол атрымалі. Гэта былі першыя курсы на беларускай мове...*

*...З калідора вялі сходы на першы паверх, проста ў залю, дзе мы пасля фатаграфаваліся. Там яшчэ раней праходзіў Вайсковы З'езд. А Усебеларускі ў тэатры. Фатаграфаваліся разам сябры абодвух з'ездаў. Садзіліся і сталі, дзе хто хацеў і з кім хацеў. Вядома, каля стала сядзелі самыя «заслужаныя». Вы пытаецеся, чаму я з Чарвяковым? Проста так выйшла. Ніякай асаблівай прычыны тут не было. Апрача галоўнай залі было яшчэ шмат пакояў, пакойчыкаў і на гэтым паверху і на другім. У гэтых пакоях жылі ўсе сябры Вайсковай Рады. Была там і рэдакцыя часопіса «Вайсковая Рада». На вялікі жаль, па-руску! Рэдактарам быў капітан Ярашэвіч...*

*Што я Вам магу аб Чарвякове сказаць? Ён, як і ўсе прыехаўшыя на З'езд беларусаў Заходняга Фронту, быў у войску. Уся Вайсковая Рада жыла на месцы, у губернатарскім доме. Скуль я магу ведаць, хто з кім сябраваў, хто з кім дзяліўся думкамі. Сходы, паседжанні праводзілі разам і Вайсковая Рада, і Вялікая Рада ці Нацыянальны*

*Камітэт. Хоць я была сакратаркай на такіх паседжаннях — таму што лепш ведала беларускую мову, а пісаць пратаколы ўмела яшчэ з гродзенскага гуртка — унікаць у сяброўскія ці іншыя адносіны прысутных магчымасці не было. А ў Беларускую Хатку вайскоўцы амаль не заглядалі. А калі так здарылася, што Чарвякоў мяне праводзіў, як я Вам пісала ўжо, аб нічым важным не гаварылі… Не было ўжо на гэта сілы. Трэба было ад паважных тэмаў, а то і спрэчак адпачыць, аддыхацца. Вельмі шкадую, але ніяк не магу на вашы пытанні што-небудзь цікавае ды канкрэтнае адказаць...*

*Паглядзела яшчэ раз Ваш ліст. Вы пытаецеся, паміж іншым, як Чарвякоў быў апрануты. Ён прыехаў на Вайсковы З'езд, бо ж сам быў ваенны — быў на фронце і, як усе, хадзіў у шынялі, у ботах, у блузе зашчытнага колеру. У якім быў чыне — сапраўды не ведаю. Не асабіста яго на з'езд выклікалі, а мусіць, дастаў, як і ўсе на Заходнім Фронце, адпаведныя адозвы…*

*Вайсковы З'езд арганізаваў С. Рак-Міхайлоўскі. Ён рабіў чарнавікі адозваў, складаў план з'езду, зрабіў спіскі дывізіяў, палкоў і іншых часцей. А рэшту — друк адозваў, высылку іх па адрасах рабіла я. Аб кватэры, харчы стараўся Мікалай Шыла — таксама салдат тагачаснага войска, а можа не проста салдат, а які яфрэйтар ці што? Ня ведаю ды і не цікавілася, не было часу. У мяне абодва з'езды вельмі дакладна апісаны і пратаколы Усебеларускага З'езду ёсць. Пытаецеся яшчэ, каго я найлепш ведала з тых, хто ёсць на здымку… З тых, што сядзяць ці стаяць каля стала: Ядвігіна Ш., Я. Лёсіка, Дварчаніна, Мамоньку, яшчэ лепш Л. Дубейкоўскага, бо яго яшчэ з Варшавы, кс. Андрэя Зязюлю (кс. Астрамовіч), Рака-Міхайлоўскага вельмі добра, Варонку, Данілевіча… Хіба хопіць? Ды тут і ня ўсе ёсць. На Усебеларускім Нацыянальным З'ездзе было і шмат іншых: Ф. Шантыр, Тамаш Грыб, П. Бадунова, Э. Будзька, В. Фальскі, Л. Заяц, А. Смоліч, Тарашкевіч, П. Алексюк, У. Галубок, А. Уласаў… Ды ці ўсіх пералічыш? Вам бы трэба было прыехаць, пачытаць мае ўспаміны. Ня ўсё будзе друкавацца. А чытаць тут у мяне, то адразу атрымаць патрэбныя каментарыі… Я ж вечна жыць не буду… Як мяне ўжо не будзе, што тады? Я ж апошняя… Карыстайцеся, пакуль яшчэ так-сяк жыву…*

*Яшчэ раз глянула на старонкі Вашага ліста. Пытаецеся, ці магла б што сказаць пра людзей, якіх найлепш ведала?*

*Маю цікавы вельмі матэрыял пра Аркадзя Смоліча. Яго біяграфію ды бібліяграфію…*

*Далей Усевалад Фальскі. Аб ім успамінаюць у Бел. энцыклапедыі як аб тэатральным дзеячу. А ў мяне запісана крыху як аб чалавеку, ласкавай, чулай душы. Перапісваць, пісаць не магу, ужо не магу, накрэмзаць ліст і то цяжка. Адна рада — прыязджайце! Можа яшчэ з кім «пазнаёмлю»...*

*Усяго добрага!*
*Сардэчна зычлівая Л. Войцік*

Прапановай, запрашэннем Зоські Верас не пакарыстаўся. Відаць, не вельмі ўважліва прачытаў ліст, не адчуў, што Зоська Верас была гатова падзяліцца са мною вельмі і вельмі каштоўнымі звесткамі з часу беларускіх падзей 1917 года. Дакараць сябе за сваю неразваротлівасць цяпер можна колькі хочаш. Адно зразумела: якіясь нюансы тых падзей я мог праз Зоську Верас данесці да нашай грамады значна шырэй, чым данёс. Пра гэта адно магу толькі глыбока шкадаваць і гэта не магу сабе даравацъ. Нечага мне не хапіла. Не хапіла глыбокага ўнутранага голасу: «З'ездзі! Гэта ж недалёка! Усяго тры гадзіны дарогі! І ты будзеш мець такія звесткі, якіх ні ў адным архіве не знойдзеш! Мусіць, менавіта гэтага не хапіла: разумення важнасці Зосьчынага запрашэння, важнасці разумення, што калі я гэтага не зраблю сёння, заўтра, гэта кане ў Лету. Што неўзабаве і здарылася.

* * *

Зоська Верас… Гэта ўжо як легенда, паданне. Якой цеплынёй згадваюцца сустрэчы з ёй. Не верыцца, што гэтыя сустрэчы былі. Ездзіў я да яе і адзін, і з тэлевізійнай экіпай. І са сваімі аднадумцамі. Памятаю, не адзін раз праведвалі яе разам з Марынай Самуйлёнак, дачкой Эдуарда Самуйлёнка, такой элегантнай дамай, чуйнай да ўсіх праяў жыцця, прынамсі да жыцця Зоські Верас, сучасніцы Максіма Багдановіча. Нагадваю, што Марыі Эдуардаўны даўно ўжо няма. А то б яна, уражлівая, распавяла нам усе падрабязнасці сваіх сустрэч з Зоськай Верас. Яе згадкі нам сёння вельмі прыдаліся б.

# ДУХОЎНЫ СПАДЧЫННІК БАГУШЭВІЧА



***Уладзіміру Ільічу СОДАЛЮ — 75. Рухавая яго постаць вядомая ўсім, хто наведвае якія-кольвек вечарыны і прэзентацыі, літаратурныя святы і сустрэчы. Бадай, ніводнай з іх ён не прапускае — цікавіцца і кніжнымі навінкамі, сучаснымі паэтамі і празаікамі, а роўна і пісьменнікамі старэйшага пакалення, шмат з кім шчыра сябруе. Нягледзячы на свой пашанотны ўзрост, нястомна працуе — друкуецца ў літаратурных газетах і часопісах, адкрывае малавядомыя старонкі біяграфіі беларускіх літаратараў і грамадскіх дзеячоў, дапамагае парадай і фактычнай даведкай. За доўгія гады Уладзімір Содаль назапасіў багаты архіў кніг, публікацый, лістоў, якія з'яўляецца адметнай крыніцай рэдкай гістарычнай інфармацыі. Дзякуючы яму і сваім настойлівым пошукам Уладзімір Ільіч здабыў сабе імя знаўцы Францішка Багушэвіча і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Аляксандра Уласава і Янкі Купалы. Усё ж справа яго жыцця — біяграфія і творчасць Мацея Бурачка, аўтара «Дудкі беларускай». Ёй даследчык прысвяціў нямала кніг.***

***Але кнігі — гэта толькі кнігі. Сёння, дзякуючы адбіткам з фотаархіва юбіляра, паспрабуем агледзець ягоны ўласны шлях, мала каму вядомы.***

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**



*За тры гады перад вайной. На фота 1938 года — Уладзімір (злева) і ягоны брат Альберт. Яшчэ нічога не вядома, дзяцінства здаецца доўгім, як само жыццё, а нягоды і няшчасці — малаверагоднымі. Пройдзе час і вайна зробіць інвалідам па зроку. Вёска Мормаль у Жлобінскім раёне, дзе нарадзіўся даследчык, аглухне ад снарадаў і бомбаў.*



*Нечакана нагадала пра сябе вайна і ў юнацтве. 1965 год. Уладзімір Содаль працуе настаўнікам беларускай мовы і гісторыі Астрашыцкага дзіцячага сухотнага санаторыя і грае ў школьным спектаклі... нямецкага афіцэра.*



*Фота з радзімы, 1974 год. Нямала засталося каля роднай вёскі акопаў і траншэяў, што нагадваюць пра мінулае і пра сумнае дзяцінства. Успаміны неўзабаве сталі асновай для дакументальных нататак Содаля «Вайна пасля вайны», што былі апублікаваны ў часопісе «Полымя».*



*Але не толькі ў раз'ездах праходзілі дні. Каб жа гэтак, то не было б кніг Уладзіміра Содаля. А яны пісаліся вось у гэтым кабінеце, традыцыйна перапоўненым рознымі выданнямі, дакументамі, здымкамі.*



*З 1979 па 2000 год юбіляр працуе стала — на Дзяржаўным тэлебачанні. Ён — адзін з заснавальнікаў і шматгадовы вядучы перадачы «Роднае слова», праз якую знаёміў беларускага гледача з біяграфіямі Купалы, Коласа, Ядвігіна Ш., Цёткі... Усіх не пералічыць. За гэты час узніклі дзясяткі знаёмстваў, адбылося столькі цікавых сустрэч з цікавымі людзьмі. На фота — з Зоськай Верас і Жаннай Гатальскай, апрацоўка матэрыялу для перадачы.*



*У кабінеце нараджаліся «Волат з Мігаўкі», «Кушлянскі кут», «Сцежкі Мацея Бурачка» і шмат іншых кніг, артыкулаў, нарысаў, а пазней і прыходзілі на варштат. Сёння гэта ўнушальны бібліяграфічны спіс. На фота — цэлы стэлаж кніг Содаля падчас яго творчай выставы ў лінгвагуманітарным каледжы МДЛУ, зладжанай у 2009 г. Алесем Чэчатам.*



*Доўгае жыццё дорыць шмат сустрэч. Уладзімір Содаль застаў росквіт беларускай савецкай літаратуры, у яго тэлепраграмах удзельнічалі найлепшыя сыны Беларусі. Даследчыкі XIX стагоддзя з уважлівасцю ставіліся да звестак, здабытых Содалем. Урэшце і ўся «планета Беларусь» знаёмая юбіляру і знаёмая з ім самім. На здымку — Уладзімір Содаль з сястрой Васіля Быкава Валянцінай Уладзіміраўнай.*



*Не толькі вядомыя людзі атачалі заўжды Уладзіміра Содаля. Большасць часу праводзіў ён з сям'ёй, якая шырыцца і дагэтуль. Дзеці, унукі, а нядаўна пайшлі і праўнукі. Працягваецца род! (На фота — сямейная пара Содаляў.)*



*Унукам Сяргею і Максіму Уладзімір Содаль распавядае пра сябе і пра Беларусь. На здымку ён паказвае ім баявую тэхніку Другой сусветнай вайны; гэтыя машыны смерці малому Уладзю Содалю давялося бачыць у дзеянні.*



*Род Содаляў доўжыцца. На фота — праўнук Дамінік Содаль узіраецца ў партрэт Дамініка Луцэвіча, Купалавага бацькі.*

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# ДЗЁННІКАВЫЯ НАТАТКІ*

**1 верасня, аўторак**

Сёння халаднавата, але хоць без дажджу. У школьнікаў і іх бацькоў шмат хвалявання. А наша школьніца Крыстына недзе там загарае з бабай Галяй на Іслачы, відаць, абедзве перажываюць, што не могуць прарвацца ў школу. А ўжо, відаць, Казлоўскія адсталі на пэўны час, прымірыліся са сваім паражэннем (да суда). Там яны, пэўна, збіраюцца ўзяць рэванш. Але пабачым.

З ранку ўзяўся парадкаваць свае запіскі, давёў да ладу амаль усё — атрымалася шмат пісаніны. На працу прыйшоў са спазненнем. Давалі зарплату — любата!

Аўтараў было няшмат. Заходзіў Дакутовіч, гаварылі разам у Далідовіча пра яго аповесць. Вярнулі з умовай, што ён пераробіць слабыя мясціны, падшліфуе мову, прывядзе да аднаго стылю. Дакутовіч сказаў, што піша ці канчае яшчэ адну аповесць, але на рускай мове, аддасць яе на конкурс пры СП БССР.

Званіла Данута Бічэль, пыталася, калі ў нас плацяць ганарар.

Ліст з падзякай за яе кнігу я так і не напісаў, заўсёды ў мяне не хапае часу.

Заходзіў Гаўрылкін, хоча прынесці мне апавяданне — проста пачытаць, мо аддасць яго ў «ЛіМ». Няйначай, пазайздросціў мне, што я надрукаваўся. Сёй-той чытаў у «ЛіМе», мяне падбадзёрваюць.

Абмяркоўвалі матэрыял ў «Праўдзе» «С чужого голоса» — пра падзеі ў Прыбалтыцы. Год назад нельга было ў «Праўдзе» знайсці нешта падобнае:

«…Ведь не зря у обывателя бытует мнение, что в Прибалтике к русским относятся без особого дружелюбия. Один знакомый, проживший в Вильнюсе без малого тридцать лет, окончивший здесь школу, высказывал обиду:

— По-русски с тобой не хотят разговаривать, даже на “здравствуйте” не отвечают…

Мы сказали: пеняй на себя. Ведь это не просто стыдно — прожить столько лет в республике и не знать истории и культуры литовского народа, его языка — это прямое неуважение к тем, кто тебя окружает. И, естественно, вызывает их раздражение.

Между тем обучение национальному языку в русских школах Прибалтики поставлено из рук вон плохо».

Нарэшце мы паразумнелі!

Я яшчэ не прачытаў увесь артыкул Бондарава ў «Савецкай культуры», дзе ён распранае нашых карыфеяў крытыкі, у тым ліку «вядомага і таленавітага» з Мінска. Малайчына Бондараў, ён раскрыў іх метады, іх тэндэнцыю — абылгаць, апляваць усё нацыянальнае, каб людзі яго не цанілі, а цанілі нешта незразумелае, як малюнкі Шагала, які малюе як малыя дзеці, а крытыкі прызнаюць яго геніем…

Пасля работы думаў купіць яшчэ пару «ЛіМаў» з маім апавяданнем, але нешта не знайшоў. Не знайшоў і «Савецкай культуры». Хоць, калі шчыра, то ўсяго не прачытаеш, калі і хацелася б. Кароткі дзень, тыдзень таксама.

**2 верасня, серада**

Не верыцца, што жнівень скончыўся. Аднак жа… Ездзіў па «Літгазету», ледзь купіў. Кіяскёркі ў нашым раёне (чамусьці ўсе яўрэйкі) прадаюць сваім па дамоўленасці, вось толькі прынеслі другую пошту, а яна кажа — «“Литературной нет”», або: «“Литературной” уже нет». Але Бог з імі, хай прадаюць сваім, хопіць і нашым. Абы мы хацелі чытаць. Абы мелі час чытаць. І «Літгазета» вунь колькі сёння матэрыя-

* Працяг. Пачатак у № 1—6 за 2008 г., № 7, 8 г. г.

лаў дала, звязаных з Беларуссю: Адамовіч, Шагал, сумны — пра Міхася Стральцова.

На рабоце доўга гаварыў з Казловай, яна любіць паразмаўляць са мною — распытае што-небудзь, сама раскажа, тым больш, што пасля адпачынку мы яшчэ не бачыліся.

Заходзіў Гаўрылкін, прынёс апавяданне, каб я яго прачытаў — усяго толькі.

Званіла Галя з Ракава, казала, што заўтра збіраецца прыязджаць.

Пазваніў Пякарскі, пасля працы спаткаліся, трохі пагаварылі ля ўвахода ў метро. Распытваў у мяне, як паводзілася ў камандзіроўцы. Хацелі схадзіць куды-небудзь пасядзець, але ён некуды спяшаўся. Пагаварылі трохі пра Адамовіча — што яго пад юбілей сталі крытыкаваць, не толькі хваліць. Для яго гэта вельмі і вельмі нязвыкла, да таго ён не прывык, і напэўна словы Бондарава для яго здадуцца громам сярод яснага неба. А мо, ён такога даўно чакаў, хто ведае? Калі чалавек на нешта ідзе, то павінен быць да ўсяго гатовы. Гэта аксіёма.

Як ні дзіўна, сёння забыўся папалуднаваць. І голаду ніякага не адчуваў.

**3 верасня, чацвер**

Зранку пазваніў Іван Капыловіч, пагаварылі пра сёе-тое, а потым ён кажа, што пахаваў сваю сястру, было 38 год, пакінула траіх дзяцей, адзін дарослы, у арміі, двое яшчэ школьнікі малодшых класаў. Быў масціт, ад гэтага пачаўся рак грудзей. Вось як гінуць людзі без пары!

Праглядаю «Лекцыі па гісторыі Сярэднявечча» Цімафея Граноўскага. Вельмі цікавая кніга, разумная. У адным месцы ён піша: «В наше время важными для истории фактами называют те, которые служат выражением духовного состояния человека, или его изменения, или развития, или, наконец, его косности. Другие факты история включает для пополнения и сохранения внешней нити рассказа». Як проста і мудра сказана! А нашы гісторыкі, упэўнен, гэтага не ведаюць. Яны пішуць гісторыю мас. А як можна напісаць гісторыю бязлікай масы? Трэба пісаць пра асобных яе прадстаўнікоў, больш відных і прыкметных, якія і ўвасабляюць сабою ўсю масу.

Недзе ў гадзін 11 вярнуліся з «Іслачы» Галя і Крыстына, з імі прыехаў Панас Палітыка.

Пакуль паснедалі, пагаварылі — пара і на працу.

Ждановіч мяне здымаў для нейкага там апытання, якое рабіў Янка Сіпакоў па сваім аддзеле: пра маладую беларускую літаратуру.

Пазваніў Яўген Цумараў, папрасіў прыехаць у 142 школу, у Шабаны за Мінскам, на бацькоўскі сход з нагоды адкрыцця першага класа на беларускай мове.

Потым званіў Залескі, дамовіліся сустрэцца заўтра ля кіно «Кастрычнік» у 12 гадзін. Цікава, што яму ад мяне трэба? Мы з ім ніколі не сустракаліся...

Заходзіў Гаўрылкін, пагаварылі пра яго апавяданне для «ЛіМа» — «Ціхоня». Слабаватае, вялае, хоць тэма і драматычная — «афганец» без ног, адна дзяўчына яго кінула, другая — кахае.

У канцы дня пазваніў Панас Палітыка і разам паехалі дахаты. А ў 18 гадзін я ўжо выехаў у Шабаны. Знайшоў школу, знайшоў Цумарава. Бацькоў сабралася зусім мала, хоць абяцала быць чалавек дваццаць. Было два завучы, дырэктар заняты. Пагаварылі на напятых нотах-струнах і разышліся. Ці будзе адкрыты беларускі клас — яшчэ пытанне. Мо позна. Пасля яшчэ зайшлі да Цумарава на гарбату, пагаварылі з гадзіну.

Вярнуўся дадому ў 11 гадзін вечара.

**5 верасня, субота**

Дзень прайшоў абы-як: мала што зрабіў. Да абеду былі нейкія гаспадарчыя клопаты, схадзіў у магазін, з'ездзіў у горад, накупляў газет — штук пяць, розных, і гадзіны дзве патраціў на чытанне: «ЛіМ», «Звязда», «Настаўніцкая», «Неделя», «Голас Радзімы», «Советская Россия» — во колькі! І цяпер у кожнай ёсць хоць адзін цікавы матэрыял. Больш усяго ўразіла нанатка пра амерыканца Уілсана, барацьбіта за мір, якога пераехала цягніком і адрэзала ногі, параніла галаву. Яшчэ невядома, ці ён будзе жыць. Да чаго ж бязлітаснай бывае дзяржаўная машына! Яна душыць усіх, хто стаў у яе на дарозе — і сваіх, і чужых, без разбору!

Цікавыя матэрыялы ў «ЛіМе», зноў ён трохі ажыўляецца, а то ўжо неяк быў астыў…

**6 верасня, нядзеля**

Днямі бачыў аднаго маладога хлопца, і ён стаіць у мяне перад вачыма. Хлопец без рук.

**Успамінае Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

### *«МАЛАДОСЦЬ» ЧЫТАЮ З ЦІКАВАСЦЮ*

***Маё сяброўства з часопісам «Маладосць» пачалося з аўтографа. Неяк вясновым днём завітаў у мінскую кнігарню «Цэнтральная». За прылаўкам у беларускім аддзеле сядзеў чалавек і падпісваў кніжкі. Па аўтограф стаяла чарга хлопцаў і дзяўчат. Даведаўся, што чалавек гэты — Пімен Панчанка, хуценька набыў ягоны зборнік вершаў «Тысяча небасхілаў» — і атрымаў дарчы надпіс.***

***Пімен Емяльянавіч распытаў, дзе вучуся, ці складаю вершы, ці чытаю «Маладосць». Я адказаў, што вучуся на журфаку БДУ, вершаў не складаю, спрабую пісаць апавяданні, «Маладосць» чытаю з цікавасцю.***

***— Ну дык прыносьце нам свае апавяданні. Будзем чытаць, — са шчырай, прыязнай усмешкай сказаў Пімен Панчанка.***

***Але пераступіць парог рэдакцыі часопіса я тады не мог: пісаў на рускай мове. Маё першае апавяданне было надрукавана ў газеце «Советская Белоруссия» ў красавіку 1963 года.***

Малады, невялічкі, гадоў 18, а на выгляд — падлетак, галава светлая, стрыжка кароткая, з грыўкай. Ён ішоў ля Дома друку на пераход да Тэатральна-мастацкага інстытута. У цёмным касцюме, укарочаныя рукавы, і з рукавоў, дзе павінны быць рукі, у яго звісалі дзве сумачкі цёмнага колеру, разгойдваліся ў такт хады, нават у людской плыні ён вылучаўся сваім нязвыклым, нябачаным дасюль выглядам. У мяне неяк пахаладзела ў грудзях, я пастаяў, паглядзеў яму ўслед, ён хутка прапаў у натоўпе пры пераходзе праз вуліцу. Вайны няма, а людзі гінуць: целам і душою. Няйначай, нядаўна вярнуўся з Афганістану.

Зранку нічога не хацелася рабіць, але засеў за чытанне. Прачытаў некалькі апавяданняў Галі Сачанкі, яна ўзяла псеўданім — Ланеўская. І што ж? Апавяданні неблагія, мо часам толькі паўтараецца, ходзіць ля адной тэмы ці нават падобнага сюжэта. Але што талент у яе добры, то гэта факт. Барысу Сачанку не будзе сорамна за дачку, калі стане друкавацца. А мы яе надрукуем недзе пасля Новага года, бо ў гэтым ужо ўсё закрыта і забіта.

Недзе ля 18-ці гадзін паехаў у горад. Быў у дзяцей, даўно іх не бачыў.

Ад іх паехаў да Клімянковых, таксама даўно не быў. Клімянкоў быццам трохі лепш выглядае, чым раней. Пахудзеў яшчэ больш, але казаў, што баляць ногі.

Вечарам дома яшчэ трохі чытаў Сачанку-Ланеўскую. Засталося яшчэ невялікае апавяданне, шостае па ліку.

**10 верасня, чацвер**

Фактычна нічога не рабіў, напісаў некалькі старонак тэксту для «круглага стала». Некалькі канкрэтных прапаноў: першы клас павінен пачынацца з беларускай мовы, а не другі. Што трэба напісаць новы падручнік па гісторыі БССР, аб'явіць конкурс на лепшы рукапіс. Яшчэ: што дырэктарамі школ у Беларусі ў большасці з'яўляюцца рускія, пасля яўрэі, а потым ўжо беларусы. Для чаго гэта робіцца, усім ясна, а вось інструктар Ул. Наркевіч пасля сказаў, што я не маю рацыі, бо мы падбіраем дырэктараў па дзелавому прынцыпу. Каб жа!

Зайшоў на працу, а пасля паехаў на «круглы стол». Было шмат людзей, было тэлебачанне, было Міністэрства асветы ў асобе намесніка міністра Бутрыма Георгія. Вёў усю цырымонію Гілевіч, ён увёў усіх у курс, пасля пачаліся выступленні. Першы гаварыў Шамякін, нічога важнага не сказаў. Добра гаварыў Сачанка — за што нас не любяць на Захадзе. Не могуць дараваць 37-ы год, вялікія ахвяры вайны. Будуць яшчэ не любіць за тое, што не даём развівацца — нацыянальным мовам, напрыклад, беларускай.

Кавалёў быў на радзіме, казаў, што там нават сакратар райкама заклікаў да большай увагі да беларускай мовы.

Добра выступіла Ніна Мацяш, яна ведае сітуацыю ў сваім Бярозаўскім раёне.

Алесь Масарэнка расказаў, як яму не далі выступіць у Стаўбцоўскім раёне.

Алег Лойка шырока закрануў пытанне падрыхтоўкі беларускіх кадраў у ВНУ.

Талкова выступіў Анатоль Клышка — добра цэліў па Міністэрству асветы.

У такой жа танальнасці было выступленне Васіля Віткі.

Выступілі коратка Шырын, Лужанін; вельмі пафасна і доказна гаварыў Садоўскі.

Пасля — Баршчэўскі, Карпюк, вельмі эмацыянальна і прыгожа гаварыла Галіна

Прыма, Бічэль-Загнетава, Гігевіч. Яшчэ — Тарасаў, Бугаёў, Ягоўдзік, Юрэвіч, Купава, Лозка, Татур, Цыркуноў, Шушкевіч, Дамашэвіч, Бутрым, потым Гілевіч — і па ходу Наркевіч.

**12 верасня, субота**

Пазваніў Карпека Пятро Фёдаравіч, запрасіў на сустрэчу пасля полудня. Нейкія ў яго справы з рукапісамі, і з тым, які я рэдагаваў. Казаў, што нядаўна сустракаўся з Міколам Аўрамчыкам, аказваецца, яны знаёмы па педінстытуту яшчэ да вайны, разам вучыліся, і пасля вайны таксама. Вось якія бываюць цуды: і адзін і другі прайшлі такое пекла вайны, сто разоў былі на валаску ад смерці і ацалелі, сталі зноў вучыцца, скончылі ВНУ, не прапалі для нашага грамадства і культуры!

Атрымаў ліст ад Асташкевіча Пятра Якаўлевіча, збіраецца прыехаць у Мінск недзе ў канцы наступнага тыдня, казаў, што напісаў новую п’есу і новы раман «Нулявы варыянт» — пра 41-ы год на Беларусі. Пра п’есу «Вышыня» і не пытае, я паўгода ўжо не магу дабіцца, каб яе прачытаў Нікіфаровіч.

Схадзіў у магазін, накупляў газет. У «ЛіМе» ёсць сёе-тое пачытаць. Шмат пра Максіма Танка, якому 75 год. Варта было б паслаць яму віншавальны ліст.

Пасля абеду паехаў да Карпекі. Якраз пачаўся дождж. Сядзелі за сталом, пілі-елі і гаварылі. Толькі ўдвух, бо яго жонка недзе на Нарачы, паехала з хворым сынам, у тога быў інфаркт, стан цяжкі.

Карпека даў мне рукапіс, які цяпер ляжыць у выдавецтве «Беларусь» і чакае чаргі, я згадзіўся адрэдагаваць і гэты.

**13 верасня, нядзеля**

Дождж ішоў ноччу і раніцай, хоць не надта вялікі. Потым зусім перастаў, распагодзілася, але вялікі вецер.

Да абеду трохі пачытаў — яшчэ раз перачытаў два апавяданні Мальчэўскай. Адно зусім слабое, а другое трохі лепшае, можна друкаваць. Не ведаю толькі, ці прапусціць яго Далідовіч.

Прачытаў пасля дапрацоўкі аповесць Нічыпаровіча «Энергія», усяго 50 старонак. Няблага дапрацаваў, ёсць уражанне ад Чарнобыльскай драмы — яго герой трапляе туды да сына. Мо зноў няма добрай канцоўкі, як і першы раз. Пабачым, што скажа Далідовіч, аддам яму.

Пасля кароткай размінкі ўзяўся чытаць дэтэктыўную аповесць Р. Аўраменкі «Мар’янін Дол», ён даваў яе нам на рускай мове, параілі перапісаць, бо ён беларус і добра гаворыць на роднай мове. Заўвагі ёсць, рэдагаванне будзе патрэбна, але, здаецца, не такое ўжо вялікае. Мо і будзе для нас невялікі дэтэктыў, сам аўтар — міліцыянер.

Вечарам у 8.30 паз’язджаліся ўсе: прыехалі маладыя, а праз пяць хвілін я сустрэў Галю і Крыстыну, яны сышлі з 33-га тралейбуса.

Вецер па-ранейшаму халодны, але неба ачышчаецца. Мо ўсталюецца надвор’е пагодлівае? 15 верасня — апошняя квадра.

**14 верасня, панядзелак**

Дачытаў аповесць Аўраменкі «Мар’янін Дол», перапісаў ён увогуле няблага, мо і надрукуем.

Пасля паехаў на спатканне з прафесарам Залескім. Сустрэліся ля «Несцеркі», ён там жыве ў «даляры». Зайшлі на трэці паверх, пасядзелі гадзіны дзве. Ён даваў мне чытаць матэрыялы, якія хоча надрукаваць. Гэта крытыка «творчасці» Савелія Паўлава. Пасля ён разбірае, разбівае нарыс Паўлава пра Машэрава, што надрукаваны ў «Полымі». Матэрыял вялікі, ён разбірае потым тое, што было надрукавана раней — у «Полымі», у «Нёмане», «Беларусі». Вельмі дасціпна і востра. Не шкодзіла б надрукаваць, але пытанне: хто гэта надрукуе? У Беларусі ніхто не асмеліцца разбіваць такога вялікага «дзеяча», як Савелій, а ў Маскве таксама ў яго ёсць свае рычагі.

Пасля паехаў на працу. Паколькі мяне не было ў чацвер і пятніцу, то аўтары мае засумавалі. Перш за ўсё прыносілі карэктуры — Кацюшэнка, Гучок, Дубоўскі. Пасля заходзілі — Зайцаў, Асташонак, Хамчук, Міклашэвіч; званілі — Рублеўскі, Дубінчык, Санько, Нічыпаровіч. Нічыпаровічаву аповесць аддаў чытаць Далідовічу. У Нічыпаровіча няшчасце: яго сын працаваў на аўтапагрузчыку, падымаў рулон паперы і перакуліўся, хлопцу паламала рэбры, пашкодзіла хрыбет. Цяпер у цяжкім стане. Вось якія бываюць дзікія здарэнні.

**15 верасня, аўторак**

Учора адправіў ліст-запрашэнне Асташкевічу, бо ён просіць, каб у школе яго хутчэй адпусцілі. Паведамляе, што канчае вялікі раман «Нулявы варыянт» — пра 1941 год. Мо што прывязе, хоць частку. Вось ніяк чалавек не можа прабіцца да чытача. А ўжо ёсць з чым! Але наша коснасць, жалезабетоннасць не дае: няма такога пісьменніка — і ўсё, нічога нікому не дакажаш.

Пачаў чытаць апавяданне Рублеўскага, ён пісаў вершы, цяпер пераходзіць на прозу. Нейкія дзіцячыя ўспаміны, але нешта ёсць. Пабачым далей.

На рабоце было шумна ад званкоў: пыталіся то аднаго, то другога, то трэцяга. Быў Гігевіч, рыхтаваў «нашых аўтараў» да № 11.

Званіў Міклашэўскі, зноў збіраем маладых на творчы семінар моладзі ў Гродне. Званіла Маеўская, пыталася пра аповесць; Няхай Валеры пытаўся пра апавяданні, узрадаваўся, калі я сказаў, што Далідовіч іх ухваліў. Павіншаваў яго з публікацыяй у «ЛіМе».

Заходзіў Зайцаў, прынёс заканчэнне рукапісу «Жыві, мая крынічка» на гістарычную тэму. Усяго 330 старонак. Заходзіў Капыловіч, трохі пагуляў у шахматы з Дайнекам, але прайграваў. Заходзіў Пякарскі, трохі пастаялі на калідоры, ён быў у нейкім філасофскім настроі. Расказваў, як стаяў у чарзе па гарэлку, якія там парадачкі — пра бічоў, як яны ўмеюць падстройвацца. Не тое, што душманы, якія першыя лезуць, без чаргі. Аднак жа не дастаяўся!

Заходзіў яшчэ мой адзін знаёмы — Сталік Шастоў, прынёс свае замалёўкі, мо яны прыдадуцца — для якога часопіса.

Яшчэ званіў Яўген Радкевіч, угаварыў мяне сустрэцца з выкладчыкамі Інстытута культуры недзе ў пачатку кастрычніка. Нечакана захварэла Жэня Янішчыц пры вяртанні з Фінляндыі, у Леніградзе паклалі ў бальніцу.

Вечарам трохі чытаў, але больш газеты і часопісы. Дачытаў Рублеўскага. Калі дадаць хоць адно «дарослае», то можна друкаваць.

**16 верасня, серада**

На працы як звычайна. Званкоў шмат. Званіў Крываль, пытаўся пра апавяданне. Нехта Тоўсцік з Гомельскай вобласці прыслаў рукапіс (менавіта ад рукі) на 20 школьных сшыткаў, просіць надрукаваць яго рэчы, каб ён мог пабудаваць сабе хату, бо жыве ў чужой. Яму 64 гады, піша, што паслаў некалькі раманаў на рускай мове ў Ленінград, але яшчэ не атрымаў адказу.

Заходзіў Максім Клімковіч, пагаварылі пра яго апавяданні, узяў на дапрацоўку.

Быў Барыс Сачанка, захацеў унесці праўкі ў свае рэчы, якія ён нам даў, набіраецца вялікі аб'ём. Расказваў пра цяперашнія і ранейшыя справы ў СП, пра све адносіны з Антановічам.

Заходзіў Ягоўдзік, дзяжурыў па «ЛіМе», казаў, што прынясе нам аповесць.

Капыловіч заязджаў ад доктара да нас, пагуляў трохі ў шахматы з Дайнекам.

Ларыса Кунько трохі пасварылася з Янінай Важнік, здавалі нумар. Расказвала пра зяця, што позна прыйшоў, быў у знаёмых свайго бацькі. А ў іх доме ўжо ўсе выселіліся, толькі Лецка і яны, Кунькі.

Пазваніў Філіповіч, дамовіліся, што, магчыма, зможам надрукаваць фрагменты з яго аповесці. Званіў Яўген Царанкоў.

Васіль Якавенка падзякаваў, што надрукавалі яго казку, казаў, што ў яго ёсць яшчэ.

З работы заходзіў у Дом літаратара, заплаціў узносы, аддаў доўг Лупсяковай Н. П., ужо шмат часу прайшло са дня пазыкі. Але яе не было, папрасіў, каб перадала ёй Таццяна Кузьмінічна.

Начальства і нават Міклашэўскага не было, ездзілі ў «Іслач» адкрываць нейкі семінар, а я хацеў зайсці да Гілевіча...

Ішоў пешкі да Камароўкі, трапіў пад дождж, але перачакаў у хлебным магазіне. У аптэцы купіў пустырніку, будзем піць.

**17 верасня, чацвер**

Знакамітая дата, 48 год мінула з часу вызвалення Заходняй Беларусі. Ужо амаль усё зраўнавалася ў людской памяці, маладыя ўжо шмат хто забыўся, што было нешта іншае, апроч сённяшняга дня. А было вунь колькі ўсяго! Колькі народ перажыў, колькі людзей развіталася з жыццём без пары! І да 39-га, і пасля — вайна, зноў другія парадкі, пасля вызваленне, чысткі ад усякіх элементаў, якія супрацоўнічалі і не супрацоўнічалі з акупантамі, потым калектывізацыя, пасля апусценне вёсак. Хоць — у Заходняй вёскі не такія ўжо малыя, як на Усходзе.

Нп., як я ведаю па сваіх мясцінах, то нашы вёскі большаюць, а не меншаюць.

Максіму Танку сёння 75, учора ад «Маладосці» яму паслалі віншавальную тэлеграму. Я збіраўся паслаць яму ліст, але не паспеў.

Учора не паспеў прачытаць і артыкул Яніса Пэтэрса ў «Праўдзе». Думкі, выказаныя ў артыкуле, вельмі блізкія ўсім, хто правільна разумее ленінскую нацыянальную палітыку, ён не спадабаецца ўсякім перагібшчыкам і экстрэмістам, якія хочуць, каб усё заставалася як было, яшчэ і горш. «Хочу еще раз подчеркнуть, что безупречно говорить по-русски в условиях нашего государства никак не значит отказаться от своего родного латышского, украинского, белорусского, узбекского, армянского, грузинского, алтайского, чувашского языка».

Добра сказаў Пэтэрс пра гісторыю:

«Сблизить народ может только история без белых пятен. Выявляя ошибки и перекосы прошлого, глядя прямо в глаза своей истории, мы поможем тем из молодых, кто ощущает некий комплекс “второсортности”, подогреваемый западными разноголосами, разжигающими национальную рознь».

Або яшчэ: «…человек, утративший национальную принадлежность, дружбе народов ничего дать не способен. Ему просто-напросто не с кем дружить. Он становится космополитом, потребителем-прагматиком».

І галоўнае, на пачатку артыкула:

«Мне думается, представители общественных наук, публицисты маловато занимаются высветлением в нашем гражданском сознании мысли, что каждая союзная республика — это суверенное государство со своей конституцией, парламентом и правительством. С гимном, флагом и гербом. Права союзных республик ныне пошли в рост во всех сферах жизни — вплоть до самостоятельных экономических, культурных связей с зарубежными странами».

На працы нічога не паспеў прачытаць, было шумна — то заходзілі, то выходзілі.

Быў Лісіцкі са Старых Дарог, цяпер ён у партшколе, то хутчэй надрукуем, бо будзе нас падварушваць. Ужо гатова падборка, і неблагая.

Ягоўдзік, як і абяцаў, прынёс аповесць «Вочы начніцы» на 180 старонках.

Заходзілі Клімянкоў, Станкевіч, але не ў прозу, пагулялі трохі ў шахматы.

Пазваніў Зуёнак, папрасіў пару хлопцаў для семінара ў Гродне. Я яму даў Калкоўскага і Федарэнку, як і дамаўляліся з Міклашэўскім.

Заходзіў у Дом літаратара па заказ, заплаціў 10 руб. Пасля быў на пасяджэнні праўлення літфонда, праслухалі тэкст выступлення Вільтоўскага, з якім ён будзе выступаць у Маскве. Як быццам праблемы ўзняты — што трэба больш кватэр для пісьменнікаў, што трэба ў ВАПП браць адлічэнні на бедных пісьменнікаў і ўдоваў, якіх абдзірае ВАПП.

Трохі пагаварыў з Пташнікавым, даўно яго не бачыў. Прайшлі разам да трамвая, я паехаў, а ён пайшоў. Гаварылі пра Антановіча, ён сказаў мне смешную рэч: што Антановіч падбухторыў мяне выступіць супраць Паўлава, а за гэта паабяцаў даць мне «заслужанага раба культуры». Я, натуральна, згадзіўся... А Саўку тым часам збіраюцца паслаць на павышэнне...

Заходзіў да Гілевіча, але яго не было.

**19 верасня, субота**

Чытаў трохі апавяданні — Крываля, Пяшко, Варановіча. Глядзеў кніжкі пра Нясвіж — «Музы Несвижа» Шышыгінай, «Бацькоўскі парог» Дзелянкоўскага і кніжачку Калніна «Мирский замок». Такія кніжкі вельмі нам патрэбны, але яны мала выдаюцца, да таго ж напісаны часам вельмі нецікава. А вось тры названыя шмат даюць, асабліва моладзі. І шкада, што большасць кніжак пра Беларусь пішацца і выдаецца па-руску. У такім разе ад нашага патрыятызму застаюцца адны шчэпкі.

«ЛіМа» яшчэ не чытаў, там апавяданне Пташнікава.

Па абедзе з’ездзіў у горад, быў на Камароўскім рынку. Усё дарагое: грушы, памідоры, слівы. Але ўсяго шмат, асабліва прывазнога. Хоць ёсць і сваё. Памідоры, нп., купляў у цёткі з Пінска, па руб 30 кап., а грушы ў смуглага каўказца па 2 руб. Хацеў купіць адамаў корань у прадаўцоў зёлак, але ні ў кога не было. Корань вельмі памагае пры болях касцей у суставах, пераканаўся на сабе. І вазіў дадому, мама і Ніна таксама казалі, што памагае.

Званіў Пякарскі, казаў, што стаіць у чарзе па нейкі дэфіцыт, дзе стаяць толькі мужчыны.

Заходзіў да дзяцей, але нікога не было дома: ні адной, ні другой пары.

Дом для рэдакцый, які будуюць за друкарняй, патрохі расце. Пачынаюць ужо пяты паверх. Невядома, колькі будзе ўсіх.

Перадавалі па тэле пра беларускі садок-яслі на Някрасава, дзе загадчыцай працуе Галіна Прыма. Яна, па ўсім відаць, добры педагог, аддае душу дзецям. Малайчына!

Вечарам пачытаў газеты, у «Звяздзе» пра Язэпа Лёсіка пад назвай «Класавы дальтанізм», у «Ізвесціях» цікавы артыкул Ал. Бовіна пра Брэсцкі мір. Дае новыя цікавыя факты і цытаты. Пташнікава так і не прачытаў.

**21 верасня, панядзелак**

Сёння была ўжо Янішчыц, выздаравіла, толькі мо трохі пахудзела. Расказала, што была вялікая нервовая нагрузка, мо таму і здалі нервы, дайшло да вобмараку.

Вярнуўся з адпачынку Янка Сіпакоў, быў у Ялце, самапасам, але загарэў. Казаў, што вельмі шмат людзей, цяжка было з харчаваннем, але ён браў сваё сала і кілбасу, купляў памідоры. Свайго адпачынку ён яшчэ не адбыў, едзе ў Югаславію.

Заходзіў Барыс Сачанка, прынёс з дапрацоўкі свае новыя творы, казаў, што амаль усе заўвагі нашы ўлічыў.

Быў Шупенька, трохі пашумеў, пагуляў у шахматы з Дайнекам, Пенязем.

Была кароткая нарада ў галоўнага, збіраліся ехаць па прапагандзе «Маладосці».

Вечарам дачытаў Міклашэўскага. Увогуле добра.

**22 верасня, аўторак**

Зранку разам з Галяй слухалі па радыё выступленне Сяргея Грахоўскага пра нашу маладую змену. Проста выдатна выступіў стары, добра, калі яго чулі нашы маладыя, ды і старыя! Шчыра, глыбока, разумна, з эрудыцыяй, з фактамі, пераканаўча. І на ўсю рэспубліку сказаў, што ганьба, хто сваю родную мову не лічыць за мову, бо калі ён не палюбіў сваёй, то не палюбіць і чужое. Проста ён не выхаваны, не адукаваны. І ён гэтым хваліцца! Хіба ж можна хваліцца сваім невуцтвам, цемрай, адсталасцю? Вось да чаго нас давучылі! Адным словам, малайчына Сяргей Іванавіч! Гэтым ён шмат зробіць, абудзіць у маладых нейкія думкі, патрыятычныя пачуцці. Ды і не толькі ў маладых. Бо нас за апошнія дзесяцігоддзі так заштампавалі, што ўжо нічога жывога не засталося.

Узяўся за Ул. Граўцова, але не чытаецца. Яшчэ сядзіць у галаве Міклашэўскі. Яго аповесць, хоць і невялікая, 120 старонак, але пераварочвае наша старое ўяўленне пра партызан як пра анёлаў з крыламі. А Міклашэўскі паказвае, што і сярод іх былі гады, кар'ерысты, хапугі, якія думалі толькі, як выратаваць сябе, сваю шкуру і як лепей пражыць. Яны і ўцалелі больш, чым тыя сумленныя героі, якія ішлі ў агонь першыя — і паміралі. Мо ў Міклашэўскага не такая «празаічная» проза, як хацелася б, але ўражанне яго аповесць робіць, моцна кранае. Відаць, трэба будзе перапісаць яму канцоўку, бо трохі разарвана — як незавершаны стог ці капа сена.

Узяўся чытаць Паўлюка Савоську, аповесць «Запіскі халасцяка». Прачытаў 20 старонак — і трэба сказаць, што ідзе цікава. Ён шмат пабачыў свету, яго герой — бывалы чалавек, яму ёсць што сказаць людзям. І мова не скажаш, што кепская, трохі залітаратураная, але жыць можна. Мо толькі грашыць русізмамі, гэта цяпер пашырана.

На працы была лятучка, планавалі 12-ы нумар, закруглілі год. Невядома, ці ўлезе з прозы ўсё, што мы хацелі. На два нумары прыпадае пяць-шэсць аўтараў. Даўно абяцалі Цішчанку і Масарэнку.

Галоўны заклікаў нас усіх перабудоўвацца, шукаць цікавых твораў. Папракнуў, што не далі раней Караткевіча, а дацягнулі да новага года.

Размеркавалі абавязкі па прапагандзе часопіса, хто куды едзе. Я думаў, што і мне выпадзе паехаць, але не хапіла вобласці. Прызначылі даць рэкламу ў «Звязду», так што хоць невялікае, але заданне маю.

Сёння нашы хлопцы пайшлі выступаць у Гандлёвы тэхнікум, недзе далёка ад цэнтра.

Заходзіла Галя Сачанка, пагаварылі пра яе апавяданні, узяла на невялікую дапрацоўку. З шасці адабралі для друку чатыры. Будзе неблагая падборка.

Заходзіў Цвяткоў, але ўсяго на хвіліну, ён прынёс апавяданні фантастаў, сваіх сяброў. Толькі без адраса, і я сказаў, каб яны прыслалі адрасы.

Кажуць, што Наварычу ёсць мажлівасць пайсці на працу ў «Вожык», відаць, нехта там выходзіць на пенсію. Было б вельмі добра, каб яго туды ўзялі. Цяпер ён працуе ў Карэліцкім раёне ў школе. «Вожык» павінен абнавіцца, пры Раманаве ён ужо дайшоў да ручкі. Блакіт разумны хлопец, ён зробіць часопіс цікавым, ён ужо і цяпер стаў зусім не той, што быў пры Раманаве ці Кавалёве. Праўда, цяпер можна смялей пісаць... Але як калун сядзіць за высокім сталом, то ўсё роўна цяжка — і тады, і цяпер.

Ідучы з працы спаткаў Разанава ля Акадэміі, трохі пагаварылі. Ён чытаў маё апавяданне, а я яго вершы ў тым жа «ЛіМе».

**Успамінае Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

***БЫЎ У МЯНЕ АБАВЯЗАК — ЧЫТАЦЬ «МАЛАДОСЦЬ»***

***Пасля вучобы мяне запрасілі на працу ў аддзел культуры «Знамёнкі». Я шмат пісаў пра сельскія клубы і бібліятэкі. Мне гэта было блізка, бо да ўніверсітэта скончыў Магілёўскае культпрасветвучылішча. Быў у мяне яшчэ абавязак — сачыць за творчасцю маладых літаратараў, а значыць, чытаць, «Маладосць». А потым атрымаў партыйнае даручэнне: напісаць для ЦК КПБ аналітычную даведку пра крытыку ў часопісе «Маладосць». Мусіў перачытаць усе крытычныя публікацыі. Даведку напісаў. Мяне пахвалілі за сур’ёзны падыход. Памятаю, асабліва мне падабаліся артыкулы Уладзіміра Юрэвіча, адказнага сакратара часопіса.***

**23 верасня, серада**

Мне выпала дзяжурыць, паехаў у 10 гадзін раніцы. Аднаму сядзець добра, званкоў амаль што няма. Зайшоў толькі Кацюшэнка, пагаварылі пяць хвілін. Казаў, што на часопіс «Крыніца» рвалася шмат людзей, нават з ЦК, ці не Бутэвіч, была вялікая канкурэнцыя. Што ён першы намеснік, а не галоўны рэдактар, не бядуе, менш будзе гузоў на галаве. Бо сказалі, каб часопіс быў цікавы, але як будзе надта цікавы, то скажуць, што перагнулі і дадуць па шапцы.

Склаў план на першае паўгоддзе наступнага года. Не ведаю, ці спадабаецца начальству. Шкада, што многа рукапісаў яшчэ не прачытана, мо што там і цікавае, нп., у Ягоўдзіка, у Марозава. Далідовіч прачытаў Сердзюкова, казаў, што цікавая аповесць («Жыццё залатое»). На паўгода набіраецца пяць дэбютаў — гэта нямала.

Ездзіў у Дом літаратара, думаў, што траплю да Гілевіча, ды не ўгадаў — быў «круглы стол» перакладчыкаў, і ўсе там сядзелі. Бачыў толькі Анатоля Жалязоўскага.

Заходзіў у бібліятэку, але нічога цікавага не ўзяў. Пагаварылі пра Рыбакова, што не надта ён ужо там паказаў нашу эпоху, што ў жыцці было нашмат страшней.

Як толькі выйшаў з Дома літаратара, пачаўся дождж. Забег у магазін садавінygародніны, купіў дыню, прастаяў з паўгадзіны, а пасля паехаў да Чыгрына Івана, мы з ім дамовіліся сустрэцца, не бачыліся за сталом недзе больш як два гады. За гэты час ён паспеў ажаніцца і разжаніцца. Расказваў, чаму так атрымалася. Ён даказаў, што дзіця, якое нарадзіла яго жонка, не яго. Яна сказала, што яно сямімесячнае, а напраўду было звычайнае, дзевяцімесячнае. Вось як бывае!

Прасядзелі некалькі гадзін. Чыгрын падараваў мне цікавую кніжку — «Веснаход», апавяданні «Маладняка». Ён складальнік гэтага вялікага зборніка — 28 аркушаў.

**24 верасня, чацвер**

Прачытаў яшчэ раз дапрацаванае апавяданне Праўдзіна пра алкаголіка. Паправіў нягорш, праўда, ёсць яшчэ лішнія словы і нават фразы. Трохі нечаканая развязка, але няхай, яшчэ перадрукуе брудныя старонкі і можна будзе далучыць да падборкі. Пачытаў яшчэ трохі Савоську — і сталі збірацца: хто ў школу, а хто на працу. Аўтары сёння былі памяркоўныя, заходзіў толькі Цвяткоў на пару хвілін, а так былі званкі, нават з Масквы — званіў наш аўтар Міхно, пытаўся пра свае апавяданні, нават тыя, што ляжаць у «Беларусі» і ў «Чырвонай змене».

Званіў Санько, прасіў паскорыць чытку яго дапрацаванай аповесці.

Званілі яшчэ Калкоўскі, Ланеўскі і Палубятка з Мастоў. Палубяткава аповесць ужо даўно ляжыць — і не прачытана.

Ездзіў у Дом літаратара па заказ. Бачыў цікавую групу нашых літаратараў насупраць рэдакцый на Захарава: Адамовіч, Сідарэвіч, Бур'ян, Сёмуха і Ярохін. Я павітаўся і хацеў прайсці міма, але Сёмуха кажа: пачакай, мы тут якраз пра твайго сябра гаворым, пра Савелія. Чуў, ён ужо будзе нашым сакратаром? Я нават не ведаў, што мне рабіць: радавацца ці плакаць? Але сказаў, што калі я яму памог вырасці, то можа і ён мне паможа — павысіць? «Чакай, павысіць», — кажуць хлопцы і смяюцца. У Саюзе хацеў зайсці да Гілевіча, але ён быў на партбюро. Заходзіў да Міклашэўскага, пагаварылі пра яго аповесць. Ён казаў, што канцоўка ў яго была не такая, як цяпер, а больш аптымістычная: сын і айчым абодва засталіся жывыя, хоць аварыя і была цяжкай.

Вярнуўся яшчэ на працу. Чытаў у «Звяздзе» палеміку — адказ Ермаловіча на артыкул Залескага, кароткія каментарыі Штыхава і Ігнаценкі, а таксама тры кароткія лісты чытачоў пра артыкул Залескага. І вельмі слушныя меркаванні выказалі чытачы: што наша гістарычная навука спіць. Трэба было яшчэ дадаць, — як сабака на сене.

Вечарам трохі чытаў Савоську.

**26 верасня, субота**

Сёння нешта падобнае на пагоду — трохі сонца, трохі вецер, хмары не суцэльныя. Учора пачаў чытаць Дудзінцава, вельмі густа напісана, чытаецца марудна. Надта шмат герояў, цяжка зразумець, што хто гаворыць. У тым першым рамане ў гэтым сэнсе ўсё было ясна, акрэслена, не адчувалася перагружанасці матэрыялам. Але пабачым, як пойдзе далей. Ці мо я адвык ад складанага тэксту?

Затое лёгка чытаць, нп., Зм. Марозава: усё ясна і зразумела, нарысава-рэпартажна, вачыма маладога спецыяліста. Шмат даводзіцца правіць лексіку. Калі так пойдзе і далей, то на прамую не выйдзе.

Днём у 12.45 была перадача па тэле — сустрэча з Данутай Бічэль. Вершы яна чытала добрыя, пераважна гістарычныя, бо адштурхнулася яна ад 1125-годдзя Полацку. І сама выглядала добра, хоць была сумнаватая, напружаная. Але я ёй ужо казаў і цяпер скажу, што вершаў яна чытаць не ўмее, не дае свайму пачуццю прарвацца ў голас, і гэта вельмі псуе ўражанне, бо не афарбоўвае голас у эмацыянальны колер. Голас яе роўны, здаецца нават абыякавы, і гэта страшэнна зніжае эфект успрымання. Яна не запальвае слухача сваімі пачуццямі, не выпускае іх са свайго сэрца — і сэрца слухача таксама застаецца абыякавым, не адгукаецца на покліч яе сэрца. Голас павінен звінець, павінен запальваць, нп., як у Рымы Казаковай. Мне здаецца, што ў яе нават няма перабору, а ўсё гучыць натуральна, эмацыянальна, трошкі ўзнёсла.

Пазваніла Іра Крэнь, яна прыехала з Аксакаўшчыны. Сказала, што заўтра ў Рапановіча дзень нараджэння, што мы павінны яго праведаць. Дамовіліся на 16 гадзін.

Думаў, што сёння паеду ў нашу кнігарню і выпішу сабе «Літгазету» і «ЛіМ», ажно паехаў, а там закрыта.

Вечарам прачытаў Пташнікава «Львы». Магутнае апавяданне! Трэба было толькі напісаць «Беларускія львы».

**28 верасня, панядзелак**

Чытаў Дудзінцава. Учытваешся — і падабаецца ўсё больш і больш. Добра і цікава піша, малайчына. Мудра, нп., пра маладых: «...юность страшная вещь. Даже когда за правое дело бросаются в огонь, она и тут бывает страшна, потому как не понимает же, не понимает ни черта! А рука уже тяжелая, как у большого…»

На працы было даволі ціха ад тэлефонных званкоў, было ціха ўвогуле, бо ўсе пайшлі на партсход, адзін я дзяжурыў. Да мяне заходзіў Праўдзін, узяў адно апавяданне на дапрацоўку (пра алкаголіка), пасля заходзіў Зайцаў, пагаварылі пра яго аповесць. Ён хоча, каб я яе хутчэй варушыў. Я і рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць: рукі кароткія, не паспяваю чытаць усё тое адразу, што прыносяць. Званіў Макоўскі, званіла Казлова Іна, доўга з ёю гаварыў, яна хоча надрукаваць сваю п'есу, бо не ставяць, пакуль не надрукавана. Здаецца, гэта проста адгаворка, адцяжка — і не больш. Званіў Нічыпаровіч, ці прачытаў яго аповесць Далідовіч. Трохі пагаварылі, я пытаўся пра яго сына. Казаў, што ўвесь

у гіпсе, як у панцыры, што ногі амаль не маюць адчувальнасці. Але як быццам духу хлопец не страціў, трымаецца і спадзяецца. Яшчэ не ўсе яго беды, аказваецца, я ведаў: маці гэтага хлопца, яго, Нічыпаровіча, першая жонка, загінула ў Наваполацку ў час аварыі на заводзе (тады загінула 8 чалавек); Нічыпаровіч ажаніўся другі раз — і зноў бяда. Ужо чатыры гады, як у яго другой жонкі аднялiся ногі, як чужыя, па хаце ходзіць, але з яго дапамогай. І гэта чалавеку недзе трошкі за сорак, а ўжо колькі на яго галаву звалілася камянёў! Проста жах цяперашняе жыццё, у такое нават цяжка паверыць.

Яшчэ заходзілі два аўтары — Цвяткоў і Арэхаў. Арэхаў пакінуў адрас, а трохі раней апавяданне.

Сёння да Крыстыны ў школу заходзіў дзед Васіль. Прасіў яе, каб напісала бабе ліст. Вечарам з Жоржам куплялі бульбу, два мяшкі.

**29 верасня, аўторак**

На рабоце сёння нас было шмат, нават Гігевіч прыйшоў. Абмяркоўвалі ўчарашні партсход. Быў загадчык аддзела культуры ЦК Вайтовіч — першы раз сустракаўся з пісьменнікамі, але, кажуць, не выступаў. З цікавых выступленняў адзначаюць Някляева — шкадаваў Адамовіча, што яго мы не ацанілі і прагналі ў Маскву. Даклад рабіў Гілевіч, кажуць, што вельмі расхвальваў сваіх памочнікаў, асабліва Скварцова. Ці гэта шчыра, ці так, для смеху — разумей наадварот?

Кажуць, што пра пытанні мовы зусім не гаварылася.

Заходзілі аўтары — Гроднеў Мікола, усе хвалілі яго выступленне па радыё, Капыловіч Іван — казаў, быў на саракавінах у Мазыры па сваёй сястры Нэлі. Расказваў, як нядаўна аўтобус з людзьмі трапіў на пераездзе пад электрацягнік, нешта каля 20 чалавек загінула.

Гроднеў расказваў, як яму цяжка працавалася ў «Беларусі» пад Шабаліным.

Званіла Пасынкава, пыталася, ці чытаецца яе аповесць.

Вечарам глядзелі Гарбачова па праграме «Час». Малайчына, Гарбачоў, добра выступіў.

**30 верасня, серада**

«Літгазеты» не купіў, паехаў у выдавецтва. Быў спярша ў Андраюка, бачыў там Грахоўскага, сказаў яму пра выступленне па радыё — што мы слухалі і былі вельмі ўзрадаваны і з цікавасцю праслухалі яго. Варта было б выступленне даць яшчэ па тэлебачанні ці надрукаваць у газеце, нп., «ЛіМе».

З Андраюком пагаварыў пяць хвілін, пра аповесць і новы-стары раман. Дырэктара цяпер няма, у адпачынку. Так што ход ні з месца.

Заходзіў да Рубанава, пытаўся, ці няма рэцэнзіі. Яшчэ Мушынскі не прынёс, але казаў Рубанаву, што рэч яму спадабалася. Мо і будзе станоўчая рэцэнзія, пабачым.

Пра аповесць таксама пагаварылі пару слоў — што трэба выдаваць. А калі і як — усё невядома. Рэзервы — гэта фікцыя.

Яшчэ заходзіў у рэдакцыю да Барадуліна, яго не было. Была адна Галя. Сказала, што хутка павінна быць карэктура. Спаткаў яшчэ Шупеньку, перакінуліся словамі. Бачыў Някляева і Кацюшэнку, бачыў Арочку Міколу — хоча выдаць аднатомнік да 60-годдзя.

Прыехаў дадому, папалуднаваў і паехаў на працу. Нейкая дзяўчына-студэнтка прынесла п’есу, трэба паглядзець.

Званіў Савоська, я сказаў яму, што аповесць прачытаў з цікавасцю, што аддаў Далідовічу. Ён быў узрадаваны, хоць і сказаў, што ў яго ўжо ёсць папраўкі і змены. Але яны не ўцякуць, унясе пасля нашых заўваг.

Мне ляжала запіска ад Шылянковай Валі, што ўчора мяне хацеў бачыць Янец, пагаварыць пра свой раман. На жаль, не ўбачыліся.

Званіў Алесь Шлег, гаварыў зноў пра тое, што калі будзе пашырацца часопіс, то каб меў на ўвазе яго кандыдатуру.

У 15 гадзін хадзілі ў Клуб журналістаў на сустрэчу з прадстаўнікамі міліцыі, былі міністр Быкаў, некалькі чалавек па розных галінах крыміналу — злачынства-забойства, наркаманія-прастытуцыя, снід.

Я пазнаёміўся з двума хлопцамі, трэба будзе пагаварыць. Мо раскруцім справу Аўрамчыка Івана Фядосавіча, яго дачкі.

***(Працяг у наступным нумары)***

# З ДЗЁННІКАЎ ЕЎДАКІІ ЛОСЬ*

## *Глыбоцкае педвучылішча*
## *1947 год*

**4 сакавіка 1947 года**

Змагаюся са сном, седзячы за сталом у пакоі Таццяны Сяргееўны (яна наш камсамольскі сакратар вучылішча, вызвалены). Яны з дачкой Рытай спяць, муж яе Мікалай Качан у Мінску, і па яе просьбе я начую ў іх. Вывучыла ўсе ўрокі, потым склалі з Т. С. план работы камітэта на сакавік. Застаўся кіруючай сілай 2-і курс, але ж большасць са студэнтаў не лічаць патрэбным займацца грамадскай працай... Ахвота чытаць... З камсамола выключылі ўсіх... Што ж, варта, арыштанты, нягоднікі, гніль (як дырэктар называў). Балюча. Нічога, цяпер пачну спачатку і зусім па-іншаму. Так, жыццё — вялікі настаўнік.

Перадалі прывітанне ад Мані, яшчэ з дарогі, прасіла мяне не сумаваць. Прыказала Марыя Іванаўна сачыніць што-небудзь да 8-га Сакавіка, і я паабяцала.

**6 сакавіка 1947 года**

Пра што я думаю? Думаю над вобразам Шуркі з кнігі «В разлом». Дзейсная, жывая, моцная і незвычайная натура, дзіўная для свайго часу, якая ішла наперакор усяму. Ахвяравала спакоем, раскошай, сям’ёй у імя новага жыцця, дзейнасці, вучобы... Што я магу знайсці ў сабе такое? Нічога. Вось сёння атрымала па геаметрыі «3», першую ў вучэбным годзе... Які сорам, якая душэўная мука!.. Вынікі будуць горшыя, чым у той чвэрці. А да канікулаў засталося 2 тыдні. Як жа захацелася дамоў!.. Чаму яшчэ няма пісьма ад Мані з фота? Да 8-га вучу ўрывак «Маці»...

**8 сакавіка 1947 года**

«Наш» дзень. Дзень-то нішто, нават некаторыя дзяўчаты і па «двоечцы» атрымалі, але вечар лепшы. Даклад зрабіла Марыя Ісакаўна (наша выкладчыца). Я пасядзела ў прэзідыуме. Потым чыталі вершы, я — урывак з «Тараса Бульбы» (незадаволена, бо не ведала добра). Праспявалі вельмі спадабаўшуюся ўсім песню пра Зою, дрэнна — «В полном разгаре страда деревенская», і іншыя. Успамінаю і ўсміхаюся: не паспела я ўвайсці ў залу, дзе ўжо ўсе сабраліся, як дзяўчаты крычаць: «Дуся, хутчэй ідзі сюды, Дусечка, садзіся сярод нас, запявай...» І я запяваю... Танцы, тут я першая таксама, гэтым зноў жа задаволена... Дзяўчаты былі не ўсе: яны захоўваюць пост (рэлігійны абрад) і таму не танцуюць (прыдзе, у дзверы гляне, і — ходу назад, далей ад граху... Вось якія будуць настаўнікі!.. Гора адно...). Спяваем толькі мы, дзяўчаты нашага класа: Ларыса, Оля, Яніна, я і часам Нарэйка і Саўчыц. Слухаў і дырэктар нас, быў задаволены. І хлопцы ёсць нядрэнныя з «нашых». Смешны, жартаўнік А. Кукса і яго «атрад» (Ярахновіч, Пугаўка, Мялешка і іншыя), а з класа «А» — «танцмейсцер» Зяйкін, слаўныя хлопцы Фёдаравы Міхаілы (стрыечныя браты); прыгожы, крыху ганарлівы і самалюбівы Храпавіцкі. Наш клас, на жаль, бедны гэтым. Але занадта ганарлівы або рэлігійны, «прабывае ўсё назіральнікам»; Ст-нік зусім не танцуе, але прыглядаецца... Словам, пустата... усюды. Запрасіла зноў да сябе Таццяна Сяргееўна, пайду, безумоўна.

Не ведаю, ці я настолькі змагла заслужыць яе павагу, ці гэта проста ўласціва яе натуры, але ўсё прыемна, што хутка зусім пасябрую з гэтай незвычайнай жанчынай, саратніцай. Ды і яна ж знаходзіць пастаянную апору і падтрымку з майго боку ў сваёй працы. Выходзіць, адносіны такія дзякуючы ўзаемнасці і агульнасці інтарэсаў, нават педагогіка гаворыць, што ў такіх выпадках магчыма дружба.

* Працяг. Пачатак у № 7, 8 г. г.

Цяпер я канчаткова ўпэўнілася, што ўсё, што да гэтага напісана ў сшытках пра таго чалавека, — напісана пра нягодніка, пра ворага майго! Няма канца злосці на сябе, што аказалася такой сляпой і глухой!..

**9 сакавіка 1947 года**

Прагледзела кінакарціну «Сын палка» (чаго хацела ўсе гэтыя дні). Карціна ідзе ўжо шосты дзень, але некуды пальца прасунуць у зале. Ледзь дастала білет. Добра, што гэту аповесць Катаева я ведаю амаль на памяць. Плакала, не магла стрымацца... Вось гэта карціна!

**10 сакавіка 1947 года**

Афарміла сцэнгазету са «зборнай» рэдкалегіяй. Напісала сама нешта ў гумарыстычным тоне («Ім сніцца»), праверыла ўсе пададзеныя артыкулы.

Чакалі ўжо сёння камісію з Міністэрства, але няма. Мяне не выклікаюць, хаця і няма адзнак: пакідаюць «на камісію»... Атрымала ліст ад Мані. Зноў сумненні: што рабіць па заканчэнні чвэрці? Або ўладкоўвацца на працу ў рэдакцыю, або прадаўжаць па-ранейшаму?.. Хутчэй бы яна прыехала.

**15 сакавіка 1947 года**

Вярнуліся з практыкі дарагія людзі — студэнты 3-га курса. Вітаемся, віншуем, смяёмся... Заўтра ўвечары пайду сустракаць Маню, з клуба адразу (буду чытаць даклад). Вось толькі што сустрэліся з П. К. Ён адзіны чалавек, які пакідае прыкметны след у душы... Дарэчы, тое «нешта» (з матэрыялу аўтабіяграфічнага).

Калі б ён калі-небудзь прачытаў гэта...

Прывезла Маня гарачую просьбу мамы прыязджаць на канікулы дадому (божа мой, няма меры радасці!). К чорту ўсе сумненні, вучуся да канца года!.. Ой, маладосць ты мая слаўная, сямнаццаць гадоў!.. Усё гора, усе беды засталіся ззаду, адышлі разам з громам вайны, а цяпер — сонца, святло, радасць... Будучае светлае і цудоўнае!..

**17 сакавіка 1947 года**

Атрымала прапанову ўступіць у абавязкі сакратара па завочнаму навучанню. Пагаварылі пра гэта ў дырэктара. Сказаў, каб падумала, пасля напіша загад. Цяжка з аднаго боку, лягчэй — з другога...

Надвор'е нейкае незвычайнае, дзіўнае: вые завіруха, б'е снегам, вецер з ног збівае і раптам — цеплыня, цішыня...

Учора зрабілі генеральную рэпетыцыю па падрыхтоўцы да пушкінскага вечара, на якой прысутнічалі: член камісіі з Міністэрства, сакратар РК камсамола Езутаў, дырэктар вучылішча, выкладчык Аркадзій Іванавіч і наша група, удзельнікі. Не сорамна было дырэктару за такіх чытачоў...

Быў гэты ж прадстаўнік з Міністэрства на ўроку. Напісалі на дошцы сказ. «Хто выправіць памылкі? Ну, Лось Еўдакія», — выклікае А. І. А сказ такі: «Пры даліне, ля дарожкі, сыраежкі, рыж<u>ы</u>кі; ад савецкае бамбёжкі ў фашыстаў дрыж<u>ы</u>кі». Вось я і выправіла, падкрэслена мною.

Пушкінскі вечар, выступаем. Вось «зашывае» Марыя Пецю ў пасцілку — адзенне манаха, прывязвае бараду; я расчэсваю на рад яго светлыя доўгія валасы... Там Яноўскі торгае за дрот — вешае занавес; тут мажуць сажай твар Марыі Смаляровай — Алека нашаму (з «Цыган»). Усё прайшло добра… Пасля — танцы.

**22 сакавіка 1947 года**

На камандзірскім сходзе (а я ж таксама камандзір) аб'яўлена вестка: адпушчана 3 000 рублёў для арганізацыі вечара і прэміравання ўдзельнікаў рэспубліканскіх лыжных спаборніцтваў. Наша каманда Глыбоцкага педвучылішча выступіла ў Мінску паспяхова, прывезла дадому пераходны чырвоны сцяг — вышэйшую ўзнагароду спаборніцтваў... Ну і далася нам усім гэта праклятая камісія! Наганялі ўсіх — і дырэкцыю, і студэнтаў. Хадзілі па пакоях, дзівіліся, што ўсе 12 дзяўчат у пакоі — з Ушацкага раёна. А Шкірэнка знаёмы па той лекцыі, пра якую я пісала ў рэдакцыю «Бальшавіцкага сцягу».

Учора адбыўся камсамольскі сход. Быў на сходзе сакратар РК Езутаў. У спрэчках выступілі дырэктар Гарбукоў, Малатоўнік, Зайкін, Апалька, Кажарновіч... Яны гаварылі пра былых камсамольцаў, якіх арыштавалі... А я ў душы думала: «Ну які ж "здраднік" радзімы Т. Алег і іншыя?! Разам вучыліся, дружылі, дапамагалі адзін аднаму... Хлопцы — добрыя студэнты, прыгожыя, рослыя, усе гаварылі па-беларуску.

Я не ведала (ды і ніхто!), за што арыштавалі гэтых цудоўных юнакоў, якім было па 17—18 гадоў, у чым яны “здрадзілі” радзіме?..» З сястрой Маняй мы дзяліліся думкамі пра знікненне студэнтаў, якія для нас былі выдатнымі дружбакамі і якіх мы параўноўвалі з нашым дарагім братам Сяргейкам... Іх не стала сярод нас... Але я асабіста буду памятаць пра іх... (Заўвага Ярашэвіч М. Я.: Як потым стала вядома — гэта былі члены падпольнай арганізацыі «Саюз беларускіх патрыётаў». Яны змагаліся за свабодную, незалежную Беларусь, за родную бедарускую мову і беларускія школы, хацелі вучыць дзяцей на мове сваіх продкаў — беларускай. Усе гэтыя юнакі і дзяўчаты, рэпрэсіраваны, ні ў чым невінаватыя, РЭАБІЛІТАВАНЫЯ. Многіх з іх ужо няма ўжывых...).

Марыя Аляксеўна паставіла 23 «единицы» (не выканалі заданне), але паабяцала «прыбудаваць» вугал, каб выйшла «чацвёрка», а мо і зусім — «5».

Напісала пісьмовую работу «Вобраз Каробачкі», «чтоб ни единого слова из книжки»! Па пісьмовай беларускай («Партызан-разведчык») — «5» без намёкаў. Разлічыцца заўтра з «дзённікам», з методыкай геаграфіі і сельгаспрактыкай — і ўсё на гэтай чвэрці... Паслязаўтра — дамоў. Мамачка мая!.. Спланую ўсё на заўтрашні дзень...

1. За супам, зарадка.
2. Узяць камандзіроўку на выпадак, калі палічу патрэбным браць білет (а мо і без білета даеду).
3. Скласці ўсё патрэбнае, разабрацца з Аняй.
4. Не забыцца аддаць фота «мінскае» Э. Г.
5. Атрымаць хлеба на дарогу.
6. Здабыць абедзве часткі кнігі Сіманава «Дни и ночи».
7. З 12 гадзін (калі толькі адбудзецца) — на пленум Райкама.
8. Падрыхтавацца да паходу ў саўгас Азерцы... А ўсё, што там будзе, занатаваць на лістах гэтых ужо дома, дамовіўшыся папярэдне са спадарожнікамі (асабліва з «прафесіяналам» Рамашкам).

**6 красавіка 1947 года**

Маня, мая сястрычка, у бальніцы!.. Тыф пракляты... Яшчэ адно гора вялікае... Цяжка становіцца, без памяці, трызніць... Божа мой, дапамажы мне і маёй сястры Мані выжыць!.. Мне дужа цяжка... А сёння вось толькі ўзышла на лесвіцу, як Юргель Пётр (староста іхні) дае мне грошы. Я не разумею, што такое... «Тут, — кажа, — для Марыі клас сабраў. Мы ёй яшчэ і пісьмо напішам»... І ўсунуў мне ў кішэню 150 руб. Я ведаю, што яна будзе плакаць ад гэтага... Яны ж, аднакласнікі, дужа паважалі Маню, ніколі не забывалі ў цяжкія моманты...

А мама там, дома, ведаю, вельмі перажывае, а прыехаць ёй ніяк нельга: не ходзяць цягнікі...

Сёння конкурс на лепшае выкананне вершаў (застаўляюць чытаць свой).

Конкурс чытачоў... Як можна напісаць пра тое што адбывалася!.. Успамінаю аўдыторыю, запоўненую роднымі тварамі, членаў журы за сталом, засланым сінім сукном, дырэктар, завуч; бясконцая любоў і павага, якія я бачыла на тварах студэнтаў, — ці ж гэта забудзецца?!. Мне, праўда, раней прыходзілася чытаць па аднаму вершу, а на гэтым конкурсе я прачытала чатыры («Освобождение», «На родной огонёк», «Наша дружба», «Я ўспомню»). Спачатку прачытала («Освобождение» і «Наша дружба», іду на месца, а апладысменты ўсё мацней і мацней. Потым — яшчэ два. З хваляваннем чакала выступлення П. К. са сваім вершам, нешта чытаў пра адраджэнне наш «поэт-кипяток» Жд-іч і іншыя. Прыемна было потым слухаць крытычныя выступленні слухачоў... Толькі яшчэ дырэктар намякнуў, а па аўдыторыі прайшоў гул: «Лось Еўдакія, Лось Еўдакія...» Хацелася б даслоўна запісаць іх выступленні, характарыстыкі маёй творчасці, ды нечым было... Гаварылі, што ў вершах апісана тое, што «перажываў сам аўтар» (Пачопка, Ралавец), што яны напісаны «шчыра, з вялікім пачуццём» (Нічыпаровіч, Апалька), што «вершы даводзяць да слёз праўдзівасцю і зместам» (Цяцерская, Юхноўскі), што «са сваім талентам Е. Лось дасягне таго, пра што ёй гаварыў пісьменнік Броўка (а што сказаў — яна ведае)» — Зайкін... І ўсе — і журы, і слухачы — прысудзілі першую прэмію Еўдакіі Лось. Сама ж я добра разумею: далёка мне яшчэ да сапраўднага паэта, трэба многаму вучыцца, працаваць, авалодваць граматай...

Ужо схадзіла раз да Мані ў бальніцу (туды не пускаюць). Па дарозе паклікала Анна Акімаўна Кароткіна (выкладчыца геаграфіі) і ўручыла мне вазачку з варэннем для Мані. Ёй крыху лягчэй, і я павесялела. Толькі вярнулася назад, а Валя Бабкова цягне ў пакой і дастае малако, масла, яйкі ды хлеб для Мані. Не, слабы зусім мой верш пра дружбу і таварыства... Дзе знайсці патрэбныя словы і фарбы, каб апісаць вось гэта ўсё, напісаць пра сапраўдных савецкіх людзей!..

**9 красавіка 1947 года**

Майму вар'яцтву, раздвоенасці прыйшоў хоць невялікі і часовы канец: пасля доўгіх чаканняў прыбыла мама (поезд не ходзіць, дык яна, бедная, распраналася і пераходзіла ўброд рэчку, якая ўжо вызвалілася ад ільду). Адразу ж — да Мані. Яна вельмі слабая, але ўжо пры памяці. Пракраліся самавольна ў палату, нас заўважылі (маму дык гвалтам з палаты выцягнулі...). У той жа дзень пагутарылі па тэлефоне з малодшай сястрой Марусяй. Яна абрадавала мяне сваім розумам, слушнымі і добрымі фразамі і жартамі, а то я ўжо бралася плакаць, таму што выбралі на прафкаме старшынёй прафкама... Цяжкі ўчастак... Былі ж такія сур'ёзныя хлопцы, і то іх заўсёды крытыкавалі... А мне?.. Трэба клапаціцца пра Маню, чытаць, вучыцца пісаць і іншае. У той жа вечар (не магу ўспомніць без смеху!) «отличились» з Вольгай Клямяціч!.. Запрасіў дырэктар прыйсці да яго заўтра. Прыйшлі, паглядваем адна на другую (не ведаем, для чаго паклікаў).

— Вы думаеце, што я паклікаў вас, каб лаяць за штосьці? Не. Я даведаўся, што вы — «вялікае начальства» — старшыня і член прафкама.

— Іван Пракопавіч! — малю я. — Вельмі прашу вас вызваліць мяне ад гэтай пасады! — і пайшла даказваць свае прычыны.

Глядзеў ён, глядзеў ды і кажа:

— Не чакаў, ніяк не чакаў гэтага ад вас...

І выдаў нам кіраўніцтва ў рабоце, я ціхенька яго прыняла і пайшла, паабяцаўшы выканаць... Ну што рабіць?...

З 12 да 5 вечара быў пленум райкама. Схадзіла да Мані. «Яна спіць», — сказалі. Жахліва нервую і маму, і сябе...

**13 красавіка 1947 года**

Крызіс, які ўжо прайшоў у Мані, расчыніў мне вочы: смяюся, спяваю...

Ей богу, усе 12 дзён гэтага праклятага крызісу ні разу не засмяялася, ні заспявала!.. І гэта я, такая ўтрапёная і вясёлая... За гады сумеснага жыцця і вучобы ўмацавалася дружба з Марыяй, менавіта, таму, што яна мне самая блізкая сяброўка, не гаворачы пра роднасць. І немагчыма хоць часовая «страта», разлука з ёю. А цяпер ужо спяваю!.. Будзе жыць Маня!

Учора ўвечары гадзіны паўтары гутарылі мы з мамай і нашым дырэктарам. Пра ўсё прыйшлося!.. Дапаможа цяпер нам... І, галоўнае, кажа, што Маня здасць яшчэ экзамены разам з усімі (вясною)...

Ну, а што ў мяне добрае?.. Я пакахала хлопца... Што ж, выходзіць трэба абвергнуць прыказку «бедность не порок»? Але толькі яна, беднасць, і з'яўляецца парокам у мой час... Эх, жыццё маё! Выйшаў бы ў поле ды паклікаў бы долю сваю, размахнуў бы рукамі, як крыламі, і памчаўся, закружыўся б у віхуры, у сонцы, у радасці!.. А то... «земли творенье, — землёй живу я» — і зноў не тое... Нешта паміж небам і зямлёй...

Хутка Май. І Маня ўжо будзе ў вучылішчы. Мама заўтра паедзе дамоў. Пасху сёння святкуюць... І некаторыя нашы ядуць пасхальнае...

**14 красавіка 1947 года**

Усе сілы і клопат прыкладу, каб хутчэй «выхадзіць» Маню, вярнуць яе да жыцця і вучобы. Дзялюся з сястрой самым сваім запаветным... Зусім я дзіўная: магу аддаць усю сябе для шчасця людзей, а іншы раз сярдую і праяўляю гарачнасць у адносінах да родных...

Прагледзела кіно «Ураган» (французскае). Спадабалася. Цудоўныя віды прыроды паўднёвых мораў і астравоў, ураган, жыццё каланістаў, іх звычкі, прыгнечанне з боку эксплуататараў... Паўстае ў вачах вобраз моцнага, прыгожага, мужнага, спрытнага юнака — свабодалюбівага, смелага, адданага людзям...

Баляць ногі, усё-такі пераходзіць з аднаго канца горада ў другі цяжка. Заставіла медсястру разбудзіць Маню, сказаць пра мой прыход, і толькі тады пайшла, калі

яна сказала, што Маня ўзялася есці (яна ж, бедная, ужо больш тыдня нічога ў рот не брала). Вось такі тыф!.. Ішла ціха вячэрнім горадам, вакол цішыня, цёпла, блішчаць агні... І, як квітнеючы букет, у сваёй птушкападобнай форме, паўстаў будынак вучылішча, такога роднага, знаёмага... Вучыцца!.. Дабівацца законнага шчасця сваімі ўласнымі намаганнямі, пісаць вершы, спяваць, весяліцца!..

**15 красавіка 1947 года**

Толькі што прыбегла з кіно, была з Таццянай Сяргееўнай (нашым камсамольскім важаком, мілай і добрай жанчынай, былой мужнай партызанкай). Глядзелі «15-летний капитан». Да самага вучылішча давяла яна мяне, а то адной страшнавата... Як добра, калі маеш такіх блізкіх людзей!.. Яшчэ адзін ідэал — Дзік Сэнд. Вось на якіх вобразах трэба выхоўвацца, вось дзе чэрпаць здольнасць пераносіць самыя жорсткія цяжкасці!.. Эх, каб магла, кожны дзень па два сеансы глядзела б!.. Схіляюся перад бяссмерцем стваральнікаў гэтага кіно...

**17 красавіка 1947 года**

Мілая Манечка, колькі гарачых пачуццяў льецца з грудзей да яе!.. Якой трагічнай (хоць і радаснай) была тая мінута спаткання ў палаце (дагэтуль не пускалі!). Яна — адна там... Паднялася, марудна працягнула худзенькія збалелыя ручкі, прыхінула мяне да сябе і пацалавала... Божа мой, ну за што такое гора?..

Тры гадзіны хадзіла па рынку, каб штосьці купіць ёй (але ўсё дорага). Крыху купіла, бо атрымала грошай шмат: 170 руб. (17 руб.) і яшчэ 340 руб. (на сучасныя грошы — 34 руб. — Заўвага *Я. М.*).

Здзіўляюся энергіі сваёй (я гэтаму некалі зайздросціла Матруне Рыгораўне). Села вучыць — спакусілі дзяўчаты на фізкультурны гарадок (бегалі, скакалі цераз перашкоды, па лесвіцы лазілі, на кані, бервяне). Усё ж цяжка з жыццём...

**18 красавіка 1947 года**

Мані ўжо лягчэй стала. Паглядзела на яе ў дзверы. Сама сабрала, хаця і лежачы, баначкі свае. Пыталіся пра яе дырэктар і Аркадзь Іванавіч.

Трэба завесці сшытак па ўліку праведзенай прафсаюзнай работы, а то трэба будзе рабіць справаздачу (прыняць усё ад Дашкевіча). Атрымала «5» па педагогіцы. Скончыла чытаць «Воскресенье» Л. Т. Панясу заўтра дырэктару прагледзець рэжым дня выхаднога. На двары — цемень і моцны вецер. У сераду трэба даваць урок па пісьму. Ой, і страшна ж!..

**20 красавіка 1947 года**

Цудоўнае надвор'е! Сёння — першы такі дзянёк па вясне. Усе студэнты на двары: хто вучыць, хто бегае, хто гуляе ў гарадкі, у футбол... Але не хочацца заставацца на адным месцы ні мінуты... Учора праглядзела «Центр нападения». Гэта першая карціна з «лёгкіх». Ужо схадзіла раніцой да Мані (прыйду, пастаю на лесвіцы і назад — у палату ні-ні... тыф, нельга). Яна ўжо прыслала пісьмо класу свайму (змагла сама напісаць).

**23 красавіка 1947 года**

Ура! Дала ўрок! Нядрэнна, уклалася ў час, дзеці слухалі... Дадзены першы ўрок... Крок зроблены... Ох, будуць абмяркоўваць пасля ўрокаў.... І як радасна, добра ад першага поспеху! «Пажадаем жа Еўдакіі даваць і далей такія ж выдатныя ўрокі!» — сказаў Аркадзь Іванавіч.

**24 красавіка 1947 года**

З Манечкай ужо размаўляю праз акно... Яна такая міленькая, худзенькая, слабенькая, на хлопчыка падобна (у хустачцы, валасы пад машынку падстрыглі). У суботу раніцой паеду за ёй.

Атрымала прэмію за конкус (150 руб. — 15 руб. — *Я. М.*) Адбылося пасяджэнне прафкама: а) прыём у члены, б) разбор Манінай заявы (па прапанове Т. С. рашылі адпусціць 300 руб. для яе папраўкі), в) пра азеляненне тэрыторыі.

Баюся, што зусім абрабавалі педвучылішча прэміямі ды дапамогамі...

**27 красавіка 1947 года**

Ох-хо-хо!.. Сядзела, сядзела і, нарэшце, уздыхнула. Так замарылася, бегаючы па пакоях ды збіраючы дзяўчат, што не магу адысці... Няхай будзе ўсё праклятым-распраклятым, і людзі, якія заставілі рабіць

гэта!.. Прыняла ў Д-ча ўсе справы, валасы, як кажуць, дыбам сталі і мурашкі па целе папаўзлі. Прыйшло з ЦК ВЦСПС даручэнне. Такая ўлада прадастаўлена, чорт бы яе ўзяў! А вучоба, вучоба дзе?

Хоць нямнога лягчэй — прывезла Марыю. Але ўсюды нервы і нервы...

Вызначылася ў бегу на 500 м (1,51). Падумаць толькі: апярэдзіла «знаменитую» Із-іч! А Таня, а Таня прымчалася за 1,39!!! Пытаюся: «Ну, Таня, пакажы, як ты бегла!» А яна як «шагне» ў два крокі на ўвесь пакой!.. Рэкорд педвучылішча!..

Прагледзела «Белый клык» (прырода, прыгажосць і барацьба). Хутка Май...

**19 мая 1947 года**

Даўно я не запісвала, але нічога не забываецца. Прыехалі мама з Маруськай, адгаравалі ў нас. Прайшоў вялікі Май, вечар, выступленні... Вось толькі цяпер заквітнеў май усёй сваёй прыгажосцю... Глянеш кругом — сэрца пяе! Наш дом-вучылішча патанае ў зяляніне: зялёныя алейкі кустоў і дрэў, зялёная травіца, усё свежае і яснае, так свабодна і поўна дыхаецца, столькі размаху, што ў любы час, здаецца, зможаш паляцець на крылах... І займацца хочацца. Выйдзеш, сядзеш ці ляжыш на траўцы ля кусцікаў, раскладзеш кнігі, гэтыя бясцэнныя спадарожнікі, аловак, паперу — і вучыш... Поспехі добрыя, ледзь не кожны дзень «пяцёркі» ў лістку паспяховасці маю. Хутка ж іспыты!..

Прайшла з поспехам падпіска на дзяржаўную пазыку...

Колькі размоў з людзьмі, і важных, і дзелавых, і душэўных, і сур'ёзных!..

Уступаю глыбей у правы старшыні прафкама. Прыходзіцца і сварыцца з адным, дапамагаць і клапаціцца пра іншых, засмучацца і расстройвацца, але гэта жыццё! Гэта падрыхтоўка і да будучай педагагічнай дзейнасці, і да працы, і да ўсяго, што можа сустрэцца на шляху.

І самае большае, на чым можна праявіць сябе, — гэта вершы. Пішуць ўзмоцнена Пеця і «Кіпяток». Хутка выпускны, госці... Трэба і мне...

**20 мая 1947 года**

Праводзіла да рэдакцыі Таццяну Сяргееўну, зайшлі да яе мужа-рэдактара раённай газеты, але сказаць пра свой намер пісаць у газету я пасаромелася, бо там сядзеў незнаёмы карэспандэнт (заканчвае факультэт журналістыкі... Вось бы куды!..). Няўжо я не вартая ніколькі?.. Ісці наперад, змагацца, забывацца на беднасць гэтую праклятую, на абутак і адзенне, на дробязнасць знешнасці равеснікаў!..

Напісала ў «С. М.» Госпадзі, а калі яно падыходзячае, маё пісанне? Сказалі напісаць да вечара, як рыхтуюся да экзаменаў, як здам, а гэта значыць, узяць на сябе адказнасць, цану сумлення. Паспрабую!..

**22 мая 1947 года**

Пачаўся апошні тыдзень вучобы. Як хутка! Прайшоў год... І так, мусіць усё жыццё... Будзеш крочыць гадамі і не ўбачыш, як узыйдзеш на тую гару, з якой, як гаварыў Гі дэ Мапасан, пачынаецца круты спуск уніз, да смерці... Але пра гэта не буду!..

Правучыцца тыдзень, з'ездзіць дадому, здаць іспыты. Але лаўлю сябе на тым, што часта не ажыццяўляю намечанага. Хутка ўсё мяняецца. Ці даўно было 10, 15 гадоў, а цяпер вось 18-ы пачаўся... Калі тады я разумела і бачыла толькі праз маленькі авал, то да гэтага часу гэты авал павялічыўся да вялікага круга і, гледзячы праз яго, па-іншаму паўстае ўвесь род чалавечы...

**23 мая 1947 года**

Як жыць далей? Хто ж нас будзе абуваць, карміць, апранаць?.. З'ездзіць дамоў, дамовіцца на лета на працу… Але як дабрацца? Прынялі ў камсамол дваіх «заядлых». Глядзела «Последнюю ночь»…

**26 мая 1947 года**

Шмат гутарылі с сакратарамі абкама і ЦК камсамола. Работа ў абласным лагеры на лета забяспечана. З 12 да 5 — пленум, была ў прэзідыуме, пісала нешта. Вучылішча наша больш хвалілі.

Галоўнае з апошніх толкаў і нервознасці — Марыя накіравана на працу ў Міёрскі раён... Кажуць, багаты раён, лягчэй пражыць, тым больш з мамай. Божа мой, як будзе?..

**1 чэрвеня 1947 года**

Напісалі рускі дыктант. У мяне — «пяць»! Застаецца здаць яшчэ 10 экзаменаў за другі курс педвучылішча. Трэба рыхтавацца...

**3 чэрвеня 1947 года**

«…Трэба адзначыць асаблівы і бліскучы адказ Лось Еўдакіі», — так сказаў Уладзімір Антонавіч Калтовіч, чытаючы адзнакі па здадзенай вусна рускай мове, ва ўрачыстай абстаноўцы, у прысутнасці ўсёй камісіі... Радасна!

**6 чэрвеня 1947 года**

— Вось мы і пазнаёміліся сёння…

— Так, каля гэтых кусцікаў акацыі мы з Маняй фатаграфаваліся, — адказваю я...

Што такое жыццё?.. Кажуць, што любоў — гэта жыццё, а жыццё — гэта барацьба, значыць, і любоў таксама — барацьба...

...Як уладкуецца Маня? Як мама? Як сама?.. Як зажывацца?..

**8 чэрвеня 1947 года**

Атрымала па прайшоўшых экзаменах «пяцёркі». А нядаўна смяяліся з майго «самонаказания»: я згодна лепей з’есці 5 кацялкоў смятаны, чым брацца за гісторыю... Кажуць, атрымаем значкі ГПА (ГТО). Прачытаю «Піянерскі лагер» (да працы), пазнаёмлюся з планамі важатых. А сваё вершапісанне?.. Закінула...

А да выпускнога (трэцяга курса) «ганяе» Т. С. пісаць «прысвячэнне»...

Што ж галоўнае ў жыцці? Да чаго больш імкнуцца? Чаго дабівацца? Хто дасць адказ?..

А гісторыю здала на «5»! На двары дождж лье, быццам восенню.

**12 чэрвеня 1947 года**

Маня здае дзяржаўныя экзамены за апошні трэці курс педвучылішча вельмі добра (праўда, ідзе на экзамен і трымаецца за сцены калідора, яшчэ слабая пасля тыфу...). А з работай і накіраваннем у яе мяняецца... Можа, бліжэй да Глыбокага будзе працаваць?..

Кансультавала сваіх па рамане «Будучыня».

Прыслаў Броўка тэлеграму, дзякуе за віншаванне з атрыманнем Дзяржаўнай прэміі, прыедзе на выпускны разам з Я. Коласам... Пазванілі, атбой у вучылішчы... Пара спаць...

**16 чэрвеня 1947 года**

Цёмна, цёмна. Пішу наўздагад, заўтра пагляджу. Дыханне ночы ап’яняючае, жыватворнае. Сяджу на акне, від цудоўны: вунь блішчыць ад водсветаў зары гладзь возера, сярод цёмных гмахаў дрэў свецяцца электрычныя агні, даносіцца брэх сабак, квакаюць жабы, чувань гукі радыё... На небе зоркі... Цудоўная ноч! Летняя ноч… Успамінаецца жыццё ў Лепелі, параўноўваем: што ж, як неба з зямлёй — такая розніца!..

Згаджуся заўтра сфатаграфавацца з Ф-ым... А вось не люблю — і ўсё!..

Ларыса В-іч — мілая дзяўчына, яна дапамагае мне «гора гараваць»...

**23 чэрвеня 1947 года**

Здала апошні экзамен! Госпадзі, я студэнтка 3-га курса!..

Дарагія мае таварышы, сябры, разлучымся з вамі на цэлае лета... Не ўдалося з Лорай развітацца — тэрмінова на Пленум, адтуль — у лагер. Ужо ўладкавала сваё жыхарства (спачатку пазнаёмілася з начальнікам лагера, дзяўчатамі-важатымі). Колькі працы наперадзе!..

**24 чэрвеня 1947 года**

...Адыходжу ў лагер, ён тут, у Глыбокім, абласны піянерскі... Сёння начавала яшчэ ў педвучылішчы. А дома будуць чакаць... Маня таксама будзе працаваць цэлае лета ў гэтым жа лагеры... Асвяці мне, жыватворнае сонца гарачае, шлях працоўны! Дапамажыце ж, людзі! Будзь падмогаю ўсё зямное!..

**25 чэрвеня 1947 года**

Лягла спаць у 2 гадзіны ночы. Хадзіла разам з хлопцам, музыкантам лагерным, сустракаць дзяцей, якія павінны прыехаць у лагер. Ні адзін не прыехаў у гэты раз. Так забегалася за дзень, што ног не адчуваю.

Рэгістравала прыбыўшых, вадзіла ў лазню, стрыглі. Прыбылі ўшацкія; і толькі тады, убачыўшы іх, землякоў, прыйшла ў галаву думка: чаму ж не прыехаць Марусі (малодшай сястры)? 13 чалавек іх, а яе няма... Напісала пісьмо Васілеўскаму і Шаўцову, каб дапамаглі там, ва Ушачах...

# TV-СЕТ



## КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА НАША ТЭЛЕБАЧАННЕ

**Вадзім Салееў:** — Яго ўзровень нізкі, значна ніжэйшы, напрыклад, чым узровень расійскага тэлебачання, хоць там свае нюансы. Мы маем сёння такое тэлебачанне па дзвюх прычынах. Першая — дрэнны падбор кадраў: ён у асноўным асобасны, я так мяркую. Другая прычына хаваецца ў беларускім менталітэце, я нават сказаў бы больш рэзка — у вясковай памяркоўнасці.



**Ларыса Гулякевіч:** — Не згодна з такім меркаваннем. Вы гаворыце як крытык, а мы, работнікі тэлебачання, бачым праблему знутры. Асабіста я думаю, што наша тэлебачанне адрозніваецца, напрыклад, ад расійскага тым, што ў нас зусім іншыя рэаліі і іншы падыход. У іх сетка вяшчання будуецца на падставе рэйтынгаў. У нас, на жаль, ці на шчасце, такой практыкі няма. З аднаго боку, рэйтынгавая накіраванасць робіць тэлебачанне больш канкурэнтаздольным, прыцягвае гледачоў і рэкламадаўцаў. З другога ж, калі ўлічваць толькі рэйтынгі і сённяшнія інтарэсы гледача, то тэлебачанне перастае фарміраваць сваю аўдыторыю і пачынае падстройвацца пад густы людзей, якія не заўсёды «на ўзроўні».



**Вольга Сахарава:** — У нас свой падыход, непадобны да іншых, але ж і самі мы — іншыя. Праблема менавіта ў менталітэце беларусаў, у тым, што сваё ім ніколі не падабаецца. Я шмат гадоў працую ў гэтай сферы і, вядома, параўноўваю наша тэлебачанне з іншымі. І, ведаеце, удасканаленне ёсць. З кожным годам назіраецца сур'ёзны рост. Вазьміце любую сферу (кіно, літаратура) — там дзейнічаюць тыя ж прынцыпы: інфармацыя падаецца з улікам запатрабаванняў грамадства, для якога і прызначана. Яшчэ ўлічвайце, што беларускае тэлебачанне не камерцыйнае, але самаакупляльнае, і што да палітыкі вяшчання, то яна выбудоўваецца пад густы нашай аўдыторыі.

**Удзельнікі:**

**Вольга САХАРАВА — дырэктар дырэкцыі мастацкіх праграм тэлеканала «Сталічнае тэлебачанне», аўтар праекта «Мінск і мінчане».**

**Ларыса ГУЛЯКЕВІЧ — каментатар агенцтва тэленавін Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь, тэлевядучая, аўтар праектаў.**

**Вадзім САЛЕЕЎ — крытык, доктар філасофскіх навук, галоўны навуковы супрацоўнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.**

**Юлія АЛДУХОВА — журналіст, мадэратар праекта.**

* * *

***Юлія АЛДУХОВА: —** Пагадзіцеся, што цяпер у аўдыторыі велізарны выбар, што глядзець. Ці вытрымліваюць беларускія тэлеканалы такую жорсткую канкурэнцыю?*

**Л. Г.:** — Вольга правільна сказала: мы жывём у гэтай краіне і робім прадукт для яе жыхароў, і наша тэлебачанне сёння беларусы глядзяць нават на фоне велізарнай канкурэнцыі.

**В. Сахарава:** — Як у нас кажуць, лепш быць першым у вёсцы, чым другім у горадзе. У нас, паглядзіце, усе вядомыя медыйшчыкі становяцца добрымі, калі адсюль з'язджаюць: тады іх раптам пачынаюць любіць. Гэта, на жаль, не іх бяда. Калі Дзмітрый Калдун спяваў на нашых каналах, яго крытыкавалі як маглі, а «пераехаў» на расійскія — усё, зорка беларуская. Вазьміце Рыбака, які спявае ў зусім іншай краіне. Яго выгадавала Нарвегія, але мы ўспрымаем яго як беларуса. Такая ўжо ў нас звычка: хваліць сваё толькі тады, калі гэта ацэняць чужыя.

***Ю. А.:** — Атрымліваецца, што справа ў менталітэце саміх гледачоў, а не ў палітыцы тэлевяшчання? А ці не ў гэтым асноўная мэта тэлебачання: мяняць успрыманне аўдыторыі?*

**В. С.:** — Безумоўна, і ў гэтым задача тэлебачання. Але адносіны людзей да той ці іншай з'явы — гэта велізарны пласт, і я не ведаю, колькі павінна прайсці гадоў, каб яго зрушыць.

**Л. Г.:** — Але ў нас таксама павінен быць тэлевізійны рынак і канкурэнцыя. Увогуле, толькі канкурэнтаздольны прадукт мае права на існаванне, а калі мы самі будзем спрабаваць навязвацца гледачам, дыктаваць ім, што глядзець, то развіцця і ўдасканалення не будзе.

***Ю. А.:** — Пяройдзем да кадравага пытання: ці з'яўляюцца работнікі тэлебачання прафесіяналамі? Ёсць меркаванне, што на тэлебачанне сёння можна патрапіць толькі «праз знаёмства». Атрымліваецца, што нават калі ты добры спецыяліст, без сувязей у тэлесферу табе шлях закрыты. Месцы займаюць тыя, хто мала ўмее і не хоча вучыцца.*

**Л. Г.:** — Тут я хачу паспрачацца. Вось спадар Вадзім кажа, што ўзровень нашага тэлебачання ў нейкай ступені сфарміраваны асобасным кадравым адборам. А я магу даказаць, што гэта не так. У нас ёсць вельмі добрыя тэлевізійныя спецыялісты. Безумоўна, яны не былі мэтрамі з самага пачатку, але талент, працаздольнасць і ўменне заўсёды вучыцца, пашыраць свой кругагляд няспынна да вопыту дадаюцца і сваю справу робяць. Упэўнена, што ў нас шмат аператараў, рэжысёраў, карэспандэнтаў і аўтараў, якія ствараюць тэлепрадукт высокай якасці. І добры спецыяліст не той, што прыйшоў праз знаёмства, а той, хто зрабіў сябе сам, той, хто любіць сваю прафесію і жыве ёю. Такія людзі на нашым тэлебачанні ёсць.

***Ад рэдакцыі.** Менавіта «ёсць», а не «На нашым тэлебачанні працуюць толькі такія». Бо хто гаворыць «штампамі», хто не вытрымлівае патрэбную інтанацыю, хто выглядае ненатуральна, хто, урэшце, таўчэ рукамі ў кадры, раздражняючы гледача?*

**В. С.:** — Анекдот у тэму. Узялі маладога журналіста працаваць на тэлебачанне. У першы ж дзень калегі пытаюцца: «У цябе што тут, блат?» Ён адказвае: «Не, сястла».

А калі сур'ёзна, то гэта меркаванне тых, хто ўвогуле далёкі ад тэлевізійнай сферы. Для іх тэлебачанне — недасяжная вышыня. Нават калі ім нехта скажа, што працуе на тэлебачанні і ўладкаваўся сюды без усялякіх «сувязей», яму проста не паверацць. А правяраць ніхто не будзе.

***Ю. А.:** — Мяркуючы па вашых словах, уладкавацца на працу на тэлеканал даволі проста.*

**В. С.:** — Не проста, але магчыма. Патрэбна жаданне, вядома, талент, а яшчэ разуменне таго, што тэлебачанне — гэта не толькі прыгожая карцінка, у якой фігуруеш ты, а цяжкая праца, у якой удзельнічаюць дзясяткі і сотні людзей, і тое, што мы бачым на экране, — вынік гэтай працы.

**Л. Г.:** — Абсалютна згодна з Вольгай. Паверце, калі вядучы не таленавіты, не ўмее гаварыць і не мае харызмы, гэта бачна. І нават калі ў яго і «сястла», і «блат» на тэлебачанні, гэта яму не дапаможа: гледачоў падмануць не атрымаецца. Тое самае і ў рабоце журналістаў. Журналіст — гэта той, хто, жывучы прафесіяй, сам шукае новыя тэмы і праяўляе ініцыятыву ўвесь час. Гэта стыль жыцця і стан душы. Я больш як дзесяць гадоў жыву ў гэтым рытме — не ведаючы, чым пачнецца і чым скончыцца дзень. Гэта не проста, але для мяне гэта не хаос, а такі парадак, прадугледжаны прафесіяй. Калі чалавек да гэтага не гатовы, яму лепш выбраць нейкі іншы кірунак дзейнасці.

**В. С.:** — У мяне ў дырэкцыі кадры абнаўляюцца пастаянна. А справа ў тым, што на тэлебачанні мала працаваць, тут трэба «пахаць» у вельмі напружаным рытме. Не ўсе гэта могуць і хочуць. А калі чалавек гатовы працаваць, ведае, што такое тэлебачанне, і ўпэўнены, што справіцца, трэба яму пра свае ўменні напісаць у рэзюмэ. Запрашаю павышаць узровень беларускага тэлебачання да нас на канал.

**В. Салееў:** — Вось вы мне і дапамажыце. Таму што асабіста я тры разы спрабаваў прапанаваць свае ідэі і праекты на беларускія тэлеканалы. Нічога не атрымалася! Два разы быў на сустрэчы са старшынёй Белтэлерадыёкампаніі Давыдзькам. Ён мне параіў тое, што і Вольга: напісаць рэзюмэ, выкласці свае ідэі. Я так і зрабіў: распісаў сваё бачанне, якім павінен быць культурны блок на першым канале. Што цяпер магу сказаць… Многія аспекты былі ўлічаны, але без майго ўдзелу…

***Ю. А.:** — Вы хочаце сказаць, што меў месца плагіят? Вашы ідэі былі ўвасоблены без вашага ведама?*

**В. Салееў:** — У плагіяце я нікога асабіста не абвінавачваю, але тэндэнцыя такая прасleджваецца. Цяпер зноў вырашыў прапанаваць перадачу. Гэта ўвогуле мая мара — каб на нашым канале была асветніцкая праграма, арыентаваная на моладзь, такі эстэтычны перыскоп у стылі Вульфа. Прыйшоў з гэтай ідэяй, мне зноў прапаноўваюць усё распісаць і аддаць. Але я цяпер навучаны. Ды і энтузіязму ўжо не так шмат.

**В. С.:** — На самай справе з новымі праектамі не ўсё так проста. Вядома, ідэі патрабуюцца, але яны павінны ўкладвацца ў агульную канцэпцыю тэлеканала. Большасць праектаў падбіраецца згодна з прынцыпам актуальнасці. Таму важна не проста прапанаваць, але і ўвайсці ў фармат. Ёсць пэўныя тэмы, ёсць праекты — пад іх мы падбіраем людзей, а не наадварот. Прапанаваць сваю кандыдатуру — не забараняецца, але «свой праект» вам адразу не дадуць: сябе трэба зарэкамендаваць. А калі ўвогуле ў сетцы вяшчання такой тэмы не запланавана, то яе і не будзе.

***Ад рэдакцыі.** Ці добра гэта? А раптам чалавек з вуліцы прапануе нешта такое, да чаго ў тэлевізіёншчыкаў проста не дайшлі думкі?*

***Ю. А.:** — Ці бывае так, што праект прымаюць, а яго аўтар застаецца «за бортам»?*

**Л. Г.:** — Тут пытанне спрэчнае. Пагадзіцеся, абсалютна новых тэм няма, усе яны так ці інакш асвячаюцца, ёсць толькі рознасць іх падачы. Аўтарскай. Кожны прадстаўляе пасвойму. Напрыклад, возьмем тэму «мода» — праектаў такога кшталту шмат, на розных каналах. Асабіста я праграмы «Модны прыгавор» ці «Супер-мадэль па-руску» зрабіла б зусім па-іншаму, і гэта не будзе плагіятам. Таму казаць, што чужыя ідэі эксплуатуюцца на тэлебачанні без ведама іх аўтараў, я б не рызыкнула. А што да канцэпцый, то калі чалавек прыносіць свае ідэі на тэлебачанне, але сам не ведае, як функцыянуе сістэма, і спадзяецца пры гэтым, што яго возьмуць на працу, якую ён рабіць не умее, — ён вядзе сябе неразумна.

**В. С.:** — А калі рабіць новы праект з нуля, то патрэбны каманда прафесіяналаў, тэхнічнае абсталяванне, бюджэт, камерцыйны складнік — мноства нюансаў. Сапраўды, многія геніяльныя на першы погляд праекты так і застаюцца на ўзроўні ідэі, таму што намаганні па іх рэалізацыі перавышаюць вынік.

**Л. Г.:** — Такі прынцып пануе не толькі на беларускім тэлебачанні. На любым тэлеканале кіраўніцтва вырашае, якія праекты пойдуць у эфір, а журналісты толькі рэалізуюць пастаўленыя перад імі задачы.

***Ю. А.:*** *— А што можна сказаць не пра забаўляльныя і асветніцкія праекты, а пра інфармацыйныя праграмы? Хто вырашае, што будзе глядзець аўдыторыя?*

**В. С.:** — Тут дзейнічае прынцып «ад падзеі». Мы асвячаем самыя вострыя тэмы і самыя яркія здарэнні, якія адбываюцца ў нашай краіне.

**Л. Г.:** — Таксама мы падрыхтоўваем насельніцтва да некаторых запланаваных падзей. Напрыклад, перад уступленнем у сілу новага законапраекта ў эфір выходзіць серыя рэпартажаў на гэтую тэму. Так робіцца для таго, каб беларусам былі зразумелыя прычыны прыняцця гэтага закона і ўсе асаблівасці яго прымянення на практыцы. Тут няма нічога новага, так працуюць усюды, гэта называецца «правільна пастаўленая інфармацыйная работа».

***Ад рэдакцыі.*** *Можа і дробязь, але чапляе. У вечаровых выпусках выхаднога дня заўсёды расказваецца пра тое, што цікавае дзе адбывалася. Чаму ў ранішніх не ідуць анонсы гэтых мерапрыемстваў?*

**В. Салееў:** — А вось я вам скажу такую рэч. Сёння журналісты няправільна захапілі першынство. У савецкі час пісьменнікаў называлі «інжынерамі чалавечых душ», гэта можна прымяніць і да журналістаў. Калі казаць словамі вядомага крытыка Ірыны Пятроўскай, сённяшніх журналістаў можна назваць толькі рэкеціpамі. Кожны з якіх, за рэдкім выключэннем, лічыць сябе суперпрафесіяналам. Да таго ж гэты «спецыяліст» зусім не гатовы да крытычных выказванняў у адносінах да яго працы і беларускага тэлебачання ўвогуле. Асноўная праблема ў тым, што на нашым тэлебачанні сёння няма асобы. Ужо згаданы Вульф і сам быў чалавекам унікальным, і яго праекты былі творамі мастацтва. А сённяшнія праграмы — пустыя, у іх не засталося душы: яе не ўмеюць укладаць у праекты самі работнікі тэлебачання.

***Ю. А.:*** *— Напэўна, ёсць сэнс пагаварыць пра ступень падрыхтоўкі журналістаў. Ці патрэбна, каб работнік тэлебачання меў дыплом журфака? Ці мае гэта прынцыповае значэнне?*

**Л. Г.:** — Для мяне асабіста пытанне актуальнае. Я не маю журналісцкай адукацыі. Па першай адукацыі — філолаг беларускай мовы і літаратуры, потым яшчэ скончыла аспірантуру ў Акадэміі мастацтваў па тэатразнаўстве. Трапіла на тэлебачанне выпадкова. Вядома, я хацела працаваць у гэтай сферы, але менавіта журналісцкую прафесію набывала праз вопыт. Таму я і лічу, што мець дыплом — неабавязкова, галоўнае — быць адукаваным і развітым чалавекам. І расці ў прафесійным сэнсе.

**В. С.:** — Вядома, мае значэнне і падрыхтоўка. Для мяне гэта актуальнае пытанне як для кіраўніка, які падбірае кадры. Сёння журналісцкую прафесію атрымліваюць многія, а працуюць журналістамі — адзінкі. Для прыкладу, з майго курса толькі чалавек дзесяць пайшлі ў іншую сферу, астатнія — працуюць у СМІ і даволі паспяхова. А калі сённяшнім абітурыентам, якія збіраюцца паступаць на журфак, задаюць пытанне, чаму яны выбралі гэту прафесію, то адказ амаль адзін і той жа: «Хачу быць тэлевядучым». А тое, што за вядучым стаіць каманда людзей, якія «робяць» яго выступленне, нікога не хвалюе. Атрымліваецца, што з патоку ў тры дзясяткі чалавек толькі некалькі сапраўды хочуць і могуць працаваць на тэлебачанні. Але і дыплом, вядома, не панацэя. У інстытуце даюць тэорыю, і калі чалавек, які мае зусім іншую спецыяльнасць, валодае харызмай і жаданнем працаваць, а не проста красавацца на экране, то не мае значэння, якая спецыяльнасць стаіць у яго дыпломе.

***Ю. А.:*** *— А быць тэлевізійным вядучым — гэта сапраўды амаль недасяжна, нават калі гэта тваё прызванне?*

**В. С.:** — Увогуле, на тэлебачанні вельмі важна апынуцца ў патрэбны час і ў патрэбным месцы. Калі я яшчэ працавала прэс-сакратаром на АНТ, мы праводзілі кастынг вядучых. Была вялізная колькасць заявак,

каля шасці тысяч. Я памятаю Вікторыю Сянкевіч, якая прыйшла на гэты кастынг, але яе не ўзялі: тэлеканалу быў патрэбен іншы тыпаж. І яна магла на гэтым паставіць кропку, адмовіцца ад свайго жадання. Але Віка верыла ў сябе, і цяпер мы бачым яе на тэлеканале Беларусь 1. У яе ўсё ж атрымалася апынуцца ў патрэбным месцы ў патрэбны час і праявіць сябе.

**В. Салееў:** — Нічога не маю супраць Вікторыі Сянкевіч, мне падабаецца, як яна працуе. Але ў большасці сённяшніх вядучых нечага не хапае. Я ўжо не кажу пра асобу, гэта вельмі высокая планка. У нашых вядучых няма нават індывідуальнага почырку. Возьмем Аксану Пушкіну. Хоць яе за многае можна крытыкаваць, але аднаго ў яе не адымеш: яна сама і яе праект — індывідуальныя. На беларускім тэлебачанні такіх праектаў увогуле няма.

**В. С.:** — І пра Аксану Пушкіну доўгія гады ніхто не ведаў, і яе праца заставалася за кадрам. Каб імя пачало працаваць на цябе, трэба спачатку самому папрацаваць на імя. Вы гаворыце пра праекты, якія існуюць больш за дзесяць гадоў, а назавіце хоць адно імя, якое толькі нядаўна з'явілася? Да індывідуальнасці трэба прайсці доўгі шлях, і таленты з такім патэнцыялам у нас ёсць.

**Л. Г.:** — На самай справе вядучы — гэта не проста прыгожы твар на экране. Павінна быць харызматычная, прадстаўнічая і, што немалаважна, інтэлектуальная асоба. Вядучы павінен прапускаць тэкст праз сябе, інакш яго ніхто не пачуе і інфармацыя не будзе ўспрынята. Тут патрэбен пасыл, адчуванне тэмы. У Белтэлерадыёкампаніі некалькі разоў мяняўся падыход да адбору вядучых. Быў перыяд, калі лічылі, што чым маладзей, тым лепш, потым звярталіся да больш сталых журналістаў, потым зноў пачыналі кадры амаладжваць. Я асабіста лічу, што вядучы павінен мець за плячамі сур'ёзны вопыт працы журналіста на тэлебачанні.

**В. Салееў:** — Я вам раскажу сакрэт. Аднойчы я спрабаваў сябе ў ролі вядучага тэлевізійнай праграмы беларускага тэлебачання і на сваім вопыце пераканаўся, што залог поспеху праграмы ў каманднай рабоце. Мы, напрыклад, з маім сувядучым былі і суаўтарамі перадачы: самі пісалі тэксты, адбіралі тэмы, былі, як кажуць, «на адной хвалі».

**В. С.:** — Ведаеце, так здараецца, што вядучымі становяцца зусім выпадкова. Так было ў мяне. Калі я перайшла працаваць на СТБ, мне была блізкая ідэя праекта «Мінск і мінчане», але зусім не падабалася яе рэалізацыя: фармат праекта быў састарэлы. Тады я проста прапанавала кіраўніцтву свае ідэі, іх прынялі. Планавалася, што праграму будзе весці мужчына. Запрашалі нават Дзмітрыя Шэпелева, але першы выпуск — пілотную праграму — запісала я сама як аўтар і вядучая. Усім спадабалася. Так я стала вядучай праграмы «Мінск і мінчане».

***Ю. А.:** — А хто фарміруе імідж вядучых, якую яны павінны прайсці падрыхтоўку да працы ў эфіры? Як павышаецца іх прафесіянальны ўзровень?*

**Л. Г.:** — Усё прыходзіць з вопытам. Каб стаць любімым гледачамі, трэба папрацаваць у эфіры некалькі гадоў. Вазьміце расійскае тэлебачанне. Там раскручваюць сваіх вядучых. А ў нас іншы падыход — увесь час новыя твары. Нават калі вопыту мала ці зусім няма — адразу ў эфір. Пры гэтым адзінкі могуць адразу прафесійна падаць сябе з экрана. Адсюль і адчуванне ў гледачоў — некампетэнтнасці, няспеласці.

**В. С.:** — Самае галоўнае для тэлевядучага — каб яму верылі. Калі ёсць давер, можна гаварыць пра што заўгодна, і цябе будуць слухаць. Раней вядучыя жылі на тэлебачанні ў прамым сэнсе гэтага слова, ведалі ўсе тонкасці гэтай сферы, самі пісалі тэксты, былі стылістамі і рэдактарамі. Сёння сітуацыя змянілася. Напрыклад, у ранішні эфір «Утро. Студия хорошего настроения» мы запрашаем у якасці вядучых праграм прафесійных акцёраў. І для таго, каб яны маглі зразумець тэлевізійную сферу, а не проста чытаць тэксты, хай і з добрай падачай, мы аднойчы памянялі месцамі ўсіх удзельнікаў працэсу: вядучы пабываў у ролі рэжысёра і рэдактара, і наадварот. Гэта карысны вопыт для таго, каб людзі навучыліся ўзаемадзейнічаць, як адна каманда.

***Ю. А.:*** *— Калі гаварыць пра работнікаў тэлебачання, ці бачыце вы праблему ў тым, што лепшыя кадры, сапраўдныя прафесіяналы не застаюцца ў Беларусі, а ад’язджаюць у іншыя краіны?*

**В. С.:** — А з такім меркаваннем я не згодна. Адток спецыялістаў ёсць у любой сферы, большасць таленавітых тэлевізійшчыкаў у нас застаецца. Але іх праца не выдзяляецца, пра яе не гавораць, не абмяркоўваюць — пакуль яны працуюць у нашай краіне.

***Ю. А.:*** *— На нашых тэлеканалах, на жаль, вельмі мала гучыць беларуская мова. Ці бачыце вы ў гэтым праблему, і калі так, то падзяліцеся сваімі думкамі па яе рашэнні.*

**В. С.:** — У мяне такое адчуванне, што многія лічаць задачай тэлебачання навучыць мове, але гэта нерэальна. Усё пачынаецца значна раней, ад сям’і, школы. Калі чалавек гаворыць і думае на беларускай мове, калі на гэтай мове размаўляюць яго бацькі, тады ідзе фарміраванне асобы ў культуры мовы, а тэлебачанне ў гэтым можа толькі дапамагчы. І беларускамоўныя праекты ў нас ёсць, іх не так шмат, але, згадзіцеся, сёння большасць гледачоў усе ж гаворыць і думае па-руску, таму гэта лагічна і заканамерна.

***Ад рэдакцыі.*** *Чалавек можа і мае права захапіцца беларускай мовай у любым узросце. Такіх захопленых было б значна больш, калі б мова на тэлебачанні гучала хаця б у прапорцыі 50 на 50.*

**В. Салееў:** — Не магу згадзіцца з вашым меркаваннем. Калі дзяржаўная праграма накіравана на пазіцыянаванне мовы, то яна будзе гучаць з экранаў у пераўзыходнай ступені, і тады людзі пачнуць гаварыць і думаць на мове. Больш за тое, атрымліваецца, што і руская літаратурная мова ў чыстым яе выкананні на нашых каналах таксама не гучыць.

**Л. Г.:** — А вось тут вы не маеце рацыю. Літаратурная руская мова ў чыстым выглядзе на нашых тэлеканалах ёсць. Але ж мне, як філолагу, бліжэй усе ж беларускае гучанне. Усе свае рэпартажы і праграмы я з задавальненнем раблю на роднай мове. І лічу, што на беларускім тэлебачанні павінна больш гучаць беларуская мова — правільная і мілагучная.

**В. С.:** — Тэлебачанне — гэта частка культуры. І калі гаварыць пра пазіцыянаванне беларускай мовы, то для гэтага павінна быць падрыхтавана глеба. Цяпер зрабі беларускамоўную маладзёжную праграму — і хто яе глядзець будзе?

**В. Салееў:** — А можа і будуць. Вось да нас у інстытут прыходзіць вялікая колькасць лістоў на гэты конт. Апошні ліст быў з Магілёва. Чалавек піша, што паколькі на нашым тэлебачанні амаль увогуле не гучыць родная мова, а гэтага вельмі хочацца, то ён прапаноўвае некалькі праектаў, якія маглі б выходзіць на тэлеканалах у беларускамоўным гучанні. Я хачу сказаць, што такая неабходнасць у людзей ёсць, можа, не ва ўсіх, але ў многіх. Я і сам бачу вялізную патрэбу ў асветніцкай праграме на беларускай мове.

**Л. Г.:** — А мне здаецца, добрым выйсцем будуць не толькі асветніцкія праекты. Ёсць катэгорыі людзей, якія ўвогуле асветніцкія праграмы не ўспрымаюць — ім гэта не цікава. А калі менавіта ўсе папулярныя і рэйтынгавыя перадачы будуць на беларускай мове, то аўдыторыя будзе працягваць глядзець іх на роднай мове.

***Ю. А.:*** *— Сёння сусветная сетка прыцягвае ўсё большую аўдыторыю, набірае абароты і інтэрнэт-тэлебачанне. Ці ёсць у вас меркаванне, што хутка эфірнае тэлебачанне не вытрымае канкурэнцыі з інтэрнэтам?*

**В. С.:** — Тэлебачанне было, ёсць і будзе. А вось як яно трансфармуецца на фоне развіцця IT-тэхналогій, якім стане — гэта ўжо тэма іншай размовы. Мы цяпер увязваем інтэрнэт і тэлебачанне ў агульную канву. СТБ вяшчае не толькі ў тэлеэфіры, але і ў інтэрнэце.

**В. Салееў:** — Я нядаўна выступаў у праграме на TUT.BY. Абмяркоўвалі аматарскі і прафесійны тэатр. Добра пагаварылі, і, вядома, нашу размову можна было ўбачыць на сайце, ды і цяпер можна знайсці гэтае відэа, калі каму цікава. І вось што я магу сказаць:

гэта вельмі добра, што ёсць інтэрнэт-тэлебачанне. Але якасць там зусім іншая, і карцінкі, і гуку, ды і ўвогуле з эфірным тэлебачаннем не параўнаць. З іншага боку, раскрываюцца тэмы, якія цікавяць аўдыторыю, больш аператыўна, бліжэй да людзей. І гэта будуць глядзець, хай і ў такой якасці.

**Л. Г.:** — Менавіта за кошт даступнасці і аператыўнасці інтэрнэт-тэлебачанне ахоплівае такую вялікую аўдыторыю. Але сапраўды, эфірнае тэлебачанне — прадукт зусім іншай якасці, так што, мне здаецца, усё будзе ісці паралельна.

***Ю. А.:** — Якім вы хочаце, каб беларускае тэлебачанне было для вашых дзяцей і наступных пакаленняў?*

**В. С.:** — Мне здаецца, ідзе да таго, што хутка і ў нас будуць тэматычныя тэлеканалы. Гэта патрэбна аўдыторыі. Падабаецца спорт — уключаеш спартыўны канал, дзеці глядзяць мульцікі, яшчэ нехта — фільмы ці проста слухае музыку. Атрымліваецца, што ўсе густы ўлічаны ў сетцы вяшчання. Мне і як работніку тэлевізійнай сферы, і як гледачу такое развіццё здаецца правільным.

**Л. Г.:** — І мы ўжо да гэтага ідзём. Размежаванне тэматык на кабельных каналах ужо актыўна выкарыстоўваецца. Але так як я працую ў Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, мне ёсць з чым параўнаць, і я хачу бачыць лепшую якасць праектаў. І, вядома, хочацца, каб пачала працаваць рэйтынгавая сістэма, каб мы ведалі, што цікава гледачам, што ім падабаецца і ўвогуле, каб мы самі ведалі, для каго працуем.

**В. Салееў:** — Вядома, беларускае тэлебачанне сёння выконвае дзяржаўныя заказы. І з гэтага пункта гледжання сучасныя тэлеканалы не арыентаваны на гледачоў, а працуюць на сябе і для сябе. Я спадзяюся, што ў будучым сітуацыя зменіцца. Да таго ж хочацца, каб на нашым тэлебачанні было больш асветніцкіх, культурных праграм. Толькі там можна будзе процістаяць гэтай інфармацыйнай павярхоўнасці. А цэнтральнай ідэяй на тэлебачанні, акрамя ўсяго іншага, павінна быць прапаганда беларускай культуры і мовы.

**Вось такая няпростая, але цікавая склалася ў нас размова. Вядома, ніякіх праблем мы з маімі суразмоўцамі не вырашылі, але такой задачы не ставілася. Напрыканцы хочацца ўзгадаць народную мудрасць: што маем — тое заслугоўваем. І беларускае тэлебачанне сёння аб'ектыўна такое ж, як аўдыторыя, для якой яно функцыянуе. Момант спрэчны, але крытыкаваць лягчэй за ўсё, а вось пачаць змены свету з сябе…**

**Давайце паспрабуем!**

*Запісала Юлія АЛДУХОВА*

## www.maladost.lim.by

### ТОЛЬКІ НА САЙЦЕ!

**Чытайце ў рубрыцы «Думкі ўслых» артыкул Вадзіма Салеева «У напрамку да дасканаласці» — прысвячэнне 7-му Міжнароднаму маладзёжнаму тэатральнаму форуму «M@rt кантакт».**

***…Цяпер, калі прайшоў нейкі час і можна агледзець увесь фэст цалкам, ён уяўляецца даволі цікавым. Узлёты перакрыжоўваюцца з падзеннямі на фоне зацікаўленасці не толькі гледачоў — з гэтымі даўно ўжо ўсё зразумела, яны прызвычаіліся, што ў канцы сакавіка робяца ўдзельнікамі свята, — але і ўсяго горада. Шкада толькі, што баявая газета, якая ладзілася супрацоўнікамі літчасткі магілёўскага тэатра цягам усіх папярэдніх фэстаў, «загадала доўга жыць». Шкада, таму што яна была маладой і яршыстай; меркаванні пра спектаклі, якія ў ёй друкаваліся, былі часам нечаканымі, партрэты членаў журы і запрошаных крытыкаў — гумарыстычнымі... Іншымі словамі, гэта быў феномен, які аздабляў фэст.***

***…«M@rt-кантакт» заняў асобнае месца ў фестывальным руху на прасторы СНД. Форум, які ўразіў гледача «лица необщим выраженьем» сем гадоў таму, трымае гэтую марку і па сёння. Асабліва гэта відавочна ў параўнанні з «Белай Вежай», якая так радавала нас на пераломе 1990—2000-х гадоў, а цяпер «з'ехала» ў шэрую каляіну. Цяпер галоўная задача стваральнікаў тэатральнага свята на Магілёўшчыне — замацаваць дасягненні.***

Наста КОЗІЧ

# ВАКАЦЫІ: ПАДВЕСЦІ РАХУНАК

Падарожжа — уласныя адкрыцці і перамогі. Спазнанне невядомага ды вяртанне ва ўлюбёныя мясціны. Што штурхае нас да падарожжаў? На першае месца хачу паставіць прычыну, магчыма, не заўжды свядомую, але адну з вызначальных: «Каб любіць Беларусь, нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць…». Заўважаць, параўноўваць, супастаўляць, чамусьці вучыцца і пераносіць на беларускую глебу лепшае. Знаёміцца з іншымі культурамі, пабачыць месцы, якія натхняюць на ўчынкі ды падштурхоўваюць да дзеянняў. У іншай краіне мы сябе ідэнтыфікуем як беларусы, маем магчымасць скарэкціраваць уяўленне пра нашу краіну ў вачах іншаземцаў. Думаю, пабачыўшы свет, прасцей адчуць, што Беларусь — таксама Еўропа.

Я аддала перавагу Сярэдняй Еўропе і аўтаспыну, як найбольш эканомнаму спосабу падарожнічаць. Спын — выбар вольных ад стэрэатыпаў людзей. Абыйшоўшыся збольшага без выдаткаў на транспарт, які ў краінах Еўропы ў разы даражэйшы, чым у Беларусі; начуючы па магчымасці ў намёце; не харчуючыся ў дарагіх рэстарацыях ды кавярнях, за першае падарожжа спынам па Еўропе я ўбачыла Латвію, Літву, Польшчу, Чэхію, Славакію, Украіну, закранула Нямеччыну, а наступнымі вакацыямі да іх дадаліся Венгрыя, Аўстрыя, Сербія.



Наважваючыся на аўтаспын, як сродак перасоўвання па замежнай, а таму і часта непрадказальнай прасторы, мусіш пагадзіцца на некаторыя правілы гульні. Цешачы сябе думкай пра тое, што ў Еўропе спын ёсць ні што іншае як бескаштоўны праезд па згодзе кіроўцы, трэба памятаць пра некаторыя нязручнасці. На добры аўтаспын уплывае дастатковая колькасць фактараў: ад чыста аб’ектыўных, кшталту надвор’я і дня тыдня, да прыватна-асобасных.

Так, перад тым, як кіроўца з Чэшскае Маравіі вырашыў узяць нас з сабой, ён спытаўся пра ўсё: хто мы, адкуль, куды едзем і дзе ўжо былі. Пачуўшы ў адказ польска-чэшскую трасянку, спадар прапанаваў англійскую альбо расійскую мову для стасункаў. Наколькі хапала ведаў мовы, патлумачыла, што я з Беларусі і рускую не ўжываю, англійскую недастаткова ведаю, а чэшская мова мне вельмі падабаецца, але і ёю недастаткова добра валодаю. Што б там ні было, ці паўплывалі адказы на канчатковае рашэнне кіроўцы, ці ён ад пачатку быў гатовы нас узяць, але сустрэча з чэхам стала выключна прыемнай. За час падарожжа выявілася, што спадар раней запрашаў беларускіх



дзяцей з чарнобыльскае зоны, з таго часу ён стаў цікавіцца Беларуссю. Мяне ён прасіў гутарыць на прыгожай ягонаму слыху беларускай мове. Гэты эпізод запамінальны, бо цікаўны чэх, дазнаўшыся, што беларуска першы раз у Чэхіі ды Славаччыне, вырашыў змяніць свой шлях ды завезці нас у Татры, зрабіўшы тым адзін з найвялікшых падарункаў, якіх толькі можна чакаць ад незнаёмага кіроўцы выпадковым падарожнікам. Трэба дадаць, што, ездзячы па Чэхіі, часта сутыкаешся з непрыхаванай цікаўнасцю тамтэйшых кіроўцаў да таго, наколькі спадабаліся падарожнікам краявіды Чэхіі. Натуральна, іх цешаць уражанні ды захапленні іхняй краінаю, і яны не толькі раяць паглядзець нейкія лакальныя цікавосткі, але наўпрост адмыслова вязуць да бліжэйшай з іх. Адсюль яшчэ адна асаблівасць падарожжа спынам: план неабходны, але трэба мець на ўвазе, што карэкціраванне гэтага плану не толькі вельмі магчымае, але часам непазбежнае. Ведаць гэта трэба яшчэ дзеля таго, каб пазбегнуць расчаравання, што не даехалі, куды меркавалася, ці па дарозе былі вымушаныя адмовіцца ад якогасьці горада ці краіны. Нечаканкай жа могуць стаць і такія прыемныя папраўкі ў маршруце, як у выпадку з Татрамі. Альбо яшчэ выпадак… Тэрміны візы заканчваліся, з польскага Аўгустава мы кіраваліся ў Вільню, каб адтуль ехаць у Беларусь. Нечаканкаю было ўжо тое, што спынілася фура з беларускімі нумарамі, і кіроўца, гарадзенец, ехаў у Латвію. Не скарыстацца спакуслівай магчымасцю было цяжка. Але гэта адзіны раз, калі за мяжой нас падвозіў беларус. Такі шчаслівы выпадак дазволіў нам два дні быць у Дынабургу.

Стоячы пры дарозе ў чаканні (яно ўсё ж часцей нядоўгае, бывала што і не больш за колькі хвілінаў) спагаднага кіроўцы, маеш перад вачыма толькі дарогу. Летась, калі выязджалі з Прагі, нас палівала дажджом. Відаць, нікому не хацелася браць мокрых пасажыраў, пакуль не спыніўся невялікі грузавік, кіраваў якім малады барадаты чэх.




Слова за слова, даведаўшыся падчас гутаркі, што адзін са спыншчыкаў, даўні аматар творчасці чэшскага барда Нагавіцы, не мае ягонага альбому, што якраз гучаў у салоне, кіроўца дастаў кружэлку з прайгравальніка і падараваў на развітанне і добры ўспамін пра мокры ад'езд з Прагі. Іншая крайнасць — гарачыня, што вымушае доўга шукаць цень, абы не стаяць на сонцы.

Спын — не бестурботная паездка легкадумных летуценнікаў. Усё ж прытрымліваючыся маршруту ды тэрмінаў, клопаты не заканчваюцца пунктам «спыніць аўто». Дзеля чаго часам даводзіцца прыбягаць да такіх «штучак», як пераапрананне. Пераначаваўшы ў намёце за кіламетраў дваццаць ад Беластока, мы нават не думалі, што раніцай будзе так цяжка дабрацца да горада. Гэта быў перыяд пераможнага спыну, калі на дарозе не стаялі даўжэй за дваццаць хвілін. І вось у непасрэднай блізкасці ад запланаванага Беластока спагады кіроўцы мы чакалі доўга. Пасля колькіх зменаў месцаў давялося пераапрануцца з падарожных портак у сукенку. Неўзабаве мы былі ў Беластоку.

…Падвесці рахунак чарговых вакацый заўжды прыемна. Колькасць кіламетраў, новыя краіны і гарады. І заўжды ў чаканні наступных.

### ПАКАШТУЙ ЗАХАД

Не варта лічыць аўтара антызаходнікам, але за адзін дзень у сэрцы Нямеччыны — Берліне — сталася магчымым развеяць міфы пра некаторыя слынныя рысы характару немцаў. Варта падкарэкціраваць свае ўяўленні пра пунктуальнасць і дакладнасць жыхароў Нямеччыны. Цягнікі маюць звычку спазняцца, рэдкія з мясцовых банкаматаў выдаюць банкноты вартасцю, меншаю за 20, а часам і 50 еўра, у той час як у крамах абслугоўваюць па картках на суму ад 5 еўра, а ў адной з крамаў было здарэнне, калі пляшку вады хацелі прадаць на 60 цэнтаў даражэй за кошт на цэнніку.

Насамрэч, у Берліна адчуваецца смак самадастатковага горада, які дазваляе яго жыхарам быць упэўненымі ў трываласці ды сталасці. У шматлікіх гарадах і краінах мне давялося быць, і магу сказаць, што ў большасці з іх назіраецца заканамернасць: месца і яго жыхары — вартыя адно аднаго. Шмат у чым, на маю думку, людзі з'яўляюцца адлю-

страваннем таго, што яны бачаць штодзень, у якіх умовах жывуць. Раскажу, якім убачылі Берлін і яго месцічы.

Некрытычная насычанасць хмарачосамі, чаго не чакаеш ад аднаго з найбуйнейшых гарадоў Еўропы, але — арыгінальнасць і мадэрновасць збудаванняў. Горад, запоўнены гістарычнымі і культурнымі памяткамі, падаўся мне непахісным. Давялося пераканацца, што берлінцы — досыць адкрытыя ды прыветныя людзі (гэта можна патлумачыць і вялікаю колькасцю турыстаў). Дарэчы, падарожнаму з абмежаваным веданнем нямецкай мовы варта ўлічваць, што вымаўленне берлінцаў крыху спецыфічнае, але імкненне дапамагчы турысту ў мясцовага люду шчырае.

Што да самога падарожжа ў Берлін, тут існуе прыемная нагода. З польскага Шчэціна, што за 120 кіламетраў ад Берліна, ёсць магчымасць наведаць горад за вельмі прывабны кошт. Паехаць у найвялікшы горад Нямеччыны, другі па колькасці насельніцтва горад Еўрасаюза, вярнуцца, а таксама ў абодвух гарадах (Шчэціне і Берліне) ездзіць грамадскім транспартам магчыма ўсяго за 30 еўра. Столькі каштуе адзін квіток, разлічаны на пяць асобаў. Кампаніі з пяці чалавек такое падарожжа абыйдзецца ўсяго ў 6 еўра на асобу! Не дзіва, што падобныя захады спрыяюць турызму ў абодвух кірунках. У Берліне вельмі развітая сетка гарадскога транспарту: метро (U-Bahn), гарадскі электрацягнік (S-Bahn), трамвайныя лініі (Straßenbahn). Таксама тут актыўны роварны рух, гэта адразу кінулася ў вочы.

Такім чынам, з Шчэціна цягнік вас даставіць у найвялікшы ў Еўропе чыгуначны вакзал, пабудаваны да Чэмпіяната свету па футболе ў 2006 годзе. Металёва-шкляны, паводле заходняе традыцыі, і шматузроўневы будынак уразіць найперш мадэрновасцю. Седзячы ў амаль празрыстым збудаванні на верхнім узроўні, прыемна назіраць, як цягнікі выязджаюць са шклянога вакзала і кіруюцца вышэй за лінію далягляду, бо з верхняга ўзроўню цягнікі едуць па мосце.

Берлін — горад «звыш». Найвялікшы ў Нямеччыне, другі па велічыні ў Еўрапейскім Саюзе. Берлінскае метро (U-Bahn Berlin) — старэйшае ў краіне — цяпер налічвае 9 асноўных ліній і 173 станцыі. Трамвайныя лініі (Straßenbahn Berlin) — адна з найбуйнейшых трамвайных сістэмаў свету.



Берлінскі заапарк — адзін з самых вялікіх у Нямеччыне і ў свеце па колькасці відаў. Славуты яшчэ і тым, што менавіта ў ім упершыню за апошнія трыста гадоў нарадзілася палярнае медзведзяня. І, здаецца, гэта не ўсе ўнікальныя з'явы, якімі ганарыцца Берлін.

У горадзе пераймаюцца сваім таталітарным мінулым — шматгадовым падзелам Берліна на Заходні і Усходні. Можна нават сказаць, што робяць з гэтага атракцыён для турыстаў, але не ўхваляючы адмоўных момантаў сваёй гісторыі. Несумненна, Берлінскі мур — адно з асноўных цікавых месцаў сталіцы Нямеччыны. Ён выступае як гістарычны факт, да якога можна дакрануцца і нават узяць з сабой. Колькі метраў муру пакінулі на тым самым месцы, дзе ён і быў збудаваны, паасобныя фрагменты можна ўбачыць каля гістарычных вулічных выстаў і музеяў. Берлінскі мур — сюжэт для паштовак. Найбольш уразілі мяне тыя з іх, што датычылі жыхароў падзеленага горада. На адной з паштовак бачыш, як з заходняга боку жанчына падымае над мурам малое дзіця, паказвае ягонаму бацьку, свайму мужу. Сякерная логіка халоднай вайны падзяліла мурам не адну сям'ю. На іншай паштоўцы — з абодвух бакоў муру натоўпы людзей. Хтосьці з заходняга боку трымае плакат: «Taste West». Ужо неўзабаве пасля таго мур быў знішчаны, і адчуць на смак заходні лад жыцця  можа кожны ахвотны. Калі на паштоўках з мора змяшчаюць ракавінкі, то на берлінскіх паштоўках — каляровыя кавалачкі муру, а ў музеях ды некаторых крамах іх прадаюць з сертыфікатам якасці. Горад насычаны сувенірнымі крамамі, што выступаюць як памяткі камуністычнага мінулага Берліна. Гэта найперш вайсковая атрыбутыка кшталту шапак-аблавух з кукардамі, пілотак, фуражак. Сувеніры выразныя самі па сабе, але часта яны не пасуюць адно да аднаго. Так, ці не ў кожнай другой крамцы з таварам падобнага кшталту прадаюць савецкія шаломы 1967-га года з гэдээраўскімі кукардамі, ці экзатычных колераў вайсковыя галаўныя ўборы. Гэта, з аднаго боку, забава для турыстаў, а з другога — своеасаблівы спосаб захавання гістарычнай памяці. Яшчэ ў сувенірных крамах побач з каляровымі мядзведзікамі (сімвал Берліна) нярэдка знойдзеце і такую забаўку-напамінак пра мінулае, як матрункі (у Празе яны таксама папулярныя). Чэкпойнт Чарлі — адзін з найвядомейшых у часы халоднай вайны пераходаў між ГДР і Заходнім Берлінам, цяпер жа гэта сімвалічны памежны пункт — турыстычны атракцыён у выглядзе копіі арыгінальнай будкі з «памежнікамі», якія паставяць у пашпарты ўсім ахвотным адбітак пячаткі памежнага кантролю: такія атрымлівалі некалі кожны, хто пакідаў амерыканскую акупацыйную зону Заходняга Берліна. І сёння, як і ў часы падзеленага Берліна, на тым месцы ля пераходa вісіць плакат з надпісам «Увага! Вы пакідаеце амерыканскую зону акупацыі» на нямецкай, англійскай і рускай мовах.

**У Берліне гатуюць адмысловыя, тутэйшыя стравы. Славутыя нямецкія каўбаскі ды піва маюць мясцовыя варыянты**

**Наважваючыся на аўтаспын, як сродак перасоўвання па замежнай, а таму і часта непрадказальнай прасторы, мусіш пагадзіцца на некаторыя правілы гульні**

У Берліне гатуюць адмысловыя, тутэйшыя стравы. Славутыя нямецкія каўбаскі ды піва маюць мясцовыя варыянты. Горад працоўнага класа, якім гістарычна быў Берлін, мае і адпаведныя канкрэтныя густы. Менавіта тут упершыню прыгатавалі папулярнейшы сёння ў Германіі прадукт фастфуду — «карывурст» (currywurst) — смажаную каўбаску з адмысловым соусам на аснове кетчупа ці таматнае пасты і індыйскай прыправы кары. Такія каўбаскі прадаюць у шматлікіх вулічных кіёсках, змешчаных ці не на кожным рагу, падаюць з разнастайнымі гарнірамі ў рэстаранах. Як і ў іншых краінах, калі хочаш пакаштаваць арыгінальную мясцовую кухню, трэба адпраўляцца ў месцы, не разлічаныя на турыстаў. Так, у даволі зацішным кутку Берліна каштуем слынныя каўбаскі «карывурст», якія, па нашай просьбе, падалі не з бульбаю, а



папросту з булкаю. Што да нацыянальнага напою — піва — то ў Берліне яно займела папулярнасць як піва з зёлкамі (berliner waße) і піва з гарэлкаю (schnaps). Нельга не згадаць пра такую забаву берлінцаў як піўны ровар! Як і іншыя ровары, гэты транспартны сродак ездзіць побач з аўтамабілямі і здалёк заўважны, бо пасажыры піўнога ровару (а іх разам з кіроўцам і бармэнам можа быць каля дзесяці чалавек) гучна спяваюць, п'юць піва з бочкі, што знаходзіцца наперадзе канструкцыі (паблізу ад, верагодна, цвярозага кіроўцы). Пасажыры, седзячы на лаўках, п'юць піва, спяваюць, ляпаюць далонямі па стале, і, зразумела, забяспечваюць рух ровару, круцячы педалі. Такая насамрэч спецыфічная забава была заўважаная ў цэнтры суботняга Берліна.

«Усе кажуць Крэмль, Крэмль. Ад усіх я чую пра яго, а сам ніколі не бачыў. Колькі разоў ужо праходзіў па Маскве з поўначы на поўдзень, з захаду на ўсход, з канца ў канец, навылёт і як давядзецца — і ані разу не бачыў Крамля». Менавіта гэтыя словы аўтара паэмы «Масква — Петушкі» прыгадаліся ў хвіліны агляду Берліна аўтобусам № 100, які, падобна да «соткі» ў Мінску, з'яўляецца галоўнай камунікацыйнаю воссю нямецкай сталіцы. А шукалі ў Берліне, вядома, Брандэнбургскую браму. Гарадскімі аўтобусамі з другога паверху мы, падаецца, паглядзелі ладны кавалак Берліна, а Брандэнбургскую браму бачылі адно здалёк. Але падарожжа цікавае: заалагічны сад, выспа музеяў, міма Брандэнбургскай брамы па Unter den Linden (вуліца «Пад Ліпамі») да Рэйхстага, паўз парк Цíргартэн. Кіроўца дасціпна, што было відаць па рэакцыі нямецкамоўных пасажыраў, каменціраваў, а мы з прыемным здзіўленнем заўважалі, як у непасрэднай блізкасці да рэзідэнцыі федэральнага прэзідэнта Нямеччыны пара раварыстаў адпачывала на ўзгадаваным немцамі газоне вялікага парку.

Насамрэч, для мяне падарожжа на далёкі ды дзікі Захад не ёсць самамэтай. І хаця, з розных прычын, больш вабіць сярэдняя, ці як назваў яе Чэслаў Мілаш — сямейная — Еўропа, часам узнікае ахвота пакаштаваць яго, Захад...

**Кіроўца дасціпна, што было відаць па рэакцыі нямецкамоўных пасажыраў, каменціраваў, а мы з прыемным здзіўленнем заўважалі, як у непасрэднай блізкасці да рэзідэнцыі федэральнага прэзідэнта Нямеччыны пара раварыстаў адпачывала на ўзгадаваным немцамі газоне вялікага парку**

### ТАЯМНІЦА ПРЫЦЯГНЕННЯ

Калі ў Беларусі і захавалася старажытнае, то большасць з гэтага ператварылася ў помнікі вандалізму, а падарожжа па Чэхіі штораз становіцца прыгодай, бо ў кожным чацвёртым чэшскім «Старым» і «Новым Сяле» стаіць паўнавартасны сярэднявечны замак. Краявіды адкрываюцца неверагодныя.

Стоячы на Карлавым мосце над Влтаваю сярод натоўпу турыстаў ды гледзячы на казачную Прагу, гэтым разам падумала: ці перастане калі прыцягваць людзей гэты горад і ў прыватнасці гэты мост, памятка XIV стагоддзя? Прызнаная адным з найпрыгажэйшых гарадоў Еўропы, Прага вабіць да сябе няспынныя плыні турыстаў нейкай няпэўнай таямніцаю. Быць у Празе — гэта на свае вочы бачыць культурную спадчыну сярэднявечнай Еўропы. І да сёння словазлучэнне «Залатая Прага» (Zlata Praha) гучыць як характарыстыка велічнасці ды адмысловай прыгажосці чэшскай сталіцы. Для мяне Прага — горад захапляльнай прыгажосці мураванак на Вацлаваку, горад брукаванкі і чырвонай дахоўкі, месца, дзе злучаюцца трамвайныя лініі, бо Прага — горад трамваяў, самага рамантычнага віду транспарту. Дзякуючы непараўнальнай архітэктуры ў цэнтры, Прага назаўжды робіць ўражанне пышнасці і святочнасці. Чарговы раз сузіраць вядомыя краявіды ці помнікі гісторыі і культуры; не чуць стомы ад шпацыру па вузкіх вулічках; збочыўшы, выйсці да чорных сцэнаў касцёла ці на невялічкі пляц, які будуць перасякаць трамваі. Мабыць, у Еўропе няма яшчэ аднаго горада з такім вялікім «старым цэнтрам». Ад Вацлавака блізка да Старамескага пляца або старога рынка, сапраўднай перліны архітэктуры. Тут жа — астранамічны гадзіннік Орлой, якому больш за 600 гадоў і ля якога ў пэўны час збіраецца натоўп турыстаў, каб убачыць выхад фігурак — веснікаў новай гадзіны. Адсюль недалёка да Карлавага моста, бясспрэчнай візітоўкі Прагі і ўлюбёнейшага месца турыстаў ды мастакоў. Апісанне касцёлаў, палацаў, паркаў, іншых гістарычных і культурных помнікаў Прагі заняло б зашмат месца. Магчыма, таму яшчэ няхутка турысты страцяць цікавасць да горада.

З турызмам усё ясна, але цікава, як праводзіць свае вакацыі чэшская моладзь, якія краіны выбіраюць юнакі і дзяўчаты для адпачынку, адкуль бяруць сродкі на падарожжа, ці папулярны сярод моладзі аўтаспын і што сучасная чэшская моладзь ведае пра Беларусь? Элішцы 21 год, яна пражанка, вучыцца ў каледжы, а на вакацыях прадае квіткі ў кіно. Дзяўчына выбрала працу замест адпачынку. Затое летась ездзіла з бацькамі ў Італію. Знаёмыя Элішкі часцей адпачываюць у Італіі ды Харватыі. Аўтаспынам ні сама Элішка, ні яе знаёмыя не падарожнічаюць, аддаюць перавагу цягнікам і аўтобусам. Пра Беларусь дзяўчына ведае, што такая краіна існуе.

Войцеха мы сустрэлі ў пераходзе. 22-гадовы пражанін, вольны ад навучання і працы, у жніўні збіраецца на фэст у Трутнаў (Чэхія). Магчыма, пасля фэсту паедзе з сябрамі на прыроду з намётам.

15-гадовы Марцін працуе на будоўлі. З бацькамі на адпачынак ён паляціць самалётам у Грэцыю, астатні ж вольны час будзе працаваць, бо на будоўлі шмат зарабляе. Сам Марцін спынам нікуды не ездзіў, а вось ягоны сябар даехаў спынам да Брна. Марцін пастараўся згадаць, дзе знаходзіцца Беларусь: «Між Чэхіяй і Расіяй, магчыма, за Польшчаю…».

16-гадовых Фандо і Алену мы распыталі на выхадзе з кіно. Абое на вакацыях, вучацца ў сярэдняй школе. Фандо жыве ў Дрэздэне, у Чэхію ездзіць да дзядоў, а менавіта ў Шумаву. Разам яны паедуць на Маёрку. У Фандо першыя асацыяцыі з Беларуссю — гэта тое, што там існуе смяротнае пакаранне і моцная ўлада прэзідэнта.

*Мікола КАНДРАТАЎ*

# ЗОРНЫ ШЧЫТ МАКСІМА ТАНКА



*Максім Танк.*

Знак Панны (♍) з'яўляецца шостым па ліку знакам Задыяка. Яго сімвалічны вобраз — дзяўчына, з левага боку якой знаходзіцца анёл, а з правага — нячысцік. Гэты вобраз звязаны з душой чалавека яна павінна зрабіць выбар паміж дабром і ліхам. Іншая выява: панна з коласам у руцэ. Панна сімвалізуе беззаганнасць, а колас — вынік прыкладзеных намаганняў. Тут утрымліваецца заклік да бескарыслівага служэння і чысціні. Таму ключавое слова Панны — *служэнне*. Кіраўнікамі знаку з'яўляюцца планеты Празерпіна (]·[) і Меркурый (☿): першая сімвалізуе абавязак, сумленне, працу і ўлік дробязей, другая — адказвае за інтэлект, сувязь, кантакт, пісьмо, слова, інфармацыю і навучанне.

Цудоўны беларускі паэт Максім Танк — Яўген Іванавіч Скурко — нарадзіўся 17 верасня 1912 года ў вёсцы Пількаўшчына на Мядзельшчыне. У гараскопе яго знак Панны з'яўляецца самым выдзеленым — акрамя планеты Сонца (☉), якая сімвалізуе дух і творчы патэнцыял чалавека, сюды патрапілі вышэйзгаданыя планеты-кіраўнікі — Празерпіна і Меркурый. Абедзве маюць велізарны патэнцыял — *каралеўскі статус* +8 і +7 балаў адпаведна. Пры гэтым галоўны кіраўнік Празерпіна знаходзіцца ў злучэнні з Сонцам, што сведчыць пра крыніцу спагадлівасці і высокай сумленнасці.

Разам з тым Празерпіна з'яўляецца ў касмаграме *Вознікам:* яна кіруе большай паловай планет касмаграмы — тых, што знаходзяцца за Сонцам па гадзіннікавай стрэлцы. Згодна з функцыямі гэтых планет у чалавека заўжды ёсць вопыт. Меркурый жа з'яўляецца *Дарыфорыем* — галоўным над планетамі, што стаяць перад Сонцам, згодна з функцыямі якіх пісьменніку вельмі хацелася праявіцца — паспрабаваць сябе. Вось аказваецца чаму ўсё сваё жыццё Максім Танк так імкнуўся да ведаў, так любіў чытаць кнігі. Але ён любіў і рукамі працаваць. Не дзіўна: Меркурый адказвае яшчэ і за рукі. Як успамінае сын пісьменніка, Максім Яўгенавіч, у іх сям'і ніколі не прыходзілася выклікаць сантэхніка альбо электрыка: Яўген Іванавіч з усімі хатнімі праблемамі спраўляўся самастойна.

Як успамінае сын пісьменніка, Максім Яўгенавіч, у іх сям'і ніколі не прыходзілася выклікаць сантэхніка альбо электрыка

Але вось яшчэ адзін цікавы ключ да гараскопа Максіма Танка. Калі мы паглядзім на малюнак, то заўважым, што Марс (♂), Венера (♀) і Заходзячы Вузел (☋) у знаку Шалі (♎), Юпітэр (♃) і Месяц (☽) у знаку Стральца (♐), Чорны Месяц (⚸) у знаку Вадаліва (♒), Узыходзячы Вузел (☊) у знаку Авена (♈) і Белы Месяц (⯝) у знаку Блізнят (♊)




*Касмаграма Максіма Танка.*

утвараюць цікавую фігуру. Для таго, каб яна зрабілася роўнастароннім шасцікутнікам, не хапае адной вяршыні ў знаку Льва (♌). Такой вяршыняй у гараскопе Максіма Танка магла быць кропка ***Асцэндэнта*** (Asc).

Асцэндэнт паказвае градус Задыяка, які ўзыходзіць над небакраем у дадзенай мясцовасці ў момант народзінаў чалавека. Іншымі словамі, ён сімвалізуе праекцыю планеты Зямля ў гараскопе як геацэнтрычнай сістэме і вызначае самастойны шлях чалавека. Па характарыстыцы знака і градуса Асцэндэнта ўдакладняюць час народзінаў гэта інфармацыя, як правіла, праяўляецца на знешнасці чалавека, асаблівасцях яго псіхалогіі і манерах паводзін.

У нашым выпадку для пошуку магчымага часу народзін Максіма Танка таксама выкарыстоўваліся даты важных падзей жыцця паэта: нараджэнне дзяцей, смерць бацькоў і жонкі. Вельмі магчымы час народзін паэта — 0:07:40. У гэтым выпадку Асцэндэнт трапляе ў 17° знака Льва. Названы градус мае наступныя характарыстыкі: гонар, устойлівасць, упартасць, працалюбства і разам з тым дабрадушнасць, цудоўнае пачуццё гумару.

**Максім Танк павінен быў даказаць свае права на валоданне Гексагонам. Які, тым часам, папярэджваў і пра небяспеку пагарды**

Ад такога чалавека не ведаеш, чаго чакаць, ён здольны да нестандартных рашэнняў. Гэты градус можа даць далёкія вандроўкі і фартуну ўдалечыні ад дому.

Названыя рысы і якасці адпавядаюць Максіму Танку, наколькі мы яго ведаем у жыцці і творчасці. Вышэйзгаданы роўнастаронні шасцікутнік з усімі ўнутранымі рысамі, што сімвалізуюць дамовы, сувязі паміж планетамі, — канфігурацыя аспектаў, якая называецца ў астралогіі **Гексагонам** і ўяўляе сабой цудоўны зорны шчыт. Лёс песціць уладальніка Гексагона, часта засцерагае ад узрушэнняў, адводзіць ад знешняй дынамікі і барацьбы. Назапашаныя сілы можна выкарыстаць для вырашэння творчых задач. Такому чалавеку спрыяе ўдача, шматлікія пытанні ў яго жыцці вырашаюцца як быццам самі сабой. Але пры ўмове, што гэты чалавек вядзе ўнутраную працу, праяўляе асабістую ініцыятыву, свядома выбірае свой шлях. Максім Танк павінен быў даказаць свае права на валоданне Гексагонам. Які, тым часам, папярэджваў і пра небяспеку пагарды.

Заўважым, што ў касмічны шчыт уваходзяць і чатыры фіктыўныя планеты, якія кармічна абумоўлівалі яго наяўнасць і дапамагалі выбару паміж дабром, праўдай (⚳ у ♊) і маной, ліхам (⚸ у ♒), а таксама правільных кірункаў жыццёвага і творчага шляху — актыўнасці і першаснасці (☊ у ♈). Не забудземся таксама на дыпламатычнасць і гарманічнасць (☋ у ♎). Дамінантная вяршыня Гексагона — планета Юпітэр у злучэнні з Месяцам у знаку Стральца, сваім прыстанку — давала Максіму Танку аўтарытэт і магчымасць атрымання ўлады і стасункаў з ёю, спрыяла наведванню замежжа. Ну, а знаходжанне Асцэндэнта ў знаку Льва дапамагала самастойным творчым пошукам.

Максім Танк на працягу жыцця ствараў рыфмаваныя вершы і верлібры. Мікола Арочка пісаў, што яго паэзія «ўспрымаецца як па-грамадзянску ўсхваляваны і мудры маналог, як цэласны мастацкі арганізм, што жывым "кровазваротам" лучыцца з роднай зямлёй, з трывогамі свету… Танкаўская паэзія сёння несупынна і нястомна ашчаджае і захоплена паэтызуе, узвышае кожны парастак духоўнай красы ў чалавеку».



# Бярозка

№ 9/2012(1012)












**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



● Верасок

# Пад нарачанскімі соснамі...

### *Да 100-годдзя з Дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма ТАНКА*

* * *

Мядзел чакаў Паэта…
Прыцішана зала гула.
Ведалі: ён са шляху
Звярнуў да свайго сяла.
Пількаўшчыны сцяжынкі
Паклікалі, як калісь,
Каб завітаў на хвілінку
Знаёмым дваром прайсці,
Зірнуць на магілы продкаў,
Адчуць роднай хаты пах,
Суседзяў былых пабачыць,
А потым прадоўжыць шлях.
Даўно ўжо сустрэча гэта
Ў гісторыю адышла.
А Мядзел чакаў паэта…
Апошняй сустрэча была…

*Яніна СКРОЦКАЯ*


Нарачанскія сосны

## У Пількаўшчыне

Пількаўшчына!
Сцежкаю знаёмай
Да хаціны Танкавай ідзём.
Тут душа так шчыра нарадзіла
Вершы, падказаныя жыццём.
Пра бацькоў, пра родных,
Пра суседзяў.
Гумар ціхі,
Шчодрыя пачуцці.
Так хацеў Паэт,
Каб яго вершы
Ўсе людзі на зямлі пачулі.
Пількаўшчына.
Мілая мясціна.
Ты заўсёды выглядаеш годна.
Крочым мы да Танкавай хаціны —
Сонца пасміхаецца лагодна.

*Наталля ДУНЕЦ, 10 клас,*
*ДУА «Камароўская СШ»*

## Максіму Танку

З тых далёкіх часоў —
З Нарачанскага краю,
Яго вершы напеўна
Для народа гучалі.

Ды нялёгкую выбраў
Хлапчына дарогу:

Праслаўляў ён свой  край,
Песціў родную мову.

І былі тыя вершы,
Як належыць, ад сэрца.
Аб ім памяць людская
У вяках застанецца.

*Марыя ЛЁТКА, 5 клас,*
*ДУА «Крывіцкі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад-сярэдняя школа».*

## Дзень добры!

Дарога-стужка векавога бору
Вядзе нас да радзімы песняра.
Здаецца, соснам
мала зноў прасторы,
І рвуцца ўвысь, як песня гусляра.
Калісьці быў тут,
каля стромкіх сосен —
Натхнялі на цудоўныя радкі.
За летам прабягала следам восень,
Зіма кідала белыя шматкі.
Паэт спяваў адвечны
гімн прыродзе:
Азёры чулі, рэкі і палі.
Каб жыў вякамі
наш народ у згодзе,
І ў шчасці поўным
на святой зямлі.
Дзень добры, край Максіма Танка!
Душой з табой, калыска песняра.
Хачу, каб ад світанку да світанку
Яго паэзія нас па жыцці вяла.

*Галіна ШВАЙКОЎСКАЯ*

## Пясняр

На Мядзельшчыне ён з’явіўся,
З Радзімай лёс свой паяднаў.
Для новых вершаў нарадзіўся
І светлы шлях сабе абраў.



*Дача Максіма Танка на Нарачы.*

Ён славіў сонейка і маці,
І хваль блакіт, і неба ўзлёт.
І хлеб у печы ў роднай хаце,
І казкі, што любіў народ.

*Аляксандра НАЗАРАНКА, 5 клас*
*ДУА «СШ № 2 г. Мядзел»*

## Максіму Танку

Не зарасце твая дарога,
Не зацярушацца сляды,
Бо творчасць, што ідзе ад Бога,
Тут будзе помніцца заўжды.

Твой светлы твар і мужны голас,
І дабрыня, і прыгажосць —
І мудрасць — жыта спелы колас,
Усё ў адной асобе ёсць.

Такіх, як ён, на свеце мала,
І ён адзін такі для нас!
Жыццё ламала — не зламала,
Быў верны словам увесь час.

Тваімі сцежкамі іду я!
Тваёю праўдай даражу!
Яе збярогшы ў сэрцы, думках,
Свайму народу раскажу.

*Паліна ЗВЯРУГА, 11 клас,*
*ДУА «Сваткаўская СШ імя Максіма Танка»*




# Я люблю сябе!

*Для існавання ўсё раўназначна.*
*Няма нічога вялікага*
*і няма нічога малога.*
ОША

## Комплекс непаўнавартаснасці — гэта ілюзія

У нашым свеце важная кожная асоба, кожны розум і кожнае слова. Чалавек — не пясчынка на велізарным круглым шары, які завецца планета Зямля. У наш час вылучыцца з натоўпу можа любы чалавек, ён можа змяніць усё, але спачатку яму трэба знайсці сябе. Напэўна, многія чыталі Міхаіла Лермантава «Герой нашага часу». Памятаеце Пячорына? Дык вось, ён быў неверагодна разумным і незвычайным чалавекам, які не мог знайсці правільны шлях сваім сілам і магчымасцям. Усе свае ўменні ён марнаваў на пошукі кахання, хоць быў няздольны кахаць. Як і сябраваць. Але гэтыя пачуцці — самае галоўнае, што павінна быць у чалавека. Хто ж не баіцца ворага нашага сэрца — адзіноты?

Любы з нас можа стаць Чалавекам з вялікай літары. Можа прынесці карысць грамадству, але для гэтага важна кахаць і быць каханым. Гэта вельмі проста, бо каханне атачае нас паўсюль. Аднак ёсць адно «але». Самае распаўсюджанае пачуццё падлеткаў — комплекс непаўнавартаснасці, адчуванне ўласнай недасканаласці. Пачуццё, што ты ні на што не здольны і што людзі вакол нашмат лепшыя і разумнейшыя за цябе. І за гэтым вельмі часта хаваецца нават думка пра самагубства! Галоўнае — не паддавацца ёй. Бо мы створаны не проста для таго, каб дарма пражываць свае дні, а для таго, каб здзяйсняць адкрыцці і ствараць лепшае для гэтага свету.

Многія з нас задаюцца пытаннем: «А што я адзін магу зрабіць?» Тады ўзгадайце вялікіх пісьменнікаў, якія змянілі наша жыццё і мысленне, музыкаў, чые песні даходзяць да самага сэрца і натхняюць на самыя неверагодныя ўчынкі. Узгадайце навукоўцаў, якія даюць нам уяўленне пра свет і палягчаюць жыццё з дапамогай камп'ютарных тэхналогій. Пералічваць можна да бясконцасці, калі ўсяго адзін чалавек зрабіў так шмат!

Нямецкі псіхолаг Эрых Фром пісаў: «Усведамленне сваёй адзіноты, сваёй бездапаможнасці перад сіламі прыроды і грамадства робіць існаванне чалавека адасобленым і расколатым, ператварае яго ў невыносную турму. Перажыванне

ўласнай адасобленасці выклікае трывогу; больш таго, гэта крыніца ўсякай трывогі. Быць адасобленым азначае быць адрэзаным, без якой-небудзь магчымасці выкарыстоўваць свае чалавечыя сілы. Такім чынам, гэта значыць быць бездапаможным, няздольным актыўна ўплываць на свет — рэчы і людзей. Гэта азначае, што свет можа ўрывацца ў мяне, а я не ў стане рэагаваць».

Галоўнае — не быць замкнёным і не лічыць сябе горшым за іншых! Ты такі ж, як і ўсе, і здольны прынесці многае ў гэты свет. Мы разам (і кожны паасобку) можам яго змяніць! Змагайся за сябе, адстойвай свой пункт гледжання і памятай, што ты — вольны чалавек.

***Алена ГАЙДУК, 15 гадоў, Жодзіна***

## Некалькі практычных парадаў

Дык што ж з ім рабіць — з гэтым комплексам непаўнавартаснасці? Папершае, усвядоміць, што ён, надакучлівы, у той ці іншай ступені ўласцівы багата каму! І не трэба асуджаць сябе за яго. Карацей, комплекс непаўнавартаснасці — такая ж натуральная з’ява, як і нудотнае надвор’е позняй восенню.

Важна не рабіць з яго **праблему**, не падкормліваць увагай, не песціць. Прыйшла негатыўная думка пра ўласную асобу — вучыся не перажоўваць яе, а адпускаць.

Спрабуй жыць творча! Напрыклад, не бойся смела і цікава апранацца. Але ж... стоп! Смела і цікава апранацца па поклічу сэрца, а не для таго, каб на цябе звярталі ўвагу.

Можна знайсці новыя хобі — гэта і энергію ў мірнае рэчышча накіруе, і зробіць больш шматграннай тваю асобу.

Знайдзі новых сяброў! Не бойся патэлефанаваць якой-небудзь проста знаёмай і запрасіць яе на шпацыр. Для ўсіх людзей немагчыма быць цікавым, але ж хтосьці абавязкова захопіцца тваім духоўным светам. І замест сумневаў і дрэннага настрою атрымаеш прыемнае баўленне часу.

Часта бывае проста лянотна альбо страшна займецца нейкае новае захапленне. Але ж праяві сябе творча — і новых сяброў атрымаеш, і радасць адчуеш ад таго, што твой духоўны свет з бутона ператварыўся ў кветку. І паказаць сваю непаўторнасць людзям, увасобленую ў творчасць, — гэта натуральная чалавечая патрэба.

Таксама можна вучыцца жорстка не ацэньваць плён сваёй творчай працы, а проста радавацца працэсу. Ды і па-любому — сваю ўнікальнасць ты ўжо рэалізаваў! Якога б узроўню і не было тваё стварэнне.

Шматлікія людзі не без комплексу непаўнавартаснасці ў крыві. Але ж адзін чалавек будзе захапляцца сваімі пакутамі, а іншы — праігнаруе як ілюзію. І будзе рэалізоўвацца, як душа просіць, насуперак усім страхам!

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***

# Хатні гадаванец — «утылізатар негатыву»



***«Мне б хоць якога-небудзь сабачку!» — уздыхаеце вы, з зайздрасцю гледзячы на суседскую балонку. Калі вы ў выніку доўгіх роздумаў, узважвання ўсіх «за» і «супраць», усё ж такі вырашылі папрасіць бацькоў пра «хоць якога-небудзь сабачку», вам трэба быць гатовым не толькі да матэрыяльных затрат, але і да нечаканага павароту падзей. Напрыклад, да алергіі або да псіхалагічнага стрэсу. «Бярозка» разбіралася, якія моманты трэба ўлічваць і пра што не забываць, калі вы вырашылі завесці жывёліну.***

## Слова псіхолагу

— Каб жывёла ў хаце выклікала пазітыўныя эмоцыі, а не суцэльны стрэс, рашэнне завесці яе павінна быць прынята ўсімі членамі сям'і, — кажа Людміла Сіняўская, псіхолаг Мінскага гарадскога дзіцячага псіханеўралагічнага дыспансера. — Наяўнасць у сям'і хатняга гадаванца станоўча ўплывае на развіццё дзяцей, калі бацькі правільна выбудоўваюць адносіны «жывёла — дзіця». У дзяцей з'яўляецца магчымасць спазнаваць жывы свет, а галоўнае — у іх з'яўляецца сябар, аб якім неабходна клапаціцца. Хатні гадаванец з'яўляецца своеасаблівым «утылізатарам негатыву».

**— Ці ёсць нейкія рэкамендацыі па ўзросце дзіцяці, пры якім варта заводзіць гадаванца?**

— Гэта залежыць ад мэтаў, якія ставяць перад сабой бацькі пры набыцці звярка. Калі яны жадаюць навучыць дзяцей адказнасці, догляду і любові да жывой істоты, то гэта ўзрост ад 4 гадоў. А калі мэта пазнаёміць дзіцяці з навакольным светам і яго спазнаннем, да 3 гадоў.

**— Любая жывёла хварэе і памірае. Ці варта наогул заводзіць яе? Бо гэта стрэс і перажыванні не толькі для дзяцей, але і для дарослых.**

— Смерць з'яўляецца неад'емнай часткай нашага жыцця. І баяцца яе не варта. Праз пакуты развіваецца асоба і душа. І жыццё так пабудавана: калі

адны кветкі звянуць, распусцяцца новыя. І я думаю, што гараваць — гэта прымальна, натуральна, правільна. Гэта вучыць і дзіця, і дарослага спачуванню. Вучыць быць гатовым да больш сур'ёзнай страты. Таму не варта баяцца заводзіць жывёл з-за гэтага.

**— Ці праўда тое, што жывёлы могуць вылечваць? Напрыклад, нервовасць, дэпрэсіўнасць.**

— Бываюць выпадкі, калі дзіця, якое мае асаблівасці псіхафізіялагічнага развіцця (схільнасць да стрэсу, дэпрэсіўны стан), пры зносінах з якой-небудзь жывёлай становіцца больш спакойным, ураўнаважаным, таварыскім. Развіццё дзіцяці паскараецца. Несумненна, калі ў хаце з вамі жыве гадаванец, энергетыка змяняецца ў лепшы бок. Адна жанчына распавядала мне пра тое, як яна завяла котку ў доме і вырашыла такім чынам праблему адзіноты. Неўзабаве яна стала больш адкрытай, элегантнай, і ў яе з'явіўся малады чалавек. Зносіны і назіранне за коткай тут відавочна адыгралі сваю ролю.

**— Скажыце, як правільна выбудаваць адносіны «жывёла-дзіця»?**

— Каб жывёла прыносіла карысць дзіцяці, а не шкоду, неабходна пазнаёміцца з гадаванцам: растлумачыць дзецям, як можна сябе з ім паводзіць, а як нельга. Бацькі павінны на прыкладзе паказаць, як трэба даглядаць за жывёлай. А дзеці павінны слухаць бацькоў.

Трэба паказаць, што жывёла можа быць выдатным сябрам. Скажам, на прыкладзе сумеснай гульні. Неабходна растлумачыць дзіцяці, што жывёла мае патрэбу ў доглядзе. І кожны член сям'і нясе за яго адказнасць. Жывёла — не проста цацка, а жывая істота, якая таксама мае патрэбу ў спагадзе. І калі зрабіць ёй балюча, яна можа і ўкусіць. Трэба гэта зразумець.

## Слова алерголагу

Яўгенія Прысевак — алерголаг Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра «Маці і дзіця».

**— Ці ёсць такія жывёлы, на якіх не бывае алергіі?**

— Не. Але, да прыкладу, з пункту гледжання рызыкі, поўсць коткі больш небяспечная, чым поўсць сабакі. Але алергія бывае не толькі на поўсць, але і на сліну, кашуту, вылучэнні. Таму перад тым, як заводзіць любую жывёлу, трэба пракансультавацца з лекарам, зрабіць тэсты на алергію. Праўда, няма ніякіх гарантый, што алергія не выявіцца пры з'яўленні жывёлы ў хаце, нават калі тэсты нічога не паказалі. Рызыка ёсць заўсёды, і да гэтага трэба быць гатовым.



**— А ці магчыма ўзнікненне алергіі на рыбак? Ці, скажам, рэптылій?**

— На рыбак саміх па сабе — не. А вось на корм для іх — так. Пры яго ўдыханні

часта можа развіцца вострая алергія. Вельмі рэдка бывае алергія на эпітэлій рэптылій. Гэта адзінкавыя выпадкі.

— **Якія сімптомы часцей за ўсё ўзнікаюць пры алергіі?**

— Кан'юктывіт, прыступы бранхіяльнай астмы. Больш рэдка дэрматыт.

— **Ці існуюць прэпараты, якія знішчалі б алергію цалкам?**

— Цалкам — не. А вось якія памяншаюць клінічныя праявы ці сімптомы — так. Адзіны метад, які дзейнічае на саму прычыну, — гэта спецыфічная імунная тэрапія або, як яе называюць у апошні час, спецыфічная алергавакцынацыя.

— **З якога ўзросту можна правесці алергавакцынацыю?**

— З пяці гадоў.

## Кошт пытання

Набыццё і трыманне хатняга гадаванца выліваецца ў немаленькія сумы.

Крама «Прырода» ў Мінску:

| | |
|---|---|
| Акварыумныя рыбкі | — ад 4,2 да 35 тыс. руб. |
| Хамячкі | — 14—15 тыс. руб. |
| Дэкаратыўныя трусы | — 64 тыс. руб. |
| Акварыумы ў залежнасці ад памераў і камплектацыі | — ад 140 тыс. руб. да 1 млн. 250 тыс. руб. |
| Клеткі для птушак | — ад 88 да 248 тыс. руб. |
| Клеткі для грызуноў | — ад 70 тысяч. руб. |

## Птушыны рынак у Ждановічах г. Мінска:

| | |
|---|---|
| Пародзістыя кацяняты | — 100—200 даляраў. |
| Пародзістыя шчанюкі | — 100—500 даляраў. |
| Пацукі і хамячкі | — 10—15 тыс. руб. |
| Дэкаратыўныя трусы | — 50 тыс. руб. |
| Акварыумныя рыбкі | — 4 да 25 тыс. руб. |
| Самкі папугайчыкаў | — 150 тыс. руб. |
| Самцы папугайчыкаў | — за 100 тыс. руб. |
| Шыншыла | — 400—450 тыс. руб. |
| Клеткі для грызуноў | — 80—200 тыс. руб. |
| Сярэдні акварыум на 150 літраў з афармленнем і абсталяваннем | — каля 400 долараў. |

Акрамя гэтых трат, далей будуць штодзённыя — на корм і вітаміны. І перыядычныя — на шчоткі, шампуні, цацкі, кармушкі, ветэрынарнага лекара. Таму вам варта падумаць, якую адказнасць на сябе бераце вы і вашыя бацькі. Памятайце, «мы ў адказе за тых, каго прыручылі».

*Паліна БУЧЭЛЬ, 17 гадоў, Мінск,*
*фота Рагнеда Малахоўскага*

# Жаданні: спраўджваюцца альбо не спраўджваюцца

*«Я — чараўнік, і калі я расплюшчу вочы, то ўбачу свет, які я стварыў, свет, творцам якога з'яўляюся я і толькі я. Затым марудна, нібы заслона на сцэне, прыўздымаюцца павекі. І глядзіце, без сумніву, вось ён, мой свет, дакладна такі, якім я пабудаваў яго».*

Р. Бах «Мост праз вечнасць»

***І ўсё ж ёсць у гэтым сусвеце нейкія правілы і законы. Напрыклад, дарожны рух на вуліцах зладжаны гарманічна — і без правілаў на дарозе ніяк! Ёсць пэўныя заканамернасці і ў тым, як наша жыццё складаецца. Бывае, што жаданні здзяйсняюцца. А часам — упарта не здзяйсняюцца!..***

## Без фанатызму

Кажуць, каб жаданне матэрыяльнай кветкай узбуйнела, вось што трэба: расслабленасць, спакой і лёгкае стаўленне. Вялікая важнасць, апантанасць, навязлівыя думкі толькі ствараюць напружанне. Наганяюць варожую энергію, якая толькі аддаляе жаданае. Эзатэрыкі прапануюць нам такую тэорыю: моцна перажываючы, з крыкамі і патрабаваннем, мы толькі смецццем забруджваем сваю душу. «Не ствараў сабе куміра», — запавет у хрысціянстве. Не будзь апантаны жаданнем!



Каб жаданні спраўджваліся, трэба ўмець іх лёгка адпускаць, забываць і не баяцца, што не здарыцца. Гэта не значыць, што трэба стаяць на месцы, калі да мэты трэба ісці. Але ж... паўтаруся, што на здзяйсненне жадання трэба ўмець забывацца!

Алена марыла паступіць вучыцца бясплатна на модную спецыяльнасць «псіхалогія». І рыхтавалася — аддана, сур'ёзна. Але ж пры гэтым была ўнутры спакойная: «Як лёс складзецца, так і будзе!» Прымала ўдзел у рэспубліканскай алімпіядзе, але пры

гэтым была сціплай, ні на што не спадзявалася. І... атрымала дыплом першай ступені! Стала студэнткай ужо ўвесну! Так лёс узнагародзіў Алену за спакой і сціпласць.

## Песімізм — гэта ненатуральна

Чаму жаданні не спраўджваюцца? Усяму свой час! Бывае, што проста трэба ўмець чакаць. У шчырым спакоі, без страху. Жадаць, але ж з такой устаноўкай, як ва ўжо знаёмай вам Алены: «Як лёс складзецца, так і будзе!»

Песімізм і адсутнасць веры — важкі пляцак за спінай, што толькі абцяжарвае, ну, а карысці — ніякай. Увогуле, негатыўныя думкі — звычка, якая часам неўсвядомлена выпрацоўваецца, часам нават з любоўю шліфуецца шмат гадоў. У чалавека з гэтай звычкай шанцы на спраўджванне жаданага памяншаюцца. І што рабіць? Бяром сілу волі, намер і — не паддаемся дурной звычцы!

Саша збіралася паступаць у Акадэмію мастацтваў — на дызайн. Але ж у мастацкай школе не вучылася, малявала з рэпетытарам. А потым яшчэ і на курсы пайшла. Ёй здавалася, што ўсе больш таленавітыя. Саша ўпадала ў адчай, часта думала пра тое, што яна — зусім няздольная. Яшчэ і ў дзённіку любіла свой боль занатоўваць. Але хіба вызваленнем тое было? Найхутчэй узрошчваннем з любоўю негатыўнага вобраза сябе. У Акадэмію, пабаяўшыся паразы і яшчэ большага адчаю, дзяўчына нават не паспрабавала паступаць. Яе жаданне не спраўдзілася: надта шмат негатыўных думак было ў Сашы. Песімізм, зацыкленасць на «я — дрэнны!» — бруд і ненатуральнасць.

## Хто дзесяць разоў на дзень адціскаецца, той ва ўніверсітэт паступіць!



Сістэма «Сімарон» для спраўджвання жаданняў прапануе выдумляць рытуалы. І верыць у іх. Але ж здзяйсняць гэтыя самыя рытуалы без вялікай сур’ёзнасці лёгка і весела.

Якія рытуалы? Ды якія заўгодна! Напрыклад, адціскацца дзесяць разоў штодзень, каб ва ўніверсітэт паступіць. Проста ў гэткай форме мы паведамляем Сусвету пра жаданае, запускаем намер.

Свечку ў царкве паставіць, памаліцца — таксама неблагі рытуал. Знаёмая журналістка падзялілася неяк сваёй цудоўнай гісторыяй: «Прыйшоў момант, калі мне надакучылі непрацяглыя адно-

сіны з хлопцамі, якія хутка вычэрпвалі сябе. Пачувалася тканінай, што марнуецца на драбязу, і сукенку з яе ўжо не пашыць... Захацелася таго адзінага, менавіта “майго” спадарожніка па жыцці. Я пайшла ў царкву, паставіла свечку, папрасіла. Праз два тыдні на працы сустрэла свайго будучага мужа! Ён аказаўся тым адзіным, “маім”».

Можна яшчэ і ў такое прыгожае мерапрыемства згуляць: запісваем жаданні на паперку, кладзём у бутэлечку ды ў рэчку альбо возера закідваем. Некаторыя навукоўцы сцвярджаюць, што вада прачытвае нашыя эмоцыі і нават друкаванае слова. (Глядзіце навукова-папулярны фільм «Вялікая таямніца вады»)

Яшчэ можна ўяўляць, што жаданае ўжо ёсць у вас. Але ж не забывацца на смеласць «адпусціць» і забыць свой намер.



## «Хітрыя» і прыхаваныя жаданні таксама часам спраўджваюцца!

У рамане «Зялёны шацёр» рускай пісьменніцы Людмілы Уліцкай ёсць персанаж Саня. Хлопчык наведвае музычную школу. Але хадзіць на канцэрты дарослых музыкаў яму пакутліва. «Не буду ніколі так выдатна граць!» — думае Саня. Потым школьныя ворагі паб’юць хлопца. З пашкоджанай рукой граць на музычным інструменце стала амаль немагчыма. Мама і бабуля сумуюць, а хлопчык пагадзіўся з палёгкаю. Цалкам верагодна, што Саня сам замовіў сітуацыю, каб вырашыць пакутлівую праблему непаўнавартаснасці ў музыцы.

«Хітрыя» і прыхаваныя жаданні таксама часам спраўджваюцца. І нават у людскіх хваробах бываюць свае матывы.

## Жыццё як самастойнае даследаванне

Усе гэтыя заканамернасці ў школах і ўніверсітэтах не вывучаюцца. Яны зусім не навуковыя веды, а сумніўная для некаторых эзатэрыка. Ну, і што? Ніхто не замінае нам самім даследаць жыццё. Эксперыментаваць! Ніхто не замінае быць творцам, выдумляць гульні і гуляць у іх — з радасцю, з творчай смеласцю.

*Кацярына* ***БЕЗМАЦЕРНЫХ***

# Таямніцы кунг-фу



***Кітайскае баявое мастацтва кунг-фу! Многія людзі вялі спрэчку пра тое, што ж яно з сябе ўяўляе. Адны лічылі, што кунг-фу — гэта барацьба з ворагамі. Другія, што гэта мастацтва, якое захоўвае ў сабе шмат чаго таямнічага. Многія мяркуюць, што яно — магія. Аднак калі і ёсць тут нейкая магія, то толькі адна — Сапраўднай, Шчырай Любові.***

А яшчэ кунг-фу—гэта веданне жыцця. Кожнага нашага дня. Кожнага позірка. І, па-мойму, зусім не барацьба. А калі і барацьба, то толькі з самім сабой і сваімі жахамі. І зусім не з ворагамі! А ці трэба ўвогуле ваяваць? Трэба проста ўмець таленавіта вырашаць канфліктныя сітуацыі.

Расказвае майстар Кунг-фу П Бо.

— Кунг-фу азначае «моцны, удасканалены чалавек». Мой настаўнік казаў, што кунг-фу — гэта штодзённае выкананне адной і той жа працы. Толькі так можна дасягнуць майстэрства. Іншымі словамі, кунг-фу — гэта кропля, якая здольная разбурыць камень.

**— У кунг-фу ёсць такая рэч, як кола ам-Зыонг, альбо інь-янь. Распавядзіце пра гэта.**

— Кола ам-Зыонг уяўляе сабой графічную выяву адносін дзвюх процілеглых пачаткаў: мужчынскага (Зыонг) і жаночага (ам). Яна сімвалізуе адзінства. Выгнутая лінія, якая дзеліць яе на дзве роўныя часткі, паказвае на наяўнасць у адзінстве двух супрацьлегласцей — ам і Зыонг. Пасіўны жаночы пачатак пазначаецца чорным колерам, актыўны мужчынскі — белым або чырвоным. Умоўна сістэму ам-Зыонг можна параўнаць з чорна-белым тэлевізарам. У бачанні свету ў чорна-белым малюнку ёсць свая перавага — прастата разумення і аперавання інфармацыяй у рамках гэтай сістэмы. Калі мы кажам «дабро і зло», «мужчына і жанчына», «цяпло і холад», мы паказваем на адносіны ам-Зыонг. У кунг-фу гэтыя адносіны выкарыстоўваюцца вельмі часта. Змена элементаў ам і Зыонг з'яўляецца неабходнай умовай жыцця, руху, развіцця, бою. У крузе ам-Зыонг можна ўбачыць прынцыпы існавання і ўзаемадзеяння

матэрыі і духу, прасторы і часу, руху і сілы, жыцця і смерці. У кунг-фу ўсе элементы воінскага мастацтва падзелены па прыкметах ам-Зыонг, таму вывучэнне аднаго элемента цягне за сабой пазнанне яго антыподу. Нараджаецца сістэмнасць, цэласнасць, выключаецца патрапленне ў сістэму выпадковых элементаў. А як вышэйшай кропкай майстэрства з'яўляецца гармонія, раўнавага супрацьлегласцей, то першым крокам да яго можа быць толькі развіццё гэтых супрацьлегласцей. Прынц Гаутама жыў у палацы і быў ізаляваны ад вонкавага свету, а потым ператварыўся ў пустэльніка, спазнаў усе пакуты ў гэтым жыцці — і толькі пасля гэтага ён стаў прасветленым, стаў Будай. Тады ён выклаў канцэпцыю сярэдняга шляху — шчасце ў «шэрасці» (паміж чорным і белым).

**— Ці раўназначныя па сутнасці сваёй элементы ам і Зыонг?**

— Што першаснае: дух ці матэрыя? Адказ адназначны — дух і матэрыя адначасова і раўназначна прысутнічаюць у Сусвеце. Формы і колькасці рэчыва з'яўляюцца матэрыяльнай меркай свету.

**— Можна называць кунг-фу спортам?**

— «Хутчэй, вышэй, мацней» — такі дэвіз першых алімпійскіх гульняў. Гэтыя вядомыя ва ўсім свеце словы вельмі ярка характарызуюць задачу спорту — удасканаленне дзеля таго, каб стаць лепшым за іншых. Гэта добра ці дрэнна? З пункту гледжання кітайскай філасофіі, ні добра, ні дрэнна. Але дрэнна тут усё ж такі тое, што спартсмен на шляху развіцця арыентуецца на свае моцныя бакі і на слабыя бакі суперніка. Вянком заняткаў спортам з'яўляецца перамога. У кунг-фу кажуць, што перамагчы можна ўсіх, але амаль немагчыма перамагчы сябе. У сапраўдных школах ніколі не б'юцца дзеля перамогі. Баі праводзяцца, каб дамагчыся пэўных псіха-фізічных станаў. Кунг-фу нельга лічыць спортам, бо гэта праца, якая не мае канца, — праца на ўсё жыццё. Гэта пэўны лад жыцця, у якім усё як бы вывернута навыварат — тое, што звычайны чалавек выстаўляе напаказ, чалавек кунг-фу хавае. Баксёр смяецца з шахматыста. Шахматыст смяецца з баксёра. З іх абодвух смяецца штукар. Майстар кунг-фу ні з каго не смяецца, ён сам — баксёр, шахматыст і штукар. Але ён яшчэ і лекар, і філосаф. Не хачу пакрыўдзіць спартсменаў. Бо і праз спорт можна дасягнуць высокай ступені духоўнасці і жыццёвасці, гледзячы якую задачу ставіць перад сабой.

**— Якая ваша канцэпцыя дабра і зла?**

— Свет недасканалы, таму ён развіваецца. Людзі недасканалыя, таму яны хочуць стаць лепшымі. Дабро і зло заўсёды побач. Настаўнікі кунг-фу не вучаць дабру ці злу, не вучаць адрозніваць адно ад іншага. Яны вучаць Дао, гэта значыць Шляху. Калі чалавек варты Дао, то незалежна ад сваёй натуры ён будзе рабіцца лепшым. Але злому прыйдзецца даўжэй ісці. Калі ж добры ці злы не будуць варты Дао, то яны будуць станавіцца ўсё горш і горш. Гісторыя ведае нямала выпадкаў, калі разбойнік станавіўся святым, а прыстойны чалавек у пэўных умовах — нягоднікам. Часта бывае, што нехта здаецца добрым і сціплым ад недахопу ўнутранай энергіі, а злым — ад лішку сіл і недахопу выхавання.

*Кацярына БЯДУЛІНА*

● Слоўнік-алоўнік

# Екатаць



**Екатаць** — 1. Голасна, працягла крычаць ад моцнага болю 2. Скавытаць (пра жывёлаў), што значыць «жаласна папіскваць, ціха ныць» 3. Пераноснае значэнне — «крыўдзіцца, скардзіцца» (размоўнае, зневажальнае).

*Пакуль яна **екатала** і тузалася, спрабуючы вырвацца, ён хутка абкруціў яе кісці вяроўкай, зацяў вузел.*

Васіль Быкаў

*Далёка-далёка **екаталі** сабакі.*

Леанід Дайнека

*Ад вашых сякер дрэвы скачуць дагары і **якоча** звер!*

Аркадзь Куляшоў.

Сінонімы: павіскваць, выць, жаліцца, скугатаць, плакаць, вішчаць, пішчаць.

Згуляем у гульню «маршрут», паўтарыўшы папярэднія вывучаныя слоўкі і дадаўшы свежанькае **екатаць**.

**Адхланне —** кароткая палёгка ад цяжкой, працяглай працы.

**Багоўка —** божая кароўка.

**Ванцак —** рэзкі, востры боль у жываце. А таксама зварот кішак, конская хвароба.

**Пайсці на глум** — псавацца.

Бяром родны маршрут «дом-школа» і ў розных кропках, па парадку размяшчаем вывучаныя словы. Напрыклад, першая кропка — лава ля пад’езда. Уяўляем там **адхланне —** агарод і людзей, што адпачываюць ад цяжкой працы. І на асфальце пішам крэйдай, вялікімі літарамі: «**Адхланне**» і г.д.

Лепш адкладваецца ў памяці нешта ўражвальнае, вялікае па колькасці. Напрыклад, не адна багоўка, а фантастычна вялікая колькасць баговак.

Пракручваем у галаве «мульцік» з маршрутам некалькі разоў. Каб не забыцца...

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ,*
*малюнак Вольгі АЛЕЙНІКАВАЙ, 8 клас, гімназія № 25, г. Мінск*

# Не ўмеем чытаць...

***Што сёння цікавіць сучасных падлеткаў у першую чаргу? Інтэрнэт, сацыяльныя сеткі, розныя гульнявыя прыстаўкі. А вось кнігі, зыходзячы з разнастайных псіхалагічных апытанняў, захапляюць малы працэнт моладзі. З чым гэта звязана? З пастаянным змяненнем школьнай вучэбнай праграмы альбо гэта натуральная рэакцыя маладога пакалення на з'яўленне сучасных гаджэтаў ды інфарматызацыю грамадства? У гэтым я спрабавала разабрацца разам з Людмілай Аляксандраўнай Фраловай — выкладчыцай рускай мовы і літаратуры адной са сталічных гімназій.***

**«Кніга» і «адпачыць» — словы з розных моваў?**

— Яшчэ дваццаць-трыццаць гадоў таму кніга была галоўнай прыемнасцю і самым лепшым спосабам адпачыць, — распачынае Людміла Аляксандраўна. — Кіно і тэлебачанне былі не такімі масавымі і даступнымі, і правесці час з добрай кнігай у руках было сапраўдным задавальненнем. Зараз прыйшоў пасля працы або заняткаў дадому — значна прасцей націснуць кнопку на пульце і назіраць за падзеямі ў чарговым модным серыяле, чым унікаць у сюжэт добрага рамана і прымушаць галаву працаваць. Вядома, гэта не значыць, што людзі зусім перасталі чытаць. Кожны дарослы ўсё яшчэ па старой звычцы працягвае цікавіцца добрымі кнігамі, але ж не так часта, як раней. А вось што тычыцца маладых людзей, то для многіх з іх паняцці «кніга» і «адпачыць» — словы з розных моваў. І нельга сказаць, што гэта віна бацькоў або саміх дзяцей. З ранніх гадоў маладыя людзі прызвычаіліся да тэлевізара, выдатна ўмеюць карыстацца камп'ютарамі і Інтэрнэтам, а мабільныя тэлефоны — абавязковы атрыбут кожнага. Адзінымі месцамі, дзе хлопцаў і дзяўчат знаёмяць з класікай літаратуры і імкнуцца прышчапіць любоў да чытання, застаюцца школы, каледжы і ВНУ.

**— Але мне здаецца, што школьная праграма складзеная не найлепшым чынам. У нашай адукацыі багата хібаў!**

— Так. У праграме па рускай літаратуры не ўлічаны той факт, што многія навучэнцы (асабліва ў сельскіх школах) прыходзяць з пачатковай школы ў сярэднюю з недастаткова развітым навыкам чытання, які можа быць кампенсаваны толькі ўрокамі літаратуры. Несфармаваны навык чытання вядзе да павольнага засваення вучэбнага матэрыялу і па іншых прадметах. Многія творы, якія лічацца лепшымі, выключаюцца з навучальных праграм. Рэзка паменшаная колькасць гадзін (у 1,5—2 разы) на выкладанне літаратуры ў

7—11-х класах. Пры тым, што ў 9—10 класах вывучаецца руская літаратура XIX стагоддзя — самы складаны, аб' ёмны і маральна «нагружаны» курс (творчасць Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага, А. Чэхава). Настаўнікі-славеснікі наўрад ці змогуць вывучыць са школьнікамі гэты курс так, каб навучэнцы засвоілі хаця б нейкі адукацыйны мінімум. Памяншэнне ўвагі да рускай літаратуры XIX стагоддзя, прызнанай ва ўсім свеце адной з самых маральна багатых, прывядзе да яшчэ больш рэзкага падзення цікавасці да класічнай літаратуры. А яшчэ некаторыя творы школьнай праграмы падабраныя няўдачна і наогул могуць адбіць усякую ахвоту чытаць. Іншыя творы рускай літаратуры вывучаюцца занадта рана і замест таго, каб стаць улюбёнымі, застаюцца незразумелымі навучэнцамі. Духоўнае ўдасканаленне можа адбывацца толькі на добрых уроках літаратуры. Беларускі класік Іван Шамякін невыпадкова, думаю, увесь час паўтараў: «Сёння трэба думаць пра душу». Калі чалавек перастае чытаць, ён перастае думаць. Не варта забываць: інтэлектуаламі не нараджаюцца, інтэлектуаламі становяцца. Развіць у сабе любоў да кніг — гэта адкрыць новы свет. Не варта забываць, што як бы далёка не крочыў прагрэс, кніга застанецца адным з нашых галоўных скарбаў.

## Як папулярызаваць літаратуру сярод падлеткаў?

Загадчыца бібліятэкі гімназіі № 192 Людміла Бурая: «Зацікавіць моладзь кнігамі не так складана. Проста трэба ведаць кожнае дзіця, яго густы і захапленні. А хто як не бацькі ведаюць гэта? Таму бацькам трэба імкнуцца падбіраць дзецям кнігі, якія, на іх думку, будуць цікавымі. Акрамя таго, неабходна ісці ў нагу з часам. Электронныя кнігі? Чаму б і не! Бо значна лепш замест гульнявой прыстаўкі падарыць гэты гаджэт. Дарэчы, многія сучасныя пісьменнікі выкладаюць свае працы спачатку ў Інтэрнэт, а толькі потым адносяць іх у выдавецтва. І ўсё гэта натуральна. Бо мы жывём у XXI стагоддзі. І калі ваша дзіця шмат сядзіць у Інтэрнэце, падкажыце яму пару цікавых літаратурных сайтаў. Галоўнае пачаць і зацікавіць, а далей мала хто ўтрымаецца ад таго, каб правесці свой вольны час за чытаннем».

Галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп: «Нашы пісьменнікі не павінны пагарджаць адкрытымі семінарамі і сустрэчамі са школьнікамі, на якіх яны змаглі б абмяркоўваць розныя кнігі, даведвацца адзін ад аднаго нешта новае, дзяліцца ўражаннямі аб ужо прачытаным, даваць парады. Так можна было б зацікавіць нашу моладзь. А акрамя таго, у якім бы жанры не працаваў пісьменнік, трэба не забываць пра апавяданні для юных чытачоў, пра казкі».

*Паліна БУЧЭЛЬ, 17 гадоў, Мінск*

● **Дынамік**

# Дыялектыка душы Сымона-музыкі

***«Dialectic Soul» — «Сымон-музыка», Рэчыца, 2011, «Strong Music Productions»***




Нягледзячы на пэўныя аргпраблемы з канцэртамі беларускіх рок-гуртоў, колькасць музычных альбомаў стала павялічваецца. Не адстае і якасць. На сусветнай рок-прасторы такі стан часам засмучаў спажыўцоў, бо стылі рок-музыкі множыліся, а альбомы ўсё нагадвалі адзін аднаго стандартным чаргаваннем трэкаў па тыпу хутка-марудна. А потым Эндру Лойд Ўэбэр з Цімам Райсам асмеліліся на рок-оперу «Ісус Хрыстос — суперзорка» — і нешта змянілася. У нас жа прыемная колькасць не стварае аднастайнасць, фантазія музыкаў актывізуецца.

Яшчэ ў трэцім выпуску CD-серыі «Hard Life — Heavy Music» (2004) малады на той час рэчыцкі дэз-метал-гурт «Dialectic Soul» вырашыў замахнуцца на класіку, зрабіўшы сапраўдны хіт паводле знакамітай паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка». Гэта была адна, хоць і даволі працяглая, песня (05’37), але метал-фэны адназначна выказваліся за працяг такіх эксперыментаў. На прэзентацыйным канцэрце ў сталічным клубе «Reactor» музыкі паабяцалі працяг, але верылася з цяжкасцю. І вось летась да сталіцы даляцелі весткі, што лэйбл «Strong Music Productions», на якім дэбютавалі такія знакамітасці, як «Камаедзіца», «Serdce», той жа «Dialectic Soul», ужо здзейсніў такі рэліз. Тактыка бартэру дапамагла трапіць выданню і ў Мінск, адкуль пераможнае шэсце яўнай творчай удачы працягваецца на кожным экстрым-канцэрце.

Адразу варта адзначыць дзівацтва музыкаў, якія на самім альбоме нідзе не напісалі «Dialectic Soul», хоць пачынаецца ён з таго самага мега-хіта «Сымон-музыка» 2004 года. Дый фота ў буклеце, рэестр удзельнікаў падказваюць, што гэта якраз тыя, каго чакалі. Навошта такая таямнічасць? Тлумачыць гітарыст і клавішнік гурта Вячаслаў Знахарэнка: «“Сымон-музыка” — гэта назва праекта музыкаў гурта «Dialectic Soul», якія самі не хочуць, каб у слухачоў былі асацыяцыі з прывычным іміджам. Другі дыск адпаведна будзе мець назву “Сымон-музыка. Частка 2”, але ў планах — прывабіць музыкаў з іншых калектываў, ужо вядуцца перамовы».



*Гурт Dialectic Soul*

Ці слушная такая тактыка аўтараў праекта, паказвае жывая практыка: у музычных крамах ніводзін прыхільнік экстрыму і не падазрае, што за надта традыцыйнай аздобай акварэлі Васіля Лукіна схаваная шыкоўная melodic-death-metal-опера. Шчыра кажучы, стэрэатыпы мыслення нярэдка збіваюць і дасведчаных людзей з панталыку, бо за стандартным тэрмінам «death-metal» чакаеш толькі хрыпаў і стогнаў, а пра «melodic» нават забываеш. А вось тут і я, крыху расчараваны схемамі сучаснага экстрыму, адчуў эмацыйны катарсіс не толькі ў той яўна выйгрышнай стартавай мелодыі, але і ў пошуку ключавых тэмаў, у шматграннасці самой канструкцыі гэтага маштабнага музычнага палатна (40 хвілін). Дый тут не толькі ўдалыя хіты, але й прынамсі дзве вялікія мелодыі, у развіцці якіх прасочваюцца ўплывы джазу, фольку побач з традыцыйнымі хадамі death-metal: «Сымон-Музыка» і «Родны край». Тут вы на першых дваццаці секундах адчуваеце жывую цеплыню настрою, якая плаўна, нават з украпленнямі духавых, навёрствае гітарным драйвам нястрыманую энергетыку:

*Раз Сымону давялося чуць, як граюць дудары,*
*І яму тады здалося, што да гэтае пары*
*Ён дзіцятка быў дурное, што не жыў ён, а блукаў,*
*Што цяпер пазнаў ён тое, чаго шчыра так шукаў.*

Час запомніць навечна імёны таленавітых рэалізатараў: Вячаслаў Знахарэнка (гітара, клавішныя), Галіна Куліцкая (клавішныя), Аляксандр Ключнікаў (вакал, гітара, бас, бубны) + яшчэ дзве вакалісткі — Ілона Аўрамчыкава і Вікторыя Бідава. Карацей, «Dialectic Soul».

Далей — «Разважанне аб смерці» (4 хв.) — ну гэта эталонны death-metal паводле эталоннага Якуба Коласа:

*Смерць, жыццё — дзіўна ўсё гэта! І нашто жыць, каб сканаць,*
*Смерць прыйшла — і песня спета, і прыкладзена пячаць.*
*І няўжо не будзе следу, жыў на свеце ты ці не?..*
*Смуткаваў Сымон па дзеду, а з ім бачыўся ў сне.*

Не менш узорны death і ў згаданай «Родны край» паводле вядомага кожнаму школьніку ўрыўку пад словы «з двух бакоў браткі з дубінай заганялі нас у рай» (о вялікі Колас! Як тонка здолеў выказаць векавую пакуту, каб знайшла яна водгалас і ў экстрэмалаў сучаснасці). Цяпер гэта сапраўдны метал-хіт, дзе словы класіка даходзяць да глыбіняў душ метал-фанаў. А які чароўны фалькавы chorus жаночымі галасамі ўрываецца гарманічна ў структуру melodic-death-акордаў (так і хочацца ўсю паэму зацытаваць, але з музыкай яна яшчэ мацней).

«Крыж няволі» пачынаецца з падманлівай надзеі ў песні жалейкі, каб выбухнуць энергіяй смяротнага (death) пратэсту: «Вы, крыўдзіцелі-зладзеі, вы разбілі мне надзеі... і вам будзе час змяркання, што нясе вам біч выгнання».

А як магутна прагучала б «Вясна» з віртуознымі гітарнымі пасажамі ў кантэксце традыцыйных нашых гуканняў вясны! Бліскучае спалучэнне гроўлінгу і чыстых дзявочых вакалаў, традыцыйнага і авангарднага, але зразумелае і захапляльнае.

Перакана́ўча разгортваецца дыялог Сымонкі з дзедам у частцы «Жыццё», якая магла б стаць асобным метал-хітом усялякіх плебісцытаў і CD-складанак. А гэта ж трывалы філасофскі досвед народу нашага, сфармуляваны вялікім паэтам. Важкім сюжэтаўтваральным фрагментам рок-оперы стала і «Развітанне», тэкст якога чамусьці не трапіў у буклет, але слухацкаму асэнсаванню гэта не замінае дзякуючы пільнасці адмыслоўцаў гуказапісу. На фінал — канцэптуальная «Песня вольная» ды энергетычны хіт «Пушча».

Шукаючы аналогій для адэкватнага параўнання ўнікальнага даробку «Dialectic Soul» у праекце «Сымон-музыка», мімаволі прыгадваю яшчэ адзін непаўторны калектыў з той жа Гомельшчыны — «Relikt», які таксама здолеў вярнуць беларускі экстрым да маштабных канцэптуальных альбомаў («Рэкі прабілі лёд»), які нават еўрапейскія спецыялісты называюць узорным паводле якасці запісу. І ўсё ж жанр рок-оперы — нават death-metal-оперы — яшчэ больш складаны. Таму пакуль здзейснены толькі першы этап аўдыёўвасаблення, які натхняе на чаканне адпаведнай тэатральнай пастаноўкі.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА,***
***музычны крытык***



